УСТАНОВА АДУКАЦЫІ
«ГРОДЗЕНСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ УНІВЕРСІТЭТ
ІМЯ ЯНКІ КУПАЛЫ»

# ШЛЯХ ДА ЎЗАЕМНАСЦІ
# DROGA KU WZAJEMNOŚCI

Матэрыялы XVII міжнароднай навуковай канферэнцыі
Materiały XV międzynarodowej Konferencji Naukowej

(Гродна, 18 – 19 лістапада 2010 г.)
(Grodno, 18 – 19 listopada 2010 r.)

Гродна
ГрДУ імя Я. Купалы
2012

УДК 008(063)
ББК 71
Ш70



Ш70 **Шлях** да ўзаемнасці = Droga ku wzajemności : матэрыялы XVII міжнар. навук. канф. (Гродна, 18 – 19 ліст. 2010 г.) / рэдкал.: Г. Хацкевіч, Я. Панькоў, Э. Ярмусік, І. Папоў (гал. рэдактары) [і інш.]. – Гродна : ГрДУ, 2011. – 383 с.
ISBN 978-985-515-494-6

Зборнік складаецца з навуковых артыкулаў, прадстаўленых на XVII міжнароднай навуковай канферэнцыі з цыкла «Шлях да ўзаемнасці», якая адбылася 18 – 19 лістапада 2010 г. (г. Гродна). Адрасаваны навуковым супрацоўнікам, выкладчыкам ВНУ, настаўнікам школ і ліцэяў, аспірантам і студэнтам.

Niniejszy tom stanowi zbiór artykułów naukowych powstałych w oparciu o referaty wygłoszone podczas XVII międzynarodowej konferencji naukowej z cyklu «Droga ku wzajemności» w dniach 18 – 19 listopada 2010 r. (Grodno). Zbiór jest adresowany do pracowników naukowych, wykładowców, nauczycieli szkół i liceów, doktorantów i studentów.

**УДК 008(063)**
**ББК 71**

**ISBN 978-985-515-494-6**

# ПРАДМОВА

**Шаноўны Чытач!**

Міжнародная навуковая канферэнцыя «Шлях да ўзаемнасці» стала чарговай – ужо XVII – сустрэчай вядучых беларускіх і польскіх навукоўцаў, даследчыкаў, прафесійная дзейнасць якіх так або інакш звязана з перспектывамі развіцця беларуска-польскага памежжа, міжнацыянальнай культурнай і гістарычнай спадчынай, а таксама сучаснасцю і будучыняй народаў-суседзяў.

Час правядзення цыклічных канферэнцый «Шлях да ўзаемнасці» – гэта заўсёды асаблівы і вельмі значны перыяд у жыцці навуковай і грамадскай супольнасцей памежных рэгіёнаў Беларусі і Польшчы. Арганізатарамі XVII міжнароднай навуковай канферэнцыі «Шлях да ўзаемнасці», якая адбылася ў Гродне 18–19 лістапада 2010 года, з'явіліся Упаўнаважаны па справах рэлігій і нацыянальнасцей, Гродзенскі абласны выканаўчы камітэт, Саюз палякаў на Беларусі, Беларускае грамадска-культурнае таварыства ў Польшчы, Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы, Універсітэт у Беластоку. Удзельнікі навуковай сустрэчы атрымалі выдатную магчымасць для рэалізацыі творчых памкненняў, што патрабуюць крэатыўнасці мыслення, багатага навукова-дыдактычнага вопыту і, безумоўна, жадання працаваць і здзяйсняць сваё высокае прызначэнне – вучонага, даследчыка, педагога.

Прадстаўленыя да ўвагі Шаноўнага Чытача навуковыя артыкулы змяшчаюць даклады па філалогіі, гісторыі, культуралогіі, эканоміцы, паліталогіі, этнаграфіі, турызме, якія прагучалі падчас пленарнага і 5 секцыйных пасяджэнняў канферэнцыі – «Літаратуразнаўства (гісторыя і сучаснасць)»; «Мовазнаўства»; «Этнаканфесійныя адносіны на памежжы»; «Этнаграфія, мастацтва і турызм»; «Гістарыяграфія, палітычнае і эканамічнае развіццё беларуска-польскага памежжа». Беларуска-польскае памежжа падаецца як з'ява свядомасці, якая існуе паміж культурамі, літаратурнымі эпохамі і мовамі на скрыжаванні асобаснай і нацыянальна-рэлігійнай ідэнтыфікацыі.

Сучасная навука прапануе велізарныя магчымасці ўздзеяння на свет чалавечых каштоўнасцей, ідэйных і маральных арыенціраў. Задача вучонага бачыцца ў дасягненні гармоніі паміж праяўленнямі знешняй і ўнутранай сутнасці грамадства, асобнага чалавека. Інтэлектуальныя пошукі заўсёды прыводзяць да раскрыцця непарыўнай сувязі рэфлексіі, мастацкага ўяўлення і творчага натхнення. Назапашаны навуковы і жыццёвы вопыт падказвае нам неабходнасць канструкцыйнага дыялогу як у межах розных пакаленняў, так і розных культур, этнасаў, асабліва калі яны маюць агульную гістарычную перспектыву.

*Яўгеній Панькоў,*
*кандыдат філалагічных навук,*
*дацэнт*

# ПРЫВІТАЛЬНЫЯ СЛОВЫ ЎДЗЕЛЬНІКАМ І ГАСЦЯМ КАНФЕРЭНЦЫІ «ШЛЯХ ДА ЎЗАЕМНАСЦІ»

**Шаноўныя ўдзельнікі канферэнцыі! Паважаныя госці!**

Шчыра рады вітаць вас на гасціннай гродзенскай зямлі і павіншаваць з адкрыццём XVII міжнароднай навуковай канферэнцыі «Шлях да ўзаемнасці».

На працягу ўсёй сваёй гісторыі гэты маштабны і аўтарытэтны навуковы форум выконвае місію захавання і развіцця польска-беларускіх моўных, літаратурных, гістарычных, навуковых сувязей, цесна збліжае нашы народы, садзейнічае ліквідацыі адмоўных стэрэатыпаў, дазваляе развіваць грамадскія стасункі паміж людзьмі, пашырае веды грамадства аб яго сучасным і мінулым.

Навуковая канферэнцыя «Шлях да ўзаемнасці» – адметная з'ява ў культурным жыцці нашых краін, таму што дае магчымасць выказаць свае погляды і меркаванні спецыялістам розных навук і накірункаў. Свабодны абмен думкамі і вынікамі пошукаў уносіць уклад у скарбонку навуковых ведаў, дапамагае дасягнуць паразумення паміж навукоўцамі абедзвюх краін. Менавіта таму ўдзельнічаць у канферэнцыі лічаць за гонар і пачынаючыя навукоўцы, і масцітыя вучоныя з Беларусі і Польшчы.

Няхай і сённяшняя канферэнцыя прадоўжыць традыцыі ўсталявання і ўмацавання добрых сяброўскіх адносін паміж беларускім і польскім народамі, надасць вялікі імпульс для новых ініцыятыў і новых дасягненняў на далейшым шляху засваення гуманістычных каштоўнасцей.

Сардэчна жадаем удзельнікам, арганізатарам і гасцям канферэнцыі моцнага здароўя, невычэрпнага натхнення, творчых поспехаў, яркіх уражанняў, цікавых сустрэч і выдатнага настрою.

*Гродзенскі абласны выканаўчы камітэт*
*Гродзенскі абласны Савет дэпутатаў*

**Шаноўныя ўдзельнікі і госці XVII міжнароднай навуковай канферэнцыі «Шлях да ўзаемнасці»!**

Прыміце шчырыя віншаванні з нагоды знамянальнай падзеі ў грамадскім і культурным жыцці народаў Беларусі і Польшчы – адкрыцця XVII міжнароднай навуковай канферэнцыі «Шлях да ўзаемнасці».

Ужо шмат гадоў мерапрыемства годна і грунтоўна дэманструе высокую грамадскую запатрабаванасць і папулярнасць у навуковых колах абедзвюх краін. Навуковая канферэнцыя выдатна падкрэслівае магчымасці і перспектывы развіцця беларуска-польскіх моўных, літаратурных, гістарычных, навуковых і мастацкіх сувязей, цесна збліжае нашы народы праз агульныя нацыянальна-культурныя і духоўныя набыткі.

Даследаванне праблематыкі беларуска-польскага памежжа пашырае нашы веды аб яго сучасным і мінулым станах, садзейнічае развіццю грамадскіх і чалавечых адносін паміж людзьмі. Гэтаму спрыяе вялікая праца, якую здзяйсняюць удзельнікі згаданага мерапрыемства.

Выказваючы словы шчырай падзякі арганізатарам навуковага форуму – Гродзенскаму аблвыканкаму, Беларускаму грамадска-культурнаму таварыству ў

Польшчы, Гродзенскаму дзяржаўнаму ўніверсітэту імя Янкі Купалы і кафедры беларускай філалогіі Універсітэта ў Беластоку, Саюзу палякаў на Беларусі, а таксама ўсім, хто прыклаў свае намаганні да гэтай справы, спадзяюся, што XVII міжнародная навуковая канферэнцыя «Шлях да ўзаемнасці» стане чарговым важным крокам у справе развіцця і ўмацавання добрасуседскіх узаемаадносін паміж народамі Беларусі і Польшчы.

Сардэчна жадаю ўсім удзельнікам, арганізатарам і гасцям канферэнцыі поспехаў, творчага натхнення, шчасця і дабрабыту.

***Леанід Гуляка,***
*Упаўнаважаны па справах рэлігій*
*і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь*

**Шаноўныя ўдзельнікі і госці канферэнцыі!**

Ад імя рэктарата Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы дазвольце перадаць вам шчырае прывітанне і пажаданне плённай працы, цікавых дакладаў і дыскусій. Канферэнцыя носіць сімвалічную назву: «Шлях да ўзаемнасці». І гэта не выпадкова. Беларускі і польскі народы аб'ядноўвае сумесная гісторыя, культурнае ўзаемадзеянне, эканамічнае супрацоўніцтва, барацьба за незалежнасць, шматлікія духоўныя і іншыя сувязі. На жаль, не ўсё было гладка ў адносінах народаў-суседзяў. Але заўсёды было імкненне знайсці паразуменне, будаваць адносіны на прынцыпах дабразычлівасці, узаемаразумення. Народы нашых краін зацікаўлены ў тым, каб у новым тысячагоддзі развіваць яшчэ больш плённа эканамічныя, культурныя, навуковыя сувязі, садзейнічаць умацаванню дыялога паміж абедзвюма дзяржавамі. І роля ў гэтым «народнай дыпламатыі» вельмі вялікая.

Прыемна прывітаць нашых сяброў – беларусаў з Польшчы. Вы ўносіце важны ўклад у развіццё беларускай культуры за мяжой, захоўваеце яе лепшыя традыцыі і ўзоры, выхоўвайце маладое пакаленне беларусаў у духу нацыянальнай самасвядомасці. Са свайго боку, мы гатовы аказаць вам у гэтым дапамогу, мацаваць сувязь з беларускай дыяспарай у Польшчы.

Канферэнцыя не з'яўляецца радавым мерапрыемствам. Ёй садзейнічае вялікая падрыхтоўчая работа як уладных, навуковых, грамадскіх структур, так і навукоўцаў, краязнаўцаў, якія імкнуліся асвятліць у сваіх дакладах і выступленнях праблемы беларускага памежжа, пашырыць веды аб сучасным і мінулым грамадства, паказаць магчымасці і перспектывы развіцця беларуска-польскіх моўных, літаратурных, гістарычных і мастацкіх сувязяў. А падзяліцца, падыскутаваць ёсць аб чым. За два гады, якія мінулі ад папярэдняй канферэнцыі, навуковы, культурны, адукацыйны патэнцыял нашых краін значна ўзрос. Па-ранейшаму добрыя адносіны існуюць паміж людзьмі па абодва бакі мяжы.

Прыміце пажаданні моцнага здароўя і творчых поспехаў у даследаванні «белых плям» гістарычнай і культурнай спадчыны, ва ўмацаванні сяброўскіх адносін паміж народамі.

***Генадзій Аляксеевіч Хацкевіч,***
*прарэктар па навучальнай рабоце і інавацыях*
*Установы адукацыі «Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы»,*
*доктар эканамічных навук, прафесар.*

**Szanowni Państwo!**

Dziękuję za zaproszenie do udziału w międzynarodowej konferencji naukowej «Droga ku wzajemności» odbywającej się w dniach 18–19 listopada br. w Grodnie. Bogaty program spotkania polskich i białoruskich przedstawicieli świata nauki i kultury budzi uznanie dla pracy organizatorów. Jednocześnie napawa optymizmem i nadzieją na ożywienie dialogu między naszymi narodami. Solidna podbudowa w sferze nauki gwarantuje rozwój oparty o wzajemne zrozumienie i szacunek w innych dziedzinach życia, m.in. w ekonomii i polityce.

Pozostając w takiej nadziei życzę owocnych obrad i proszę o przesłanie materiałów pokonferencyjnych.

Jednocześnie żałuję, że osobiście nie mogę uczestniczyć w tym ważnym wydarzeniu, ale obowiązki poselskie w moim okręgu wyborczym związane z kończacą się w Polsce kampanią przed wyborami samorządowymi, zmuszają mnie do pozostania w kraju.

Z pozdrowieniem i wyrazami szacunku,

***Bogusław Kowalski,***
*Poseł na Sejm RP*
*Członek Sejmowej Komisji Spraw Zagranicznych*

# ПЛЕНАРНАЕ ПАСЕДЖАННЕ

**Л. Давыдзенка, А. Літвінюк**

## «УСХОДНЯЕ ПАРТНЁРСТВА» ЯК ФАКТАР ТРАНСГРАНІЧНАГА ЭКАНАМІЧНАГА СУПРАЦОЎНІЦТВА СУМЕЖНЫХ КРАІН У КАНТЭКСЦЕ ЕЎРАПЕЙСКАЙ ПАЛІТЫКІ ДОБРАСУСЕДСТВА

Блізкія суседзі лепш за далёкіх сваякоў.
*Кітайская прымаўка*

Рэспубліка Беларусь з'яўляецца малой адкрытай эканомікай з высокай залежнасцю ад кан'юнктурных ваганняў у сусветнай эканоміцы. Таму выкарыстанне патэнцыялу трансгранічнага эканамічнага супрацоўніцтва з суседнімі краінамі варта разглядаць як адзін з фактараў устойлівага развіцця нацыянальнай эканомікі. Рост тавараздвароту і інвестыцыйных патокаў паміж краінамі-суседзямі з'яўляецца прыярытэтнай задачай для нашай краіны.

Прыгранічны гандаль Рэспублікі Беларусь у цяперашні час мае немалаважнае значэнне, паколькі, з аднаго боку, яна штогод экспартуе каля 20–22 % свайго ВУП, а з іншага – залежыць ад рэсурса-эканамічнай базы суседніх краін, якія забяспечваюць нармальнае функцыянаванне эканомікі прыгранічных рэгіёнаў рэспублікі [2, с. 4]. Акрамя таго, станаўленне новых рэгіянальных і міжрэгіянальных адносін у Еўрапейскім саюзе шляхам стварэння еўрарэгіёнаў, у тым ліку і на прыгранічных тэрыторыях Рэспублікі Беларусь з Польшчай, стварае добрыя передумовы для далейшага развіцця ўзаемавыгаднага эканамічнага супрацоўніцтва паміж суседнімі краінамі і Еўрасаюзам у цэлым.

Забеспячэнне эфектыўнага дзяржаўнага кіраўніцтва і эканамічнага развіцця суседніх краін, размешчаных на ўсход ад Еўрапейскага саюза, з'яўляецца для яго стратэгічным інтарэсам. У той жа час, усе краіны ва Усходняй Еўропе і на Паўднёвым Каўказе імкнуцца паглыбіць свае адносіны з ЕС. Усё гэта можа быць дасягнута шляхам рэалізацыі Усходняга вымярэння – асобнай складовай Еўрапейскай палітыкі Добрасуседства (ЕПД).

У адпаведнасці з ЕПД, мэта ЕС у бліжэйшым дзесяцігоддзі заключаецца ў стварэнні сяброўскага суседства («кола сяброў»). У абмен на прыхільнасць да агульных каштоўнасцей і эфектыўнага правядзення палітычных, эканамічных і інстытуцыянальных рэформ усім краінам прапаноўваецца перспектыва ўдзелу ва ўнутраным рынку ЕС. Стварэнне сяброўскага суседства павінна садзейнічаць лібералізацыі рынкаў і беспярашкоднаму перамяшчэнню тавараў, паслуг, людзей і капіталу.

Ідэя трансгранічнага супрацоўніцтва ў Еўропе ўзнікла ў 50-х гг. XX ст. Тады ўпершыню стаў папулярным лозунг аб збліжэнні, а не раздзяленні еўрапейцаў межамі. Асноўная мэта такога супрацоўніцтва – дасягненне ўзаемнага грамадска-эканамічнага росту, наладжванне і развіццё сувязей паміж эканамічнымі, навуковымі, культурнымі і муніцыпальнымі інстытутамі рэгіёнаў. У ЕС надаецца

вялікае значэнне трансгранічнаму супрацоўніцтву ў межах еўрарэгіёнаў, якое разглядаецца як стабілізуючы фактар у адносінах паміж краінамі.

Стварэнне і праца еўрарэгіёнаў фінансуецца шэрагам еўрапейскіх структур, фондаў і праграм. Так, у бюджэце Савета Еўропы на трансгранічнае супрацоўніцтва штогод вылучаецца каля 100 млн еўра. У сярэднім на кожны з еўрарэгіёнаў прыходзіцца прыкладна да 700 тыс. еўра. Акрамя таго, асобныя праекты ў межах кожнага еўрарэгіёну могуць фінансавацца па спецыяльных фондах і праграмах («ТАСІС», агульнаеўрапейская праграма «Еўрафакультэт», розныя экалагічныя, гуманітарныя фонды, арганізацыі і інш.). Такая пазіцыя Савета Еўропы вызначаецца ўсёй логікай агульнаеўрапейскай палітыкі інтэграцыі: узаемадзеянне краін на ўзроўні канкрэтных праектаў у межах еўрарэгіёнаў разглядаецца як стабілізуючы фактар і рэальны ўклад у аб'яднанне і супрацоўніцтва [3, с. 162].

3 чэрвеня 1997 г. Рэспубліка Беларусь далучылася да працэсаў трансгранічнага супрацоўніцтва ў форме еўрарэгіёнаў. У цяперашні час з яе ўдзелам існуюць 5 еўрарэгіёнаў: «Буг», «Нёман», «Азёрны край», «Белавежская пушча» і «Днепр». Пры гэтым трэба адзначыць, што ў трох еўрарэгіёнах («Буг», «Нёман» і «Белавежская пушча») Беларусь актыўна супрацоўнічае з Польшчай. Еўрарэгіянальнае супрацоўніцтва ў краіне не ахоплівае толькі Мінскую і Магілёўскую вобласці. У астатніх абласцях яно ўключае ад 25,2 % (Віцебская вобласць) да 100 % плошчы (Брэсцкая, Гомельская і Гродзенская вобласці). Гэтым супрацоўніцтвам абхоплена ўжо 59 раёнаў нашай краіны, што складае 50 % рэгіянальнай эканомікі краіны. Улічваць трэба таксама, што з 118 адміністрацыйных раёнаў рэспублікі 44 з'яўляюцца прыгранічнымі. Аднак Рэспубліка Беларусь не мае канцэптуальных накірункаў стратэгіі і механізму развіцця трансгранічнага супрацоўніцтва прыгранічных рэгіёнаў.

На пасяджэнні Еўрапейскага савета, які адбыўся 19-20 чэрвеня 2008 г., Еўрапейскай камісіі (ЕК) было прапанавана падрыхтаваць прапанову адносна «Усходняга партнёрства», акцэнтуючы ўвагу на неабходнасці ўжывання дыферэнцыраванага падыходу, які ўлічваў бы характар ЕПД як адзінай і ўзгодненай палітыка-эканамічнай асновы.

Праект «Усходняе партнёрства»[1], як адзначалі прадстаўнікі ЕК, мог дапоўніць адносіны паміж ЕС і яго партнёрамі новай шматбаковай структурай. Яна садзейнічала б развіццю двухбаковых адносін партнёраў з ЕС, якія, як і раней, могуць рэгулявацца па прынцыпе дыферэнцыяцыі, развіцця паводле ўзроўню магчымасцей кожнага. Такая структура дазволіла б стварыць форум для абмену інфармацыяй і вопытам адносна захадаў, якія прадпрымаюць партнёры на шляху па пераходзе да новых эканамічных адносін, рэфармаванню і мадэрнізацыі, а таксама змагла бы даць ЕС дадатковы інструмент суправаджэння гэтага працэсу.

Еўрапейская камісія (вышэйшы орган кіравання) прапанавала арганізаваць наступную структуру «Усходняга партнёрства» на чатырох узроўнях:

• у форме сустрэч на ўзроўні кіраўнікоў дзяржаў і ўрадаў дзяржаў-удзельніц «Усходняга партнёрства», якія будуць праводзіцца адзін раз у два гады;

[1] «Усходняе партнёрства» – ініцыятыва, афіцыйна прапанаваная Еўрапейскім саюзам. Упершыню яна была прэзентаваная міністрам замежных спраў Польшчы пры ўдзеле Швецыі на Савеце па знешніх адносінах 26 мая 2008 г. Зацверджана Еўрасаюзам 20 сакавіка 2009 г. і накіравана на паглыбленне ўсебаковага супрацоўніцтва ЕС з Рэспублікай Беларусь, Украінай, Малдовай, Грузіяй, Арменіяй і Азербайджанам. У Празе 7 мая 2009 г. дадзены афіцыйны старт рэалізацыі гэтай ініцыятывы.

• шляхам правядзення штогадовых вясновых сустрэч міністраў замежных спраў краін ЕС і Усходніх партнёраў, уключаючы, у адпаведных выпадках, Рэспубліку Беларусь, пад эгідай Савета ЕС па агульных пытаннях і знешніх сувязях;

• на трэцім узроўні варта стварыць чатыры тэматычныя платформы ў адпаведнасці з асноўнымі сферамі супрацоўніцтва (палітычная, эканамічная, энергетычная і сацыяльная);

• на чацвёртым узроўні павінны быць створаныя камітэты па падтрымцы працы тэматычных платформ у пэўных сферах. Фармат гэтых камітэтаў і састаў іх удзельнікаў будзе вызначаны ў адпаведнасці з патрэбнасцю.

Еўрапейская камісія, са свайго боку, павінна ажыццявіць агляд сваіх унутраных інстытутаў з мэтай забеспячэння каардынацыі, неабходнай для паспяховай рэалізацыі ініцыятывы «Усходняга партнёрства». Пры гэтым важным момантам функцыянавання трансгранічнага супрацоўніцтва з'яўляецца яго фінансавае забеспячэнне.

Структура фінансавання трансгранічнага супрацоўніцтва ў межах еўрарэгіёнаў вызначаецца іх статутам. У адпаведнасці з дамовай бакоў, арганізацыйныя структуры еўрарэгіёну абавязаны ўдзельнічаць у фінансаванні яго дзейнасці ва ўзгодненым памеры і форме. Гэтыя фінансавыя сродкі назапашваюцца на рахунках удзельнікаў дамовы і фарміруюцца з такіх крыніц, як укладанні членаў еўрарэгіёну, узносы арганізацый-спонсараў, дабрачынныя ўклады, а таксама субсідыі адміністрацыйных адзінак макраўзроўню, у тым ліку мясцовыя і цэнтральныя сродкі. Фінансавыя паступленні робяць магчымым утрыманне органаў трансгранічнага супрацоўніцтва (структур аб'яднанняў, камунальных саюзаў, сакратарыятаў, працоўных груп). Выкарыстанне гэтых сродкаў на сумесныя мэты ўстанаўліваецца шляхам заключэння дамоў паміж бакамі еўрарэгіёну. У цэлым прыгранічныя рэгіёны Заходняй Еўропы могуць карыстацца ўсімі даступнымі праграмамі развіцця, праграмамі дапамогі ЕС, СБ, ЕБРР і ЕІБ.

У рамках ЕС для падтрымкі еўрапейскага трансгранічнага супрацоўніцтва дзейнічаюць два асноўныя структурныя фонды: ЕФГР і ЕФРР. Дадаткова на найбольш сацыяльна-эканамічна адсталых тэрыторыях выкарыстоўваецца Фонд згуртаванасці, мэтай якога з'яўляецца стварэнне інфраструктуры, неабходнай для функцыянавання трансгранічнага супрацоўніцтва.

4 ліпеня 2006 г. Еўрапарламент вызначыў бюджэт структурных фондаў ЕС і ФЗ на перыяд 2007–2013 гг. у памеры 308,041 млрд еўра. Сукупныя выдаткі на фонды складаюць 35,7 % ад усяго бюджэту аб'яднання – больш трэці. У Генеральным распараджэнні зафіксавана размеркаванне рэсурсаў і структура мэт палітыкі аб'яднання:

***Мэта 1.*** «*Канвергенцыя*» – 81,54 % агульнага бюджэту, або 251 163 134 221 еўра (ЕФРР, ЕФОР, Фонд згуртаванасці);

***Мэта 2.*** «*Рэгіянальная канкурэнцыя і занятасць*» – 15,95 %, або 49 127 784 318 еўра (ЕФРР, ЕФОР);

***Мэта 3.*** «*Еўрапейскае тэрытарыяльнае супрацоўніцтва*» – 2,52 %, або 7 750 081 461 еўра (ЕФРР) [6, с. 41].

***Мэта 3*** – «*Еўрапейскае тэрытарыяльнае супрацоўніцтва*» – прадугледжвае развіццё трансгранічнага, транснацыянальнага і міжтэрытарыяльнага супрацоўніцтва. На гэтую мэту выдзелена 7,75 млрд еўра (з іх 5,57 млрд еўра (73,86 %) на трансгранічнае супрацоўніцтва, 1,58 млрд еўра (20,95 %) на транснацыянальнае супрацоўніцтва, 392 млн еўра (5,19 %) на міжтэрытарыяльнае супрацоўніцтва).

Акрамя вышэйпаказаных фондаў, у ЕС створаны таксама перадуступныя дапаможныя фонды (*Cre-accession Funds*) (табліца 1). Гэтыя фонды «ўзгадняюцца» з урадамі асобных краін і з'яўляюцца дадатковай крыніцай фінансавання, якая падтрымлівае ўжо існуючыя праграмы дапамогі. Для прыгранічных рэгіёнаў значным з'яўляецца той факт, што ў адпаведнасці з прынцыпамі вышэйпададзеных фондаў праграмы і праекты трансгранічнага супрацоўніцтва тлумачацца як прыярытэтныя задачы. Выкарыстанне еўрапейскіх структурных фондаў у большай ступені залежыць ад выпрацоўкі адпаведных праграм і праектаў зацікаўленымі бакамі па ўзгадненні з урадамі. Еўрапейскія структурныя фонды ў асноўным накіраваны на падтрыманне ўстойлівага развіцця, а таксама для перабудовы інфраструктуры; а ў эканамічнай сферы – на інвестыцыі.

Спецыфічным інструментам рэгіянальнай палітыкі ЕС з'яўляюцца так званыя Ініцыятывы Супольнасці. Гэта праграмы дапамогі, што дапаўняюць сродкі структурных фондаў у эканамічным коле пытанняў і з'яўляюцца своеасаблівай процівагай на праблемы, і паўтараюцца ў працэсе развіцця трансгранічнага супрацоўніцтва [4, с. 72].

Табліца 1 – Фінансавыя інструменты рэгіянальнай і міжрэгіянальнай палітыкі ЕС і іх праграмнае выкарыстанне

| **Фінансавыя крыніцы** | **Назва фондаў, праграм і іх прызначэнне** |
|---|---|
| Структурныя фонды | Еўрапейскі фонд рэгіянальнага развіцця (ЕФРР) |
| | Еўрапейскі фонд грамадскага развіцця (ЕФГР) |
| Фонд згуртаванасці (ФЗ) | *Фінансавыя сродкі Фонда згуртаванасці накіраваны на стварэнне інфраструктуры для найбольш адсталых у сацыяльна-эканамічным плане прыгранічных рэгіёнаў* |
| Перадуступныя дапаможныя фонды (*Pre-accession Funds*) | PHARE – Праграма фінансавай і тэхнічнай падтрымкі рэструктурызацыі эканомікі ў краінах Цэнтральнай і Усходняй Еўропы |
| | ISPA – Праграма падтрымкі праектаў, звязаных з развіццём інфраструктуры транспарту і аховы навакольнага асяроддзя, для краін-кандыдатаў у ЕС |
| | SAPARD – Праграма, накіраваная на мадэрнізацыю сельскагаспадарчых прадпрыемстваў і развіццё сельскіх раёнаў у краінах-кандыдатах у ЕС |
| | TACIS – Праграма фінансавай і тэхнічнай падтрымкі ў рэалізацыі палітыка-эканамічных пераўтварэнняў для краін СНД і Манголіі |
| Ініцыятывы Супольнасці | INTERREG III – Праграма падтрымкі добрасуседскіх кантактаў і грамадскай стабільнасці ў краінах ЦУЕ |
| | LEADER II – Дзеянні праграмы, накіраваныя на структурнае развіццё дэпрэсіўных сельскагаспадарчых сумежных рэгіёнаў дзяржаў-удзельнікаў |
| | LIFE – Праграма падтрымкі рэгіёнаў у сферы аховы навакольнага асяроддзя |
| | RECITE – Праграма падтрымкі супрацоўніцтва паміж рэгіёнамі па пытанні абмену ведамі і вопытам |
| | PACTE – Дзеянні праграмы, накіраваныя на наладжванне або ўзмацненне супрацоўніцтва ў галіне абмену ведамі і новымі тэхналогіямі |
| | LEONARDO – Праграма падтрымкі гуманітарнага супрацоўніцтва рэгіёнаў з мэтай паляпшэння якасці адукацыі і стварэння наватарскіх сістэм навучання |

*Крыніца:* распрацоўка аўтараў [4, с. 73].

«*Укараненне новага механізму ўсталявання добрасуседскіх адносін*», як накіравана адзначае ЕК ад 1 ліпеня 2003 г., будзе здзяйсняцца ў тры этапы:

1) 2004 – 2006 гг. – рэалізацыя праграм Добрасуседства;

2) 2007 – 2013 гг. – рэалізацыя праграм у межах Еўрапейскага інструмента суседства і партнёрства (ЕІСП);

3) пасля 2013 г. – заключэнне дамоў аб суседстве [1, с. 77].

У 2008 г. бягучы ўзровень фінансавання партнёраў праз ЕІСП склаў каля 450 млн еўра. ЕК мае намер прапанаваць прагрэсіўнае павелічэнне гэтай сумы такім чынам, каб да 2013 г. яна складала 785 млн еўра. Для гэтага бягучы бюджэт, прадугледжаны ў рамках ЕІСП, павінен быць папоўнены новымі сродкамі на 350 млн еўра звыш рэсурсаў, якія плануецца вылучыць на перыяд 2010 – 2013 гг.

Для задавальнення найбольш надзённых патрэбнасцей Рэгіянальную праграму ЕІСП «Усход» прапануецца пераарыентаваць на падтрымку шматбаковага праекта «Усходняе партнёрства». Сродкі, прадугледжаныя бюджэтам 2009 г., могуць быць выкарыстаныя для пачатку рэалізацыі першачарговых ініцыятыў, а прыблізна 250 млн еўра з бягучага бюджэту ЕІСП могуць быць пераарыентаваны на перыяд 2010–2013 гг.

У выніку такой камбінацыі новых і пераарыентаваных сродкаў агульная сума рэсурсаў, якія будуць вылучаны для рэалізацыі ініцыятывы Еўрасаюза «Усходняе партнёрства», складзе 600 млн еўра на перыяд 2010–2013 гг. Акрамя павелічэння гарантавай дапамогі, якая прадстаўляецца Еўрапейскай Супольнасцю, Усходняе партнёрства пры дынамічным развіцці запатрабуе правядзення практычных мерапрыемстваў па забяспячэнню эфектыўнасці выканання пастаўленых задач і паляпшэнню каардынацыі паміж донарамі, а таксама павелічэнню аб'ёмаў інвестыцый, у прыватнасці, Еўрапейскім інвестыцыйным банкам (ЕІБ) і Еўрапейскім банкам рэканструкцыі і развіцця (ЕБРР). Сярэднетэрміновы аналіз знешняга мандата ЕІБ можа даць магчымасць разгледзець пытанне адносна павышэння індыкатыўных гранічных лімітаў для ўсходніх партнёраў і пашырэння граніц іх ужывання. У дачыненні буйных праектаў па развіцці інфраструктуры варта разгледзець пытанне аб прадастаўленні падтрымкі дзяржаўным і прыватным інвестыцыям шляхам пакрыцця некамерцыйных рызык. Накірунак грантавых сродкаў Еўрапейскага саюза для рэалізацыі такіх праектаў можа здзяйсняцца праз Інвестыцыйны фонд суседства (ІФС), і таму ЕК заклікае краіны-члены падтрымаць «Усходняе партнёрства» фінансавымі ўзносамі, у тым ліку шляхам павелічэння памераў сваіх узносаў у ІФС.

Фарміраванне трансгранічных структур у межах з краінамі СНД і ЕС мае сваю спецыфіку, якую варта ўлічваць Рэспубліцы Беларусь з мэтай паспяховага развіцця гэтага працэсу і недапушчэння нанясення шкоды беларускім інтарэсам (табліца 2). У гэтай сувязі асаблівасці заходняга і ўсходняга вектараў пагранічча фарміруюць сукупнасць фактараў, якія перашкаджаюць развіццю трансгранічнага супрацоўніцтва, што патрабуе рэалізацыі сістэмы дыферэнцыраваных мерапрыемстваў на шляху іх рашэння.

У заяве Першага намесніка прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Уладзіміра Сямашкі адзначана, што праект «Усходняе партнёрства» павінен будавацца на прынцыпах раўнапраўя, уліку інтарэсаў і спецыфікі кожнай дзяржавы-ўдзельніцы. «Усходняе партнёрства» не павінна ператварацца ў прыладу барацьбы за сферы ўплыву, а служыць інтарэсам усіх дзяржаў рэгіёну і выключаць з'яўленне

новых раздзяляльных ліній у Еўропе. 7 мая 2009 г. на ўстаноўчым саміце беларускім бокам былі прадстаўлены прыярытэтныя інвестыцыйныя праекты ў галінах развіцця транзітнай інфраструктуры, энергазабеспячэння, аптымізацыі мытнага і пагранічнага кантролю з ЕС для рэалізацыі ў рамках «Усходняга партнёрства» [5].

Табліца 2 – Палітыка-эканамічныя аспекты «Усходняга партнёрства» для Беларусі

| Шансы | Рызыкі |
|---|---|
| 1) павышэнне ўзроўню палітычнага ўзаемадзеяння;<br>2) спрашчэнне паездак грамадзян у ЕС (памяншэнне кошту віз і адмена візавага рэжыму);<br>3) удасканаленне сектара інфраструктуры і камунікацый (пагранпераходы, транспартныя камунікацыі, электраэнергетыка (у прыватнасці, праекты па развіцці нафтаправода «Дружба» і транспарціроўкі ўкраінскай электраэнергіі праз тэрыторыю Беларусі ў краіны Балтыі);<br>4) стварэнне зоны вольнага гандлю і ўцягванне эканомік у еўрапейскі рынак;<br>5) інвестыцыі і павелічэнне фінансавай дапамогі ад ЕС;<br>6) патэнцыяльная магчымасць на еўраінтэграцыю | 1) пераход да рыначных цэн на вуглевадародную сыравіну;<br>2) страта фактычна бесперашкоднага доступу да расійскага рынку;<br>3) «згортванне» сувязей з прадпрыемствамі Расіі;<br>4) памяншэнне фінансавай і тэхнічнай дапамогі з боку Расіі;<br>5) павелічэнне нелегальных міграцыйных патокаў |

*Крыніца:* распрацоўка аўтараў [4].

У цэлым удзел Рэспублікі Беларусь у праекце «Усходняе партнёрства» (паводле прыярытэтаў палітыкі ЕК) закліканы вырашыць наступныя пытанні: 1) надзейнасці транзіту энерганосьбітаў і тавараў у Еўропу; 2) абароны заходнееўрапейскіх дзяржаў ад патоку незаконных мігрантаў; 3) аптымізацыі мытнага і пагранічнага кантролю з краінамі ЕС; 4) устойлівасці экалагічнай раўнавагі ў дадзеным рэгіёне.

У дадзеным кантэксце для Рэспублікі Беларусь стратэгічнае значэнне мае развіццё трансгранічнага супрацоўніцтва з суседнімі еўрапейскімі дзяржавамі і ў першую чаргу з Польшчай, Літвой, Латвіяй і Украінай. У мэтах паслядоўнага ўвасаблення канцэпцыі «Усходняга партнёрства» неабходны распрацоўка і рэалізацыя новых сумесных праектаў у межах ужо існуючых еўрарэгіёнаў, створаных з удзелам беларускага боку, на аснове спецыяльна прынятых і фінансуемых (з удзелам сродкаў бюджэту ЕС) праграм ЕІСП. Пры гэтым пажадана помніць хрэстаматыйны завет з Бібліі «*Не нарушай межи ближнего твоего, которую положили предки в уделе твоем, доставшемся тебе в земле, которую Господь Бог Твой дает тебе во владение*» (Библия. Втор. 19:14).

### *Спіс літаратуры*

1. Белицкий, В.Ф. Опыт участия Беларуси в программах добрососедства Европейского Союза / В.Ф. Белицкий, Е.В. Одинец, Л.П. Орлов // Журнал международного права и международных отношений. – 2008. – № 3. – С. 77–81.

2. Белицкий, М.Е. Приграничная торговля Республики Беларусь / М.Е. Белицкий; под ред. проф. В.М. Руденкова. – Минск: Право и экономика, 2005. – 158 с.

3. Давыденко, Л.Н. Трансграничное сотрудничество: экономические и институциональные основы: пособие / Л.Н. Давыденко, А.И. Литвинюк. – Минск: БГПУ, 2006. – 207 с.

4. Литвинюк, А.И. Трансграничное сотрудничество и еврорегиональная кооперация: монография / А.И. Литвинюк; под науч. ред. д-ра экон. наук Л.Н. Давыденко. – Минск: БГПУ, 2009. – 182 с.

5. Об участии белорусской делегации в учредительном саммите инициативы «Восточное партнерство» ЕС / Министерство иностранных дел Республики Беларусь [Электронный ресурс]. – 2009. – Режим доступа: http://www.mfa.gov.by/ru/press/news/e8fe903c66186625.html. – Дата доступа: 14. 05. 2009.

6. COUNTIL REGULATION (EC) № 1083/2006 of 11 july 2006 laying down general provisions on the European Regional Development Fund, the European Social Fund and the Cohesion Fund and repealing Regulation (EC) № 1260/1999 // Official Journal of the European Union. L 210. – 31.07.2006. – P. 25–78.

7. Библия о правосудии, праве и морали / сост. В.С. Каменков. – Минск: Агенство Владимира Гревцова, 2009. – 416 с.

**М. Даніловіч**

## ФРАЗЕАЛАГІЗМЫ З ПСЕЎДАЎЛАСНЫМІ ІМЁНАМІ Ў БЕЛАРУСКАЙ ДЫЯЛЕКТНАЙ МОВЕ

У фразеалогіі беларускай дыялектнай мовы значную частку складаюць адзінкі з кампанентам – уласным імем. Сваімі вытокамі яны цесна звязаны з нацыянальнай рэчаіснасцю, утварыліся на падставе фактаў, вобразных ўяўленняў, якія закранаюць пераважна беларускую антрапанімію, мясцовую тапанімію, персанажаў фальклорных і літаратурна-мастацкіх твораў, імёны гістарычных асобаў, клічкі жывёл, напрыклад: *Яська ў лес, а Манька па дровы* ‘нязладжана, нядружна, уразброд (рабіць што-н.)’ (СДФГ), *адно вока ў Альшаны, а другое ў Ашмяны* ‘хто-н. касавокі’ (СПЗБ), ганяць *як Марку па пекле* ‘раз-пораз, увесь час, не шкадуючы (пасылаць каго-н. куды-н., прымушаць каго-н. рабіць што-н.’, *як збянтэжаны Саўка* ‘разгублены, прыгнечаны, устрывожаны’ (СДФГ); помніць *караля Батораго (Батуру)* ‘стары, даўні, адвечны’ (Fed.), набрацца *як Мурза маслянкі* (*жому, заціркі, кішак, костак*) ‘вельмі моцна (напіцца)’ (СДФГ).

У межах анамастычнай фразеалогіі вылучаецца прыкметная група фразеалагізмаў з псеўдаўласнымі імёнамі – штучнымі ўтварэннямі спецыяльна для фразеалагізма з мэтай фарміравання яго сэнсавай структуры і яркай стылістычнай напоўненасці. Дарэчы, такія фразеалагізмы актыўна ствараюцца і ў іншых мовах, напрыклад: польск. *poznasz panią Brzezowską* ‘атрымаць пакаранні бярозавай розгай’, руск. *задать Храповицкого* ‘моцна спаць’, укр. *іхаті в Ригу через Горлівку й Носівку* ‘рыгаць’, *заїхати в Зубцівській (Рожественський) повіт Харківської губернії* ‘пабіць каго-н.’

У гэтым артыкуле аналізуюцца фразеалагізмы, выпісаныя з беларускіх дыялектных слоўнікаў, а таксама занатаваныя аўтарам пераважна з гаворак Гродзеншчыны.

Штучна ўтвораныя ўласныя імёны ў фразеалагізмах нагадваюць рэальныя антрапонімы ці тапонімы, пабудаваныя па вядомых словаўтваральных мадэлях. Так, мужчынскія прозвішчы на *-скі* і назвы населеных пунктаў на *-аўцы* шырока бытуюць у Беларусі і лёгка распазнаюцца ў фразеалагізмах як онімы: *Сасноўскі пад’язджае* ‘хто-н. дрэмле седзячы, стоячы ці знаходзіцца ў паўсонным стане’, *паехаць у Ложкаўцы* ‘заснуць, спаць’ (СДФГ).

Многія анамастычныя кампаненты фразеалагізмаў выступаюць аманічнымі да наяўных у беларускай мове назваў: *пайсці ў Магілёў* ‘памерці’ (Рыдзелі Гродз.), *аж у Крычаве чуваць* ‘вельмі моцна (крычаць)’ (Рап.), *дзядзька Апанас пастукаўся* да каго-н. ‘хто-н. захварэў на панос’ (Масты Маст.).

Псеўдаанамастычныя ўтварэнні маюць выразную ўнутраную форму, суадносяцца, «пераклікаюцца» каранёвай марфемай ці спалучэннямі гукаў з якім-н. утваральным словам. Такім словам часцей выступае назоўнік: *хлеб з Тарбатова* ‘рэшткі яды, прывезенай дадому, якую прапануюць дзецям; зайцаў хлеб’ (Fed.) (*Тарбатова* < *торба*). Зрэдку ўтваральнай асновай з’яўляецца дзеяслоў, назоўнік або дзеяслоў, прыметнік: *Хацей (Хацень) не даў* ‘не ўдалося здзейсніць тое, што хацелася’ (Літвінкі Гродз., Косцевічы Астр.) (*Хацей (Хацень)* < *хацець*); *у Крычаў паехаць* ‘раскрычацца’ (Нос.) (*Крычаў* < *крычаць, крык*); *нябожчык Ціхон бяды нарабіў* ‘дзяўчына зацяжарыла не будучы замужам’ (Fed.) (*Ціхон* < *ціхі)*.

Штучнае ўласнае імя, утворанае моўным каламбурам і суаднесенае з антрапанімічнай ці тапанімічнай назвай, выконвае важную фразеаўтваральную функцыю. Гэта гаваркое слова, матываванае апелятывам, значэнне якога пэўным чынам перасякаецца са значэннем фразеалагізма. Дзякуючы яму, ствараецца двухпланавасць унутранай формы фразеалагізма, і апошні ўспрымаецца як фразеалагічны каламбур гумарыстычнага, жартаўліва-іранічнага характару. Так, у выразе *выйсці замуж за Лапатэцкага* ‘памерці’ (Вялікая Бераставіца Бераст.) за вобразам замуства, створаным літаральнымі значэннямі слоў, што сталі кампанентамі фразеалагізма, хаваецца іншы вобраз – вобраз смерці, які зыходзіць ад штучнага прозвішча *Лапатэцкі*, апелятывам якога выступае слова *лапата* – прадмет, абавязковы ў цырымоніі пахавання чалавека. Кампанент *Лапатэцкі*, такім чынам, удзельнічае ў стварэнні адначасова двух быццёва і лагічна несумяшчальных вобразаў, гэтым дасягаецца адпаведны выяўленча-стылістычны эфект фразеалагізма.

Уласныя імёны такога тыпу выступаюць у складзе фразеалагізмаў сэнсаўтваральным цэнтрам, на базе якога фарміруецца фразеалагічнае значэнне.

Многія фразеалагізмы з псеўдаанамастычным кампанентам з’яўляюцца эўфемізмамі – замяняльнікамі слоў і словазлучэнняў, якія адлюстроўваюць з’явы па пэўных прычынах непрыемныя, непрыстойныя ці інтымныя. Уласнае імя ў такім выпадку ў прыхаваным, завуаляваным выглядзе дае намёк на гэтыя з’явы, якім адрасуюцца фразеалагізмы.

Асобную групу сярод іх складаюць фразеалагізмы, адпаведныя такой трагічнай з’яве, як смерць чалавека. Страх перад смерцю нярэдка спараджае эўфемізмы гумарыстычнага характару, у якіх увасобілася «імкненне схаваць боязь смерці ў жартаўлівых адносінах да яе» [1, с. 66]. У беларускіх гаворках зафіксавана каля дзесятка фразеалагізмаў з кампанентам *Пясэцкі (Пясоцкі)*, утваральнай асновай якога выступае апелятыў *пясок*, што выклікае асацыяцыі з пахаваннем чалавека: *ажаніцца з Пясэцкім* ‘памерці’ (ЗНФ, СДФГ), *выйсці за Пясэцкага* ‘памерці’, *забраў Пясэцкі* каго ‘хто-н. памёр’ (СДФГ), *пайсці да <пана> Пясэцкага (Пясоцкага)* ‘памерці’ (ЗФН, СДФГ), *Пясоцкі (Пясэцкі) чакае* каго ‘хто-н. блізкі да смерці’ (ЗФН). У гэтую групу ўваходзяць і такія фразеалагізмы, як раней згаданы *выйсці замуж за Лапатэцкага*, а таксама *пайсці за Клепацкага* ‘памерці’ (Fed.) (*Клепацкі* < *кляпаць* ‘забіваць накрыўку ў труне’), *адпраўляць у Магілёўскую губерню* каго ‘забіваць, знішчаць’ (СФ) (*Магілёўскі* < *магіла*), *пайсці да Святога спаса* ‘памерці’ (Fed.) (*Спас* < *спасенне* (на тым свеце)).

Некаторыя фразеалагічныя эўфемізмы абазначаюць натуралістычныя працэсы жыццядзейнасці чалавека. Матывацыйная аснова іх падказваецца анамастычным кампанентам. Так, у выразе *Аляксей спарваў (схапіў)* каго ‘хто-н. хварэе на панос’ (ЗФН) кампанент *Аляксей* з’яўляецца штучным ўтварэннем ад дыялектнага апелятыва польскага паходжання *лякса* ‘панос’ (польск. *laksa* ‘тс’). Шляхам анімізацыі гэтага апелятыва ўзнік і такі фразеалагізм: (праўдзівы) *як Ляксей* ‘вельмі, надзвычай (справядлівы, праўдзівы)’ (Семянякі Шчуч.).

З працэсамі сну, засынання звязаны фразеалагізмы *паехаць (пайсці) да Снова* ‘спаць’ (Fed.) (*Сноў* < *сон, спаць*), *паехаць у Храпянёва* ‘спаць’ (Гнесічы Навагр.) (*Храпянёва* < *храпці*), *чытаць Храпавіцкага* ‘моцна спаць, звычайна храпучы, пахрапваючы’, *у Сапуны (Сапунцы) пайсці* ‘спаць, звычайна пасопваючы’, *Сасноўскі абнімае* каго ‘хіліць на сон каго-н.’ (СДФГ).

З агульным значэннем ‘вывяргаць ротам прынятую ежу’ ў беларускіх гаворках ужываецца фразеалагізм *паехаць ў Рыгу* ‘рыгаць’ (Валеўка Навагр.). У 4 томе «Люду беларускага» М.Федароўскі падае пашыраны варыянт гэтага фразеалагізма *з Прусоў да Рыгі ездзіў* з наступным тлумачэннем: Jeżeli pijany dostanie wymiotów. Do Prus stąd świnie pędzają (Fed., c. 247).

У шэрагу фразеалагізмаў з псеўдаўласным імем эўфемічны пачатак не з’яўляецца рэлевантным. Ствараюцца такія фразеалагізмы не столькі для замены іншых моўных сродкаў, колькі для абазначэння паняццяў і суджэнняў неардынарным, незвычайным спосабам. Фразеалагізмы такога тыпу, пабудаваныя на гульні слоў, выступаюць яркім каламбурам з выразным эмацыянальна-экспрэсіўным зместам: *Галадніцкі ўбіўся ў хату* ‘няма чаго есці, наступіў голад’, *Лявон (Лявонь) напаў* на каго ‘хто-н. лянівы, каму-н. не хочацца працаваць’ (СДФГ), *Ленца важыць* ‘нічога не рабіць’ (СГВ), *запісацца да Лявошкі ў кампанію* ‘ленавацца, нічога не рабіць’ (Наваельня Дзятл.), *Іван Няпомнік* ‘чалавек, які забывае на людзей, людское, прайдзісвет, цураецца сяброўскіх абавязкаў’ (Янк.).

Псеўдаонім выступае сувязным звяном паміж дэнататам і ілюзорнай унутранай формай фразеалагізма, намякае на яе несапраўднасць і ўказвае на рэальнае фразеалагічнае значэнне.

У некаторых фразеалагізмах такая сувязь не ляжыць на паверхні, па розных прычынах не з’яўляецца празрыстай. Падобныя фразеалагізмы «вымагаюць падчас дэкадзіравання, акрамя моўнага чуцця, яшчэ і ведання пазамоўнай інфармацыі пра дэнатат, назва якога магла стаць матыватарам штучнага ўтварэння» [2, с. 86]. Так, у фразеалагізме *Басіны спраўляць* ‘хадзіць босым’ (СДФГ) першы кампанент асацыіруецца з назвай свята, хоць беларусам такое свята невядома. На першы погляд складваецца ўражанне, што хранонім *Басіны* – гэта штучнае ўтварэнне выключна ад апелятыва *босы*. Аднак этымалагічны аналіз паказвае, што фарміраванне фразеалагізма стала магчымым і дзякуючы этнаграфічным рэаліям. Свята *Басіны*, сапраўды, існуе. Гэта яўрэйскае свята ачышчэння, падчас якога яўрэі (раней масава пражывалі ў Беларусі) ходзяць босыя.

У 2005 годзе ў в. Баліненты Гродзенскага раёна запісаны фразеалагізм *Вавілён зарос* у каго. Ён адрасуецца мужчынам і з адценнем насмешкі ці гумару рэалізуе значэнне ‘ў каго-н. страцілася палавая актыўнасць’: *Э, ён ужэ хіба на што здатны, у маго старого ўжэ даўно Вавілён зарос.* Зразумець матывіроўку гэтага фразеалагізма без ведання пазамоўнай рэчаіснасці, з якою ён звязаны

шматлікімі асацыяцыямі, немагчыма. Тут неабходна ўспомніць біблейскі сюжэт пра вавілонскае стоўпатварэнне. Жыхары старажытнага горада Вавілона сталі будаваць вежу (стоўп) да неба, каб дабрацца да Бога. Разгневаны за гэта Бог «зблытаў мову іх», і яны перасталі разумець адзін аднаго. Горад Вавілон стаў месцам хаосу і разбэшчанасці, «спакусаў і мярзотаў людскіх». Гэты біблейскі сюжэт і яго бытавое асэнсаванне паслужылі крыніцай некалькіх фразеалагізмаў: *вавілонскае стоўпатварэнне* 'поўная неразбярыха, беспарадак, гармідар', *разводзіць вавілоны* 'гаварыць ці пісаць намёкамі, зацяняючы сутнасць справы', *трапло вавілонскае* 'балбатун', *выводзіць (пісаць) вавілоны* 'ісці хістаючыся (пра п'янага)', *вавілонская блудніца* 'вельмі разбэшчаная, распусная жанчына'. У іх ліку – і выраз *Вавілён зарос*. На яго развіццё аказаў уплыў не толькі біблейскі сюжэт, але, думаецца, і некаторыя з названых фразеалагізмаў, найперш *вавілонская блудніца*.

Фіктыўнасць псеўданазваў вельмі выразна праяўляецца, калі яны супадаюць аманімічна з рэальнымі ўласнымі імёнамі, часцей тапонімамі. Такія тапонімы нярэдка маюць рэгіянальны характар, і пашырэнне адпаведных фразеалагізмаў таксама з'яўляецца рэгіянальна абмежаваным. Напрыклад, фразеалагізм *паехаць у Храпянёва* 'спаць пахрапваючы' бытуе ў гаворках Навагрудскага раёна і менавіта ў гэтых гаворках успрымаецца з найбольшым камічным эфектам, паколькі ў межах Навагрудскага раёна існуе вёска з назвай *Храпянёва*.

Фразеалагізм *на Карэлічы пайшлі* 'брудныя, заношаныя, карэлыя (шкарпэткі, анучы)' лакалізуецца гаворкамі Карэліцкага і Навагрудскага раёнаў – у ваколіцах горада Карэлічы.

Такім чынам, псеўдаўласныя назоўнікі выконваюць важную фразеаўтваральную функцыю. Яны ўдзельнічаюць у фарміраванні семантыкі, вобразнасці, эмацыянальна-экспрэсіўнай афарбоўкі фразеалагізма, утрымліваюць у сабе нацыянальна-культурную інфармацыю. Фразеалагізмы з такімі назоўнікамі ўспрымаюцца ярка, запамінальна, узбагачаюць і разнастаяць выяўленчыя рэсурсы мовы.

### *Скарачэнні*

**ЗНФ** – Лепешаў, І.Я. З народнай фразеалогіі: дыферэнц. слоўнік / І.Я.Лепешаў. – Мінск: Выш. шк., 1991; **Нос. –** Сборник белорусских пословиц, составленный И.И.Носовичем // Сборник Отделения русск. языка и словесности Императ. АН. Т. XII, № 2. – СПб, 1874; **Рап. –** Беларускія прыказкі, прымаўкі і загадкі / склад. Я.Рапановіч. – Мінск: Дзярж. выд-ва БССР, 1958; **СДФГ** – Даніловіч, М.А. Слоўнік дыялектнай фразеалогіі Гродзеншчыны / М.А.Даніловіч. – Гродна: ГрДУ, 2000; **СПЗБ** – Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча: у 5 т. – Мінск: Навука і тэхніка, 1979–1986; **СФ** – Лепешаў, І.Я. Слоўнік фразеалагізмаў: у 2 т. / І.Я.Лепешаў. – Мінск, 2008; **Янк. –** Янкоўскі, Ф. Яшчэ з народнай фразеалогіі / Ф.Янкоўскі, Т.Тамашэвіч, М.Аляхновіч // Слова, фразеалагізм і кантэкст: зб. арт. / пад рэд. Ф.Янкоўскага; Мінскі пед. ін-т імя А.М.Горкага. – Мінск, 1979. – С. 42–57; **Fed. –** Federowski, M. Lud białoruski na Rusi Litewskiej / M.Federowski. – Warszawa, 1935. – T. 4; Скарочаныя назвы адміністрацыйна-тэрытарыяльных раёнаў: **Астр. –** Астравецкі; **Гродз. –** Гродзенскі; **Дзятл. –** Дзятлаўскі; **Маст. –** Мастоўскі; **Навагр**. – Навагрудскі; **Шчуч. –** Шчучынскі.

*Спіс літаратуры*

1. Бояркин, В.Д. Фразеологические единицы со значением «умереть» в русском и чешском языках (на материале ономастической фразеологии) / В.Д. Бояркин, Л.И. Степанова // Исследования по общей и дагестанской фразеологии: межвуз. тематич. сб. науч. статей. – Махачкала: Дагестанский гос. ун-т, 1989. – С. 60–67.

2. Пасік, Н.М. Псевдоономастичний компонент у структурі українських фразеологізмів / Н.М. Пасік // Славянская фразеология в ареальном, историческом и этнокультурном аспектах: материалы III научной конференции (Гомель, 7-8 октября 2003 г.). – Гомель: ГГУ им. Ф. Скорины, 2003. – С. 85–89.

**Cz. Łapicz**

## JĘZYK BIAŁORUSKI I JĘZYK POLSKI W PIŚMIENNICTWIE TATARÓW WIELKIEGO KSIĘSTWA LITEWSKIEGO

Pytanie o język najwcześniejszych słowiańskich przekładów tekstów religijnych Tatarów – muzułmanów Wielkiego Księstwa Litewskiego (dalej: WKL) bodaj jako pierwszy postawił znakomity badacz tego piśmiennictwa, profesor Uniwersytetu Wileńskiego, A.K. Antonowicz, w wydanej w 1968 r. pracy pisał:

*Очень интересным и чрезвычайно важным с научной точки зрения является и вопрос о том, который из двух названных нами языков – белорусский или польский – первым был использован для перевода восточных текстов* [1, s. 22].

Szukając odpowiedzi na to pytanie, wileński badacz wysunął tezę, iż pierwsze przekłady tekstów religijnych Tatarów WKL powstały w języku białoruskim.

*Хотя полного текста Корана с подстрочным его переводом на белорусский язык до сих пор не обнаружено,* – pisze badacz, – *однако имеется основание полагать, что такой перевод в прошлом существовал* [1, s. 19].

Według A. Antonowicza przekonująco miałyby o tym świadczyć liczne cytaty białoruskiej wersji Koranu obecne w *kitabach* i *chamaiłach* muzułmanów WKL, często zresztą pochodzących z XVIII i XIX wieku, a więc stosunkowo późnych. Jednak na poparcie swej tezy badacz nie przytoczył argumentów merytorycznych, historycznych, językowych lub innych. Wątpliwości i pytania odnoszą się zwłaszcza do najstarszego słowiańskiego przekładu *Koranu*, wszystkie bowiem uwzględnione w pracy Antonowicza rękopiśmienne kopie tzw. *tefsirów*[1] są polskojęzyczne z językowymi elementami białoruskimi, co zresztą potwierdził sam autor monografii traktującej o grafii rękopiśmiennych zabytków muzułmanów WKL słowami:

*...все они восходят к одному общему для всех их переводу – оригиналу. Имеющиеся в некоторых местах незначительные текстуальные различия легко объяснить простым искажением текста или его преднамеренным изменением в процессе многократного переписывания разными писцами и в разные времена* [1, s. 102].

Podobny pogląd wyraził inny badacz piśmiennictwa Tatarów WKL, P. Suter:

*Вначале встает вопрос о языковой базе переводных текстов. Языковую базу всех доныне известных рукописей Тефсиров следует обозначить как польскоязычную* [10, s. 146].

[1]Antonowicz uwzględnił w swej pracy trzy tefsiry: jeden pełny oraz fragment kolejnego z Biblioteki Uniwersyteckiej w Petersburgu (sygnatury: ЛУ-867 i ЛУ – 868), a także rękopis z Biblioteki Uniwersyteckiej w Wilnie (sygnatura ВУ – 892).

W przytoczonych cytatach kryją się zatem stwierdzenia bardzo ważne: ich autorzy przyznają, że wszystkie znane dzisiaj badaczom kopie *tefsirów*, w liczbie około dziesięciu rękopiśmiennych egzemplarzy, można sprowadzić do jednego wcześniejszego oryginału (protografu), zaś różnice formalne i językowe między kopiami można wyjaśnić tym, że powstawały one w różnym czasie i w różnym miejscu. Ponadto ich autorami byli kopiści o różnym stopniu językowej i pisarskiej kompetencji, a odbiorcami i użytkownikami – litewscy wyznawcy islamu o różnym poziomie religijnych potrzeb oraz religijnej wiedzy i ortodoksji. Pierwotny przekład Koranu na język słowiański z arabskiego oryginału powstał zapewne nie wcześniej, niż w 2. połowie XVI wieku, może nawet na początku wieku XVII, natomiast najstarszy znany dziś egzemplarz *tefsiru* Tatarów WKL, przechowywany obecnie w Bibliotece Białoruskiej Akademii Nauk w Mińsku, jest datowany w kolofonie na rok 1686. Powstaje więc pytanie o to, gdzie jest miejsce na ogniwo pośrednie – na ewentualny pierwotny przekład białoruski, który – po przełożeniu go na polski – miałby zaginąć, nie zachowując się choćby w jednym odpisie, a dopiero wtórny przekład na język polski z pierwotnego przekładu białoruskiego miałby stać się podstawą zachowanych polskojęzycznych kopii tefsiru. Konsekwencją przyjęcia tej tezy byłoby domniemanie zgodne z logiką, iż muzułmanie WKL przekładali Koran dwukrotnie: najpierw na język białoruski, a następnie – z białoruskiego na język polski. Przy czym przekład polski zachował się w późniejszych pełnych odpisach, natomiast rzekomy protograf białoruski – tylko we fragmentach cytowanych wraz z oryginalnym tekstem arabskim w niektórych *kitabach* i *chamaiłach.*

W tym miejscu trzeba ponowić pytanie o to, na jakich przesłankach A. Antonowicz oparł swój wniosek o białoruskiej podstawie językowej pierwszych przekładów? I dlaczego już w tytule swej pracy badacz przesądził o «białoruskości» wszystkich 23 zbadanych przez siebie tekstów; wszak tytuł jego pracy brzmi: *Белорусские тексты писанные арабским письмом и их графико-орфографическая система*? W rzeczywistości w pracy tej nie ma właściwie ani jednego tekstu, który byłby czysto «białoruski». Są natomiast teksty białorusko-polskie i polsko-białoruskie, o ilościowej, a nie systemowej, przewadze cech jednego lub drugiego języka. Do większości tych kopii można bez wątpienia odnieść obserwacje poczynione na podstawie badań innych rękopisów, np. A. Zajączkowski tak ocenił język rękopisu *chamaiłu* z 1804 r.: *Ale i w samym tekście raz po raz napotykamy dłuższe teksty białoruskie, polskie oraz polskie z wyraźnymi białorusycyzmami* [13, s. 310], natomiast I.J. Kraczkowski stwierdził, że autor XVIII – wiecznego rękopisu *Koranu* z Pskowa posłużył się *mową polską z silnymi białorusycyzmami* [7, s. 162–165]. Z kolei cechą charakterystyczną Kitabu Milkamanowicza z 1772 r. jest to, że *jego język nie jest wynikiem interferowania struktur językowych białoruskich i polskich – jest raczej rezultatem transferencji rozumianej jako mechaniczne, przypadkowe przenoszenie umiejętności i nawyków jednego języka na drugi. W sensie ilościowym i objętościowym w systemie tym zdecydowanie przeważają językowe cechy białoruskie, choć są także zabytki, które Antonowicz uznaje za polskie, polsko-białoruskie lub czysto białoruskie. W takim ujęciu Kitab Milkamanowicza należałoby określić jako białorusko-polski, przy czym przez pojęcie to rozumieć trzeba nie tylko wypośrodkowany system o przewadze cech białoruskich, lecz także ilościową przewagę białoruskich tekstów* [9, s. 218].

Jednym z możliwych wyjaśnień metodologicznej nieścisłości tytułu oraz zawartości treściowej monografii A. Antonowicza może być fakt, iż badacz ten datował

«На поўдні Гомельшчыны на Масленіцу жанчыны збіралі па вёсцы калоды для колкі дроў, а затым нагрувашчавалі іх адна на адну, нібы «будавалі хату хлопцу або дзяўчыне на выданні» [3, с. 544]. Масленіцу на Ельшчыне звязвалі з абрадамі сустрэчы вясны. Як адзначылі самі жыхары, Масленіцу раней адзначалі на працягу ўсяго тыдня, які так і называлі «маслены тыдзень». Паводле ўспамінаў Вольгі Васільеўны Касенка, 1939 г.н., з вёскі Валаўск, «На Масленіцу былі масавыя гульні, было катанне з горцы, рабілі калясо, прывязвалі да яго палкі і каталіся, былі і арэлі». Уласцівы для беларускай Масленіцы звычай «разуваць маладую» быў вядомы ў вёсцы Сугакі: «На Масленіцу маладую велічалі – разувалі яе». Адзначым, што прыведзены мясцовы звычай мае падабенства да тых абрадавых дзеянняў, якія ў Польшчы атрымалі назву «wkup do bab» («вступление в бабы», «вывоз молодой»), і сімвалізавалі «выхад жанчыны» за межы сямейнага абраду (вяселля) і «ўцягванне» яе ў грамадскае жыццё, што адпавядала яе новаму становішчу» [4, с. 196].

Той факт, што ў склад масленічнага комплексу ўваходзілі найперш веснавыя элементы (выкананне песень з матывамі гукання вясны, карагодных песень), пацвердзіла Марыя Пятроўна Шынкарчук, 1907 г.н., з вёскі Шарын Ельскага р-на: «Вялікія дзяўчаты з хлопцамі збіраліся гуртам, адначасова вадзілі карагоды, скакалі». Гэта не было выпадковым, бо семантыка масленічных звычаяў непасрэдна звязана з іх уплывам на забеспячэнне ўраджайнасці культурных раслін. Асабліва ў гэтых адносінах важнымі лічыліся па сіле магічнага ўплыў здзеяння такія віды дзеянняў, як танец, карагод, катанне на конях, гушканне на арэлях і інш. Танцы, скокі і падскокі – неад’емныя элементы ў структуры польскай Масленіцы: «Танцы былі звычайнымі: «на авёс, лён і іншыя культуры» палякі танцавалі ў такт полек, кракавякаў, або чардаша» [4, с. 195]. «У большасці раёнаў Польшчы жанчыны збіраліся ў карчме ў «попельную сераду», у некаторых жа – напярэдадні яе (Вармія, Мазуры). ... Там яны танцавалі, падскокваючы, як можна вышэй, каб высокімі раслі лён і каноплі» [1, с. 205].

«Масленіцу ў нас святкавалі весела: развітваліся з зімою, а сустракаліся з вясною», – адзначыла жыхарка в. Нісімкавічы Чачэрскага раёна Марыя Ігнатаўна Балыкова, 1909 г.н. Паводле яе ўспамінаў, менавіта на Масленіцу «добры гаспадар аб’езджваў каня, лічылася, што тады конь будзе здаровы». У апошні дзень Масленіцы «палілі пудзіла, а потым попел раскідвалі на полі, каб яно радзіла добры ўраджай». Выробленая лялька з саломы ў беларусаў сімвалізавала зіму («таксама рабілі куклу з саломы, гэта была зіма» – запісана ў в. Саланое Жлобінскага р-на ад Казловай Эльвіры Іванаўны, 1936 г.н.) і з’яўлялася важным атрыбутам масленічных святкаванняў: «Спачатку рабілі вялікую бабу з саломы ці сена, потым рабілі вочы, нос, губы. Надзявалі хвартук, спадніцу, кофту. У адну руку сунулі ёй блін, а ў другую – скавараду. Такую бабу насілі па вёсцы, спявалі. Калі ўжо ўсе нагуляліся па вуліцы, далей збіраліся дзе-небудзь на полі, дзе да гэтага складалі касцёр. А ў яго кідалі нашу бабу-масленіцу. Пасля падпальвалі і вадзілі харавод з песнямі «Ой, Масленька, несчасненька, сера вутка» (запісана ў в. Марусенька Жлобінскага р-на ад Асташкевіч Ганны Адамаўны, 1930 г.н.). У Польшчы таксама быў вядомы абрад з лялькай (бахусам), якую хлопцы і дзяўчаты насілі па ўсіх хатах вёскі. І ў беларускай, і ў польскай традыцыях было прынята спальваць саламянае чучала, якое ўвасабляла зіму, з’яўлялася міфалагічнай істотай. «У кракаўскіх і мазурскіх вёсках упрыгожвалі ляльку менсапуста, несапуста, закоўвалі яе ў кайданы. У папелец менсапуста судзілі і «обезглавли-

вали» [1, с. 206]. У масленічнай абраднасці паўночных раёнаў Польшчы ў ролі міфалагічнага персанажа выступаў запуст (скрыпач у карчме). У адрозненне ад беларускай масленічнай традыцыі, гэта істота (вярхом на драўляным кані з'яўлялася ў папелец ў польскіх вёсках: «Ён (запуст) скакаў па хаце і абсыпаў усіх попелам, што было абавязковым у гэты дзень») [1, с. 206]. Таццяна Дзмітрыеўна Лахцерава, 1932 г.н., з в. Бабічы, пацвердзіла факт бытавання абраду «калодкі» на Чачэршчыне: «Быў звычай хлопцам ці мужчынам у гадах, якія яшчэ не ажаніліся, вешаць на шыю калодку, і хлопец павінен быў хадзіць цэлы дзень з калодкай. Калодкай магло быць палена ці на шыю вешалі ключ на вяроўцы».

Варта адзначыць устойлівы характар бытавання масленічнай абраднасці і паэзіі на Буда-Кашалёўшчыне. Адметнасцю мясцовай традыцыі ў в. Гаўлі з'яўляецца пэўная рэгламентацыя абрадавых дзеянняў на кожны дзень масленічнага тыдня. З панядзелкам, напрыклад, вяскоўцы звязвалі сустрэчу Масленіцы, у аўторак ладзілі гульні, абавязковымі рытуаламі лічыліся катанне на конях і на санках з гары. У сераду адбывалася цырымонія частавання блінамі, а ў чацвер зноў гулялі ў гульні. Як паведаміла Раіса Фёдараўна Шчырцова, 1932 г.н. з в. Гаўлі, «пятніца – гэта дзень вячорак у бацькоў жонкі». У суботу наведвалі маладыя сем'і, а ў нядзелю гукалі вясну, пры гэтым выконвалі песню-вяснянку:

Жаваронaчкі, прыляціце,
Цёпла лецечка прынясіце,
А зімачку прыбярыце,
Бо зімачка надаела,
Нам хлебушка пераела,
Жаваронaчкі, прыляціце,
Землю-матухну разбудзіце
Ды дажджом напаіце,
Каб травушка вырасла,
Нам конікаў накарміла.

Як бачым, з Масленіцай у гэтай мясцовасці было звязана гуканне вясны і выкананне песень-вяснянак на сюжэты «Вясна, вясна, а што ты нам прынесла?», «Прыдзі, прыдзі, вясна, прыдзі, прыдзі, прыгожая».

У вёсцы Сінічына такой строгай іерархіі абрадавых дзеянняў на Масленіцу не назіралася. Як адзначылі інфарматары, «на нядзелі ў нас многа не гулялі» (запісана ад Васілеўскай Марыі Андрэеўны, 1930 т.н.). Пятніца і субота з'яўляліся днямі, калі абавязкова хадзілі ў госці да бацькоў і сваякоў, а ў нядзелю зраніцы пачыналіся гульні, частаванне блінамі.

Увогуле жыхары Беларускага Палесся выпечку бліноў звязвалі з пладавітасцю свойскай жывёлы: «Жанчыны гаварылі, што цяляты будуць радзіцца добрыя, здаровыя, калі пекчы бліны цэлы тыдзень» [4, с. 195]. Меў месца ў в. Сінічына і звычай «прымірэння», калі трэба было ва ўсіх папрасіць прабачэння, бо «Масленіца пападае на прашчонае васкрасенне» (запісана ад Васілеўскай Марыі Андрэеўны, 1930 г.н.).

Спявалі ў в. Сінічына масленічную песню «А мы масленку пракацілі», якая з'яўлялася ілюстрацыяй абрадавых рытуалаў:

А мы масленку пракацілі,
А мы зіманьку правадзілі,
Мы на горке пабывалі,

Сырам горку набівалі,
Маслам горку палівалі.
Наша горачка катліва,
Наша мамка буркатліва,
Нас дамоў пазвала,
На горачку не пускала,
А нам дамоў хаціцца,
Хочам з горачкі пракаціцца
(запісана ад Васілеўскай Марыі Андрэеўны, 1930 г.н.).

Напрыканцы масленічнага свята ў в. Губічы Буда-Кашалёўскага раёна таксама, як і ў в. Гаўлі, гукалі вясну, папярэдне просячы на гэта дазволу ва ўсіх прысутных: «Благаславіце, людзі, вясну гукаць, цёплага лета даждаць» (запісана ад Торманавай К.П., 1925 г.н.). У вёсцы Губічы была вядома традыцыя пакарання незамужніх дзяўчат: «У гэты празнік хлопцы «цягалі калоду» па сяле. Яны павінны былі абязацельна зайсці ў хату, дзе жыла ўжо сталая дзеўка, якая павінна была ўгасціць гасцей. Калі ж хлопцы абміналі кагосьці, гэта лічылася вельмі абідным, бо гэты абрад быў звязаны з замужжам» (запісана ад Торманавай К.П., 1925 г.н.). Акрамя таго, нежанаты хлопец таксама павінен быў «цягаць калоду». У такім выпадку «жанчыны прывязвалі да калоды адзін канец папружкі ці пояса, а другі канец давалі ў рукі схопленаму нежанатаму хлопцу. Калі хлопец не хацеў цягаць калоду цэлы дзень, то мог адкупіцца грашамі» (запісана ад Торманавай К.П., 1925 г.н.).

Прыведзеныя матэрыялы даюць падставы сцвярджаць, што ў масленічнай абраднасці і беларусаў, і палякаў важнае месца адводзілася культу працягу роду з яго галоўнай ідэяй шлюбу, захавання жыцця.

### *Спіс літаратуры*

1. Ганцкая, О.А. Поляки / О.А. Ганцкая // Календарные обычаи и обряды в странах зарубежной Европы. Весенние праздники. – М.: Наука, 1977. – 358 с.

2. Узроўні агульнасці фальклору ўсходніх славян / Л.П. Барабанава, Г.А. Барташэвіч, К.П. Кабашнікаў [і інш.]. – Мінск: Навука і тэхніка, 1993. – 477 с.

3. Славянские древности: этнолингвистический словарь: в 5 т. / под общ. ред. Н.И. Толстого. – Т. 2: Д-К (Крошки). – М.: Междунар. отношения, 1999. – 704 с.

4. Славянские древности: этнолингвистический словарь: в 5 т. / под общ. ред. Н.И. Толстого. – Т. 3: К (Круг) – П (Перепелка). – М.: Междунар. отношения, 2004. – 704 с.

**С. Милюченков**

## ИСТОЧНИКИ И МЕТОДИКА СРАВНИТЕЛЬНОГО ИССЛЕДОВАНИЯ ГОРОДСКОЙ ТРАДИЦИОННОЙ МАТЕРИАЛЬНОЙ КУЛЬТУРЫ В БЕЛОРУССКО-ПОЛЬСКОМ ПОГРАНИЧЬЕ И СОСЕДНЕМ ЗАРУБЕЖЬЕ

Белорусской и польской этнологической наукой за последние полвека проведен ряд крупных исследований традиционной материальной культуры. Учеными издана серия работ, которые являются ценными источниками для прове-

дения на их основе сравнительного анализа в этой сфере культуры, в том числе в регионах белорусско-польского пограничья и соседнего зарубежья. Между тем до настоящего времени такого рода исследования практически не велись или носили фрагментарный характер.

Капитальным научным трудом, в котором содержатся обширные материалы для сравнительного анализа традиционной предметной среды, является «Польский этнографический атлас» [12]. Он состоит из пробной тетради (17 карт) и шести основных выпусков (355 карт). В своем подавляющем большинстве карты посвящены тематике материального жизнеобеспечения – собирательству, охоте, рыболовству, животноводству, земледелию, продуктам питания и пище, обработке сырья, одежде, строительству и архитектуре, транспортным средствам, домашней утвари и оборудованию. На картах обозначены ареалы распространения различных типов и названий предметов, отмечена территориальная и временная динамика исчезновения некоторых этнокультурных явлений.

К сожалению, равного по масштабу и глубине сводного картографического источника этнографической наукой Беларуси не было создано. Вместе с тем ценные сведения для проведения сравнительного анализа, включая картографический материал, содержатся в ряде монографий – «Беларускае народнае жыллё», «Народная сельскагаспадарчая тэхніка беларусаў», «Беларускае народнае адзенне» [1; 2; 9]. В этих изданиях помещены 53 карты, дающие представление о географическом распространении типов и форм дворовой застройки, строительных конструкций, печного оборудования, планировки жилища, женских и мужских сорочек, поясной и верхней одежды, головных уборов, обуви, пахотных и других почвообрабатывающих орудий, способов укладки снопов и орудий обработки зерновых культур, сооружений для хранения земледельческой продукции.

Важным источником для сравнительного исследования традиционной материальной культуры в белорусско-польском пограничье и соседнем зарубежье является «Дыялекталагічны атлас беларускай мовы» [3; 4]. Он состоит из 338 карт. Более 50 из них посвящены распространению диалектных названий некоторых видов хозяйственных построек, мужской и женской одежды, посуды, утвари, деталей конструкций жилища и земледельческих орудий труда. Большое этнографическое значение имеют комментарии к картам. В них приводится фактический материал из опроса жителей сельских населенных пунктов касательно картографируемых культурных явлений.

Обширные сведения этнографического характера содержатся в издании «Лексіка гаворак Беларускага Прыпяцкага Палесся. Атлас. Слоўнік» [5]. Атлас состоит из 158 карт, иллюстрирующих лингвогеографические особенности терминологии по темам «Назвы дома і гаспадарчых збудаванняў», «Земляробчая лексіка», «Назвы ежы», «Назвы адзення і абутку», «Назвы посуду». Вместе со словарем он имеет большую ценность для сравнительного изучения семантики обозначений предметов традиционной материальной культуры в смежных регионах юго-западной Беларуси, юго-восточной Польши и северо-западной Украины.

Среди диалектологических источников словарного характера большое значение для сравнительного анализа названий этнокультурных явлений предметной среды имеет пятитомный «Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча» [10]. В нем значительное место занимает терминологическая лексика, которая дает возможность проследить локальное распростра-

нение и понятийные особенности названий традиционных построек, орудий труда, одежды, предметов быта, транспортных средств и др.

С использованием ряда вышеназванных источников и других материалов автор провел этнологическое исследование традиционных построек в сельской среде белорусско-польского пограничья и соседнего зарубежья. С этой целью была использована методика сравнительного изучения форм архитектурно-функциональной адаптации строений для материального жизнеобеспечения в контексте с особенностями семантики названий изучаемых объектов. На исследуемой территории, включая соседнее зарубежье, выделены северный и южный ареалы с разнонаправленными векторами этнокультурных связей.

Один из них охватывал Гродненщину, северную часть Белостотчины и смежные районы юго-восточной Литвы и представлял собой зону славяно-балтского (белорусско-польско-литовского) культурного взаимодействия, которое протекало в форме трехсторонних и двухсторонних контактов. Это отразилось в распространении идентичных архитектурных концептов в этой зоне. Причем, развитие традиционного жилища Восточной Литвы происходило под славянским влиянием. Это проявлялось во внутренней планировке, в том числе в размещении печи справа или слева от входа устьем к нему, расположении в углу по диагонали от печи «чыстага кута». В лексике жителей Вильнюсского и Шальчининкайского районов встречалось белорусское название жилища «хата», которое было известно также на смежной территории Польши [6, с. 419; 10, с. 290, 291].

Родственными в зоне славяно-балтских этнокультурных связей являлись диалектные названия ряда хозяйственных сооружений. В частности, в значении помещения для хранения плодов и овощей, обогреваемого зимой печкой-каменкой или горячими углями из домашней печи, были распространены белорусское «камора», польское «komora» и заимствованное у славян литовское «kamara» [7, с. 291, 292]. Одними и теми же терминами обозначалась холодная постройка для хранения зерна и ценных предметов – «свіран» на Гродненщине и «świrec» на северо-востоке Белостокского воеводства от слова «svirnas» в той же семантике литовского происхождения [4, к. 239; 7, с. 288, 292; 12, м. 81].

Одинаковое название «склеп», относившееся к подземной постройке для хранения плодов и овощей, употреблялось на всем протяжении белорусско-польского пограничья. Гродненщина в ареале этого слова, который охватывал значительную часть соседней Польши, за исключением юго-восточного региона, занимала периферийное положение в виде северо-восточной оконечности. Здесь постепенно сходила на нет сила вектора западнославянского культурного влияния. На это указывает и то что на Гродненщине редко встречались общераспространенное в Польше в том же понятии, как и «склеп», слово «пiвнiца», а также обозначение «спiжарня» (кладовка) и др.

На севере Гродненской области в Островецком и прилегающих к нему районах располагалась западная зона миксации широко распространенных на территории Беларуси сельскохозяйственных построек под названиями «адрына» и «пуня», предназначавшихся для хранения сена, соломы, иногда молотьбы снопов зерновых культур, реже служивших для содержания скота [4, к. 236]. Оба этих термина употреблялись также в соседних районах Литвы [11, p. 162, 163]. Обозначение «адрына» получило здесь распространение в результате белорусского культурного влияния.

Смежные юго-западные районы Беларуси, юго-восточной Польши и северо-западной Украины входили в исторически сложившуюся здесь зону белорусско-польско-украинских этнокультурных связей. В ней получила массовое распространение одинаковая форма организации традиционного жилища с трехкамерной связью – хата + сени + камора. Несмотря на лексическое родство слова «камора» в пределах всей территории белорусско-польского пограничья и соседнего зарубежья, это название имело в южном ареале свои семантические особенности [7, с. 295]. В частности, тут термином «камора» обозначалось холодное темное помещение для хранения зерна, муки и ценных предметов. В теплое время года его использовали при необходимости для дневного отдыха и ночлега.

Характерной особенностью белорусской части южного ареала белорусско-польско-украинских этнокультурных связей была смешанная локализация здесь разных названий традиционных построек, имевших одинаковую форму архитектурно-функциональной адаптации. При этом некоторые термины указывали на родство или близкую общность культурных реалий восточных и западных славян. Более широко и массово они были распространены в польской части исследуемого ареала. К ним относятся «абарог», «bróg» (сооружение с подъемной крышей на четырех столбах для хранения сена и снопов зерна), «стадола», «stodoła» (то же, что и «клуня», постройка для молотьбы зерна, хранения снопов и сена), «шпіхер», «spichlerz» (то же, что и «клець», «свіран», постройка для хранения зерна), «шопа», «szopa», «шур», «szur» (то же, что и «павець», каркасная постройка с крышей на столбах для сельскохозяйственного инвентаря, гужевых транспортных средств, дров и др. целей).

Анализ материалов показал, что в характере архитектурно-функциональной адаптации хозяйственных построек в пограничных регионах имеется большое сходство. Это объясняется тем, что народная архитектура развивалась здесь в близких природно-климатических и социально-экономических условиях на основе общего культурного типа традиционной хозяйственной деятельности населения – земледелия в сочетании с животноводством. Локальные особенности наблюдались в основном в специфике приспособления домашних складских помещений на севере Гродненщины и Белостотчины, с одной стороны, и на остальной части региона белорусско-польских связей, с другой стороны. Более выразительно они прослеживаются в ареальной доминанте разных названий одних и тех же строений, а также в семантике некоторых одинаковых по форме обозначений. При этом многие термины входили в зоны смешанного распространения. Это свидетельствует о продолжительных интенсивных этнокультурных связях населения белорусско-польского пограничья и соседнего зарубежья. Их историческая глубина и устойчивость подтверждаются результатами исследования функциональной специфики и названий традиционных построек, полученными автором в процессе анализа письменных источников XVI – XVIII вв. [6; 7; 8].

### *Список литературы*

1. Беларускае народнае адзенне / В.К. Бандарчык (рэд.). – Мінск: Навука і тэхніка, 1975. – 96 с.
2. Беларускае народнае жыллё / В.К. Бандарчык (рэд.). – Мінск: Навука і тэхніка, 1967. – 128 с.
3. Дыялекталагічны атлас беларускай мовы: Уступныя артыкулы, даведачныя матэрыялы і каментарыі да карт / пад рэд. Р.І. Аванесава, К.К. Крапівы, Ю.Ф. Мацкевіч. – Мінск: Выд-ва Акад. навук БССР, 1963. – 971 с.

4. Дыялекталагічны атлас беларускай мовы / пад рэд. Р.І. Аванесава, К.К. Крапівы, Ю.Ф. Мацкевіч. – Мінск: Выд-ва Акад. навук БССР, 1963. – 338 к.

5. Лексіка гаворак Беларускага Прыпяцкага Палесся. Атлас. Слоўнік / Г.Ф. Вештарт [і інш.]. – Мінск: Права і эканоміка, 2008. – 353 с.

6. Милюченков, С.А. Этнолингвистические традиции и особенности названий жилища населения Беларуси / С.А. Милюченков // Пытанні мастацтвазнаўства, этналогіі і фалькларыстыкі. Вып. 6 / А.І. Лакотка (навук. рэд.). – Мінск: Права і эканоміка, 2009. – С. 411 – 426.

7. Милюченков, С.А. Историческая семантика и ареалы названий традиционных складских построек Беларуси / С.А. Милюченков // Пытанні мастацтвазнаўства, этналогіі і фалькларыстыкі. Вып. 7 / А.І. Лакотка (навук. рэд.). – Мінск: Права і эканоміка, 2009. – С. 286 – 299.

8. Милюченков, С.А. Этнокультурный комплекс и семантика названий хозяйственных построек в помещичьих усадьбах Беларуси 2-й половины XVI – XVIII вв. / С.А. Милюченков // Пытанні мастацтвазнаўства, этналогіі і фалькларыстыкі. Вып. 8 / А.І. Лакотка (навук. рэд.). – Мінск: Права і эканоміка, 2010. – С. 385 – 393.

9. Народная сельскагаспадарчая тэхніка беларусаў / В.К. Бандарчык (рэд.). – Мінск: Навука і тэхніка, 1974. – 104 с.

10. Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча: у 5 т. / рэдкал.: Ю.Ф. Мацкевіч (рэд.) [і інш.]. – Мінск: Навука і тэхніка, 1979 – 1986. – Т. 5. – 1986. – 563 с.

11. Merkienė, R. Gyvulių ūkis XVI a. – XX a.pirmojoje pusėje: Etn. Patirties ištakos / R. Merkienė. – Vilnius: Mokslas, 1989. – 236 p.

12. Polski atlas etnograficzny: w VI z. / Komis. dla spraw Polsk. Atl. Etnograf.: K. Moszyński (Przewod.) [i in.]; J. Gajek (red.). – Warszawa: Pań. Wyd. Nauk., 1964 – 1981. – 355 м.: Z. II. – 1965. – M. 58 – 129.

**В. Швайко**

## СТАН БЕЛАРУСКАЙ АСВЕТЫ Ў ПОЛЬШЧЫ Ў ДРУГОЙ ПАЛОВЕ XX – ПАЧАТКУ XXI стст.

На тэрыторыі сучаснай Польшчы пражывае значная колькасць беларускага насельніцтва, якое мае статус нацыянальнай меншасці. Яшчэ ў 1945 годзе, згодна з савецка-польскімі дамовамі аб дзяржаўнай мяжы, у склад Польшчы ўвайшла частка этнічных беларускіх земляў – практычна ўся Беласточчына і частка Брэсцкай вобласці, што і абумовіла геаграфічныя межы пражывання беларусаў у Польшчы. Вельмі складаным з’яўляецца пытанне аб выяўленні дакладнай колькасці беларусаў у Польшчы. Гэтаму не спрыялі ні працэсы пасляваеннай рэпатрыяцыі, ні эміграцыя, ні актыўная асіміляцыя беларускага насельніцтва ў другой палове XX стагоддзя. Даследчыкі называюць розныя лічбы: ад 50 да 200 тысяч [9, с. 23]. Паводле дадзеных апошняга перапісу насельніцтва 2002 года, у Польшчы пражывае каля 47 тысяч этнічных беларусаў. Абсалютная большасць з іх – у Падляшскім ваяводстве (96,6 % ад агульнай колькасці анкет, пададзеных беларусамі падчас перапісу). Згодна з польскім заканадаўствам, беларусы ў Польшчы маюць права на выкарыстанне роднай мовы, захаванне і развіццё беларускай культуры, а таксама на навучанне дзяцей на роднай мове. Выяўляюцца асноўныя этапы і накірункі ў развіцці беларускай школы ў Польшчы ў другой палове XX – пачатку XXI стагоддзяў. Лёс іх быў няпростым: больш чым за пяцьдзесят гадоў беларуская асвета перажыла і часы свайго росквіту, і часы заняпаду і, здаецца, уступіла на шлях спадзявання на адраджэнне.

Практычна адразу пасля вызвалення ад немцаў Беласточчыны пачалі адкрывацца школы з беларускай мовай навучання. У 1944 годзе тут налічвалася

больш 90 пачатковых і тры сярэднія школы – у Гайнаўцы, Бельску, і Беластоку [2, с. 101]. На жаль, палітычная сітуацыя, а таксама бачанне польскім урадам «Польшчы без нацыянальных меншасцяў» не спрыяла бесперапыннаму развіццю беларускай адукацыі. З устанаўлення савецка-польскай мяжы і абменам насельніцтва паміж Польшчай і СССР у 1945 – 1947 гадах пачалася ліквідацыя беларускіх школ. Польскія ўлады тлумачылі гэта быццам бы адсутнасцю патрэбы ў іх. Беларусы ў рамках рэпатрыяцыі выязджаюць у Савецкую Беларусь. Навучальныя ўстановы маглі ліквідаваць таксама і па палітычных матывах, як адбылося з ліцэем у Бельску: яго зачынілі ў 1946 годзе па прычыне «сепаратысцкай дзейнасці настаўнікаў» [4, с. 90]. Сярэдняя школа ў Гайнаўцы была зачынена ў 1945 годзе, у Беластоку – ў 1946 годзе, а сам працэс закрыцця школ скончыўся тым, што на Падляссі ў 1947 годзе засталося толькі 6 беларускамоўных школ [11, с. 90].

Палітычныя змены ў краіне пацягнулі за сабой і змены ў сферы беларускай адукацыі. 28 чэрвеня 1949 года польскі ўрад прыняў рашэнне, згодна якому Міністэрства адукацыі Польшчы павінна было ствараць умовы, каб дзеці беларускай нацыянальнасці на Беласточчыне маглі вучыцца на роднай мове. Як вынік, 1 верасня 1949 года былі адкрыты 24 школы з беларускай мовай навучання. У канцы навучальнага года іх было ўжо 39, а ў сакавіку 1950 г. працавалі 42. У школах беларуская мова вывучалася як прадмет [11, с. 95]. З 1949–1950 навучальнага года пачалі працаваць ліцэі ў Бельску і Гайнаўцы. У першыя гады свайго аднаўлення беларускія школы перажывалі шмат праблем: не хапала настаўнікаў, не было падручнікаў, часам не хапала нават памяшканняў, заняткі праводзіліся ў прыстасаваных жылых памяшканнях. Але, нягледзячы на ўсе цяжкасці, беларуская асвета ў Польшчы прадаўжала развівацца.

Школы для дзяцей беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы дзейнічалі на тэрыторыі пяці паветаў: Беластоцкага, Бельскага, Гайнаўскага, Сямятыцкага і Сакольскага. Найбольшая іх колькасць працавала ў Бельскім і Гайнаўскім паветах: тут былі як школы з беларускай мовай навучання (усе прадметы выкладаліся на роднай мове), так і школы з дадатковым вывучэннем беларускай мовы (мова вывучалася як прадмет). У Беластоцкім, Сакольскім і Сямятыцкім паветах працавалі школы толькі з дадатковым вывучэннем беларускай мовы.

1960-я гады сталі перыядам найвялікшага росквіту беларускай асветы ў Польшчы (табліца 1) [10, с. 28]. Найбольшая колькасць беларускіх навучальных устаноў была адчынена ў 1961–1962 навучальным годзе: 37 пачатковых школ з беларускай мовай навучання і 141 школа, дзе беларуская мова вывучалася як прадмет.

Табліца 1 – Колькасць беларускіх школ на Падляссі ў 1960-я гады

| Навуч. год | Школы з беларускай мовай навучання | Колькасць вучняў | Школы з вывучэннем беларускай мовы | Колькасць вучняў | Усяго школ | Усяго вучняў |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
| 1960/61 | 39 | 2643 | 135 | 7939 | 174 | 10582 |
| 1961/62 | 37 | 2636 | 141 | 8147 | 178 | 10783 |
| 1962/63 | 34 | 2266 | 137 | 8550 | 171 | 10816 |
| 1963/64 | 34 | 2378 | 141 | 8724 | 175 | 11102 |

*Працяг табліцы 1*

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1964/65 | 34 | 2329 | 139 | 8612 | 173 | 10941 |
| 1965/66 | 33 | 2286 | 139 | 8616 | 172 | 10902 |
| 1966/67 | 31 | 2317 | 141 | 9452 | 172 | 11769 |
| 1967/68 | 30 | 2276 | 139 | 9727 | 169 | 12003 |
| 1968/69 | 30 | 2082 | 134 | 9650 | 164 | 11732 |
| 1969/70 | 22 | 1353 | 142 | 9938 | 164 | 11291 |

Негатыўнай тэндэнцыяй таго часу стала скарачэнне колькасці школ, дзе ўсе прадметы вывучаліся на беларускай мове на карысць школ, дзе беларуская мова вывучалася як прадмет. Вельмі часта гэты працэс тлумачылі тым, што дзеці павінны добра ведаць дзяржаўную мову, менавіта ад гэтага будзе залежыць іх далейшы лёс. У выніку назіралася такая з'ява: бацькі вучняў школ з беларускай мовай навучання вымушаны былі пісаць заявы, каб некаторыя прадметы (а паступова і большая іх частка) выкладаліся па-польску, матывуючы гэта патрэбамі далейшага жыцця моладзі. Напрыканцы згаданага дзесяцігоддзя пачала скарачацца і агульная колькасць беларускіх пачатковых школ [10, с. 28].

Апрача пачатковых школ, у дадзены перыяд на Беласточчыне працавалі і сярэднія навучальныя ўстановы: два ліцэі з беларускай мовай навучання – у Гайнаўцы і Бельску Падляскім, а таксама ліцэй з дадатковым вывучэннем беларускай мовы ў Міхалове (Беластоцкі павет) [11, с. 97]. Выпускнікі беларускіх сярэдніх школ мелі магчымасць атрымліваць адукацыю ва ўсіх вышэйшых навучальных установах Польшчы.

Дзякуючы намаганням Беларускага грамадска-культурнага таварыства (БГКТ), у 1957–1958 навучальным годзе для тых выпускнікоў беларускіх ліцэяў, якія хацелі працягваць беларускую адукацыю далей, пры Варшаўскім універсітэце была адкрыта адзіная на той час за межамі Беларусі кафедра беларускай філалогіі. Заснавальнікам яе стала славіст прафесар А. Абрэмская-Яблонская [6, с. 91]. У першыя гады існавання метадычную і навуковую дапамогу кафедры аказвалі шматлікія спецыялісты з Беларусі: з Інстытута мовазнаўства АН БССР, Педагагічнага інстытута імя М. Горкага і інш. [1, с. 59]. З цягам часу быў сфарміраваны выкладчыцкі калектыў, у склад якога ўваходзілі Э. Смулкова, А. Баршчэўскі, А. Багроўская, М. Урублеўскі, З. Скібінская. Навуковыя інтарэсы выкладчыкаў кафедры беларускай філалогіі знаходзіліся ў сферах беларускага мовазнаўства і гісторыі беларускай літаратуры, а таксама даследавання фальклору Беласточчыны. На чале кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта працавалі вядомыя навукоўцы А. Абрэмская-Яблонская, Э. Смулкова, А. Баршчэўскі.

З мэтай забеспячэння беларускіх школ настаўніцкімі кадрамі, з 1954 года па 1965 год пры Завочных настаўніцкіх курсах у Беластоку дзейнічала аддзяленне беларускай філалогіі. За перыяд яго існавання вышэйшую настаўніцкую кваліфікацыю тут атрымалі 139 настаўнікаў. У 1949–1950 навучальным годзе польскімі ўладамі было прынята рашэнне аб адкрыцці ў Беластоку Педагагічнага ліцэя з беларускай мовай навучання. З наступнага і па 1969–1970 навучальны год Педагагічны ліцэй працаваў ужо ў Бельску Падляскім [10, с. 36]. За гэты

перыяд дыпломы настаўнікаў беларускай мовы атрымалі 427 выпускнікоў, якія працаўладкоўваліся ў беларускамоўныя пачатковыя школы. Педагагічны ліцэй у Бельску быў зачынены ў 1970 годзе быццам бы па прычыне рэформы сістэмы адукацыі для настаўнікаў пачатковых школ [10, с. 36]. Фактычна ж гэта адбылося ў агульным рэчышчы пагаршэння стану беларускамоўнай адукацыі, якое прыйшлося менавіта на 1970-я гады.

У 1970–1971 навучальным годзе школы з беларускай мовай навучання перасталі існаваць – родная мова з гэтага часу пачала выкладацца толькі як дадатковы прадмет. З цягам часу колькасць і такіх школ скарацілася: у 1974–1975 навучальным годзе працавалі толькі 77 пачатковых школ, дзе беларускую мову вывучалі 5314 вучняў, а ў 1987–1988 навучальным годзе гэтыя лічбы скараціліся да 58 школ і 3690 вучняў [11, с. 98]. Напачатку 1970-х гадоў у беларускіх школах пачалі з'яўляцца і іншыя праблемы: дзяржава перастала друкаваць падручнікі, настаўнікі не мелі магчымасці павышаць кваліфікацыю. Пачало панаваць масавае меркаванне, што беларуская мова ў польскай дзяржаве нікому не патрэбна. 22 лютага 1971 года было выдадзена распараджэнне Міністэрства асветы Польшчы наконт «поўнай добраахвотнасці навучання роднай мове» [11, с. 97]. Згодна з ім, бацькі дзяцей, якія жадалі вывучаць беларускую мову, кожны год павінны былі пісаць спецыяльныя заявы. Адсутнасць такіх заяў станавілася падставай да скасавання вывучэння роднай мовы ў навучальнай установе. Апрача таго, для тых школ, дзе вывучалася беларуская мова, школьныя ўлады давалі рэкамендацыі выкладаць прадмет на першым ці апошнім уроку, што таксама не спрыяла высокаякаснаму вывучэнню мовы. Сітуацыю значна пагоршыла і школьная рэформа першай паловы 1970-х гадоў. Падчас яе правядзення было ліквідавана 70 невялікіх пачатковых школ, дзе вывучалася беларуская мова, а ў новых школах, куды накіроўваліся вучні, такога прадмета часцей за ўсе не было. На гэтым фоне значным, хоць і кароткатэрміновым поспехам беларускай грамадскасці можна лічыць тое, што ў 1982 годзе ў Беластоцкім ліцэі № 1 пяць вучняў пачалі вывучэнне беларускай мовы, але ў хуткім часе з-за малой колькасці навучэнцаў выкладанне было спынена.

У 1990-я гады беларускія грамадскія арганізацыі ў Польшчы сталі зноў надаваць вялікую ўвагу пытанню адраджэння беларускай асветы. Сітуацыя была даволі складанай. У гэты час беларускую мову як дадатковы прадмет вывучалі больш за 3500 чалавек у 44 школах [5, с. 111]. Вялікай праблемай стаў катастрафічны недахоп метадычнай і навуковай літаратуры, настаўнікі не мелі магчымасці павышаць кваліфікацыю. Беларускае грамадска-культурнае таварыства змагло аказаць значную дапамогу ў вырашэнні гэтай праблемы. Дзякуючы падтрымцы з боку Рэспублікі Беларусь, БГКТ наладзіла перадачу дзіцячай літаратуры, падручнікаў, газет у школы, дзе вывучалася беларуская мова; аднаўлялася практыка правядзення ў мінскіх ВНУ курсаў павышэння кваліфікацыі для настаўнікаў беларускай мовы з Польшчы. З 1990 года па хадатайству Таварыства ў навучальных установах Рэспублікі Беларусь вышэйшую адукацыю сталі атрымліваць выпускнікі беларускіх ліцэяў Польшчы. Беларускія ўлады аказвалі дапамогу і ў афармленні кабінетаў беларускай мовы. Пастаянна наладжваліся курсы і метадычныя канферэнцыі настаўнікаў беларускай мовы; вядучымі метадыстамі сталі Т. Русачык, В. Сянкевіч, І. Рыгаровіч, В. Ляшчынскі і інш.

Неабходна адзначыць працу, якую і па сённяшні дзень вядуць Беларускае грамадска-культурнае таварыства і Таварыства беларускай культуры на ніве папуля-

рызацыі беларускага слова і культуры сярод дзяцей і моладзі. Дадзеныя беларускія грамадскія арганізацыі штогод арганізуюць дзіцячыя конкурсы «Роднае слова» (дэкламатарскі конкурс беларускай паэзіі для вучняў пачатковых школ і гімназій), «Сцэнічнае слова» (конкурс на лепшае выкананне твораў беларускай паэзіі і прозы, а таксама малых тэатральных твораў для вучняў ліцэяў і моладзі), «Беларуская песня для школьнікаў», агляды тэатральных калектываў. Шырокая зацікаўленасць да конкурсаў з боку моладзі сведчыць аб плёне працы такога кшталту.

У сярэдзіне 1990-х гадоў магчымасць вывучаць беларускую мову атрымалі і дзеці, якія пражывалі ў Беластоку. З 1995 года ў дзіцячым садку № 14 пачалі працу беларускамоўныя групы. Вялікую ўвагу педагогі надавалі выхаванню дзяцей на традыцыях беларускай культуры: тут існавалі тэатральная група, дзейнічаў дзіцячы песенны калектыў «Вясёлка». Далейшае вывучэнне беларускай мовы беластоцкія дзеці маглі працягваць у пачатковай школе № 4, а таксама ў гімназіі № 7 і агульнаадукацыйным ліцэі № 2. Выхавацелі і настаўнікі беларускай мовы г. Беластока цесна супрацоўнічалі з аб'яднаннем «АБ-БА» («Аб'яднанне бацькоў, беларускасцю апантаных»). Для дзяцей, якія вывучалі беларускую мову, «АБ-БА» рэалізоўвала некалькі праектаў; у адпаведнасці з якімі дзейнічаў тэатральны гурток, дзеці займаліся дэкламатарскім мастацтвам (неаднаразова станавіліся пераможцамі і лаўрэатамі конкурсаў БГКТ «Роднае слова» і Агляду тэатральных калектываў). Сумесна з арганізацыяй літоўскай нацыянальнай меншасці «АБ-БА» удзельнічала у праекце «Вялікае Княства Літоўскае – наша агульная спадчына».

У 2002 годзе беларускую мову як прадмет мелі магчымасць вывучаць больш за 3500 дзяцей у 26 пачатковых школах, 11 гімназіях і 2 ліцэях [8, с. 47]. У 2008–2009 навучальным годзе беларускую мову, як дадатковы прадмет па 3 гадзіны ў тыдзень, вывучалі 3225 вучняў у адным дзіцячым садку, 21 пачаткавай школе, 14 гімназіях, а таксама ў 3 агульнаадукацыйных ліцэях – у Гайнаўцы, Бельску Падляскім і Беластоку [7, с. 18].

У канцы XX пачатку XXI стагоддзяў адбыліся змены і ў сістэме вышэйшай беларускай адукацыі. У 1992 годзе пры філіяле Варшаўскага ўніверсітэта ў Беластоку быў створаны аддзел беларусістыкі. З 1999 года ён быў пераўтвораны ў кафедру беларускай філалогіі, якая на сённяшні час уваходзіць у структуру Інстытута ўсходнеславянскай філалогіі Ўніверсітэта ў Беластоку [3, с. 167–168]. Яе кіраўніком у 1992–2004 гадах быў прафесар М. Кандрацюк. З 2004 года кафедру ўзначальвае прафесар Г. Тварановіч. З 2000 года кафедра вядзе падрыхтоўку студэнтаў па спецыяльнасці «Беларуская філалогія».

У 1997 годзе ва Ўніверсітэце ў Беластоку была заснавана кафедра беларускай культуры. Ініцыятарам і першым яе кіраўніком стала прафесар Э. Смулкова. Потым доўгія гады ўзначальваў кафедру прафесар Я. Мірановіч. На сенняшні дзень на яе чале знаходзіцца прафесар Л. Цітка [12, с. 137]. Кафедра беларускай філалогіі па-ранейшаму працуе ў Варшаўскім універсітэце, таксама дзейнічае аддзел беларусістыкі ва ўніверсітэце імя М. Складоўскай-Кюры ў Любліне і аддзел беларусістыкі і ўкраіністыкі ў Апольскім універсітэце.

### *Спіс літаратуры*

1. Баршчэўскі, А. Кафедра беларускай філалогіі на парозе новага 25-годдзя / А. Баршчэўскі [і інш.] // Беларускі каляндар. 1983 / пад рэд. М. Хмялеўскага. – Беласток: Выд-ва ГП БГКТ, 1983. – С. 59–65.

2. Іванюк, А. Беларускі ліцэй ў Гайнаўцы (гісторыя, падзеі, факты, людзі) / А. Іванюк // Беларускі каляндар. 1995 / склад. А. Барскі. – Мінск: Беларусь, 1995. – С. 97–199.
3. Кандрацюк, М. Дзесяцігоддзе існавання беларускай філалогіі ў Беластоку / М. Кандрацюк, А. Філіновіч // Беларускі каляндар. 2004 / пад рэд. Я. Сычэўскага. – Беласток: Ortdruk, 2004. – С. 163–172.
4. Навіцкая, 3. Гісторыя Бельскага беларускага ліцэя / 3. Навіцкая // Беларускі каляндар. 1995 / склад. А. Барскі. – Мінск: Беларусь, 1995. – С. 90–97.
5. Русачык, Т. На хвалях сучаснага жыцця. Навучанне беларускай мове ў пачатковых і сярэдніх школах Беласточчыны ў 1990–1995 гадах / Т. Русачык // Беларускі каляндар. 1996 / склад. У. Юзвюк. – Мінск: Беларусь, 1996. – С. 103–111.
6. Смулкова, А. Навукова-дыдактычная дзейнасць кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта / А. Смулкова // Беларускі каляндар. 1970 / склад. М. Гайдук. – Беласток: Выд-ва ГП БГКТ, 1970. – С. 91–103.
7. Справаздача Галоўнага праўлення з дзейнасці Беларускага грамадска-культурнага таварыства на працягу кадэнцыі 2006–2009 гг. – Беласток: Выд-ва ГП БГКТ, 2009. – 24 с.
8. Справаздача з дзейнасці ГП БГКТ // Беларускі каляндар. 2002 / склад. У. Юзвюк. – Беласток: Ortdruk, 2002. – С. 37–51.
9. Языковіч, Л. Беларусы ў Польшчы / Л. Языковіч // Хто ёсць хто сярод беларусаў свету: энцыкл. давед. – Ч. 1: Беларусы і ўраджэнцы Беларусі ў памежных краінах / рэдкал.: А. Мальдзіс [і інш.]. – Мінск: Энцыклапедыкс, 2000. – С. 22–25.
10. BTSK // Redaktor J. Wołkowycki. – Białystok: Wyd-wo ZG BTSK, 1972. – 131 s.
11. Romanowska, E. Szkoła białoruska w Polsce – od czasów II po III Rzeczpospolitą / E. Romanowska // Białorusini, pod. red. T. Zaniewskiej. – Warszawa: Wydawnictwo Sejmowe, 2010. – S. 121–134.
12. X lat Uniwersytetu w Białymstoku. 1997–2007 / red. L. Dacewicz. – Białystok, 2008. – 425 s.

**М. Загідуліна**

## СТЫЛЬ «МАДЭРН» У ТВОРЧАСЦІ КАЗІМІРА СТАБРОЎСКАГА

Стыль «мадэрн» як адзін з самых прыгожых і элегантных накірункаў мастацтва рэалізоўваўся на беларускіх землях, як і па ўсёй Еўропе і ў Амерыцы, ў канцы XIX – пачатку XX стст. ў архітэктуры, дэкаратыўна-прыкладным і выяўленчым мастацтве. Адным з самых яркіх прадстаўнікоў сэцэсіі ў рускім, беларускім, польскім мастацтве стаў наш зямляк Казімір Стаброўскі (1869–1929 гг.). Ён зацвердзіў сябе прадстаўніком гэтага накірунку ў сімвалічных кампазіцыях, знакамітых партрэтах.

Жыццёвы шлях мастака пачаўся ў маёнтку Крупляны (Карэліцкі р-н Гродзенскай вобл.). Род Стаброўскіх быў дастаткова вядомым на Беларусі. Прадзедам Казіміра быў Мацей Стаброўскі. Яго сын Вікенці, дзед Казіміра, уладальнік маёнта «Кулікі», земскі рэгент, меў сыноў Іосіфа і Антонія, якія абодва сталі афіцэрамі расійскай арміі. Іосіф жаніўся на Людвіцы Масальскай, іх сын Іосіф стаў знакамітым краязнаўцам, археолагам, гісторыкам, заснавальнікам аднаго са старэйшых у Беларусі Слонімскага краязнаўчага музея. А ў сям’і Антонія, штабс-капітана, які ўзяў шлюб са шляхцянкай Зоф’яй Пілецкай, нарадзіўся будучы мастак Казімір Стаброўскі [5].

Дзяцінства яго прайшло ў бацькоўскім маёнтку Крупляны, дзе хлопчык атрымаў першапачатковую адукацыю. З 1880 па 1887 гг. вучыўся ў Рэальным вучылішчы ў Беластоку. Там атрымаў асновы мастацкіх ведаў, што дапамагло яму ў 1887 г. паступіць у Пецярбургскую Акадэмію мастацтваў. З гэтага часу Казімір надоўга звязаў свой лёс з духоўнай элітай паўночнай сталіцы Расіі. Ён спасцігаў

навуку разам з будучымі выкладчыкамі ўніверсітэта імя Стэфана Баторыя ў Вільні, якія пазней шмат зрабілі для развіцця мастацтва ў краі, – Аляксандрам Штурманам, Бенедыктам Кубіцкім, Фердынандам Рушчыцам. Апошні стаў сябрам на ўсё жыццё. У Акадэміі К. Стаброўскі прайшоў усе неабходныя этапы навучання: у 1892 г. атрымаў свой першы малы сярэбраны медаль за кампазіцыю «Мужчына, які цягне канат», далей – вялікі і яшчэ малыя сярэбраныя медалі. Вучоба была паспяховай, нягледзячы на хваробу (анэмія), з-за якой юнак часта перапыняў заняткі і жыў дома, у Круплянах. Даволі частыя наведванні родных мясцін спрыялі не толькі фізічнаму здароўю, але і духоўнаму натхненню [1].

К. Стаброўскі вучыўся ў час, калі Імператарская Акадэмія перажывала складаны перыяд. Навучальная ўстанова заставалася добрай школай прафесійнага майстэрства, але эстэтычная і педагагічная сістэмы, прасякнутыя руцінным акадэмізмам, не адпавядалі новым патрабаванням сучаснасці. Унутры Акадэміі пад націскам грамадскай крытыкі наспявалі перамены. Захопленыя перспектывай дэмакратызацыі і аднаўлення навучальнага працэсу, у падрыхтоўцы рэформы ўзялі ўдзел вядомыя мастакі Ілля Рэпін, Іван Шышкін, Архіп Куінджы, Васіль Паленаў. Рэформа Акадэміі мастацтваў адбылася ў 1894 г., у год, калі Казімір закончыў акадэмічны курс і абараніў дыпломную работу «Магамет і Саід у пустыні» (ці «Уцечка з Мекі»). Для падрыхтоўкі праекта мастак ў 1892 г. ажыццявіў праз Адэсу вандроўку ў Палясціну, наведаўшы па дарозе Турцыю, Грэцыю, Егіпет. У Іерусаліме прыняў таінства прычасця. Вярнуўся праз Александрыю і Каір. Падарожжа на Усход аказала значнае ўздзеянне на свядомасць мастака. Усходняя філасофія, звычаі, менталітэт паўплывалі на яго светапоглядныя арыенціры, схіліўшы да рэлігійна-містычных поглядаў і крытэрыяў ва ўспрыняцці рэчаіснасці [1, 4].

Атрымаўшы за дыплом вышэйшую ўзнагароду – залаты медаль і званне «класны мастак» 1 ступені, Казімір паказаў сваю працу на конкурснай акадэмічнай выставе, што выклікала шырокія водгукі ў прэсе, асабліва хвалебныя – у «Санкт-Пецярбургскіх ведамасцях» за 19 лістапада 1894 г. Пасля фармальнага заканчэння Акадэміі мастацтваў К. Стаброўскі быў настолькі захоплены кардынальнымі пераменамі, новым прафесарскім складам гэтай навучальнай установы, што яшчэ на 2 гады запісаўся ў майстэрню І. Рэпіна. Вядомы жывапісец дапамог маладому калегу глыбей авалодаць жывапіснымі прыёмамі і сродкамі напісання партрэта, пра што сведчыць творчая спадчына нашага земляка. Жаданне больш глыбокага далучэння да ўсходняй культуры ізноў пацягнула мастака ў падарожжа, на гэты раз ён наведаў Сярэднюю Азію, даўжэй за ўсё затрымаўшыся ў Самаркандзе [1, 2].

Для ўдасканальвання прафесійнага майстэрства Казімір едзе ў Еўропу, перанасычаную ў канцы стагоддзя бурным мастацкім жыццём, звязаным з развіццём адметных стылістычных плыняў і тэндэнцый. Спачатку некалькі месяцаў жыве ў Мюнхене, цэнтры нямецкай культуры, дзе вучыцца ў натуркласе Мюнхенскай Акадэміі мастацтваў, затым пераязджае ў Парыж, эстэтычную сталіцу свету, дзе займаецца жывапісам у Акадэміі Жуліяна. У 1898 г. мастак, перапоўнены новымі ўражаннямі, вяртаецца ў Пецярбург, дзе вельмі плённа і актыўна працуе, рэгулярна паказваючы свае творы на выстаўках Акадэміі мастацтваў. Час ад часу выязджае на радзіму, у Крупляны, дзе робіць шмат натурных замалёвак. Яго пейзажы гэтага перыяду пазначаны ўплывамі сімвалізму: «Першы снег», «Белая ноч у Фінляндыі», партрэты – элегічнымі настроямі: «Мадэлька»,

«Партрэт панны С.П.», «Партрэт бацькі». Стаброўскі прымае ўдзел ва Усеагульнай выставе ў Парыжы ў 1900 г., дзе за твор «Цішыня вёскі» атрымлівае вялікі сярэбраны медаль. Пасля міжнароднай выставы ў Мюнхене ў 1901 г. яго работу «Белая ноч у Пецярбургу каля раз'езда» купляе мюнхенская «Новая пінакатэка», а ў 1903 г. у Венецыі на V Міжнародным б'енале пейзаж «Змрок у Лазенках» куплены Венецыянскай галерэяй сучаснага мастацтва [1, 7].

На пераломе стагоддзяў у мастацтве ярка прасочваюцца новыя эстэтычныя тэндэнцыі, калі мастацтва паступова адыходзіць ад крытычнага рэалізма перасоўнікаў да эмацыйнага адчування творцамі прыгажосці навакольнага свету. Найбольш папулярным ў Пецярбургу ў гэты час было кола куінджыстаў, у якое ўваходзіў і сябра Казіміра Ф. Рушчыц, а таксама творчасць М. Урубеля, І. Левітана [2]. Руская культура і мастацтва аказвалі моцны ўплыў на Стаброўскага. Так, яго палатно «Снягурачка» было напісана пад ўздзеяннем аднайменнай п'есы А. Астроўскага і пастаўленай у Марыінскім тэатры ў 1882 г. оперы Рымскага-Корсакава. Як для п'есы, так і для оперы эскізы касцюмаў распрацоўваў М. Рэрых. Н. Забэла-Урубель выканала галоўную ролю, а яе муж М. Урубель зрабіў яе вядомы партрэт ва ўборы таючай прыгажуні. Упершыню ж Снягурачку ў сарафане з обручам на галаве напісаў В. Васняцоў, эскізы гэтага вобраза стварыў В. Пяроў. Снягурачка К. Стаброўскага хоць эстэтычна і пераклікаецца з вядомымі творамі, але мае асабістую мастацкую трактоўку, убіраючы нацыянальна-фантастычныя рысы, выглядаючы кранальна-безабароннай.

У Пецярбургу малады мастак прымае актыўны ўдзел у грамадскім жыцці горада. Ён паказвае свае работы, напрыклад, «Дождж», «Вясковы матыў» на Вясенніх выстаўках, а таксама выбіраецца членам журы гэтых выставак у 1898, 1900 гг., дае глыбокі аналіз экспазіцыям у прэсе, абараняючы ад кансерватыўнай крытыкі працы маладых мастакоў, якія былі блізкімі Стаброўскаму па іх светапогляднай канцэпцыі і ў большасці прымыкалі да кола «куінджыстаў». У яго артыкулах ў часопісе «Край» «Мастацкі рух у Пецярбургу» (№ 15, 1899), «Сучасны жывапіс. Некалькі ўражанняў з вясенняй выстаўкі ў Акадэміі мастацтваў у Пецярбургу» (№ 22, 1900), а таксама «Пра старое і новае ў рускім мастацтве» у часопісе «Новое время» (ад 25. 04. 1900) характарызаваліся эстэтычныя напрамкі развіцця рускага мастацтва, сцвярджалася права творцы на суб'ектыўнае адлюстраванне «асабістай душы, свайго мастацкага тэмпераменту, свайго ўспрыняцця прыроды».

У рускай культуры другой палове XIX – пачатак XX стст. актыўна асэнсоўваецца творцамі гісторыя свайго народа. К. Стаброўскі таксама звяртаецца да сюжэтаў з мінулага старажытнай Літвы, тым больш, што бацькоўскі маёнтак, у якім ён жыве дастаткова працяглы час пасля заканчэння Акадэміі, знаходзіцца ў самым цэнтры былой старажытнай Літвы. У сваіх творах мастак спрабуе даць суб'ектыўную жывапісную інтэрпрэтацыю міфаў і легендаў роднай зямлі. Заснаваны на ліцвінскім паданні твор «Эгле – каралева вужоў» (каля 1900 г.) прасякнуты таемнасцю і загадкавасцю вобраза. А работа «Крыва-Крывейта» узнаўляе постаць апошняга захавальніка паганскага агню ў дрымучых лясах Прынёмання [1].

15 верасня 1902 г. у касцёле св. Кацярыны ў Пецярбургу Казімір бярэ шлюб са шляхцянкай Юліяй Янішэўскай. Маці яе была з дому Бітны-Шляхта, бацька служыў стацкім саветнікам. Але ўсё дарослае жыццё дзяўчына знаходзілася пад апекай дзядзькі Антонія Бітны-Шляхта, сапраўднага стацкага саветніка ў Пецярбургу. У гэтым горадзе Юлія закончыла Раждзественскую жаночую гімна-

зію, а ў 17 гадоў стала займацца ў школе малюнку Таварыства прыгожых мастацтваў. Пасля 4 гадоў заняткаў, якія для дзядзькі здаваліся дзявочай забавай, Юлія вырашыла быць сур'ёзным майстрам і паступіла ў 1892 г. на аддзяленне скульптуры Пецярбургскай Акадэміі мастацтваў, дзе была вучаніцай вядомых скульптараў Залемана і Бяклемішава. У гэты перыяд яна і пазнаёмілася са Стаброўскім. У 1901 г. дзяўчына закончыла Акадэмію са званнем мастака, якое атрымала за поўную драматызма жанравую скульптуру «Лелюм-Палелюм» па матывах п'есы Юліуша Славацкага «Ліля Венеда». Юлія была адной з вельмі нямногіх студэнтак-жанчын у Акадэміі, якая яшчэ і займалася творчасцю. У 1903 г. нават атрымала другую ўзнагароду на конкурсе Таварыства прыгожых мастацтваў за скульптуру «Гаплана» таксама па п'есе Ю. Славацкага [2].

Вобраз каханай дзяўчыны, а пасля жонкі натхняў Казіміра, і ён стварыў цэлы шэраг яе партрэтаў, прасякнутых унутранай экспрэсіяй: «Партрэт нарачонай Юліі Янішэўскай», «Партрэт жонкі ў чорным капелюшы», «Партрэт жонкі ў чорнай сукенцы». Апошні, напісаны ў 1907 г., пазначаны элегантнай дэкаратыўнасцю сэцэсіі, разам з тым, апелюе да гарманічнасці беларускага абраза. Як і старажытны іканапісец, аўтар звяртае ўвагу, у першую чаргу, на тое, што найбольш важна – на твар жанчыны: спакойны, вытанчана-адухоўлены, выдзяляючы яго святлом, таксама, як і рукі. На працягу стагоддзяў адметнай рысай беларускай школы іканапісу з'яўлялася наяўнасць на праваслаўных, уніяцкіх, каталіцкіх іконах залатога разьбянога фона, што сімвалізаваў свет вышэйшы, незямны. На партрэце Юлія сядзіць у крэсле з высокай спінкай, якое абабіта залатой тканінай і ўяўляецца ўвасабленнем той высокай духоўнай прыгажосці, што дадзена чалавеку ад бога.

У 1902 г. маладая сям'я пераязджае жыць у Варшаву. У гэтым жа годзе Казімір уступае ў Таварыства польскіх мастакоў «Штука», разам з якім удзельнічае ў выстаўках, напрыклад, у Вене. Найчасцей паказвае работы ў салонах Таварыства падтрымкі прыгожых мастацтваў яшчэ з 1895 г., пазней – у 1901–1903, 1909–1910 гг., а ў 1901, 1903 гг. выбіраецца членам Камітэта гэтага таварыства. Выстаўляецца ў салонах Крывульта ў Варшаве, а таксама ў Кіеве, Кракаве, Вільні, гарадах Італіі. Яго творы гэтага часу злёгку вычварныя, эстэтычна прэзентатыўныя, пазначаны моцным уплывам еўрапейскай і рускай сэцэсіі, спалучэннем натурнасці і ўмоўнасці: «Каралы і рыбы», «Паўлін», «Лебедзі», «Настурцыі». Для часопіса «Хімера» піша апавяданне «Легенда», у якім спалучаюцца рэальнасць і міф [1].

У Варшаве К. Стаброўскі імкнецца рэалізаваць сябе як педагог і ў 1904 г. разам з Ф. Рушчыцам, К. Крыжаноўскім, К. Дунікоўскім, К. Ціхім па ўзору Пецярбургскай засноўвае Школу прыгожых мастацтваў, выкарыстаўшы пецярбургскія знаёмствы як у мастацкіх колах, так і пры царскім двары. Стаўшы яе першым дырэктарам, распрацоўвае прагрэсіўную для таго часу сістэму навучання, актыўна рэалізуючы накірункі ў сферы прамысловага канструявання. Галоўнымі фундатарамі Школы сталі сябры Стаброўскага Станіслаў і Яўгенія Кербедзь. Дзякуючы ім, вучні школы ў летнія месяцы мелі магчымасць выязджаць на пленэры ў маёнткі Кербедзяў Рыбнішкі, Длужнева на тэрыторыі сённяшняй Латвіі, а таксама наладжваць карнавальныя вечары, якія сталі адметнай з'явай у свецкім жыцці горада. Арганізатарамі і ўдзельнікамі іх былі вучні і выкладчыкі школы, госці. Першы баль «Маладога мастацтва» адбыўся ў памяшканні Варшаўскай філармоніі 29 лютага 1908 г., у знакавы дзень вісакоснага года. Шыкоўныя касцюмы распрацоўваліся прафесійнымі мастакамі, афармленне вялікай залы з вітра-

жамі, афіш, запрашальных білетаў, бальных картак было справай студэнтаў і прафесараў школы. І не выпадкова, што ў выніку з'явіўся цэлы шэраг партрэтаў, зробленых К. Стаброўскім. Адной з мадэляў стала студэнтка яго студыі Зоф'я Якімовіч [1, 2, 6]. Апранутая ў касцюм паўліна, сканструяваны з тонкай гафраванай паперы, яна выглядала незвычайнай істотай. Гэты партрэт «Пава» нёс у сабе віртуозную пластыку стылю мадэрн, які панаваў яшчэ ў той час у Еўропе, а ў Польшчы быў на самым уздыме. Мастак у пэўнай ступені тэатралізуе сюжэт, размясціўшы мадэль «на авансцэне», амаль са спіны, «заднікам» выбраўшы шматколеравы вітраж. Аўтар ужыў прыём, падобны да выкарыстанага В. Сяровым у партрэце Ярмолавай, калі з дапамогай гарызантальных ліній выява як бы кадрыруецца, увага паступова засяроджваецца на твары жанчыны. Яна годна нясе сваю прыгажосць, зрабіўшы ласку ледзь павярнуць галаву ў бок гледача. Чысціню профіля, белізну яе скуры падкрэслівае стракатасць вітража. Пышная хвалістасць касцюма надае вобразу яшчэ больш велічы.

Як вядома, мастакі мадэрна ў сваёй творчасці ўступалі ў дыялог з Усходам, уключаючы ў кампазіцыі ўсходнюю дэкаратыўную арнаментыку. Сваёй экзатычнасцю прыцягвала творцаў і фігура паўліна. Яшчэ ў Старажытным Егіпце гэта птушка лічылася сімвалам горада Сонца, у хрысціянскай іканаграфіі фігурыравала каля райскага дрэва жыцця. Стыль мадэрн адлічвае сваё існаванне ў тым ліку і са знакамітага «Паўлінавага пакоя» Джэймса Уістлера, аформленага ў Лондане ў 1877 г. Таму зразумела, чаму пані Якімовіч выбрала сабе менавіта касцюм паўліна, а К. Стаброўскі стварыў на палатне адзін з самых чароўных вобразаў. Можна дадаць, што Зоф'ю ў бальным строі напісаў і яе муж мастак Міхаіл Баруцінскі.

Зусім іншым па настрою выглядае «карнавальны» партрэт работы К. Стаброўскага яшчэ адной яго студэнткі Эміліі Аўшпіц «Аповесць хваль». Яркасці, кідкасці папярэдняй выявы супроцьпастаўлена вытанчаная эмацыйнасць вобраза марской князёўны. Пластыка мадэрна напоўнена тут імпрэсіўнасцю пачуццяў, выява ўся прасякнута паветрам і мяккім цёплым сонцам. Лёгкая постаць успрымаецца неад'емнай часцінай неабсяжнай прасторы воднай стыхіі. Аўтар любуецца багаццем убора, акцэнтуючы погляд на галоўцы мадэлі з адмысловымі ўпрыгожаннямі, а таксама на тонкіх руках, што трымаюць куфэрак з каштоўнасцямі. Вобраз пераклікаецца са знакамітым палатном «Царэўна-лебедзь» М. Урубеля. Карнавальныя балі Школы прыгожых мастацтваў адбываліся ў 1909, 1910 гг., іх вынікам сталі таксама творы К. Стаброўскага «Партрэт пана Б» (мастака Браніслава Брыкнера), «Царэўна магічнага крышталю» (партрэт Зоф'і Плявінскай) [2].

У варшаўскі перыяд жыцця К. Стаброўскі светапоглядна ўсё больш набліжаўся да рэлігійнай містыкі. Як вядома, тайныя таварыствы, арганізацыі масонаў былі шырока распаўсюджаны на тэрыторыі Еўропы, Расіі ў XVIII – XIX стст. У 1821 г. указам імператара Аляксандра I такога рода арганізацыі былі забаронены і жорстка праследаваліся ўрадам. Але са змяненнем сацыяльна-палітычнай і эканамічнай сітуацыі ў Расійскай імперыі царскі маніфест ад 17 кастрычніка 1905 г. абвясціў свабоду сходаў і саюзаў. У 1905 г. у Варшаве была створана тэасафічная ложа «Альба», куды ўступіў К. Стаброўскі і нават быў выбраны сакратаром. Яго партрэты, пазначаныя ўнутранай загадкавасцю, узнаўлялі вобразы людзей творчых, неардынарных: актрыс Ванды Семашковай (1903), Лауры Пытлінскай, спірытычнага медыума «Жанчына ў чорнай сукенцы». [1], [8].

У 1904 –1905 гг. у Школе прыгожых мастацтваў стаў займаецца М. Чурлёніс, на творчасць якога аказаў моцны ўплыў К. Стаброўскі. Яшчэ будучы студэнтам Варшаўскай кансерваторыі, літоўскі мастак пачынае пісаць цыкл «Стварэнне свету». У перыяд вучобы ў Стаброўскага М. Чурлёніс змяняе сваю творчую манеру, адыходзячы ад уласцівых яму рэзкіх кантрастных фарбаў, набліжаючыся да спакойнай, прыглушанай каларыстыкі. Настаўнік падтрымлівае яго ў імкненні стварыць сваю сімволіка-фантастычную версію нараджэння свету як працэса паступовага ператварэння непрагляднай прасторы ў арганізаваны космас, у якім загараюцца свяціла, з’яўляюцца планеты і зоркі, сімвалічны твар чалавека.

У 1909 г. адбыўся канфлікт паміж К. Стаброўскім і членам школьнага камітэта М. Замойскім, які абвінавацiў дырэктара ў прапагандзе ідэй акультызма сярод вучняў. К. Стаброўскі спрабаваў адстойваць свае погляды на старонках часопіса «Свет» (ад 28.05.1909), але ў рэшце рэшт пакінуў пасаду дырэктара і ўвогуле выкладанне ў Школе. У тым жа 1909 г. мастак стварае Варшаўскае тэасафічнае таварыства, удзельнічае ў штотыднёвых спірытычных сеансах, якія праводзяцца, у тым ліку, і ў яго доме. Вольны час даў яму магчымасць глыбей заняцца творчасцю, звязанай з яго рэлігійнай жыццёвай канцэпцыяй. Яго работы напоўнены эзатэрычным зместам: «Скарга душы», «Рыцар святога Грааля», «Dies irae». У 1913 г. свае творы ён паказвае на Сусветным Тэасафічным кангрэсе ў Стакгольме, а пасля ў Берліне ў сям’і аднадумца Рудольфа Штэйнера, пасля чаго лёс часткі твораў застаўся невядомым.

Плённым вынікам цэлага шэрагу замежных падарожжаў (1909–1913 гг.) у Іспанію, Францыю, Германію, Швецыю, на Канарскія астравы сталі настраёвыя пейзажы Стаброўскага. Відарысы, зробленыя з натуры ў Італіі (Рым, Пестум, в. Капры), адрозніваліся вытанчанасцю каларыта, дзе аўтар адчуваў асалоду ад імпрэсіўных эксперыментаў з сонечным святлом, рухомасцю паветранага асяроддзя, калі, па прыкладу К. Манэ, пісаў адны і тыя ж сюжэты ў розныя поры сутак і пры розным надвор’і. Але, вандруючы па свеце, Казімір не забываў родныя мясціны, наведваў бацькоўскі маёнтак, пра што сведчыць партрэт бацькі, створаны каля 1910 г. На працягу многіх гадоў Стаброўскі з жонкай адпачываў у летнія месяцы ў маёнтку Кербедзяў Длужневе, дзе выканаў для палаца сваіх сяброў цыкл фрэскавых роспісаў, якія існавалі яшчэ ў 20-я гг. XX ст. У доме мастак меў вялікую майстэрню і мог пісаць палотны значных памераў. Такой работай было «Дабравешчанне», зробленае ў чатырох варыянтах, а таксама найбольш вядомая – «Скарга душы»(1914 г.) [1].

У час Першай сусветнай вайны К. Стаброўскі, забраўшы ўсе свае працы, у 1915 г. выехаў у Петраград, дзе арганізаваў вялікую выстаўку з 222 твораў. Тут ён упершыню паказаў свой вядомы праграмны цыкл, напісаны яшчэ ў 1907–1910 гг. «Шэсце буры», які складаўся з 11 карцін, у тым ліку: «Над смутнай краінай», «Пераход у іншы свет», «Брама жыцця», «Курганы», «Пярун», «Цень крыжа». У іх тагачасная крытыка ўбачыла алегарычнае прадчуванне лёсаў народа ў гады ваеннай катастрофы, а, магчыма, больш значных сусветных узрушэнняў. На жаль, работы загінулі ў Алупцы падчас рэвалюцыі, але засталіся іх фотаздымкі, а таксама красамоўныя апісанні сюжэтаў у прэсе, дзе былі змешчаны самыя супроцьлеглыя водгукі. У аснове мастацкага вобраза твораў ляжаў пейзажны матыў, рэальная прастора якога была пераўтворана ў амаль абстрактную ўмоўнасць, напоўненую стылізаванымі выявамі, напрыклад, пачварных хмараў, страшных змеяў у воблаках дыму, вершнікаў з крыламі на залатых латах, блас-

лаўляючага пальца для тых, хто моліцца. Па свайму настрою цыкл перанасычаны характэрнымі для мадэрна, які цесна спалучаўся ў пач. XX ст. з сімвалізмам, буйствам напружаных пачуццяў, узмоцненымі драматычнымі парывамі [1, 5].

У Петраградзе Казімір аднавіў сяброўскія сувязі з колам рускіх мастакоў, блізкіх яму па духу. Іх лепшыя прадстаўнікі І. Рэпін, У. Беклямішаў, В. Матэ ў 1916 г. хадайнічалі перад Саветам Акадэміі мастацтваў аб наданні К. Стаброўскаму ганаровага звання акадэміка жывапісу, але галасаванне гэтага пытання адбылося не на карысць Стаброўскага (16 галасоў – за, 19 – супраць).

У 1916 г. на працягу лютага-сакавіка мастак паказаў свае творы (колькасцю 191) у Маскве ў мастацкім салоне на Вялікай Дзмітраўцы, д. 11. У гэтым горадзе, дзе не было таго прывычнага мастакоўскага асяроддзя, ён пачаў супрацоўніцтва з філіяй Польскага Тэатра Арнольда Шыфмана, які размяшчаўся ў Маскве часова і даваў спектаклі ў памяшканні Камернага тэатра. Стаброўскі зрабіў сцэнаграфічны праект і распрацаваў касцюмы да спектакля, пастаўленага Шыфманам па трагедыі Ю. Славацкага «Лілія Венеда». Можна адзначыць, што шматлікія малюнкі з выявамі касцюмаў, выкананыя вугалем, крэйдай, пастэллю, гуашшу, а таксама фотаздымкі маскоўскага спектакля захоўваюцца сёння ў Тэатральным музеі ў Варшаве.

К. Стаброўскі працягваў творчыя стасункі з Таварыствам імя Куінджы, якія не парываў, нават жывучы ў Варшаве. Выставіў з імі ў 1917 г. работы, дзе пераважаў містычны пачатак, а таксама больш рэальныя пейзажы, пераважна зімовыя, напісаныя на радзіме і ў час падарожжа на Каўказ, у Кіславодск. У пачатку 1918 г., калі вынікі Кастрычніцкай рэвалюцыі яшчэ не дасягнулі ўсіх сфер жыцця, і здавалася, што можна будзе працягваць прывычныя заняткі, была арганізавана яшчэ адна выстава, у аргкамітэт якой уваходзіў і Стаброўскі. Мастак выставіў на суд гледача 9 прац, у тым ліку «Малітва на полі бітвы», «І анёл служыў яму». Адмаўленне жахаў вайны прагучала тут дамінантным матывам, які прачытваўся не столькі ў знешнім сюжэце, колькі ў колерава-пластычнай экспрэсіўнай асацыятыўнасці. Арганічна ўваходзіў у гэты рад і «Дэман», які, вядома ж, унутрана апеляваў да урубелеўскага – супярэчлівага вобраза, напоўненага ўнутраным бунтам, душэўнымі пакутамі і адзінотай.

Рэвалюцыя ў Расіі ўсё ж прымусіла К. Стаброўскага ў ліпені 1918 г. вярнуцца ў Варшаву. Быў разбураны маёнтак у Круплянах, разрабаваны палац Кербедзяў у Длужневе, дзе загінулі жывапісныя і скульптурныя творы мастака. У Варшаве ён з жонкай пасяліўся на вул. Брацкай, д.18 і стаў рабіць спробы ўключыцца у культурнае жыццё горада, хаця яму было не так лёгка з-за шматлікіх новых плыняў у мастацтве. Стаброўскі, як і раней, прымае ўдзел у штогадовых выставах Таварыства заахвочвання прыгожых мастацтваў, найчасцей – з таварыствам польскіх мастакоў «Штука» – тымі суполкамі, з якімі супрацоўнічаў на працягу доўгіх гадоў (1918, 1920, 1925, 1926). У 1922 г. ён сам заснаваў мастацкае аб’яднанне «Sursum corda», здолеўшы арганізаваць толькі адну яго выстаўку. Тут Стаброўскі паказаў свае 70 работ, і выдаў каталог, да якога асабіста напісаў прадмову, дэкларуючы прыярытэт нацыянальна-патрыятычных кірункаў у мастацтве. Можна дадаць, што ў выстаўцы прыняла ўдзел Ванда Гентыл-Тыпенгауэр, з якой Казімір у той час меў вельмі блізкія адносіны. На выстаўках значнае месца сярод работ займалі пейзажы, якія мастак у вялікай колькасці прывозіў з паездак у свае любімыя мясціны свету – Італію, Грэцыю, Боснію, Туніс, Марока, Нарвегію, Швецыю.

Маючы вопыт працы з керамікай яшчэ з часоў жыцця ў Длужневе, стаў спрабаваць ствараць пластычныя кампазіцыі ў тэхніцы маёлікі, нават удзельнічаў у 1919 г. ў выстаўцы керамікі ў Варшаўскім політэхнічным інстытуце, дзе адбываўся з'езд польскіх керамістаў. А ў 1925 г. у Салоне паказаў скульптуру архангела Міхаіла, зробленую ў тэхніцы маёлікі для касцёла св. Фларыяна на Прадзе ў Варшаве. Як педагог Стаброўскі працаваў у Дзяржаўным інстытуце прыкладной працы, выкладаючы малюнак і жывапіс.

З прыездам Стаброўскага ў Варшаву актывізавалася да жыцця ў 1920 г. Польскае тэасафічнае таварыства, а калі ў 1924 г. паўстала таварыства антрапасафічнае, стаў яго дзейсным ўдзельнікам, пэўным чынам перагледзеўшы філасофскую канцэпцыю існавання свету, адводзячы ў гэтай складанай сістэме большую ролю асобе чалавека.

У 1927 г. мастак адзначае сваё 40-годдзе мастацкай дзейнасці, адлічваючы гады ад часу паступлення ў Акадэмію мастацтваў. З гэтай нагоды адбыліся ўрачыстасці ў Варшаве, якія суправаджаліся персанальнымі выстаўкамі ў польскіх гарадах: у мастацкім Салоне ў Познані (студзень), у Гарадской галерэі ў Лодзі (красавік-май), у Быдгошчы (снежань), завяршыліся – у Варшаве ў Таварыстве падтрымкі прыгожых мастацтваў.

Памёр Казімір Стаброўскі 8 чэрвеня 1929 г. у Гарволіне пад Варшавай ад інфаркта, як паведамлялася ў афіцыйных дакументах. А па словах родных, пры невысветленых, таямнічых абставінах. Чалавек, жыццё і творчасць якога былі звязаны з акультнымі навукамі, павінен быў мець загадку не толькі пры жыцці, але і ў час адыходу ў іншы свет. Пахаваны на Паванзкоўскіх могілках у Варшаве. Дзяцей у шлюбе ён не меў [1, 2, 7].

У 1930 г. адбылася пасмяротная выстаўка Стаброўскага ў Варшаве ў таварыстве падтрымкі прыгожых мастацтваў, а ў 1997 – у Музеі Каралеўскіх Лазенак і ў Старой Кардэгардзе. У 1934 г. жонка Юлія перадала большасць твораў мужа ў Нацыянальны музей у Варшаве, сама памерла ў 1941 г. у Зубках пад Варшавай.

Творчасць К. Стаброўскага прыцягвала крытыкаў яшчэ пры яго жыцці, цэлы шэраг матэрылаў пра мастака зрабіў у 10-х – 20-х гг. ХХ ст. Я. Клячынскі, ён жа напісаў і артыкул, прысвечаны светлай памяці мастака ў «Кур'еры Варшаўскім» (10.06.1929 г.), адзначыўшы: «Памёр вядомы чалавек, знакаміты артыст, энтузіяст усяго прыгожага, слынны арганізатар і філасаф...»

Найбольш значны сучасны даследчык – загадчык мастацкага аддзела Нацыянальнага музея ў Варшаве Лія Скальска-Мечык, якая не толькі вывучае творчасць К. Стаброўскага, а і ў 1997–1998 гг. выдала 2 часткі фотаздымкаў твораў Стаброўскага са збораў варшаўскіх музеяў [1, 2, 5].

Мастак быў прадстаўніком той часткі творчай інтэлігенцыі, якая ў сілу сацыяльнай і нацыянальнай палітыкі царызму не магла рэалізавацца на радзіме, у Беларусі, але сваёй прафесійнай дзейнасцю аказала значны ўплыў на станаўленне і развіццё мастацтва ў Польшчы, Беларусі, Расіі.

### *Спіс літаратуры*

1. Polski słownik biograficzny. – Tom XL1- 2 – Zesz. 169. Warszawa – Kraków, 2002.

2. Скальска-Мечик, Л. Польские ученики Петербургской Академии художеств в XIX – нач. XX века / Л. Скальска-Мечик. – Каталог выставки, Варшава, 1989.

3. Дробов, Л.Н. Живопись Белоруссии XIX – нач. XX в. / Л.Н. Дробов. – Минск, 1974.
4. История русского искусства. Т. 2, кн. 2. – М., 1981.
5. Чыгрын, С. Казімір Стаброўскі – мастак, педагог і артыст з Навагрудчыны / С. Чыгрын // Гродзенская праўда. – 1995. – 19 снежня.
6. Muzeum Narodowe w Warszawie. Przewodnik. – Warszawa, 1998.
7. Dobrowolski, T. Nowoczesne malarstwo polskie / T. Dobrowolski. – Warszawa, 1963.
8. Вольныя муляры ў беларускай гісторыі кан. XVIII – пач. XX ст. – Вільня, 2005.

**К. Канчэўская**

## ЧАЛАВЕК КУЛЬТУРЫ ПАМЕЖЖА (на прыкладзе Гродзеншчыны)

За адыход ад сваёй культуры трэба плаціць высокую цану. Таму так важна мець сваё выразнае самавызначэнне, пачуццё яго сілы, вартасць сталасці.
*Рышард Капусцінскі*

Сучасныя тэндэнцыі да ўніверсалізацыі грамадства маюць як станоўчыя, так і адмоўныя рысы. Адной з адмоўных з'яўляецца паступовае знікненне рысаў лакальнай культуры. Імкненне да еўрапеізацыі ў яе камерцыйнай сутнасці вядзе да таго, што свет становіцца ўсё больш універсальны, паступова нівеліруюцца тыя асаблівасці, якія б вызначалі прыналежнасць асобы да той ці іншай супольнасці. Гэтая тэндэнцыя праяўляецца на розных узроўнях як духоўнай, так і матэрыяльнай культуры і параджае пагрозу знікнення малых культур. Аднак, нягледзячы на сваю знешнюю правінцыяльнасць, яны могуць даць сусветнай культуры вельмі многа.

Рышард Капусцінскі, знакаміты польскі рэпартажыст другой паловы дваццатага стагоддзя і выхадзец з культурнага памежжа, адзначаў, што чалавек толькі тады можа смела канфрантаваць з іншай культурай, калі мае сваю. «У іншым выпадку ён будзе хавацца ў сваёй схованцы і баязліва адгароджвацца ад іншых. Тым больш, што Іншы – гэта люстэрка, у якім я бачу сябе або ў якім на мяне глядзяць; тое люстэрка, якое зрывае з мяне маску і агаляе, а гэтага нам хацелася б пазбегчы».

І таму варта звярнуць увагу на культуру, якая выпрацоўвалася стагоддзямі на нашай зямлі – культуру памежжа: на яе асаблівасці, унікальнасць і непаўторнасць і на тое, які ўплыў яна мае на фарміраванне чалавека.

Культуру немагчыма разглядаць у адрыве ад гісторыі. Менавіта бурныя гістарычныя падзеі памежжа, як і няспынныя змены на палітычнай карце гэтага рэгіёну і сталае перасоўванне межаў, спрыялі фарміраванню яго своеасаблівай культуры.

Вельмі важнай яе рысай з'яўляецца нацыянальная і рэлігійная талерантнасць, якую, без сумненняў, можна назваць фенаменам на фоне бурнай гісторыі чалавецтва. Фенаменам таму, што майстэрства талерантнасці азначае тут не толькі «трываць», але і прымаць; не толькі прымаць, але і супрацоўнічаць, прыклады чаго можна назіраць на працягу ўсёй гісторыі гэтай зямлі.

Правілы згоднага рэлігійнага суіснавання, якія былі выпрацаваны ў мінулых стагоддзях на прасторы Вялікага Княства Літоўскага, дзе спакойна суіснавалі хрысціяне, магаметане, габрэі, лютэране, кальвіністы, антытрынітарыі, анабаптысты, арыяне, менаніты і квакры, у перыяд найбольш вострых канфесійных канфліктаў у Еўропе дапамаглі стварыць на гэтых землях новую мадэль

талерантнасці. Згода з іншаверцамі была не толькі наступствам іх сілы, але з'явілася палітычнай дактрынай, якая сцвярджала неабходнасць гарантыі канфесійнага міру. Так паўстала новая мадэль хрысціянскай цывілізацыі, даволі адметная ў параўнанні з Заходняй і Усходняй Еўропай. Асноўным элементам дзяржаўнай палітыкі стала правіла рэлігійнай талерантнасці, а не прымусу.

Прыгадаем, што ў створаным на моцы Люблінскай уніі дзяржаве жыло 8 млн, сярод іх – 40 % палякаў, 20 % русінаў, беларусаў, украінцаў, 20 % літвінаў, 10 % немцаў, 4 % габрэяў, былі таксама латышы, армяне, татары. У часы контррэфармацыі там, дзе нельга было прымусіць іншаверцаў да прыняцця каталіцызму, ішлі на кампраміс, забяспечваючы ім пэўную талерантнасць. Не выкарыстоўваліся нямецкія ці французскія метады перыяду трыццацігадовай вайны ці варфаламееўскай ночы. Вялікім дасягненнем тагачаснай талерантнасці на землях памежжа быў факт прыняцця варшаўскай канфедэрацыі 1573 г. У адрозненні ад Заходняй Еўропы, дзе талерантныя эдыкты былі ўсяго актам ласкі ў адносінах да канфесійных меншасцяў (напр., эдыкт французскага караля Карла IX у 1562 г. або аўсбургскі мір у 1555 г. ці ўрэшце нанцкі эдыкт 1598 г.), варшаўская канфедэрацыя была кампрамісам паміж шляхтай розных канфесій, якія запэўнівалі рознаверцам пэўны камфорт існавання. Гэтыя землі былі ў той час «аазісам ерэтыкоў»: сюды сцягваліся ад праследаў у Заходняй Еўропе прыгаданыя ўжо менаніты, антытрынітарыі, выгнаныя інквізіцыяй з Іспаніі габрэі і гугеноты з Францыі. Вельмі адмоўнай была таксама адсутнасць бар'ераў, якія ў іншых дзяржавах устанаўлівалі свецкія ці касцельныя ўлады. У адрозненні, напрыклад, ад суседняй Масквы або Высокай Порты, мэтай улады не была ізаляцыя грамадзян ад усялякіх чужых уплываў. Ажно да паловы XVII стагоддзя перакрыжаванне культур праходзіла ў адносна свабодных умовах. Калі і былі пэўныя спробы ўплыву, то яны праяўляліся часам у навязванні не мовы, а пэўнай рэлігіі (каталіцызму) і не сялянам, а шляхце. Аднак гаворка аб прымусовай асіміляцыі не ішла. Каталіцкі касцёл у сваёй місіянерскай дзейнасці ахвотна карыстаўся мовай мясцовага насельніцтва, спрыяючы тым самым яе развіццю. Гэта ставіў Касцёлу ў віну Гуга Калантай, які абвінавачваў лацінскі клір у тым, што, навучаючы асновам веры па літоўску ці жмудску, ён тым самым утрымлівае насельніцтва Вялікага Княства Літоўскага ў ізаляцыі ад дзяржаўнай улады. На памежжы польскага і «іншага» свету заставалася літоўская, беларуская і ўкраінская шляхта, якая, з аднаго боку, і далей карысталася мовай продкаў, прывязаная да спадчыных традыцый гісторыі і звычаяў, але на сейміках карысталася ўжо мовай польскай. Паэт Васпазіян Кахоўскі так акрэсліў тагачаснае памежжа: «Розныя народы, уборы, мова, рэлігія».

І хоць памежжа знаходзілася на перыферыі заходнелацінскай Еўропы, аднак першыя праявы еўрапейскай свядомасці выступалі ў яго інтэлектуальнай эліты амаль адначасова з іх з'яўленнем у Італіі, Францыі ці Іспаніі. Сам прыметнік «еўрапейскі» з'яўляецца ў назвах выдаваных на гэтых землях твораў на паўстагоддзя раней, чым у работах англійскіх ці французскіх аўтараў.

Нямецкі гісторык прафесар Ёган Родэ так звяртаў увагу на канфесійную талерантнасць у тагачаснай Рэчы Паспалітай: «Не было ў Еўропе дзяржаў, якія б у XVI і першай палове XVII стагоддзя практыкавалі такую талерантнасць у рэлігійных і этнічна-нацыянальных правах, як гэта рабіла польска-літоўская ўнія. Яна прызнавала адміністрацыйнымі шэсць моў, а чатыры існуючыя канфесіі давалі прыклад амаль ідэальнага суіснавання з іудаізмам і ісламам, пакуль контррэфармацыя не распачала вайну з пратэстантызмам і праваслаўем».

На жаль, пасля стагоддзяў талерантнасці надышоў час на праявы дыскрымінацыі, калі ў 1683 г. пастановай суда была наказана ліквідацыя арыянскай школы, збору і друкарні ў Ракаве, якія знаходзіліся ў шляхецкай маёмасці, а ў 1640 г. па-за муры Вільна быў вынесены евангеліцкі збор. Потым прыйшоў час на пастановы, якія забаранілі шляхце пакідаць каталіцызм (1668 г.), зацвердзілі, што кароль павінен быць католікам (1696 г.), зачынілі некатолікам дарогу ў некаторыя адміністрацыйныя ўстановы і сеймы (1718 г.), адмянілі права да наследнага шляхецтва габрэямі, якія прынялі хрост (1764 г.).

Аднак нацыі і канфесіі і далей працягвалі суіснаваць на землях памежжа, хаця ўжо і без дзяржаўнай падтрымкі.

Спецыфічнай для ўсёй Цэнтральна-Усходняй Еўропы рысай было этнічнае перамяшанне насельніцтва. Наша памежжа вылучалася выключнай разнастайнасцю народаў рознага этнічнага паходжання. Паміж асобнымі нацыянальнымі групамі не вылучаліся выразныя межы. Часцей за ўсё існавалі пэўныя шырокія пасрэдныя тэрыторыі, на якіх жыло побач насельніцтва розных вызнанняў, моў і нацыянальнасцей. Так, спіс насельніцтва ў XVIII стагоддзі пасведчыў, што ў Вялікім Княстве Літоўскім пражывае 1 420 000 беларусаў, 1 005 000 палякаў, 770 000 літвінаў і жмудзі, 385 000 габрэяў, 140 000 рускіх, 95 000 латышоў (у Інфлянтах), 31 000 немцаў, 20 000 татараў, 5 000 караімаў.

Разнастайнасць нацый і канфесій датычыла і Гродзеншчыны. Матэрыялы першага перапісу насельніцтва Расійскай Імперыі з 1897 года сведчаць, што ў Гродзенскай губерні пражывала: 5 % рускіх, 44 % беларусаў, 17 % габрэяў, 5 % літоўцаў, 10 % палякаў, 15 % украінцаў, у тым ліку ў гарадах: 15 % рускіх, 9 % беларусаў, 57 % габрэяў, 13 % палякаў, літоўцаў і ўкраінцаў – вельмі мала. Праваслаўных было 59 %, католікаў – 28 %, іудзеяў – 12 %.

Рацыянальнае размежаванне насельніцтва памежжа культур паводле тых ці іншых этнічных крытэрыяў было цяжкім, а часам нават проста немагчымым. Ускладняў гэтую задачу і факт існавання яшчэ ў пачатку XX стагоддзя вялікіх груп насельніцтва, несвядомых сваёй нацыянальнай прыналежнасці, якія падыходзілі да пытання сваёй ідэнтыфікацыі абыякава ці кан'юктурна, што стварала магчымасці розных палітычных маніпуляцый. Да гэтага далучалася розніца паміж лінгвістычнымі і канфесійнымі межамі. Найчасцей, хаця і не заўсёды, рэлігійная прыналежнасць і сувязь з той ці іншай царквой адыгрывалі на памежжы больш значную ролю за ўжываную штодзённа мову, якая, да таго ж, падзялялася на розныя мясцовыя дыялекты.

Насельніцтва памежжа мела даволі разнастайную свядомасць свайго самаакрэслення. Польскае насельніцтва акрэслівала сябе адназначна як палякаў або – менш адназначна – як католікаў, беларускае насельніцтва толькі ў нязначнай сваёй частцы лічыла сябе беларусамі, часцей за ўсё – праваслаўнымі, а найчасцей – «тутэйшымі», не маючы дакладна акрэсленых крытэрыяў свайго самавызначэння.

На памежжы жыло ў большай сваёй частцы гетэрагенічнае насельніцтва, людзі-«гібрыды», замкнёныя ў сваіх племянных культурах, якія абапіраліся на сувязі зямлі і крыві, рэлігіі і мовы. Былі беларускія і літоўскія палякі, у большай ці меншай ступені спаланізаваныя беларусы і літоўцы з маці полькі і бацькі беларуса або наадварот. Таму часцей за ўсё называлі сябе «тутэйшымі», таму што сувязь з зямлёй была мацнейшая за сувязь з нейкай акрэсленай нацыяй.

Своеасаблівай была і мова, якая, спалучаючы фанетычныя, лексічныя і граматычныя элементы беларускай, польскай і літоўскай моў, утварала ўласную сістэму,

пра якую, паводле меркаванняў мовазнаўцаў (З. Курцова, К. Хандке, І. Грэк-Пабісова), належыць гаварыць як пра самастойную, а не дыялект той ці іншай мовы.

Прыгадаем, што Беларусь успрымалася толькі ў ваколіцах Віцебска ці Магілёва, адкуль яшчэ перад Першай сусветнай вайной ездзілі «ў Літву», напрыклад, у Мінск, які адносна нядаўна называўся «Літоўскім», дарэчы, як і Брэст. Вынікам гэтага польска-літоўска-беларускага перапляцення культур была, паміж іншым, так званая літоўска-беларуская школа ў польскай літаратуры, якая вылучалася танацыяй салодкіх пачуццяў і братэрскасці, узнясенняў платонскай любові, таямнічасці і паэтызацыі штодзённых спраў. Стыль гэтай школы, поўны лірычнай прастаты, быў насычаны вялікай колькасцю рэгіянальнай лексікі. У розныя часы прадстаўнікамі гэтай школы былі народжаныя на памежжы вялікія пісьменнікі і паэты, права да якіх дагэтуль аспрэчваюць польская, беларуская і літоўская культуры: Міцкевіч, Сыракомля, Жэвускі, Ажэшка, Радзевічоўна, Балінскі, Ілакавічоўна, Мілаш, Мацкевіч, Пясэцкі, Чарнышэвіч, Канвіцкі, Ванькові́ч, Жакевіч, Юрэвіч і шмат іншых. У іх творчасці памежжа часта паўстае як прыгожая казка дзяцінства, ідылія, дзе няма аніякіх вострых грамадскіх канфліктаў.

Станіслаў Ежы Лец сказаў калісьці: «Калі легенда сутыкнецца з легендай – гэта даволі рэальнае сутыкненне». Легенды і міфы, якімі памежжа абрасло ў розных культурах, патрабуюць першакрынічных даследванняў пры паглыбленай метадалагічнай рэфлексіі і разуменні, што няма і не можа быць нечага такога, як адзіная, аднастайная, аднакірунковая гісторыя. Так, міф памежжа, або «Крэсаў», паўстаў перад усім у польскай мастацкай літаратуры, якая часта інтэрпрэтуе гістарычныя падзеі праз моцныя пачуцці, а таму ён часта становіцца стэрэатыпам, спрошчаным да некалькіх асноўных рысаў, своеасаблівай нязменнай грамадскай канцэпцыяй. Таму Даніэль Бэвуа, не абцяжараны сентыментальнасцю тых, для каго памежжа было казкай шляхецкага дзяцінства, а таксама гістарычным мінулым і польскімі комплексамі, з рацыяй незалежнага даследчыка задумваўся, «ці ўвогуле звыклы чытач не будзе заўсёды аддаваць перавагу Міцкевічу, Сянкевічу, Радзевічоўне, а не прыкрым фактам прафесійных гісторыкаў». Ён жа сцвярджаў, што міф памежжа з’яўляецца «выразам польскага нарцысызму, які крыўдзіць суседзяў і на працягу стагоддзяў з’яўляецца каляровай казкай, якая ігнаруе найбольш важныя грамадскія, этнічныя і рэлігійныя праблемы». Свой погляд – часам вельмі палярны – маюць на памежжа гісторыкі, сацыёлагі, этнографы, культуролагі і пісьменнікі Беларусі, Літвы, Польшчы і Украіны. У наш час памежжа перастала быць паняццем, якое знітоўвае ў агульнае, стаючыся імпульсам для шэрагу асацыяцый нацыянальнай афарбоўкі.

Аднак тыя, хто нарадзіўся на гэтай зямлі, увесь час адчуваюць сваю адметнасць, таму што шматколерная культура памежжа бясспрэчна наклала на іх свой адбітак. Тадэвуш Канвіцкі гаварыў пра сябе, што з’яўляецца «прадуктам нейкай такой сумесі, сам не ведае, колькі ў ім крыві літоўскай, беларускай ці польскай». Флар’ян Чарнышэвіч пісаў: «Я любіў і люблю сваю зямлю таму, што на ёй жылі побач беларусы, палякі, літоўцы, габрэі, стараверцы і татары, што ў гарадах былі касцёлы, цэрквы, сінагогі і кірхі, што былі і сяляне, і шляхта, і мяшчане».

Лаўрэат Нобелеўскай прэміі Часлаў Мілаш, які вырас на памежжы і Айчынай называў не нейкую канкрэтную дзяржаву, а польскую мову, так акрэсліў жыхара памежжа: «Ён вельмі патрыятычны, стрыманы, упарты і гаспадарчы, прывязаны да сваёй зямлі, стаіць на варце адвечных маральных праў, больш талерантны і бліжэйшы да sacrum. Кіруецца простай мудрасцю: трэба жыць так, каб выжыць».

Супольнасць, якая ўсталявалася на памежжы ў выніку гістарычных пертурбацый, няхай і не заўсёды мае для сябе нацыянальнае акрэсленне, аднак упэўнена свядома сваёй адметнасці. Так, у размовах (падчас збору аўтарам матэрыялаў аб гістарычнай памяці) аб гістарычным мінулым як жыхары былых шляхецкіх польскіх засценкаў, так і сялянскіх беларускіх вёсак гаварылі і пра палякаў, і пра немцаў, і пра савецкую ўладу «Яны», а «Нашы» былі толькі тыя, хто нарадзіўся і жыў на гэтай зямлі. Вытыканая часам «памяркоўнасць» і «абыякавасць» насельніцтва памежжа з'яўляецца свайго рода наступствам багатага жыццёвага вопыту, і менавіта гэтае спадчыннае «жыць так, каб выжыць» захавала народ, які выпрацаваў сваю рацыю быту, і яго культуру ў гістарычных сутоннях. Народная мудрасць іншы раз ідзе ў разрэз з меркаваннямі палітолагаў і сацыёлагаў, але спраўджваецца часам.

Таму, нягледзячы на багатыя і часам крывавыя гістарычныя падзеі, гродзенская зямля і далей з'яўляецца роднай для прадстаўнікоў розных нацый і культур. Паводле дадзеных Гродзенскага аблвыканкама, на Гродзеншчыне жывуць беларусы (62,3 %), палякі (24,8 %), рускія (10,1 %), украінцы (1,8 %), татары і літоўцы (0,2 %), габрэі (0,4 %) і іншыя народнасці (0,4 %). Паводле дадзеных на 1 студзеня 2010 года, тут мірна суіснуюць 17 канфесій, паміж іншым – праваслаўная, стараправаслаўная, рымска-каталіцкая, грэка-каталіцкая, мусульманская, іудзейская, пратэстанцкая і крышнаіцкая рэлігіі. Функцыянуюць 23 грамадскія аб'яднанні 11 нацыянальных супольнасцей, у тым ліку 4 польскія, 6 літоўскіх, 4 габрэйскіх, 2 украінскіх, а таксама супольнасці рускіх, татараў, чувашаў, грузінаў, цыганаў, армянаў і азербайджанцаў.

І гэтыя народнасці жывуць побач мірна, праяўляючы ў паўсядзённым жыцці павагу адна да адной і разуменне для іншай культуры, а часам і пераймаюць традыцыі. Вельмі часта суседзі розных вызнанняў запрашаюць адзін аднаго ў госці на розныя канфесійныя святы, а ў межах адной сям'і суіснуюць розныя культуры. Да таго ж, на Гродзеншчыне вельмі высокі працэнт міжнацыянальных і міжканфесійных шлюбаў.

Таму чалавек культуры памежжа – цярплівы і талерантны, адкрыты на іншага і яго культуру, неагрэсіўны, шчыры і гасцінны. Аб гэтым сведчаць і вынікі невялікага даследвання, мэтай якога было выяўленне ўзроўню талерантнасці сярод сучасных прадстаўнікоў культуры памежжа. Даследванне было праведзена на базе вучняў Грамадскага ліцэя ГА «Польская Мацеж Школьная». Узрост рэспандэнтаў – ад 15 да 56 гадоў, сярод іх 75 жанчын і 25 мужчын, 60 % старэйшай школьнай моладзі і 40 % дарослых. Сярод дарослых 85 % мае вышэйшую адукацыю, 10 % – сярэднюю спецыяльную і 5 % – сярэднюю. 75 % рэспандэнтаў паходзіць са змешаных сем'яў, 13 % – польскіх, 9 % – беларускіх, 3 % – рускіх. Цікавіла аўтара менавіта такая неаднастайная з пункту гледжання нацый і канфесій група, якая з'яўляецца своеасаблівым адлюстраваннем сучаснага насельніцтва Гродна. Вынікі даследвання аказаліся даволі цікавыя. Для 96,5 % рэспандэнтаў не мае ніякага значэння нацыянальнасць блізкага чалавека, для 100 % рэспандэнтаў не мае ніякага значэння нацыянальнасць калег у месцы працы, 98,5 % анкетаваных ахвотна падтрымлівалі б сяброўскія кантакты з прадстаўніком кожнай нацыянальнасці, 86 % узялі б шлюб з прадстаўніком іншай нацыянальнасці, 100 % рэспандэнтаў не лічыць неабходным увядзенне абмежаванняў для прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей ці канфесій, 96,5 % лічаць міжканфесійныя адносіны ў рэгіёне прыязнымі. Гэта вельмі скарочаныя дадзеныя даследвання, яго падрабязны аналіз быў бы прадметам ужо іншага артыкула. На прыведзеных прыкладах выразна

бачна, што і ў сучасным грамадстве памежжа традыцыі талерантнасці даволі моцныя і далей з'яўляюцца прыярытэтам.

Вядомы пісьменнік памежжа Сакрат Яновіч адкрыў калісьці «парадокс малой айчыны: жывучы ў ёй, яе не любіш». Аднак гэта менавіта малая айчына дае чалавеку разуменне таго, кім ён ёсць, і трывалы маральны фундамент. Менавіта яна дапамагае ў будучым не згубіцца ў вялікім свеце, таму што цвёрдыя ўстоі сваёй культуры з'яўляюцца для чалавека своеасаблівым антыдотам на ўсе спакусы вялікага свету.

А таму замест таго, каб увесь час «перацягваць коўдру ў свой бок» і няспынна спрачацца наконт таго, чыёй пісьменніцай была Ажэшка або да якой культуры належаць Гусоўскі, Касцюшка, Міцкевіч, Манюшка, Орда ці Булгак, варта прызнаць урэшце культуру памежжа як самастойную і ўнікальную, якая патрабуе глыбокіх і змястоўных даследванняў. Культуру, якая, дзякуючы сваёй універсальнасці, фарміравала і далей фарміруе своеасаблівыя постаці. Прызнаць і не гаварыць пра яе як «спаланізаваную» беларускую ці «сапсаваную» польскую. Таму што гэтая культура мае свае бузумоўныя вартасці, паміж іншым – спагадлівасць у адносінах да іншай культуры ці рэлігіі, адкрытасць на іншых і прыняцце ад іх таго, што лепшае.

Карыстаючыся даробкам гэтай унікальнай культуры, трэба выхоўваць дзяцей і моладзь не «сапраўднымі» палякамі ці беларусамі, а людзьмі, якія будуць у стане зразумець і цаніць бліжняга ў кожнай яго праяве. І дапамагчы ў такім выхаванні павінна менавіта вывучэнне ўласнай культуры – не знявечанай крайнімі поглядамі да «чыстай», выключна беларускай, польскай ці нейкай іншай, але прадстаўленай ва ўсім сваім багацці і разнастайнасці. Трэба спяшацца ратаваць яе, пакуль яна не згубілася ў безаблічных гарадах, не памерла разам з апошнімі жыхарамі вымiраючых вёсачак і не збаналізавалася ў штучных сцэнарыях на патрэбу масавых шоу. Гэтая культура, на шчасце і на супраціў розным дзяржаўным дактрынам, жыве далей, а таму абавязкам даследчыкаў і навукоўцаў з'яўляецца вывучэнне яе па першакрыніцах, ад яе носьбітаў, на мясцовым матэрыяле.

У эпоху ўсеагульнай універсалізацыі і імкнення да ўніфікацыі менавіта культура памежжа са сваёй захаванай аўтэнтычнасцю і адначасова адкрытасцю на свет можа нязвыкла многа даць сучаснаму чалавеку і зрабіць яго лепшым. Задача навукоўцаў і даследчыкаў – даследваць яе, захаваць і перадаць нашчадкам. Таму што «культура – гэта выраз чалавека <...>, выраз зносінаў супольнага мыслення і супольнага дзеяння людзей. Яна паўстае на службе супольнага дабра і становіцца асноўнай каштоўнасцю людскіх супольнасцей... Яна нас вылучае і з'яўляецца нашай сутнасцю – больш за матэрыяльную сілу, больш за нават палітычныя межы».

### *Спіс крыніц і літаратуры*

1. Kapuściński, R. Ten Inny. – Кракаў, 2006. – S. 72

2. Акуліч, К. Беларусы, літоўцы і палякі ў студзеньскім паўстанні ў гістарычнай Літве / К. Акуліч // Гістарычныя сшыткі. – Парыж, 1964. – Т. VII. – С. 19.

3. Wielhorski, W. Litwini, Białorusini i Polacy w dziejach kultury Wielkiego Księstwa Litewskiego / Prace Społeczności Akademickiej Uniwersytetu Stefana Batorego na Obczyźnie, т. II, Лондан, 1951. – С. 64–65.

4. Первая всеобщая перепись населения Российской империи 1897 г. – СПб. – 1903. – Т. XI, Гродненская губерния. – С. 290.

5. Beauvois, D. Mit kresów wschodnich / Polskie mity polityczne XIX i XX wieku. Red. W. Wrzesiński. – Вроцлаў, 1998.

6. Powinienem zadebiutować na nowo, інтэрв'ю Эберхарда // Kino. – 1972. – № 4.

7. Czapska, M. Florian Czarnyszewicz // Kultura. – 1965. – № 1. – С. 211.
8. Miłosz, Cz. Notatki z lektury. Między Berezyną i Dnieprem // Kultura. – 1953. – Z. 5.
9. htpp://www.region.grodno.by/ru/oblast/konfes.
10. Janowicz, S. Terra incognita: Białoruś. – Беласток, 1993. – S. 65.
11. Ян Павел II у звароце да польскага народа ў 1979 г. Цыт. за: Podlaski, K. Białorusini, Litwini, Polacy. – Беласток, 1990. – S. 20.

**В. Мярчук**

## ЭМІГРАЦЫЯ НАСЕЛЬНІЦТВА З ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ Ў ФРАНЦЫЮ (1921 – 1939 гг.)

Працоўная эміграцыя ў Францыю – частка сусветнага эміграцыйнага працэсу, якая атрымала распаўсюджанне ў рамках заходнееўрапейскага напрамку эміграцыі ў 20–30 гг. XX ст. Францыя прываблівала эмігрантаў высокім жыццёвым узроўнем, магчымасцю атрымаць працу і заробак. Як сведчаць афіцыйныя звесткі ўпраўлення статыстыкі працы Польшчы, з заходнебеларускага V рэгіёна ў Францыю эміґравала ў 1927–1938 гг. 19,380 чалавек, што складала 12,1 % еўрапейскай эміграцыі і 6 % ад агульнай колькасці польскіх эмігрантаў у Францыю [1, с. 102]. Найбольшую пашыранасць яна набыла ў Віленскім ваяводстве, з якога на працягу 1926–1938 гг. выехала 8,07 чалавек.

У 1924 г. аб'яднанне французскіх прадпрымальнікаў утварыла Цэнтральнае эміграцыйнае таварыства, якое займалася масавым наборам і транспарціроўкай замежных работнікаў. Аднак некаторыя французскія работадаўцы самастойна, без пасрэдніцтва Цэнтральнага эміграцыйнага таварыства, арганізоўвалі набор эмігрантаў. Так, напрыклад, Саюз рабочых жалезаздабываючых руднікоў праводзіў набор польскіх і італьянскіх работнікаў, закладваў для іх спецыяльнае пасяленне [2, с. 68].

Эмігранты ў Францыю падзяляліся на катэгорыі: мужчыны ад 21 да 40 гадоў, якія накіроўваліся на зямельныя, рудніковыя і прамысловыя працы, земляробы, жанчыны ва ўзросце ад 21 года (яны ў асноўным былі задзейнічаны ў земляробстве і ткацтве, павінны былі валодаць пісьмом і чытаннем); родныя і сваякі эмігрантаў [3, л. 11, 16]. Кантынгент эмігрантаў вызначаўся французскім бокам і залежаў ад кан'юнктуры і сітуацыі на рынку працы. Акрамя таго, колькасць плануемых французскім урадам рабочых рук залежала ад сезону. Так, напрыклад, у ліпені 1925 г. з тэрыторыі Заходняй Беларусі планавалася набраць: з Гродна – 10 памочнікаў шахцёраў і 130 сельскагаспадарчых работнікаў, з Баранавічаў – 10 памочнікаў шахцёраў і 50 сельскагаспадарчых работнікаў [4, с. 1]. У верасні 1925 г., калі палявыя работы былі закончаны, запатрабаванасць у польскіх рабочых была знiжана да 200 некваліфікаваных прамысловых работнікаў і 1500 зямляробаў; з Заходняй Беларусі (Гродна) – 40 некваліфікаваных работнікаў і 50 зямельных [5, с. 1].

Працэдура афармлення эміграцыйных дакументаў залежала ад віду працоўнай эміграцыі. Як правіла, сезонная ці працоўная эміграцыя ў Францыю была калектыўнай і складалася з прадстаўнікоў беларускай, украінскай і часткова польскай нацыянальных груп, пастаянная эміграцыя была прадстаўлена польскім і яўрэйскім насельніцтвам. Эміграцыя падзялялася на калектыўную і індывідуальную. Першая ажыццяўлялася праз набор рабочых-эмігрантаў французскім Цэнтральным эміграцыйным таварыствам і яго прадстаўніцтвамі. Праезд эміг-

рантаў ажыццяўляўся за кошт французскіх прадпрымальнікаў. Эмігранты ў пісьмовай форме павінны былі звярнуцца ва Упраўленне пасрэдніцтва працы, дзе ў вызначаны дзень ў прысутнасці дэлегата французскай місіі адбывалася рэгістрацыя кандыдатаў на выезд. Затым эмігрантаў накіроўвалі да пунктаў збору ў Познані і Мыславіцах, дзе знаходзіліся прадстаўнікі французскай эміграцыйнай місіі і эміграцыйныя інспектары, якія выконвалі функцыі прадстаўнікоў французскага Эміграцыйнага ўраду. Так, напрыклад, праз зборны пункт Мыславіцы ў жніўні 1930 г. з Брэста выехала 59 чалавек (22 – на цукровыя заводы), у верасні – 58 чалавек, у кастрычніку – 18 чалавек (з якіх 16 работнікаў – на прамысловасць, 2 – шахцёры) [6, л. 60, 103, 105, 108]. Кошт дарогі работнікаў аплачвалі работадаўцы, аднак яны мелі права з месячнага заробку адлічваць пэўную суму грошай, што з’яўлялася заручэннем ад разрыву кантракта з боку эміграната. Індывідуальная эміграцыя ажыццяўлялася пры наяўнасці імянных запрашэнняў ад работадаўцаў і працоўных кантрактаў.

Асноўнымі сферамі дзейнасці працоўных эмігрантаў з заходнебеларускага рэгіёна з’яўлялася праца на прамысловых прадпрыемствах, здабываючых работах і сельскай гаспадарцы. Узрост эміратна мог вар’іраваць у залежнасці ад фізічнага здароўя і сілы чалавека.

Найбольш кампактнае пасяленне прадстаўнікоў заходнебеларускага насельніцтва ў Францыі назіралася ў паўночных дэпартаментах. На тэрыторыі паўночнай Францыі эмігранты асвойвалі прафесіі металургічнай, будаўнічай, броварскай, тэкстыльнай, цагельнай і здабываючай прамысловасці. Вялікая колькасць эмігрантаў працаўладкоўвалася на цукровых заводах у правінцыях Барэн, Вас’ён, Шато Т’ері, Лізі-сюр-уорк. Заработная плата на такіх прадпрыемствах складала каля 30–50 франкаў у дзень [7, л. 7]. У дэпартаментах (паўднёвай і сярэдняй Францыі) Хатэ В’ена, Ло і Гарона, Шаранта Інтэра і інш. распаўсюджанне атрымала сдача дзяржаўных зямельных гаспадарак у арэнду [8, с. 3].

Умовы працы і жыцця эмігрантаў не заўсёды адпавядалі санітарна-гігіенічным нормам, што неаднаразова вымушала іх мяняць месца працы, нягледзячы на пратэсты работадаўцаў і заканадаўчыя нормы эміграцыі. Культурна-асветніцкая дзейнасць заходнебеларускіх эмігрантаў да канца 1920-х гг. развівалася ў кантэксце польскай дыяспары, толькі ў пачатку 1930-х гг. яна набывае рысы самастойнасці.

Такім чынам, у 20–30-я гг. XX ст. на фоне сусветных эканамічных крызісаў набывае распаўсюджанасць працоўная эміграцыя ў Францыю, эканоміка якой была зацікаўлена ў прытоку дадатковай рабочай сілы з розных краін свету. У выніку адкрытай эміграцыйнай палітыкі ў Францыі апынулася значная колькасць заходнебеларускіх рабочых, якія паклалі пачатак зараджэнню беларускай дыяспары.

### *Спіс крыніц і літаратуры*

1. Kopeć, B. Wychodźstwo sezonowe z ziemi wileńskiej do Łotwy / B. Kopeć. – Wilno: Znich, 1938. – 176 s.

2. Gawryszewski A. Ludność Polski w XX wieku / A. Gawryszewski. – Warszawa: Instytut Geografii i Przestrzennego Zagospodarowania im. Stanisława Leszczyńskiego PAN, 2005 r. – 622 s.

3. ДАБВ. – Фонд 2082. – Воп. 1. – Спр. 9. Цыркуляры і ўказанні эміграцыйнага сіндыката аб эміграцыі ў Аргенціну і Бразілію.

4. Wychodźstwo. – 1925. – № 26.

5. Wychodźstwo. – 1925. – № 36.

6. ДАБВ. – Фонд 1. – Воп. 4. – Спр. 1542. Цыркуляры Палескага ваяводы, бюлютэні Варшаўскага эміграцыйнага сіндыката, справаздачы аб дзейнасці Познаньскага эміграцыйнага сіндыката за 1929 г., спісы эмігрантаў.

7. ДАГВ. – Фонд 541. – Воп. 1. – Спр. 263. Дакументы аб выданні дазвола на выезд за мяжу (пратаколы, заявы, пасведчанне, даведкі і інш.). 1922–1923 гг.

8. Wychodźstwo. – 1927. – № 6.

**Г. Вайцешчык**

## ГАНДЛЁВЫЯ ФУНКЦЫІ МЯСТЭЧКАЎ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ Ў 1921 – 1939 гг.

Мястэчкі Заходняй Беларусі, якія пераўзыходзілі гарады па сваёй колькасці, адыгрывалі значную ролю ў эканамічным развіцці рэгіёна, які ў 1921–1939 гг. развіваўся ў дастаткова складаных умовах у складзе адноўленай Рэчы Паспалітай. Уключэнне заходнебеларускіх зямель у структуру польскага рынка садзейнічала фарміраванню новай гандлёвай прасторы на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Польская ўлада разглядала мястэчка як своеасаблівую эканамічную зону абмену паміж горадам і вёскай, і не перашкаджала іх эканамічнаму развіццю, але і не падтрымлівала гэта развіццё.

Адсутнасць дзяржаўнай падтрымкі ў галіне гандлю і прамысловасці, неразвітасць сухапутных і нязначнае выкарыстанне водных шляхоў-зносін абмяжоўвала ролю і значэнне мястэчак як цэнтраў знешняга гандлю II Рэчы Паспалітай, пераўтвараючы знешні гандаль мястэчкаў у рэгіянальны, пераважна па лініі горад – мястэчка – вёска. Нават тыя мястэчкі, якія займалі вельмі выгаднае геаграфічнае становішча не адыгрывалі значнай ролі ў знешнім гандлі польскай дзяржавы. Асаблівасць польскага знешняга гандлю была ў тым, што экспарціравалася за мяжу сыравіна, а імпарціраваліся гатовая прадукцыя. З заходнебеларускіх мястэчак на экспарт ішлі пераважна збожжа і лес. Сыравіна вывозілася пераважна да еўрапейскіх – Англіі, Германіі, Францыі, Швецыі, Даніі, Нарвегіі. У 1933 г. экспарт Польшчы складаў: Вялікабрытанія – 19 %, Германія – 17 %, СССР – 6 %, Аўстрыя – 6 %; імпарт: Германія – 18 %, ЗША – 13 %, Вялікабрытанія – 10 %, Францыя – 7 % [1, с. 184].

Унутраны рынак Заходняй Беларусі ў 20–30 гг. XX ст. мэтазгодна разглядаць як сістэму ўзаемазвязаных мясцовых (лакальных) рынкаў, аб'ядназаных у адзінае цэлае агульнай функцыяй – ажыццяўлення тавараабмена паміж вытворцам і спажыўцом у маштабах усёй краіны – на аснове таварнай вытворчасці і геаграфічнага падзелу працы. У аснове гэтай схемы – склаўшаяся гандлёвая сетка, якая ахоплівае заходнебеларускія землі, наяўнасць пастаянных гандлёвых сувязей, якія забяспечваюць неабходныя маштабы тавараабмена і пэўныя адносіны попыта і прапановы.

Мабілізацыя і рэалізацыя тавараў на ўнутраным рынку Заходняй Беларусі ў 1921–1939 гг. ажыццяўлялася ў некалькіх формах: кірмашовай, базарнай, развозна-разноснай і стацыянарнай.

Местачковыя кірмашы ў 1921–1939 гг. паступова страчвалі ролю дамінуючай формы таваранага абарачэння, колькасць іх паступова скарачалася па прычыне нізкіх таваразваротаў, канкурэнцыі з боку гарадскіх кірмашоў і местачковых стацыянарных форм гандлю. З 1918 г. у мястэчку Гарадзец Кобрынскага павета 12 верасня штомесяц збіраўся дробны кірмаш, які быў ліквідаваны мясцовай адміністрацыяй у 1927 г. па прычыне правядзення вераснёвых кірмашоў у Антопалі і

Кобрыне [2, л. 36]. Штогадовы кірмаш у Бярозе-Картузскай, які праходзіў 5 чысла кожнага месяца з 21.12.1925 г., перастаў праводзіцца па прычыне слабога асартыменту тавараў і колькасці збіраемага на яго насельніцтва [3, л. 92]. У Малечы Лунінецкага павета штогод праводзілася 5 буйных кірмашоў (12.08, 14.09, 21.11, 09.12, 16.02), аднак, як сведчаць архіўныя крыніцы, апошнія тры кірмашы з 1927 г. не збіраліся [3, л. 92]. Распараджэннем Брэсцкай гандлёва-рамеснай палаты ад 18 жніўня 1928 г. усе кірмашы з мястэчка Сернікі, у сувязі з вялікай колькасцю местачковых магазінаў і лавак пераносіліся ў вёску Вічувка [3, л. 92]. У справаздачы за 1929 г. віленскі ваявода адзначыў, што ў мястэчку Друйск Браслаўскага павета кірмашы 7 студзеня, 9 мая, 12 жніўня адбываліся не заўсёды [4, л. 22].

Каб акрэсліць значэнне кірмашовага гандлю, яго інтэнсіўнасць, шырыню ахопу насельніцтва разгледзім працягласць местачковых кірмашоў. У XIX – пачатку XX ст. асобныя местачковыя кірмашы маглі доўжыцца ад 1 да 4 тыдняў (Ганненскі кірмаш у Зэльве). У 20–30 гг. XX ст. ў Заходняй Беларусі местачковыя кірмашы доўжыліся толькі 1 ці 2 дні, гарадскія кірмашы – ад 2 да 5 дзён. Скарачэнне працягласці кірмашоў садзейнічала паскоранаму абароту капіталу, паколькі гандляр за той жа час паспяваў наведаць большую колькасць кірмашоў, чым раней. Местачковыя кірмашы абслугоўвалі толькі пэўны мясцовы рынак, у той час як гарадскія кірмашы – агульнапольскі рынак. Гандлёвыя таваразвароты местачковых кірмашоў былі невялікімі.

Па часе правядзення местачковыя кірмашы ўмоўна можна падзяліць на звычайныя і святочныя. Звычайны (паўсядзённы) кірмаш праводзіўся па пэўным датам штогод (калі на гэту дату пападала каталіцкае свята, то кірмаш пераносіўся на наступны дзень). Святочныя кірмашы былі прыўрочаны да пэўнага рэлігійнага свята (звычайна каталіцкага) і праходзілі ў дзень свята ці ў наступныя дні. Буйныя рэлігійныя святы (Раство, Пасха, дзень Св. Троіцы, Тры каралі, Вялікі пост, Зялёныя Святы і інш.) маглі выступаць кропкамі, ад якіх ішоў адлік часу на правядзенне кірмашоў. Так, у мястэчку Кажан-Гарадок Лунінецкага павета звычайныя кірмашы праходзілі 5 чысла кожнага месяца, а святочныя – 22 мая (на Св. Мікалая – праваслаўнае свята), 19 снежня (на Св. Мікалая – каталіцкае свята), 19 студзеня (Вадохрышча – праваслаўнае свята), у апошнюю нядзелю перад Раством і на Вербніцу [3, л. 73]. У мястэчку Дамачава Брэсцкага павета звычайны кірмаш адбываўся ў сераду штомесяц пасля 15 чысла, а святочныя – два разы на год: 30 студзеня і на наступны дзень пасля «Узнясення Хрыста на неба» (па старому стылю) [3, л. 7]. Штогадовыя кірмашы ў мястэчку Кужэнец Вілейскага павета праходзілі 8 жніўня, 8 верасня, 9 снежня; святочныя – у апошні аўторак перад Вялікім постам, у другі аўторак пасля Пасхі, у першы аўторак пасля Раства, у 10 пятніцу пасля Пасхі [5, л. 159].

Большасць местачковых кірмашоў у 1921–1939 гг. па таварнай спецыялізацыі былі ўніверсальнымі, на якіх можна было набыць самыя разнастайныя па асартыменту тавары як сельскагаспадарчыя, так рамесныя і прамысловыя. Другімі па значэнню былі сельскагаспадарчыя кірмашы. Тут галоўнымі былі земляробча-раслінная і мяса-рыбна-птушыная прадукцыя. На працягу даследуемага перыяду ў кірмашовым асяроддзі вызначыўся працэс спецыялізацыі кірмашоў па гандлі якімі-небудзь адным ці двума таварамі. Асабліва бачна спецыялізацыя закранула гандаль збожжам, коньмі ці іншай буйной хатняй жывелай. Спецыялізацыя гандлю дапамагала купцам, рамеснікам і сялянам больш мэтанакіравана арыентаваць пакупнікоў на набыццё патрэбных рэчаў, а таксама з’яўлялася своеасаблівай рэкламай прадукцыі пэўнай мясцовасці.

16. Парсаданова, В.С. Новые архивные источники по истории советско-польских отношений. 1939 – 1941 гг. / В.С. Парсаданова // Новая и новейшая история. – 2003. – № 3. – С. 157–162.
17. Литвин, А.М. «Белые пятна» второй мировой. Польско-немецкие контакты на территории Беларуси и Виленщины в отражении немецких документов / А.М. Литвин // Неман. – 1995. – № 2. – С. 125–137.
18. Хацкевич, А.Ф. Правда и домыслы / А.Ф. Хацкевич // 7 дней. – 1993. – 23 октября. – С. 3.
19. Хацкевич, А.Ф. Узлы развязывает время: формирования польской Армии Крайовой на территории западных областей Беларуси (1943–1944) / А.Ф. Хацкевич // Неман. – 1994. – № 1. – С. 136–150.
20. Жумар, С.У. Не абуджаць пачуццё крыўды. Матэрыялы пра польскае ўзброенае падполле на Беларусі ў 1944–1951 гг. / С.У. Жумар // Беларуская мінуўшчына. – 1994. – № 3. – С. 42–44.
21. Назаўседы разам. Да 60-годдзя ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР: зб. арт. – Мінск: БелЭн, 1999. – 256 с.
22. «Ты з Заходняй, я з Усходняй нашай Беларусі...». Верасень 1939 г. – 1956 г.: сб. дак. і матэр.: у 2 кн. / склад.: У.І. Адамушка [і інш.] – Мінск: Беларуская навука, 2009. – Кн. 1: Верасень 1939 г. – 1941 г. – 340 с.

**В. Швед**

# ГРОДЗЕНСКІЯ ВЯЗНІ КАТЫНІ

Падчас вызвалення Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны Чырвонай арміяй былі інтэрнаваны, а затым растраляны звыш 15 тысяч польскіх вайскоўцаў. Сярод іх былі і ўраджэнцы Беларусі, у тым ліку і Гродна.

У 1990 г. у Гродне на вайсковых могілках устаноўлены помнік-крыж і мемарыяльная пліта з прозвішчамі 168 жыхароў горада – афіцэраў войска польскага, растраляных у савецкіх лагерах. Нам удалося знайсці невядомыя прозвішчы, і не толькі вайскоўцаў (кадравых і з рэзерву), але і паліцэйскіх, жандараў, памежнікаў, турэмных служачых. На жаль, біяграфічныя звесткі вельмі скупыя.

## 1. Казельск

Размеркаваны ў 250 км ад Смаленска. У лагеры для палякаў, створаным НКУС, знаходзілася звыш 5 тыс. чал. Перш усяго гэта былі кадравыя вайскоўцы, вайскоўцы рэзерва ўсіх радоў войск і службаў. З 3 красавіка да палавіны мая 1940 г. іх адпраўлялі партыямі на станцыю Гняздова пад Смаленскам. Адтуль вязняў вывозілі ў бліжэйшы катынскі лес (у 30 км на захад) на растрэл. Там знайшлі свой апошні прытулак ніжэй пададзеныя гродзенцы. Тут і ў наступных спісах падаюцца прозвішчы толькі ідэнтыфікаваных асобаў. Значная частка растраляных не ўстаноўлена.

1. Багатырэвіч Віктар Браніслававіч (1904, Гродна – ?). Арыштаваны 20.09.1939 г. у Літве. Сядзеў у лагерах Казельск (з 13.07.1940), Грязавец (2.07.1941 – 3.09.1941). Затым перапраўлены ў Тацішчава Саратаўскай вобл., дзе ўключаны ў армію Андэрса.
2. Бакула Станіслаў (2.01.1912 – ?), сын Францішка і Разаліі, падпаручнік пях. рэзерва, былы настаўнік, інспектар юнацкіх лагераў працы ў Гродне, пастаяннае месцажыхарства меў у Варшаве.
3. Барзухоўскі Тадэвуш (25.03.1904 – ?), падпаручнік-рэзервіст 81 пях. палка.

4. Батка Ян (3.01.1911 – ?), сын Пятра, падпаручнік, капельмайстар 76 пях. палка, афіцэр сувязі камандзіра палка.

5. Белоф Станіслаў (1899 – ?), сын Ігната і Юзэфы, кадравы харунжы, служачы склада матэрыяльнай інтэндантуры Гродна. Спачатку быў у Асташкаве.

6. Бернатовіч Адольф Адамавіч (1905, Гродна – 06.1941). Арыштаваны ў Баранавічах 17.09.1939 г. З 20.10.1939 г. знаходзіўся ў лагерах Крывы Рог (Днепрапятроўская вобл.), Роўна-Львоў.

7. Білевскі-Баран Юзэф (4.03.1899 – ?), сын Тамаша і Зоф'і, кадравы капітан, інспектар цэнтральнага інстытута фізічнага выхавання, спартыўны дзеяч, рэкардсмен і чэмпіён Польшчы па кіданню, алімпіец. Вывезены з лагера 15.04.1940 г.

8. Біліда Уладзімір Мікалаевіч (1915 Гродна – ?). Арыштаваны ў Латвіі 19.09.1939 г. Сядзеў у лагеры і Суздалі, затым з 5.09.1940 г. у Казельску, з 9.06.1941 па 27.07.1941 у Паноі Мурманскай вобл. З 4.09.1941 г. у арміі Андэрса.

9. Бурхардт Вацлаў (4.02.1886 – ?) паручнік пях. рэзерва, не мабілізаваны афіцэр запаса III акругі (гродзенскай). Быў таксама ў Асташкаве.

10. Бычкоўскі Уладзіслаў Янавіч (1906 – ?). Афіцэр рэзерва. Арыштаваны 19.09.1939 г. у Літве. Сядзеў у лагерах Казельск (з 13.07.1940), Грязавец (2.07.1941 – 3.09.1941). Затым перапраўлены ў Тацкае Арэнбургскай вобл., дзе ўступіў у армію Андэрса.

11. Вейт Вітольд (1913 – ?) – падхарунжы; лекар стаматалогіі ў Гродне.

12. Дашкевіч Эрвін (19.03.1864 – ?) – капітан жандармерыі, не мабілізаваны з афіцэрскага складу III акругі.

13. Жылінскі Станіслаў (18.04.1905 – ?) – паручнік пях. рэзерва 1 кампаніі баона Корпуса аховы памежжа «Сталіца». Былы начальнік 1-га аддзела скарабовага ўпраўлення ў Гродне.

14. Захарскі Базылі (8.10.1898 – 2.12.1939), сын Антона, кадравы харунжытанкіст з 7-га танкавага батальёна, павесіўся ў лагеры, бо вельмі сумаваў па сваёй сям'і, якая жыла ў Гродне; да 1914 г. быў рабочым-слесарам.

15. Ігнатоўскі Баляслаў-Вацлаў Баляслававіч (1911, Гродна – ?). Арыштаваны 19.09.1939 г. у Латвіі. Сядзеў у лагерах Казельск (з 5.09.1940), Панай Мурманскай вобл. (9.06 – 27.07.1941), адкуль трапіў у Тацішчава Саратаўскай вобл. Служыў у фарміраванні арміі Андэрса.

16. Казан Францішак Вацлававіч (1914, Гродна – ?). Арыштаваны 23.09.1939 г. у Літве. Сядзеў у лагерах Казельск, Юхнаў (з 19.08.1940) Смаленскай вобл., Панай Мурманскай вобл. (з 9.06.1941), Бузулуку, а затым служыў у арміі Андэрса.

17. Капланскі Генрык Леапольд – падпаручнік рэзерва ў Гродне.

18. Каперскі Тадэвуш (29.01.1903 – ?) – падпаручнік рэзерва пяхоты, 81 пях. полк.

19. Кішынскі Станіслаў (5.05.1891 – ?) – кадравы маёр інтэнданцкай службы камандавання брыгады корпуса аховы мяжы «Гродна»; магістр права. Быў таксама ў Старабельскім лагеры.

20. Крыцінскі Генрык (12.07.1883 – ?), сын Юзэфа і Паўліны, паручнік інтэнданцкай службы, мабілізаваны ў 29 пях. дывізію III акругі. Склад матэрыялаў інтэндантуры ў Гродне.

21. Кунда Эдмунд (3.07.1894 – ?) – паручнік рэзерва пяхоты, 21 пях. полк; настаўнік у Гродне.

22. Лапінскі Казімір (11.12.1898 – ?) – кадравы капітан пяхоты, 81 пях. полк.

23. Леванец Станіслаў (15.05.1892 – ?), сын Вінцэнта і Марыі, паручнік санітарнай адміністрацыі, з рэзерва кадраў акруговага шпіталя, затым легіянер санітарнага батальёна; былы фармацэўт з Гродна.

24. Мазур Ян (14.09.1914 – ?), сын Яна і Юзэфы, кадравы паручнік з Гродна.

25. Манкелевіч Станіслаў Канстанцінавіч (1892 г.н.), афіцэр. Арыштаваны 19.09.1939 у Завішы (Літва). Сядзеў у лагерах: Казельск (з 13.07.1940), Грязавец (з 2.07.1941). У лагеры Тацішчава Саратаўскай вобл. служыў у арміі Андэрса 3.09.1941.

26. Матушэўскі Алаізы Зыгмунтавіч (1898 г.н., з Гродна). 23.09.1939 г. быў арыштаваны ў Літве, знаходзіўся ў лагерах Казельск (з 15.07.1940) і Грязавец (02.07 – 3.09.1941). У армію Андэрса пайшоў з лагера ў Тацішчава 3.09.1941 г.

27. Махнач Зыгмунт (28.09.1889 – ?), сын Францішка і Разаліі, капітан пяхоты рэзерва афіцэрскіх кадраў III акругі; былы юрыст, паўнамоцны прадстаўнік князя Друцкага-Любецкага.

28. Міларскі Юзэф (1895, Младоцін Шубінскага пав. Познан. в-ва – ?) – капітан, шэф разведслужбы ў Гродне. У кастрычніку 1940 г. быў запатрабаваны з лагера шэфам упраўлення НКУС да спраў ваеннапалоннага Сапруненка ў 3-м аддзеле НКУС.

29. Міхальскі Людвік (29.03.1896 – ?), сын Яна і Марыі, капітан пяхоты рэзерва афіцэрскіх кадраў III акругі, легіянер; працаўнік тытунёвай фабрыкі ў Гродне.

30. Мрачкоўскі, магчыма Пётр М. (1900 – ?), сяржант з кіраўніцтва III акругі.

31. Нец Мечыслаў Людвік (27.06.1910 – ?), сын Станіслава і Браніславы, падпаручнік пяхоты рэзерва 1-га палка стралкоў падгулянскіх; выпускнік высшай гандлёвай школы ў Кракаве, настаўнік у сярэдняй гандлёвай школе ў Гродне.

32. Ожогж Эўгеніўш – камандзір сапёраў 29 пях. дывізіі ў Гродне. Ён жа ў спісе лагера ў Старабельску.

33. Ожуг Артур (1890 – ?), сын Станіслава і Малгажаты, маёр.

34. Палкоўскі Юзэф Казіміравіч (1904 г.н.), афіцэр рэзэрва. 23.09.1939 г. быў арыштаваны ў Калатова (Літва), знаходзіўся ў лагерах Казельск (з 14.07.1940) і Грязавец (02.07 – 3.09.1941). У армію Андэрса трапіў з лагера ў Тацішчава 3.09.1941 г.

35. Пекарскі Стэфан (1901 – ?) – магістр філасофіі, вучыўся ў Віленскім універсітэце, прафесар гімназіі ў Гродне.

36. Піваварчык Станіслаў (3.03.1894 – ?), сын Яна і Марыі, кадравы капітан інтэнданцкай службы III акругі; выкладаў ваенную гісторыю ў школе падхаружных пяхоты.

37. Піка Уладзіслаў (1899 – ?), сын Яна, капітан пях. з камандавання III акругі. У кастрычніку 1940 г. быў вывезены ў Мінск.

38. Савасцянік Уладзіслаў Вінцэнтавіч (1895 г.н., Гродна). 22.09.1939 г. быў арыштаваны ў Літве, знаходзіўся ў лагерах: Суздаль Іванаўскай вобл., Казельск (з 13.07.1940), Панай Мурманскай вобл. (з 16.08 па 27.07.1941). У армію Андэрса трапіў з лагера ў Тацішчава Саратаўскай вобл. 4.09.1941 г.

39. Санкоўскі Станіслаў Аляксандравіч (1906 г.н.). 17.09.1939 г. быў арыштаваны ў Баранавічах, знаходзіўся ў лагерах: Казельск Смаленскай вобл., Крывы Рог Днепрапятроўскай вобл., Роўна-Львоў (25.05.1940). У армію Андэрса трапіў з лагера Тацкае 2.09.1941 г.

40. Сапоцька Вітольд Янавіч (1897 г.н., Гродна). Арыштаваны 19.09.1939 г. у Літве. Сядзеў у лагерах: Казельск (з 13.07.1940), Грязавец (2.07 – 3.09.1941). 3.09.1941 г. у Тацкае Арэнбургскай вобл. прыняты ў армію Андэрса.

41. Саросек Вацлаў Адамавіч (1911 г.н., Гродна). Арыштаваны 21.09.1939 г. у Літве. Сядзеў у лагерах: Казельск (з 14.07.1940), Грязавец (2.07 – 3.09.1941). 3.09.1941 г. у Тацішчава Саратаўскай вобл. прыняты ў армію Андэрса.

42. Сянкевіч Мечыслаў Адамавіч (1910 г.н., Гродна). Арыштаваны 23.09.1939 г. у Майшаголе (Літва). Сядзеў у лагерах: Казельск (з 13.07.1940), Грязавец (2.07 – 3.09.1941). 3.09.1941 г. у Тацішчава Саратаўскай вобл. прыняты ў армію Андэрса.

43. Траяноўскі Ян Збігнеў – капітан з Гродна. Гл. спіс Старабельска.

44. Улас Антоні Уладзіслававіч (1907 г.н.). 20.09.1939 г. быў арыштаваны ў Латвіі, знаходзіўся ў лагерах: Ульбрак (Латвія), Суздаль Іванаўскай вобл., Казельск (з 5.09.1940), Панай Мурманскай вобл. (9.06 – 27.07.1941). У армію Андэрса пайшоў з лагера ў Тацішчава Саратаўскай вобл. 4.09.1941 г.

45. Фішхоф Эміл (16.02.1899 – ?) – падпаручнік індэнданцкай службы, павятовая каманда камплектавання Гродна.

46. Харбовы Зыгмунт Мар'ян (24.02.1897 – ?) – паручнік адміністрацыі, з рэзерва, 81 пях. полк; былы прафесар гімназіі і ліцэя імя Г. Сянкевіча ў Гродне.

47. Хеймбергер Аляксандр – падхарунжы сапёрнага рэзерва; былы прафесар малюнку ў дзяржаўнай жаночай гімназіі імя Плятэр у Гродне, выдатны дэкаратар і здольны мастак.

48. Херзог Стэфан (7.07.1899 – ?) – кадравы маёр вайсковай адміністрацыі III акругі.

49. Чучаловіч Станіслаў Міхайлавіч (1908, Гродна – ?). Арыштаваны 20.09.1939 г. у Земгалах (Латвія). Сядзеў у лагерах Казельск (5.09.1940 – 2.07.1941), Грязавец (2.07.1941 – 3.09.1941), адкуль трапіў у Тацішчава на фарміраванне арміі Андэрса.

50. Шока Зыгмунт Юзэфавіч (1896 г.н., Гродна). 19.09.1939 г. быў арыштаваны ў Літве, знаходзіўся ў лагерах: Суздаль Іванаўскай вобл., Юхнаў Смаленскай вобл., Казельск (з 6.11.1940), Панай Мурманскай вобл. (16.05 – 27.07.1941). У армію Андэрса пайшоў з лагера ў Тацішчава Саратаўскай вобл. 4.09.1941 г.

51. Эйсмант Антоні Людвікавіч (1899, Гродна – ?). Арыштаваны 22.09.1939 г. у Літве). Сядзеў у лагерах Суздаля, Казельска (14.07.1940 – 16.05.1941), адкуль трапіў у Панай Мурманскай вобл.

52. Юроўскі Конрад (19.02.1898 – ?) – капітан службы здароўя, кадравай службы 81 пях. палка, лекар інтэрнатуры ў Гродне.

53. Янкоўскі Тадэвуш Пятровіч (22.09.1908 – ?), сын Наталлі, паручнік пях. рэзерва, 14 пях. полк; былы кіраўнік дзяржаўнай бібліятэкі ў Гродне, гісторык.

### 2. Асташкаў

Знаходзіцца на паўночны усход ад Калініна, у вусці р. Волгі, над вялікім возерам Селігер. Лагер размяркаваўся ў пабудовах былога кляштара на востраве Сталабны. Знаходзілася тут каля 6 500 вязняў. Большасць іх належала да функцыянераў дзяржаўнай паліцыі, памежнай варты, служачых турмаў, падафіцэраў і афіцэраў вайсковай жандармерыі і корпуса аховы памежжа. Пераважалі паліцэйскія. Растрэлы адбываліся ў красавіку-маі 1940 г. Месца (ці месцы) забойства дакладна не вядомы. Магчыма, каля Балагое ці Меднае пахаваны гродзенцы:

1. Врона Мечыслаў – функцыянер паліцыі ў Гродне.

2. Вержбаловіч Ежы Янавіч (1926 г.н., Гродна). Арыштаваны ў 1944 г., сядзеў у Беластоку, потым у Асташкава да 16.01.1946 г. Дэпартацыя ў Бяла-Падляску адбылася 26.01.1946 г.

3. Дурмай – падхарунжы пяхоты, пры абароне з Гродна ў верасні 1939 г.

4. Жукоўскі Эдвард (11.08.1914 – ?), сын Юзэфа і Пашліны, капрал жандармерыі з Гродна.

5. Заяц Францішак (8.04.1909 – ?), сын Цыпрыяна і Кацярыны, функцыянер паліцыі, камісарыят у Гродне.

6. Ендрых – падхарунжы пяхоты пры абароне Гродна ў верасні 1939 г.

7. Енджэйчык Антоні (13.05.1891 – ?), сын Мацея і Антаніны, участковы паліцыі ў Гродне.

8. Казлоўскі Юліян (14.02.1908 – ?), сын Марыі, улан рэзерва 3 палка швалезэраў; былы работнік з Гродна.

9. Карповіч Станіслаў Станіслававіч (1890 г.н., Гродна). Арыштаваны ў 1944 г., сядзеў у Беластоку, потым у Асташкава (1944 – 16.01.1946 г.). Рэпартацыя ў Бяла-Падляску адбылася 26.01.1946 г.

10. Кермялевіч Юзэф Карлавіч (1903 г.н., Азёры). Арыштаваны ў 1944 г., сядзеў у Беластоку, потым у Асташкава (1944 – 16.01.1946 г.). Рэпартацыя ў Бяла-Падляску адбылася 26.01.1946 г.

11. Лаброў Мікалай Філіпавіч (1914 г.н., Гродна). Арыштаваны ў 1944 г., сядзеў у Беластоку, потым у Асташкава да 16.01.1946 г. Рэпартацыя ў Бяла-Падляску адбылася 26.01.1946 г.

12. Пушчэвіч Уладзіслаў (1885 – ?), сын Францішка, участковы паліцыі камісарыята ў Гродне. Арыштаваны тут 13.12.1939 г.

13. Райтнерб Казімір Янавіч (1900, Велецін Аультускага пав. – ?) – сын селяніна, паляк, адукацыя – 3 класа паўшэхнай школы, жанаты. Жыў у Гродне па вул. Маставая, 20, меў свой бровар. Арыштаваны 24.09.1939 у Гродне.

14. Узэнбла Ежы (1898 – ?), сын Юзэфа і Ксаверы, камендант паліцэйскага вучастка ў Гродне.

15. Ядах Станіслаў (12.04.1896 – ?) – старшы пастарункавы паліцыі, рачны участак Гродна. Арыштаваны тут у кастрычніку 1939 г.

## 3. Старабельск

Знаходзіцца на паўднёвы усход ад Харкава, над ракой Айдар. Лагер размяркаваўся, падобна Казельску і Асташкава, у пабудовах былога кляштара. Знаходзілася тут каля 4 000 вязняў. Асноўная маса іх – гэта кадравыя афіцэры і афіцэры рэзерва. Ліквідацыя лагера адбывалася ў красавіку-маі 1940 г. Месца (ці месцы) забойства дакладна не вядомы. Магчыма, Дзергачы ці Бязлюдаўцы пад Харкавам (або два гэтых месцы). Тут пахаваны гродзенцы:

1. Кішынскі Станіслаў – гл. спіс Казельска.

2. Крэховіч Дыянісі (8.04.1896 – ?) – дыпламаваны падпалкоўнік службы здароўя, кадравы лекар інтэрнатуры ў Гродне.

3. Лакінскі Эдмунд (22.01.1889 – ?) – маёр службы здароўя 3-га акруговага шпіталя, вучыўся ў Кіеўскім універсітэце, доктар медыцыны, дэрматолаг з Гродна.

4. Міхайлаў Баляслаў (8.05.1898 – ?), сын Аляксандра і Марыі, падпаручнік інтэндантскай службы, з рэзэрва; магістр права, радца з Гродна.

5. Тарасевіч-Тарасюк Стэфан (6.09.1893 – ?) – паручнік службы здароўя, з рэзерва кадраў 3-га акруговага шпіталя, лекар інтэрнатуры з Гродна.

6. Траяноўскі Ян Збігнеў (10.01.1904 – ?) – кадравы капітан сувязі, камандзір сувязі Навагрудскай брыгады кавалерыі.

7. Трускоўскі Міхал Генрык (5.01.1894 – ?) – кадравы маёр службы здароўя 3-га акруговага шпіталя, лекар інтэрнатуры з Гродна.

8. Шалкевіч Антоні (24.02.1882 – ?) – маёр кавалерыі афіцэрскага запасу III акругі.

9. Яблонскі Юзэф (29.12.1896 – ?), Сын Міхала і Зоф'і, капітан пяхоты 81 пяхотнага палка. Камендант вайсковага спартыўнага цэнтра ў Гродне.

10. Яраш Андрэй (30.11.1895 – ?), сын Антонія і Анэлі, кадравы маёр пяхоты, корпус памежнай аховы Гродна.

## 4. Грязавец

Лагер размяшчаўся ў Валагодскай вобласці. Тут знаходзілася значная частка вязняў, якіх перавезлі для фарміравання Польскай арміі пад кіраўніцтвам генерала дывізіі Уладзіслава Андэрса. Некаторыя вайскоўцы, якія выдалі сябе за грамадзян III Рэспублікі, былі перададзены немцам.

1. Бычкоўскі Уладзіслаў Янавіч (1906 г.н.). Афіцэр рэзерва. Арыштаваны 19.09.1939 г. у Літве. Сядзеў у лагерах Казельск (з 13.07.1940), Грязавец (2.07.1941 – 3.09.1941). Затым перапраўлены ў Тацкае Арэнбургскай вобл., дзе ўключаны ў армію Андэрса.

2. Лапыш Канстанцін Даніэлавіч (1908 г.н., Гродна). Арыштаваны 17.09.1939 г. у Роўна, сядзеў у лагерах: Юхнаў Мурманская вобл. (1940), Грязавец, спецыяльны дом інвалідаў пры станцыі Сямігародная (з 13.12.1940–1941). Выехаў з Джізака (Узбекістан) 11.10.1941 г.

3. Матушэўскі Алаізы Зыгмунтавіч (1898 г.н., Гродна). 23.09.1939 г. быў арыштаваны ў Літве, знаходзіўся ў лагерах Казельск (з 15.07.1940) і Грязавец (02.07 – 3.09.1941). У армію Андэрса пайшоў з лагера ў Тацішчава 3.09.1941 г.

4. Міхалоўскі Антоні Тамашэвіч (1884 г.н.), афіцэр. Арыштаваны ў Роўна, сядзеў у лагерах: Юхнаў Мурманская вобл., Грязавец (з 18.06.1940). Затым перапраўлены ў Тацкае Арэнбургскай вобл., дзе 3.09.1941 быў залічаны ў армію Андэрса.

5. Палкоўскі Юзэф Казіміравіч (1904 г.н.), афіцэр рэзерва. 23.09.1939 г. быў арыштаваны ў Калатова (Літва), знаходзіўся ў лагерах Казельск (з 14.07.1940) і Грязавец (02.07 – 3.09.1941). У армію Андэрса пайшоў з лагера ў Тацішчава 3.09.1941 г.

6. Прушынскі Андрэй (1900 – ?), сын Алозія, ротмістр 3 швадрона Гродна. Быў перавезены ў Грязавец у чэрвені 1941 г. з лагера ў Пуціўлі.

7. Сапоцька Вітольд Янавіч (1897 г.н., Гродна). Арыштаваны 19.09.1939 г. у Літве. Сядзеў у лагерах: Казельск (з 13.07.1940), Грязавец (2.07 – 3.09.1941). 3.09.1941 г. у Тацкае Арэнбургскай вобл. залічаны ў армію Андэрса.

8. Саросек Вацлаў Адамавіч (1911 г.н.). Арыштаваны 21.09.1939 г. у Літве. Сядзеў у лагерах: Казельск (з 14.07.1940), Грязавец (2.07 – 3.09.1941). 3.09.1941 г. у Тацішчава Саратаўскай вобл. залічаны ў армію Андэрса.

9. Селякоў Уладзімір Дзьмітрыевіч (1909 г.н., Гродна). Арыштаваны 19.09.1939 г. у Вілковішках (Літва). Сядзеў у лагерах Юхнаў Смаленскай вобл. (з 16.07.1940), Грязавец (2.07 – 3.09.1941), адкуль папаў у Тацішчава Саратаўскай вобл. і 3.09.1941 быў залічаны ў армію Андэрса.

10. Сідарчук Віктар Янавіч (1912 г.н.). Арыштаваны 18.09.1939 г. у Бржэжаны (Літва). Сядзеў у лагерах Юхнаў Смаленскай вобл. (1940), Грязавец (18.06.1940 – 1941), адкуль папаў у Тацкае Арэнбургскай вобл. і затым у армію Андэрса (з 3.09.1941).

11. Сянкевіч Мечыслаў Адамавіч (1910 г.н., Гродна). Арыштаваны 23.09.1939 г. у Майшаголе (Літва). Сядзеў у лагерах: Казельск (з 13.07.1940), Грязавец (2.07 – 3.09.1941). 3.09.1941 г. у Тацішчава Саратаўскай вобл. залічаны ў армію Андэрса.

12. Хышка Генрык – падхарунжы рэзерва, геадэзіст з Гродна. У рапарце шэфа ўпраўлення НКУС Валагодскай вобл. Кандакова ахарактэрызаваны як «актыўны польскі нацыяналіст».

13. Чарэднікаў Леан Пятровіч (1913, Гродна – ?). Арыштаваны ў Літве 11.09.1939 г. Сядзеў у лагерах Юхнаў Смаленскай вобл. (1940), Грязавец (18.06.1940 – 1941). 3.09.1941 г. у Тацішчава Саратаўскай вобл. прыняты ў армію Андэрса.

14. Шчэнсновіч Антоні (1913 – ?) – капрал, падхарунжы пяхоты рэзервнага палка, 81 пях. полк Гродна. У лютым 1941 г. абураўся дэпартацыяй сем’яў ваеннапалонных з тэрыторыі пражывання.

15. Ялжбрыкоўскі Мар’ян (1897 – ?), сын Яна, паручнік рэзерва, з павятовай каманды папаўнення Беластока папаў у 29-ты артылерыйскі полк у Гродна. Быў перавезены ў Грязавец у чэрвені 1941 г. з лагера ў Пуціўлі.

16. Янулевіч Вацлаў Вінцэнтавіч (1911, Гродна – ?). Арыштаваны 23.09.1939 г. у Вількаміры (Літва). Сядзеў у лагерах Юхнаў Смаленскай вобл. (з 15.07.1940), Грязавец (2.07.1941 – 3.09.1941), адкуль папаў у Тацкае Арэнбургскай вобл. і затым у армію Андэрса.

Спіс з 94 чалавек, якія звязаны з Гродна сваім лёсам: нараджэннем, жыхарствам, працай або вайсковай службай, толькі пачатак пошукаў ахвяр сталінскіх рэпрэсій.

### *Спіс крыніц і літаратуры*

1. Katyń. Dokumenty zbrodni. T. 2. Zagłada / red. A. Belerska. – Warszawa: TRIO, 1998. – 573 s.; T. 3. Losy. – Warszawa: TRIO, 2001. – 638 s.

2. Mord w Katyniu. Kozielsk. Ostaszkow. Starobielsk. Lista ofiar. – Warszawa: PAX, 1991. – 988 s.

3. Sawaniewski, L. Saga o Grodnie. – Łódź, Białystok, 1999. – 203 + XXIII s.; Цэнтр Карта ў Варшаве. Індэкс рэпрэсіраваных.

**А. Сцяпанава**

## РЭАЛІЗАЦЫЯ ПАЛІТЫКІ АСАДНІЦТВА НА ТЭРЫТОРЫІ ВІЛЕНСКАГА ВАЯВОДСТВА (1920 – 1939 гг.), СПЕЦЫФІКА РЭГІЯНАЛЬНАГА ПАМЕЖЖА

Польская дзяржава ў 1919 годзе разгарнула ваенную кампанію супраць Савецкай Расіі з мэтай аднаўлення польскай дзяржавы ў межах 1772 года. Аднак, акрамя палітычных прычын, існавалі, выключна, і эканамічныя – аграрнае перанасяленне Польшчы. Так, па статычных дадзеных Пулаўскага ўніверсітэта

на 1921 год, у Кракаўскім ваяводстве на адзін кіламетр квадратны прыходзілася 114 чалавек, у Лодзкім – 118, у той жа час як у Віленскім – 36 чалавек, а ў Палескім усяго толькі 20 чалавек [1, s. 37]. Праблема перанасялення набыла ў тагачасным польскім грамадстве значную актуальнасць па прычыне таго, што 73 % ад агульнай колькасці насельніцтва былі задзейнічаны ў аграрнай сферы. Уключэнне новых тэрыторый давала магчымасць перасяліць значную колькасць палякаў на далучаныя землі і такім шляхам вырашыць праблему з перанасяленнем.

Яшчэ пад час ваенных дзеянняў польскае кіраўніцтва пачало ажыццяўляць палітыку рэфармавання сістэмы землекарыстання і землеўладання. Аграрны закон ад 15 ліпеня 1920 года заклаў магчымасці дзяржаўнай і прыватнай парцэляцыі. Упершыню ў гэтым законе была абазначана новая сацыяльная катэгорыя – ваенныя асаднікі. З'яўленне ў польскім грамадстве ваенных асаднікаў звязана з заканчэннем ваеннай кампаніі Польшчы супраць Савецкай Расіі і з жаданнем умацаваць польскі элемент на заваёваных тэрыторыях. Польскае кіраўніцтва распрацавала спецыяльны закон па надзяленню ваенных асаднікаў зямлёй, які быў прыняты 17 снежня 1920 года. Дадзены закон быў накіраваны на крытэрыі падбору ваенных асаднікаў, сістэму надзялення зямлёй суб'ектаў палітыкі і ўмовы карыстання зямельнымі надзеламі. Выканаўчы працэс палітыкі асадніцтва ў адносінах да «крэсаў усходніх» ажыццяўляўся на аснове распараджэння ад 16 сакавіка 1921 года, рэалізацыя ўскладвалася на Павятовыя надаўчыя камітэты [2, s. 325]. Першапачаткова рэалізацыя закона датычылася наступных паветаў: Пружанскі, Ваўкавыскі, Слонімскі, Навагрудскі, Баранавіцкі, Вілейскі, Дзісненскі, Нясвіжскі, Лунінецкі, Пінскі, Кобрынскі, Крэмянецкі, Гродзенскі, Лідскі, Уладзімерскі, Ковельскі, Луцкі, Ровенскі, Дубінскі, Сарненскі, Астагорскі. У пазнейшым колькасць паветаў павялічвалася да 27 – 30 [3, s. 40]. У цэлым выканаўчы працэс палітыкі асадніцтва ажыццяўляўся на тэрыторыі чатырох ваяводстваў, аднак рэалізацыя насіла адметныя рэгіянальныя спецыфічныя рысы.

Найбольш складана і адметна працэс ажыццяўлення рэформы па «насаджэнню асаднікаў» праходзіў на тэрыторыі Віленскага ваяводства. Умоўна рэгіён быў раздзелены на дзве часткі: Дзісненскі, Вілейскі і Лідскі паветы былі ўключаны ў выканаўчы працэс рэалізацыі рэформы ад 17 снежня 1920 года. Тэрыторыя Віленска-Трокскага, Ашмянскага, Свянцянскага паветаў уваходзіла ў склад «Сярэдняй Літвы», дадзены рэгіён тэрытарыяльна не быў уключаны ў закон «па надзяленню зямлёй салдат Польскай арміі», у межах яго рэалізоўваліся дэкрэты генерала Л. Жалігоўскага [4, s. 61]. У выдзеленым рэгіёне, згодна з дэкрэтам ваеннакамандуючага рэалізоўвалася палітыка асадніцтва, але па сутнасці яна мела даволі спецыфічныя рысы. Справа заключалася ў тым, што зямельныя надзелы прадстаўляліся толькі платныя, кошт зямлі ацэньваўся згодна дзяржаўнай парцэляцыі для асоб, якія не мелі фінансавых сродкаў, прадстаўляліся крэдыты. Што тычыцца прэтэндэнтаў, то кола апошніх таксама звужалася, зямлю маглі набыць заслужаныя ваенныя, ваенныя інваліды, сем'і загінуўшых пры заваяванні рэгіёна, асобна вызначаліся асобы, якія былі родам з «Сярэдняй Літвы» і бралі ўдзел у польскіх ваенных кампаніях, а таксама былыя салдаты, якія заваёўвалі Вільна.

Ва ўсходняй частцы Віленскай адміністрацыйнай акругі рэалізацыя рэформы пачалася з вясны 1921 года, а тэрыторыя «Сярэдняй Літвы» была ўключана з вясны 1924 года. Выканаўчы працэс распачаўся з стварэння зямельнага фонда, з якога ў пазнейшым наразаліся асадніцкія надзелы. Зямельны фонд першапачаткова складаўся з зямель, адзначаных у артыкуле 1 закона ад 17 снежня 1920 г.

Пазней ён стаў папаўняцца з прыватных зямель, якія не выкарыстоўваліся, і з гаспадарак, памеры якіх перавышалі 400 гектараў. Прычым гэта закранала і прыватныя польскія гаспадаркі. Так, на паседжанні Дзісненскага павятовага надаўчага камітэту, якое адбылося 16 снежня 1922 года, разглядалася справа аб перадачы зямлі ва ўласнасць дзяржавы з маёнтка Веняжа Мікалаеўскай гміны, належачай Юліі Пашкоўскай [5, s. 49]. Былі выпадкі, калі раздзяляўся, парцэляваўся ўвесь маёнтак, як, напрыклад, маёнтак Бурнейкі Лідскага павета. Агульная плошча яго складала 202 га 9727 м$^2$. На гэтай плошчы было нарэзана 19 асад розных памераў, але ў асноўным пераважалі надзелы ў памеры 10 гектараў. Кожны надзел утрымліваў ворыўную зямлю, якая магла знаходзіцца ў двух і больш адрэзках, а таксама лес і вадаёмы. Суадносіны ворыўнай зямлі і лясных угоддзяў у выдзяляемых асадах былі нераўнамерныя: у адных пераважала ворыўная зямля, а ў другіх лес. У цэлым з 1921 па 1923 гады на тэрыторыі Віленскай акругі было падрыхтавана 961 асадніцкіх гаспадарак, што значна менш у параўнанні з Навагрудскім і Палескім ваяводствамі. З вышэй адзначанай колькасці гаспадарак былі заарганізаваны 502 асадніцкія надзелы, і 423 зямельныя адзінкі былі падрыхтаваны для мясцовых асаднікаў [6, s. 68]. Працэс рэалізацыі палітыкі асадніцтва ажыццяўляўся праз дзейнасць Павятовых Надаўчых камітэтаў, аднак з пачатку 30-х гадоў паўнамоцтвы камітэтаў на тэрыторыі Віленскага ваяводства перайшлі ў кампетэнцыю староставаў і Ваяводскай Рады.

Адным з найбольш актуальных пытанняў у адносінах да ўрэгулявання асадніцкіх гаспадарак была праблема юрыдычнага афармлення асадніцкіх гаспадарак. Так, на перыяд 1929 года на тэрыторыі ваяводства толькі 59 % асаднікаў мелі юрыдычнае права на зямельную маёмасць, а ўжо ў 1934 годзе працэнтныя суадносіны складалі 85 % юрыдычна афомленых да 15 % неафарміўшыхся [7, s.147]. У асноўным гаспадаркі апрацоўваліся і курыраваліся самімі асаднікамі, прыкладна 80,8 %, у выпадку, калі сям'я асадніка займалася гаспадаркай, працэнт складаў 11,8. І толькі 3,8 % ад агульнай колькасці гаспадарак здаваліся ў арэнду. Агульная кольскасць асаднікаў на перыяд 1937 года, пражываючых на тэрыторыі Віленскага ваяводства, складала – 1567 цывільных і 1137 ваенных асоб, гэта было адзінае ваяводства на тэрыторыі Заходняй Беларусі, дзе колькасць ваенных і цывільных асаднікаў была прапарцыянальная.

На тэрыторыі ваяводства актыўна развіваўся грамадскі рух, у ліпені 1922 года з мэтай задавальнення матэрыяльных і культурных патрэб асаднікаў было створана грамадскае аб'яднанне «Віленскі асаднік». Таварыства было арганізавана на лакальным узроўні і з'яўлялася прататыпам грамадскай арганізацыі «Цэнтральны саюз ваенных асаднікаў», якая дзейнічала на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Перад сабой аб'яднанне «Віленскі асаднік» ставіла шэраг задач: урэгуляванне фінансавых і юрыдычных спраў асаднікаў, арганізацыя і рэалізацыя аперацый у сферы вытворчасці і гандлю, правядзенні культурна-асветніцкай работы як сярод асаднікаў, так і мясцовага насельніцтва [8, s.17]. Нягледзячы на даволі шырокую сферу дзейнасці, таварыства не вытрымала канкурэнцыі ў адносінах «Цэнтральнага саюза ваенных асаднікаў», менавіта апошняя арганізацыя стала найбольш масавай і папулярнай сярод асаднікаў на Віленшчыне. Звязана гэта было з тым, што саюз падтрымліваўся дзяржаўнымі органамі кіравання і меў даволі шырокую сістэму прафінансавання. З сярэдзіны 30-х гадоў даволі шырокія маштабы сярод асаднікаў набывае арганізацыя «Стралец». Цераз арганізацыю праводзіліся мексіканскія стэльбішчы, спартыўныя спаборніц-

твы, ваенныя трэніроўкі, шырокімі былі паўнамоцтвы арганізацыі і ў грамадска-эканамічнай сферы.

Цераз грамадскія арганізацыі на тэрыторыі Віленскага ваяводства, як і ў цэлым у Заходняй Беларусі, рэалізоўвалася культурна-асветніцкая дзейнасць асаднікаў.

Першы крок па правядзенню культурна-асветніцкай дзейнасці быў накіраваны на стварэнне грамадскіх дамоў, паколькі ў будынках такога тыпу магчыма было ажыццяўляць розныя формы работы, пачынаючы ад правядзення простых спатканняў, да арганізацыі выстаў і з'ездаў. Аднак ажыццяўленне на практыцы аказалася дастаткова складаным. На тэрыторыі Віленскага ваяводства для ажыццяўлення культурна-асветніцкай працы ў арэнду браліся грамадскія дамы такіх арганізацый, як саюз «Стралец», «Арганізацыя мясцовай моладзі».

Другі напрамак быў накіраваны на стварэнне і арганізацыю бібліятэк. У рамках асветніцкай дзейнасці гэта быў адзін з асноўных накірункаў працы. Абазначаліся і асноўныя формы работы ў гэтым накірунку: арганізацыя галосных сумесных чытанняў, а таксама правядзенне «круглых сталоў» па абмеркаванню біяграфій дзеячоў навукі і пісьменнікаў з іх творамі. На тэрыторыі Віленскага ваяводства была створана спецыяльная арганізацыя – Павятовае цэнтральнае самаўпраўленне бібліятэчнай справы. Пад эгідай арганізацыі было створана 9 павятовых бібліятэк, кожная з якой утрымвала па 50–70 тамоў кніг. Аднак колькасць іх была недастатковай, з прычыны гэтага было арганізавана 42 рухомыя бібліятэкі і 57 сумесных з гарадскімі і школьнымі [9, s. 75]. Навейшая навуковая літаратура, або юрыдычна-прававая прыходзіла адным экзэмплярам на староства. Лепш справа выглядала з перыядычнымі выданнямі. Усе бібліятэкі мелі магчымасць атрымоўваць такую перыёдыку, як: «Польскі салдат», «Палеская зямля», «Польская газета», «Экспрэс палескі», «Штодзённы кур'ер». Праўда, у справаздачах «Саюза асаднікаў» адзначаецца, што перыёдыка часам дастаўлялася з вялікім спазненнем на 1-2 месяцы.

Адной з масавых форм працы з'яўлялася правядзенне свят як дзяржаўна-грамадскага, так і спартыўнага значэння. З грамадскіх свят на першае месца выдзяляецца свята, прысвечанае памяці дня нараджэння і смерці Юзафа Пілсудскага, Дзень канстытуцыі – 3 мая, свята прысвечанае аднаўленню ІІ Рэчы Паспалітай, якое адзначалася 11 лістапада. У маі – чэрвені кожнага года праводзілася свята песні і спорту пад эгідай Галоўнага ўпраўлення «Саюза асаднікаў», у Вільні 30 мая –1 чэрвеня 1936 г., у Брэсце праводзілася 4–6 чэрвеня 1938 г.

Як бачна з вышэй прадстаўленага матэрыялу, Віленскае ваяводства было ўключана ў працэс рэалізацыі асадніцтва, аднак з пэўным спазненнем і з асобай тэрытарыяльнай спецыфічнасцю. У выніку гэтага на тэрыторыі ваяводства была зафіксавана найменшая колькасць асаднікаў у параўнанні з другімі ваяводствамі. Па многім накірункам дзейнасць асаднікаў была даволі вузкай і неардынарнай, выключэнне склала толькі культурная сфера.

### *Спіс крыніц і літаратуры*

1. Rocznik statystyki za 1923. – Warszawa: Nakładem Głównego Urzędu Statystyki, 1924. – S. 37.

2. Dziennik Ustaw Rzeczypospolitej. – Warszawa: Drukarnia Państwowa, 1921. – № 27. – Poz. 157. – S. 325.

3. Dziennik Ustaw Rzeczypospolitej. – Warszawa: Drukarnia Państwowa, 1921. – № 4. – Poz. 17–18. – S. 40.

4. Stobniak-Smogorzewska, J. Kresowe osadnictwo wojskowe 1920–1945 roku. – Warszawa, 2003. – S. 61.
5. Літоўскі Цэнтральны Дзяржаўны архіў ЛЦДА. – Фонд 51. – Воп 2а. – Спр. 609. Справаздача Віленскага ваяводы.
6. Rocznik statystyki za 1923. – Warszawa: Nakładem Głównego Urzędu Statystyki, 1924. – S. 68.
7. Літоўскі Цэнтральны Дзяржаўны архіў ЛЦДА. – Фонд 51. – Воп 2а. – Спр. 397. Справы перыядычных з’ездаў Ваяводскай рады.
8. Літоўскі Цэнтральны Дзяржаўны архіў ЛЦДА. – Фонд 51. – Воп 2а. – Спр. 2924. Грамадскія арганізацыі Вільня і Віленская зямля.
9. Літоўскі Цэнтральны Дзяржаўны архіў ЛЦДА. – Фонд 51. – Воп 2а. – Спр. 609. Справаздача Віленскага ваяводы.

**С. Грэсь**

## АГРАРНЫЯ ПЕРАЎТВАРЭННІ Ў ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ Ў ПЕРЫЯД САНАЦЫІ

**Уводзіны.** У сярэдзіне 20-х г. Польшча апынулася ў зацяжным эканамічным і палітычным крызісе. Пагоршылася яе знешнепалітычнае становішча. 12-13 мая 1926 г. Ю. Пілсудскі і яго аднадумцы здзейснілі дзяржаўны пераварот у краіне і захапілі ўладу ў свае рукі. У Польшчы пачаўся перыяд, які ў гістарычнай навуцы атрымаў назву «санацыйны». Ён працягваўся трынаццаць гадоў. Пераварот падтрымалі Польская сацыялістычная партыя (ППС), сялянская партыя «Вызваленне», Камуністычная партыя Польшчы (КПП, з 1927 г. пачала актыўна выступаць супраць рэжыму санацыі). Для падтрымкі санацыйнай палітыкі быў створаны беспартыйны блок супрацоўніцтва з урадам на чале з паплечнікам Ю. Пілсудскага палкоўнікам В. Славекам. Галоўнай мэтай яго праграмы стала барацьба за змены ў Канстытуцыі ў частцы ўзмацнення прэзідэнцкай улады.

**Асадніцтва.** Значнымі заканадаўчымі дакументамі, прынятымі ў гэты час, былі акты ад 18 і 28 жніўня 1926 г. Першы з іх удакладняў працэс камасацыі, другі – выкананне зямельнай рэформы [1, с. 43]. Гэтыя заканадаўчыя акты прымаліся як дапаўненні да папярэдніх законаў і насілі яўна выражаны прапагандысцкі характар. Аднак ні адзін з іх не даваў гарантыі на атрыманне зямлі людзям, якія працавалі на ёй. Апошнім законам хіена-пястаўскага перыяду можна назваць закон ад 28 снежня 1926 года. Яго сутнасць зводзілася да наступных палажэнняў:

- дапускалася магчымасць адабрання ўласніцкіх зямель толькі з выплатай выкупу па цэнах, вызначаемых урадам;
- устанаўліваўся максімум плошчы зямлі адной гаспадаркі, якая не падлягала адчужэнню, у памеры 60 га ў прыгарадах і прамысловых раёнах і 180 га – у астатніх месцах [2, с. 27].

Аднак нават пры такіх умовах памешчыкі не лічылі магчымым прыняцце новага закона, і ў хуткім часе Міністэрства аграрных рэформ было пазбаўлена дзяржаўных крэдытаў, а без іх інтэнсіфікацыя сельскай гаспадаркі была немагчыма.

Адным з метадаў вырашэння гэтых задач з’яўлялася скарачэнне памераў ваеннага асадніцтва і адкрыццё парцэляцыі для заможных сялян. Так, 23–25 мая 1933 г. былі прыняты дадатковыя ўмовы ў закон 1920 г. аб правядзенні палітыкі асадніцтва на заходнебеларускіх тэрыторыях [3, с. 9]. Гэты закон надаваў больш

шырокія правы цывільным асаднікам у палітычным і эканамічным жыцці заходнебеларускага рэгіёна. У той жа час дадзены заканадаўчы акт гарантаваў правядзенне на карысць ваенных асаднікаў хутарызацыі і ліквідацыі сервітутаў. Менавіта 15 артыкул дадзенага дакумента надаваў прававы статус і агаворваў месца цывільнага асадніцтва ў польскім грамадстве. З гэтага часу і да канца існавання Рэчы Паспалітай цывільныя асаднікі з'яўляліся асноўнымі суб'ектамі зямельнай рэформы ў дзяржаве.

На бясплатныя асады ў 1933 г. высялялі тых цывільных асаднікаў, якія ў першыя гады каланізацыі былі прызначаны для бясплатнага надзялення польскіх вайскоўцаў зямлёй. У гэтай групе былі добраахвотнікі войска, якія не выслужылі патрэбны час, а таксама сем'і забітых салдат польскай арміі. У Навагрудскім ваяводстве было паселена 107 такіх асаднікаў, з іх 105 атрымалі новыя асады бо былі з ліку добраахвотнікаў, 2 – з сем'яў загінуўшых [4, с. 99].

Распараджэнне Міністэрства зямельных рэформ ад 24 мая 1933 года рэгулявала прававы статут цывільнага асадніцтва пры дзяржаўнай парцэляцыі і выплаты працэнтаў па крэдытах банка. Саюз асаднікаў лічыў стаўку 5 % па крэдыту вельмі высокай і немагчымай для аплаты цывільнымі асаднікамі. Такім чынам, з самага пачатку цывільныя асаднікі былі пастаўлены ў няроўныя ўмовы з ваеннымі. Далейшае размежаванне працягвалася, што выражалася ў незадавальненні дзеяннямі ўрада. Акрамя таго, паміж цывільнымі і ваеннымі асаднікамі амаль не было ніякіх кантактаў.

На мясцовым узроўні пачала складвацца апазіцыя з ліку цывільных асаднікаў і заможных сялян. Першыя лічылі, што ваенныя каланісты амаль поўнасцю страцілі свой уплыў на беларускія землі і аказаліся адхіленымі ад кіруючага становішча ў гаспадарчым жыцці. З прычыны таго, што шмат асаднікаў здавалі свае землі ў арэнду, казна Польшчы не далічвалася грошай і па крэдытах. Акрамя таго, цывільныя асаднікі былі пастаўлены ў няроўныя ўмовы з ваеннымі. Так, для іх існавалі больш высокія цэны на зямлю, і яны не маглі карыстацца шэрагам ільгот. Першапачатковая стаўка толькі на палітыку ваеннага асадніцтва, як адзіна правільную, была памылковай. Асаднікі з цэнтральных ваяводстваў Польшчы не маглі па сваім менталітэце і развіццю зліцца з мясцовым насельніцтвам. Гэта пацвярджае і В. Вітас. У сваёй кнізе ён піша: «...асаднікі з цэнтральных ваяводстваў, а таксама ваенныя асаднікі па сваёй манеры паводзін выклікалі ў мясцовых жыхароў жаданне да барацьбы...» [5, с. 18].

Аб інтэнсіфікацыі цывільнага асадніцтва сведчыць той факт, што за перыяд з 1926 па 1929 гады цывільным асаднікам было выдзелена зямлі амаль у 2 разы больш, чым вайсковым. Калі да 1925 г. цывільныя асаднікі складалі па ўсіх заходнебеларускіх паветах каля 3 тысяч [6, с. 26], то пасля перавароту Ю. Пілсудскага колькасны склад гэтай групы асаднікаў павялічыўся больш як у 5 разоў і склаў на пачатак 1931 г. каля 15 тыс. чалавек [6, с. 32]. Менавіта ў гэты перыяд урадавыя колы Польшчы зразумелі, што стаўка на цывільнае асадніцтва можа вельмі хутка сябе апраўдаць. Аднак яны павінны былі выконваць тыя самыя задачы і мэты, што і ваенныя асаднікі. Гэта зразумела, першыя цывільныя асаднікі паходзілі з ліку чыноўнікаў цэнтральных ваяводстваў. Толькі з канца 1928 г. пачалі раздаваць землі і мясцоваму каталіцкаму сялянству.

Пераходзячы да характарыстыкі цывільнага асадніцтва пры ўрадавай парцэляцыі, трэба адзначыць, што Міністэрства зямельных рэформ падзяляла ўсіх цывільных асаднікаў на некалькі катэгорый:

1) сяляне, якія ўпершыню атрымлівалі асаду;

2) асаднікі, якія мелі выдзеленыя ўчасткі, але не мелі права ўласнасці;

3) асаднікі, якія атрымалі права ўласнасці да 20 верасня 1932 года;

4) асаднікі, у якіх у выніку парцэляцыі пагоршылася становішча ў параўнанні з суседзямі.

Так, кандыдаты на асадніцтва другой катэгорыі павінны былі, згодна з распараджэннем ад 24 мая 1933 года, першапачаткова выплаціць задатак у памеры:

5 % прадажнага кошту – для беззямельных гаспадарак;

15 % прадажнага кошту – для ўзорных гаспадарак;

25 % кошту – для прамыслоўцаў;

10 % кошту – іншыя катэгорыі [7, с. 15].

Толькі пасля гэтага акруговыя зямельныя камітэты выдавалі права ўласнасці на зямлю. Банкаўскі працэнт складаў 12 % ад 100 злотых і пагашаўся на працягу 41 года [7, с. 16]. Аднак дадзеныя ўмовы не былі агульнымі для ўсіх цывільных асаднікаў. Так, некаторым з іх крэдыт даваўся на 38 гадоў, а калі асаднік здолее даказаць, што яго гаспадарка панесла страты ў выніку неўраджайнасці, хваробы асадніка, тэрмін крэдыту павялічваўся на пяць гадоў.

Другая катэгорыя асаднікаў падпарадкоўвалася распараджэнням ад 25 мая 1933 года, якія прадугледжвалі выданне права ўласнасці без выплаты задатку ў такой высокай стаўцы, як першай катэгорыі. За эксплуатацыю зямельнага ўчастка ад часу яго атрымання да выдання права ўласнасці гэтыя асаднікі павінны былі плаціць 2 % ад 100 злотых за год карыстання. Астатняя сума выплачвалася так, як і іншымі, у памеры 5 злотых ад 100 за год [7, с. 16-17]. Для гэтай групы землеўладальнікаў распараджэнне прадугледжвала абавязковае прававое ўрэгуляванне права ўласнасці. Кошт зямлі для гэтай групы разлічваўся на аснове цэн 1929 – 1933 гадоў, якія былі значна ніжэйшымі, чым перадкрызісныя [7, с. 17].

Да трэцяй групы цывільных асаднікаў адносіліся тыя, хто атрымаў права ўласнасці да 20 верасня 1932 года і на працягу 14 дзён склаў скаргі з прычыны высокага кошту зямлі. У адносінах да іх прымяняліся распараджэнні ад 25 мая 1933 года. Тыя ж асаднікі, якія атрымалі ўчасткі да гэтага часу, але не мелі дакументаў на права ўласнасці, павінны былі падаць дакументы на перагляд кошту зямлі. Ён мог быць зменены ў бок павышэння або паніжэння. Калі цана зямлі павышалася або заставалася такой самай, то змяняліся іншыя ўмовы, напрыклад, працэнты па аплаце крэдыту. Усе справы гэтай групы асаднікаў разглядаліся ў акруговых камісіях [7, с. 17-18].

Да чацвёртай групы цывільных асаднікаў адносіліся тыя, хто пасля атрымання дакументаў на права ўласнасці не напісаў скаргі па прычыне высокай цаны зямлі. Усе яны знаходзіліся ў значна горшых умовах, чым іх суседзі, якія склалі такія скаргі. У распараджэнні ад 24 мая 1933 года ў артыкуле 15 гаварылася: «... у выпадках, калі выдадзены дакументы на права ўласнасці, кошт распарцэляванай зямлі ў адным і тым жа маёнтку, выдадзенай у той жа год, па просьбе асадніка можа быць зменшаны пры ўмове, калі даўжнік зможа даказаць цяжкасць свайго матэрыяльнага становішча» [7, с. 18-19]. Аднак, па словах былога міністра зямельных рэформ В. Станевіча, гэты артыкул не прымяняўся ў адносінах да цывільных асаднікаў аж да 24 мая 1933 года [7, с. 20].

Адным з відаў асадніцтва была спецыяльная каланізацыя гарадоў, якая прадугледжвала выдзяленне дзяржавай участкаў, якія былі прызначаны для рассялення кіраўнікоў адміністрацыі і рамеснікаў, якія перасяліліся на заходнебела-

рускія землі з цэнтральных рэгіёнаў Польшчы. Такі від асадніцтва пачаўся ў 1924 г., а ў 1927 г. дасягнуў найвышэйшага ўздыму. Да пачатку 1932 г. у гарадах Навагрудскага ваяводства з'явілася 502 польскія калоніі. Найбольшая колькасць гарадскіх калоній была ўтворана ў Валожынскім, Слонімскім, Баранавіцкім паветах. Сярэдняя плошча такіх асад складала 1,15 га.

**Ліквідацыя сервітутаў.** Нягледзячы на пачатак рэформ, у Польшчы назіраўся шэраг феадальных перажыткаў. У першую чаргу гэта датычылася сервітутнага права. Гісторыя фарміравання сервітутаў пачыналася ў той час, калі ў сялян не было асабістай уласнасці на зямлю і сялянская жывёла магла пасвіцца па лугах і ў лясах, якія належылі памешчыкам.

Атрымаўшы ў 1920 годзе першы закон аб ліквідацыі сервітутаў, памешчыкі пачалі метадычна выцясняць сялян з гэтай зямлі. Першапачаткова дзеянне заканадаўчага акта распаўсюджвалася толькі на цэнтральныя ваяводствы. Толькі ў 1922 годзе яго дзеянне распаўсюдзілася на Заходнюю Беларусь. Ліквідацыя сервітутаў прадугледжвалася як добраахвотная, так і прымусовая. Аднак сяляне не маглі адмовіцца добраахвотна ад выганаў і пашы. Таму законы прадугледжвалі і меры прымусу. Па сваёй сутнасці яны на гэта і былі зарыентаваны. Памешчыкі заклікалі «... да максімальна хутчэйшай ліквідацыі сервітутаў» [8, с. 10].

Захоп памешчыкамі сервітутных зямель у Заходняй Беларусі (акрамя Палесся) прыняў масавы характар у 1924 – 1926 гг. Тут, па афіцыйных дадзеных, гэты працэс пачаўся толькі ў 1927 г. За гэты час у сялян былі адабраны дзесяткі тысяч гектараў зямлі. Увогуле за час правядзення рэформы з 1919 па 1939 гг. было ліквідавана ад 2 500 да 3 000 сервітутаў. Ад гэтага пацярпела звыш 134 тыс. сялянскіх гаспадарак (38,5 %). Узамен яны атрымалі толькі 200 тыс. га зямлі з 1 300 тыс. ліквідаваных сервітутных зямель. Сяляне былі вымушаны за карыстанне выганам аддаваць памешчыку і асадніку сельскагаспадарчыя прадукты ці разлічвацца адпрацоўкамі [5, с. 93].

Правядзенне дадзенай рэформы пагоршыла і без таго цяжкі стан заходнебеларускай вёскі. Па дадзеных статыстыкі да 1938 г. не менш 115,7 тыс. сялянскіх гаспадарак былі пазбаўлены права карыстацца сервітутнымі землямі [17, с. 34]. На жаль, польская афіцыйная статыстыка не дае дакладных звестак аб плошчы ўгоддзяў, адабраных у сялян. Па архіўных дадзеных на 1930-1931 гг. па Заходняй Беларусі было ліквідавана звыш 750 тысяч га сервітутных зямель [9, с. 24]. У матэрыялах А.А. Сарокіна ідзе гаворка аб ліквідацыі прыкладна каля паўтара мільёна гектараў сервітутных угоддзяў, аднак у якасці кампенсацыі сяляне атрымалі крыху больш 200 тыс. га [8, с. 93]. Розніца паміж архіўнымі звесткамі і дадзенымі А.А. Сарокіна адрозніваецца ў 2 разы, архіўных дадзеных па кампенсацыі няма, але калі браць за аснову дадзеныя А.А. Сарокіна, то згубілі сяляне ў 3,5 раза больш, чым набылі.

**Парцэляцыя, камасацыя і хутарызацыя.** Парцэляцыя на землях Заходняй Беларусі пачалася 10 ліпеня 1919 г. У гэты дзень сейм прыняў законы аб аграрнай рэформе. Па дакументах адной з рэформ з'яўлялася парцэляцыя зямель. У Заходняй Беларусі прымусоваму выкупу падлягалі гаспадаркі з плошчай звыш 400 га, аднак гэта не тычылася гаспадарак рамеснага тыпу, уладальнікі якіх маглі захаваць ранейшыя плошчы. На аснове законаў павінны былі быць прыняты меры па пачатку рэформ на месцах.

За 1921 – 1925 гг. у Заходняй Беларусі, па падліках А.А. Сарокіна, было распарцэлявана 262 224 га зямлі [8, с. 104]. Парцэляцыя ажыццяўлялася па трох

напрамках – дзяржаўнай, прыватнай і праз дзяржаўны сялянскі банк. Дзяржава парцэлявала землі з дзяржаўнага зямельнага фонду, які складаўся з земель, якія раней належалі дзяржаве, і земель, гаспадары якіх знаходзіліся па-за межамі краіны і не далі аб сабе звестак да 1 красавіка 1921 года. Гэта былі ў асноўным землі бежанцаў, якія не змаглі вярнуцца да ўстаноўленага законам тэрміну. Па прыватнай лініі парцэляваліся так званыя грамадскія землі, у асноўным сервітутныя, якія перайшлі ў распараджэнне мясцовых зямельных органаў у выніку ліквідацыі сервітутаў. Па такой жа самай схеме парцэляваліся землі памешчыкаў, якія перавышалі нормы, устаноўленыя законам ад 15 ліпеня 1920 г. Аднак усе віды парцэляцыі служылі адной мэце: умацаваць сярэдняе звяно землеўладальнікаў.

Нягледзячы на тое, што законам прадугледжвалася распарцэляваць у Польшчы па 200 тыс. га зямлі ў сярэднім у год, гэтай працэдуры падвяргалася не больш за 52 тыс. га зямлі, з іх 25 тыс. дзяржаўных і 27 тыс. прыватных і грамадскіх. Усяго за 1921 – 1925 гг. на землях Заходняй Беларусі было распарцэлявана 127 409 га дзяржаўных і 134 815 га прыватнаўласніцкіх і грамадскіх земель [2, с. 24].

За 1920 – 1936 гг. колькасць вёсак, расселеных на хутары, выглядала наступным чынам: па Віленскім ваяводству – 2 076, па Навагрудскім – 1 028, па Палескім – 384. Усяго на хутары было расселена 3 388 вёсак. Выдзеленая агульная колькасць сялянскіх гаспадарак на хутары складала 188 789 гаспадарак. Ім належала 1 528 290 га зямлі, або каля 64 % ад усёй плошчы сялянскай зямлі, што ў сярэднім складала 8,09 га зямлі на гаспадарку. Да 1939 г. на хутары было расселена каля 70 % вясковых гаспадароў [8, с. 100]. У законе 1925 г. «Пра парцэляцыю, камасацыю і асадніцтва» вызначалася колькасць зямлі, якую памешчыкі павінны былі прадаць сялянам у Заходняй Беларусі, і была роўна 26 га [7, с. 54]. Актыўнае правядзенне камасацыі пачалося ў гады эканамічнага крызіса. У 1926–1930 гадах было прададзена 968,3 тыс. га зямлі, прычым звыш 860 тыс. га выкупілі заможныя сяляне і асаднікі [8, с. 35].

Але планы правядзення хутарызацыі не ўлічвалі многіх аспектаў сялянскіх гаспадарак. У першую чаргу, адсталае эканамічнае становішча сялян, правядзенне рэформы патрабавалі значных грашовых сродкаў. Абсалютная большасць кандыдатаў на высяленне былі неплацежаздольнымі, таму што не мелі дастатковых фінансавых сродкаў для перасялення. А патрэбна было не толькі перавезці або нанава пабудаваць хату, але і ўзвесці ўсе гаспадарчыя пабудовы. Такая перспектыва вельмі палохала сялян. У адказ на гэта ўрад прапанаваў крэдыты, аднак яны яшчэ больш падрывалі эканамічныя асновы сялянскай гаспадаркі, таму што выдаваліся пад вялікія працэнты. Пры правядзенні хутарызацыі не былі ўлічаны і элементарныя правілы планіроўкі, разбіўкі на хутары. У асноўным незадаволенасць сялян была выклікана тым, што яны атрымлівалі хутары далёка ад вёсак, глеба не была аднолькавай.

Па планах хутарызацыі ў Палескім ваяводстве ў 1934 – 1935 г. было выдзелена 25 410 участкаў з плошчай зямлі ў 226 048 га [12, с. 35], у 1936 – 1937 г. – адпаведна 29 790 участкаў і 247 830 га [13, с. 24], у 1937 – 1938 г. – 30 056 і 249 754 [14, с. 31], у 1938 – 1939 г. меркавалася выдзеліць для хутарызацыі 33 224 участка і 262 667 га зямлі [15, с. 24]. Усяго за 1934 – 1939 г. пад хутары было выдзелена 118 480 участкаў з агульнай плошчай 986 299 га зямлі [16, с. 163].

**Высновы.** Зямельная рэформа была скіравана на ліквідацыю рэштак феадалізму, на паскарэнне развіцця таварна-грашовых адносін у сельскай гаспадар-

Kto z was mąż jeszcze,
Kto ojczyzny, kto sławy praw nie chce przekroczyć,
Niech idzie za Tyrtejem krwawe bitwy toczyć [5, c. 88].

Закончыўшы песню, Тыртэй кідае цытару, хапае меч і першы ідзе на ворага. Следам за ім ідуць у бой усе спартанцы і ў грознай бітве перамагаюць месенцаў.

У кампазіцыі паэмы 1–5 песні, якія прысвечаны Тыртэю, уяўляюць сабой як бы своеасаблівую антычную ўверцюру да апошняй 6-й часткі, у якой заключаны ідэйны пафас усяго твора. Тут Ян Чачот, расказаўшы пра адпаведныя падзеі з гісторыі Спарты, непасрэдна пераключаецца на айчынную глебу, віленскую, і выбірае Тыртэем свайго блізкага сябра Адама Міцкевіча, Які павінен паслужыць роднай справе:

Tyrtej mężne Spartańczyki
Do boju pieniem zagrzewał:
Adamie, będziesz w nasze wojowniki
Wdziękiem twej lutni męstwo, stałość wlewał.
Na to cię wielki dar Feba bogaci,
Byś ducha wzbudzał w narodzie,
Nie dawał sercom trwożyć się w przygodzie
I mężnych chwałę uwiecznił braci! [5, c. 90–91]

Апошняя частка паэмы надзвычай важкая і цікавая. Як вядома, філаматы аднадушна прызнавалі Адама Міцкевіча ў сваім асяродку самым таленавітым паэтам, але толькі адзін Чачот прадбачыў далёка наперад, што ён будзе самым вялікім нацыянальным паэтам, змагаром за польскую справу, будучым аўтарам «Конрада Валенрода» і «Дзядоў». У адпаведнай ступені шостая частка паэмы «Тыртэй» з гэтымі творамі вельмі моцна звязана. «Песня Тыртэя, якая заклікае спартанцаў к бою з ворагамі нагадвае сваёй галоўнай думкай «Песню Вайдэлёты» і, магчыма, сталася яе першаўзорам. Трэцяя частка «Дзядоў» паказвае на больш блізкую, канкрэтную сувязь з шостай страфой «Тыртэя»... Але раскрытыя тут сувязі «Тыртэя» з асобнымі фрагментамі важнейшых твораў Міцкевіча не з’яўляюцца, вядома, доказам генетычнай узаемазалежнасці, але сведчаць пра моцнае ўздзеянне паэзіі філаматаў на творчасць Міцкевіча. І ўздзеянне «Тыртэя» на яго паэзію з’яўляецца тым больш праўдападобным, што Чачот напісаў гэты твор менавіта ў гонар Міцкевіча і чытаў яго на імянінах паэта [2, c. 153–154].

У імянінным прысвячэнні Ян Чачот выявіў не толькі глыбокую ўласную павагу да Адама Міцкевіча, але і ўменне пісаць арыгінальныя творы паводле антычных узораў. Трэба думаць, што толькі вельмі грунтоўнае веданне антычнай літаратуры і культуры, а таксама вытанчаны мастацкі густ дазволілі паэту XIX ст. стварыць лірычную сцэнку «Сафо» і паэму «Тыртэй», у якіх ён здолеў «паказаць пагранічны пачуццёвы стан: патрыятычную боль, інтымную экзальтацыю, гераічны запал» [6, c. 63].

Найбольш удалым творам, які цесна звязаны з грэчаскай міфалогіяй, з’яўляецца «Апалон на калядаванні». Гэты твор напісаны ў форме народнай каляднай містэрыі, у падзагалоўку яго Ян Чачот абазначыў як «Вадэвіль у двух актах».

У першым акце мы бачым Апалона і Музаў на плошчы ля ратушы ў Вільні. Яны вядуць з’едлівую, жартоўную размову аб каханні. Музы нагадваюць Апа-

лону пра яго няўдалыя залёты да Дафны, якая, каб не стаць яго каханкай, ператварылася ў лаўр. Затым гутарка пераходзіць у размову аб паэзіі. Эрат скардзіцца на вялікую колькасць рыфмаплётаў і наракае на тое, што знікаюць вялікія таленты. Апалон, падтрымліваючы дыскусію, сцвярджае, што вялікую паэзію твораць вялікія падзеі:

Grumaśnice! alboż to i w dawniejszym czasie
Poetów tak zbierano, jak grzyby po lesie?
Stwórzcie drugą Helenę, drugą spalcie Troję,
To zaraz wam opieję «i męża i zbroję» [7, с. 257].

Другі акт паказвае святкаванне ў філамацкім асяродку імянінаў Адама і Тамаша. З'яўляюцца Апалон, Меркурый і Музы. Усе яны пераапрануты. Апалон выконвае ролю ксяндза. Меркурый – арганіста, Музы – калляднікаў. Апалон вітае філаматаў традыцыйным прывітаннем: «Няхай будзе пахвалёны Езус Хрыстус». Меркурый-арганіст прамаўляе навагоднія пажаданні, якія перасыпаны лацініцай і міфалогіяй.

Перад хорам Музаў выступае Адам Міцкевіч, які спявае сваю песню. Каб паказаць філаматам сваё захапленне іх паэзіяй, Апалон, Меркурый і Музы адкрываюць сябе. Апалон паведамляе, што ён добра ведае паэзію філаматаў і іх шляхетныя намеры. Даведаўшыся пра імяніны Адама і Тамаша, бог мастацтва ўзнагароджвае імяніннікаў вянкамі і прарочыць іх паэзіі вечную славу. Словы Апалона і Музаў акрэсліваюць асноўную мэту Таварыства філаматаў. Тут, відаць, выяўляецца найбольш моцны і найбольш відавочны ўплыў на паэта мастацкай традыцыі антычнасці.

Твор перасыпаны грэчаскай міфалогіяй, рэмінісцэнцыямі польскага і беларускага фальклору, паэтычнымі радкамі саміх філаматаў. Цудоўная кампактная кампазіцыя вадэвіля, выразная вобразная мова персанажаў, поўная гумару і антычнага красамоўства надаюць твору значную літаратурную вартасць і сведчаць, што гэты твор з'яўляецца значным паэтычным дасягненнем Яна Чачота.

Такім чынам, у польскамоўнай творчасці Яна Чачота антычная культура адыграла прынцыпова важную ролю, мела глыбокі эстэтычны сэнс. Антычны паэтычны матэрыял, міфалагічныя вобразы і рэмінісцэнцыі дапамагаюць найбольш поўна і ярка раскрыць жыццёвы ідэал гэтага паэта, спрыяюць найбольш поўнай і яркай перадачы душэўнага настрою Яна Чачота і яго сучаснікаў, выяўляюць пафас тагачаснай эпохі.

### *Спіс літаратуры*

1. Gacowa, H. Jan Czeczot / H. Gacowa // Literatura polska: Przewodnik encyklopedyczny. – Warszawa, 1984. – T. 1.
2. Świrko, S. Z Mickiewiczem pod rękę czyli Życie i twórczość Jana Czeczota / S. Świrko. – Warszawa, 1989. – 326 s.
3. Цвірка, К. Песня з Наваградчыны / К. Цвірка // Чачот, Я. Наваградскі замак / Ян Чачот. – Мінск: Маст. літ., 1989. – С. 5–26.
4. Цвірка, К. Яркая зорка беларускага адраджэння / К. Цвірка // Чачот, Я. Выбраныя творы / Ян Чачот. – Мінск, 1996. – С. 7–22.
5. Poezja Filomatów. – Kraków, 1922. – T. 1.
6. Допарт, Б. Творчасць Яна Чачота ў кантэксце філамацкай паэзіі / Б. Допарт // Матэрыялы канферэнцый. – Кракаў – Мінск. – 1982. – Мінск, 1992. – С. 57–77.
7. Poezja Filomatów. – Kraków, 1922. – T. 2.

**В. Еўмянькоў**

# ПУБЛІЦЫСТЫКА У. СЫРАКОМЛІ: РЭЧ ПАСПАЛІТАЯ ПРАЗ 70 ГОД ПАСЛЯ ДЗЯРЖАЎНАЙ КАТАСТРОФЫ («Podróż swojaka po swojszczyźnie»)

Публіцыстычная спадчына Уладзіслава Сыракомлі (Ludwik Kondratowicz) уключае ў сябе вялікі комплекс тэкстаў, якія да гэтага часу застаюцца па-за ўвагай беларускіх навукоўцаў. На даляглядзе айчыннага літаратуразнаўства (дзякуючы ў асноўным намаганням У. Мархеля) – першая літаратурная спроба У. Сыракомлі, гістарычнае апісанне Нясвіжа, Міра і г.д., вядомая як «Wędrówki po moich niegdyś okolicach» (Вільня, 1853 г.), а таксама манаграфічнае апісанне Мінска, падрыхтаванае для «Teki Wileńskiej» у 1857 г.

У вядомых нам беларускіх манаграфіях толькі згадваюцца «Wycieczki po Litwie – od Trok do Miednik i od Oszmiany do Kowna» (Вільня, 1857 – 1860 гг.), а таксама «Niemen od źródeł do ujścia» (Вільня, 1861 г.). Яшчэ менш звестак пра тэксты, якія датычацца падарожжаў У. Сыракомлі па Ковеншчыне і Познаньшчыне («Podróż swojaka po swojszczyźnie»). Анонс гэтых падарожных нарысаў быў апублікаваны ў 1858 г. на старонках «Gazety Codziennej» (№ 185).

Хутка з'явіўся і сам тэкст з падзагалоўкам «Letnia wycieczka po kraju Władysława Syrokomli» (1858 г., № 286–288). Аднак, па словах У. Каратынскага, апублікавана была толькі 1 частка, «<...> dalszego wszakże ciągu nie ma ani w «Gazecie Codziennej», ani w jej następczyni, «Gazecie Polskiej» [1, s. 26].

Рэдактар «Gazety Polskiej» А. Невяроўскі згадвае, што У. Сыракомля толькі абяцаў даслаць падарожныя нарысы, якія датычыліся Познаньшчыны і нават Галіцыі, але нібыта перашкодзіў гэтым планам дрэнны стан здароўя Вясковага лірніка» [1, s. 27]. Магчыма таксама і тое, што працяг сваіх падарожжаў У. Сыракомля пажадаў аддаць Адаму Кіркору ў «Кур'ер літоўскі». Зрэшты ў «Gazecie Codziennej» была надрукавана толькі тая частка тэксту, якая датычылася прыезду У. Сыракомлі ў Коўна, а падарожжа па Познаньшчыне заставалася па-за ўвагай чытачоў і – як віленскіх, так і варшаўскіх – рэдактараў.

Працяг быў знойдзены толькі пасля смерці беларуска-польскага аўтара ў яго асабістым архіве: «Tak, czy owak, w papierach po Kondratowiczu znalazł się opis pobytu w Poznańskiem, w postaci 40 luźnych kart bez nagłówka i bez jednolitej numeracji, kart różnego kroju i barwy, niekiedy przedartych i często niewiążących się z sobą» [1, s. 28]. У. Каратынскі, на якога мы вышэй спасылаемся, сведчыць, што, магчыма, лістоў у архіве было і больш, але «czy to uległy zatracie, czy też tkwią w zbiorach t. zw. «miłośników», wzięte, jako autograf» [1, s. 28].

Аднак і тое, што ўсё ж засталося ў спадчыне У. Сыракомлі, а потым было падрыхтавана да друку У. Каратынскім, прадстаўляе вялікі інтарэс як з пункту погляду даследавання краёвага / літвінскага феномену ў польскай культуры XIX ст., так і феномену самога У. Сыракомлі як польска-беларускага аўтара.

Пры аналізе «Swojaka» найперш звяртае на сябе ўвагу культурная раздвоенасць аўтара нарысаў. З аднаго боку, у яго свядомасці існуе палітычная Бацькаўшчына – дападзельная Рэч Паспалітая; з другога боку, дамінуе родная Літва. Так, у прадмове да чытача Л. Кандратовіч адзначае: «Pragnąłem poznać naszą

ziemię w jej dawnych granicach, pomodlić się na Wawelu, uczcić groby prymasów w Gnieźnie, napić się goplańskiej wody w Kruszwicy» [1, s. 10]. І ў той жа час, падарожнічаючы па былому Каралеўству, Л. Кандратовіч з сумам згадвае «сціплую, ціхамірную і патрыярхальную Літву», не забываючыся адзначыць тое, што «tu, na polskiej stronie Niemna, wszystko odmienne niż u nas». І нават, піша Сыракомля, «<...> śpiew ptaszka, podobny do słowika, a jednak się różniący tonami, których nie słyszałem na Litwie» [1, s. 73].

Літва, якая пад Мінскам і Навагрудкам, успрымаецца паэтам як родны дом. Параўноўваючы Вялікапольшчу з «Айчынай любай» (якая, як і ў А. Міцкевіча, сімвалізуе Нёман / своеасаблівы літвінскі Іардан), У. Сыракомля адзначае безумоўныя перавагі і ў эканамічным, і ў культурным развіцці тамтэйшых гарадоў і вёсак. Аднак Літва па-ранейшаму не пакідае сэрца паэта, і ён увесь час задаецца пытаннем: «Co tam u nas – na Litwie?».

Замілаванне выключна этнічнай Радзімай у яго свядомасці як бы ўступае ў балючы канфлікт з гістарычным сумленнем «польскага грамадзяніна», які павінен памятаць не толькі пра «малое племя», але і пра ўвесь народ:

Śpiewałem naprzód moją Litwę drogą,
Jej pola, wioski, jej lud uznojony,
Jej ciche dworki, kościołki, cmentarze, <...>
Ale, ziomkowie! zasługa w tem mała,
Bo nasza ziemia nie w Litwie się kończy.
Nasza rodzina przy Dniestrze, przy Wiśle,
Gdzie płynie Warta, gdzie Karpaty dymią... [1, s. XVII].

Адсюль і адна з важных місій У. Сыракомлі – рэвізія межаў былой дзяржавы, а таксама сцверджанне таго, што духоўная Рэспубліка, у адрозненне ад па-літычнай, усё яшчэ існуе і мае перспектыву будучага ўваскрашэння (канцэпцыя «Пілігрыма польскага» А. Міцкевіча). Гэтай місіяй абумоўлена і настойлівае абуджэнне гістарычнай памяці «палякаў» праз «прывязанне» тых або іншых мясцовасцей да славутых у мінулым падзей або дзеячоў. Так, заехаўшы ў Вінногуру, У. Сыракомля згадвае дзедзіча тутэйшых вёсак генерала Дамброўскага, не забываючыся падкрэсліць ролю гэтай асобы ў гісторыі краіны.

У. Сыракомля выступае як бы ў ролі своеасаблівага Калумба, які адкрывае для літвінаў Вялікапольшчу. «Moi bracia Litwini dotąd może nie wiedzą, że Polska od lat niepamiętnych miała swe winnice» [1, s. 86]. Пры гэтым у некаторых выпадках апісанне тых або іншых мясцовасцей прызначана для канкрэтнага адрасата на Радзіме. Напрыклад, падарожнічаючы па Познаньшчыне на цягніку У. Сыракомля заўважае знаёмыя назвы прабягаючых за акном населеных пунктаў: «Minęliśmy Bojanowo, gniazdo rodu Bojanowskich herbu Junosza, gniazdo twojego rodu, zacny mój sąsiedzie Borejkowszczyzny pod Wilnem, kapitanie Janie Bojanowski!» [1, s. 20].

Наогул Познаньшчына пакідае сумнае ўражанне на У. Сыракомлю. Вінавата ў тым гвалтоўнае і, як здаецца, незваротнае анямечванне краю. «Mój Boże! czyż to Poznań?» – задае рытарычнае пытанне падарожны і з іроніяй заўважае: «Nawet jaskółka, co z tamtej strony okna wiła swe gniazdko, zdawało mi się, że szczebiocze po niemiecku...» [1, s. 39].

Адзначым таксама і тое, што «рэвізія» былых рэчпаспалітаўскіх земляў дае, хутчэй, адмоўны вынік. Галоўная выснова падарожжа У. Сыракомлі: дзяржаўная катастрофа, якая адбылася на прыканцы XVIII ст., непазнавальна змяніла аблічча ўсіх рэгіёнаў былой Рэспублікі.

1. Пальшчызна, як кансалідуючае моўнае і культурнае асяроддзе «сармацкіх стагоддзяў», саступіла месца нацыянальным культурам раней «малых» народаў («русінская» пад Мінскам і «ўласна літоўская» культура з-пад Коўна). Так, У. Сыракомля са здзіўленнем адзначае той факт, што на Ковеншчыне «lud tutejszy, jak niemal w całem Augustowskiem, mówi wyłącznie po litewsku; po polsku mało rozumie i nieochoczo mówi tym językiem; gotów nawet udawać nieumiejętność, chociażby go posiadał» [1, s. 25]. Яшчэ горшая сітуацыя ў Вялікапольшчы, якую «акупіравала нямеччына» – ды так, што нават пробашчы каталіцкіх касцёлаў «не ўмеюць па-польску».

2. Знішчаны палітычны інстытут шляхецкага самакіравання. Ад залатых некалі вольнасцей аўгустоўскай эпохі, сведчыць У. Сыракомля, засталіся толькі пакрытыя павуццем памяткі аб сеймах ды анекдоты пра зухаватыя ўчынкі вялікіх і малых паноў: «Opowiadano mi anegdotę, która, jak zwykle anegdota, nie ma daty i szczegółów. Szlachcic Korytnicki, zaskoczony od stronników przeciwnej partii, sześciu braci Swiniarskich, widząc grożące periculum od sześciu szablic, przyparł się do framugi muru i krzyknął: Nie hurmem! nie hurmem! ale po jednemu świnie do koryta» [1, s. 93].

3. Занядбана гістарычная памяць «палякаў» – тая адзіная прастора, якая аб’ядноўвала жыхароў былой Рэчы Паспалітай яшчэ на пачатку XIX ст. Па-першае, амаль ніводны дзедзіч, а таксама пробашч касцёла не распавялі пра гісторыю сваёй зямлі або парафіі (гэта датычыцца, галоўным чынам, Познаньшчыны). Па-другое, апошнія сведкі Рэчы Паспалітай памёрлі якраз у 1840-я – 1850-я гг., а гэта значыць, што «шляхецкая дэмакратыя» засыпана вялікапольскім жвірам гэтак жа, як засыпаны ім і легіянеры Дамброўскага. Па-трэцяе, маладое пакаленне «палякаў» не цікавіцца гісторыяй свайго народа. Лепшае сведчанне таму, гісторыя з ушанаваннем памяці самога генерала Дамброўскага: «Serce mi się ścisnęło na wiadomość, że Dąbrowski na grobie swoim nie tylko pomnika, ale nie ma nawet napisu, że trumna jego znajduje się w sklepie tak wilgotnym i zapowietrzonym, iż, chcąc do niego wejść, należy trzema dniami naprzód go przewietrzać...» [1, s. 78]. Па словах У. Сыракомлі, прыкрую абыякавасць да памяці Дамброўскага адлюстроўвае яго сын, які бавіць час за мяжой і не цікавіцца справамі Бацькаўшчыны (своеасаблівы К. Лятальскі з «Ідыліі» В. Дуніна-Марцінкевіча).

Разам з тым, мэта падарожжаў У. Сыракомлі – не канстатацыя невылечнай хваробы краіны, а пошук лекаў ад яе. У прадмове да першай часткі сваіх падарожжаў ён згадвае: «Jedźmy zwiedzać Wschód i Zachód, nim one do nas koleją żelazną nie przyjadą. Rzucajmy na całe lato nasze sianokosy i żniwa, aż nim Francuz, Anglik, a nade wszystko Niemiec nie przyjadą eksploatować naszych pól i sianożęci, naszych lasów, rud żelaznych i torfowisk i w oczach naszych zbogacać się naszemi bogactwy!» [1, s. 8].

Л. Кандратовіч настойліва прапаноўвае палякам і літвінам спачатку зведаць сваю зямлю (ад Літвы да Карпат), пакінуць захапляцца чужымі культурамі і вярнуцца да свайго народа. Інакш – магчымасць уваскрашэння дзяржаўнай спадчыны Касцюшкі і Дамброўскага будзе страчана назаўжды. Заўважым, што тыя ж самыя лекі прапаноўвалі і іншыя беларуска-польскія аўтары – Ф. Карпінскі («Чынш»), А. Міцкевіч («Пан Тадэвуш»), В. Дунін-Марцінкевіч («Ідылія»).

*Такім чынам,* ідэалогія вяртання да «свайго» вызначае ідэйны змест падарожных нарысаў У. Сыракомлі. Заўважаючы занядбанасць помнікаў архітэктуры, паняверку грамадзян (як на Літве, так і ў Польшчы), Вясковы лірнік выступае ў ролі палымянага публіцыста, мэта якога – абудзіць суайчыннікаў ад «праклятага сну».

*Спіс літаратуры*

1. Syrokomla, W. Podróż swojaka po swojszczyźnie / W. Syrokomla. – Warszawa: Warszawska spółka nakładowa, 1914. – 134 s.

**Е. Билютенко**

## ЖЕНСКИЕ ОБРАЗЫ В РОМАНЕ ЭЛИЗЫ ОЖЕШКО «НАД НЕМАНОМ» (в свете поисков идеала)

Роман «Над Неманом», который Элиза Ожешко назвала «самым большим своим триумфом» [4, с. 2], занимает центральное место в творческом наследии писательницы. Отличающееся высокой художественностью произведение стало опознавательным знаком писательницы. Написанный к двадцать пятой годовщине Январского восстания 1863 года, роман поднимал актуальные проблемы политически несвободного польского общества. Сначала Ожешко хотела озаглавить свой роман как «Мезальянс». Такое заглавие связывалось с очень важными «социальными детерминантами»: проблемой эмансипации женщины, ее социальной роли и положения в семье. Отказавшись позднее от «Мезальянса» в пользу «Над Неманом», Э. Ожешко подчеркнула мотив Немана как универсальный, в большей степени концентрирующий идейно-тематическое богатство произведения. Вместе с тем названные проблемы, неразрывно связанные с идейным замыслом, играют исключительно важную роль в концепции художественной действительности в романе.

Следует помнить, что во второй половине XIX века во главе движения эмансипации женщин в Польше стояла именно Ожешко. Своей предшественницей на этом поприще она считала знаменитую представительницу движения «энтузиасток» Нарцизу Жмиховскую (1812 – 1876) – всесторонне образованную учительницу, писательницу, создательницу одного из лучших романов эпохи романтизма «Язычница» (1846)[1] . Ожешко как личность и как писательница сформировалась в другой эпохе духовной жизни польского общества (в последовавшей за романтизмом эпохе позитивизма) и принадлежит к иной парадигме по-

[1] В 40-х годах XIX века первые польские эмансипантки, так называемые «энтузиастки», объединились вокруг «Пшэглёнду науковэго», издаваемого Ипполитом Скимбровичем. «Энтузиастки» имели не только интеллектуальные и политические амбиции, но пытались также участвовать в формировании общественного мнения. Ожешко и Жмиховская пересеклись во времени, но нет сведений, встречались ли они лично. Жмиховская первой выдвинула программу самореализации женщины, отстаивая ее право на образование и профессиональный труд. Женщина, по мнению Жмиховской, должна была быть готовой к новой роли в обществе и вместе с тем, обладая большей по сравнению с мужчиной экзистенциальной чуткостью, оставаться именно женщиной. Габриэлла (псевдоним Жмиховской) хотела для женщины счастья, осуществления тех ее стремлений, на которые традиционная система воспитания накладывала самые строгие ограничения. Впрочем, согласно этой программе, женщина не должна была вторгаться в области общественной жизни, исконно принадлежавшие мужчинам, – политику, дипломатию, власть и пр.

нимания женственности. Новые концепции и социальные программы, появившиеся после поражения Январского восстания, определяли роль женщины прежде всего в границах такого социального организма, как семья. Данута Марковская утверждает, что ни одна фракция польских эмансипанток – даже самая радикальная – не подвергала сомнению «домашне-семейную» роль женщины. Польские эмансипантки добивались для нее образования и профессиональной подготовки, требовали уважения к ее роли женщины и матери, однако крайний феминизм был им чужд [3, с. 205]. Неприятие социальной революции, страх перед космополитизмом и, прежде всего, политическая ситуация народа в неволе – ограничили круг требований польских эмансипанток и надолго определили характер женского движения в Польше, которое сконцентрировалось больше на теоретических рассуждениях. В публицистике и художественной литературе рассматривались и оценивались различные образцы женского поведения. Поэтому неудивительно, что первыми эмансипантками были женщины-писательницы.

Главной поборницей прав женщин в Польше в первой фазе движения, как уже было сказано, была Э. Ожешко. Обращаясь к социальным взглядам Г. Спенсера и Д.С. Милля, она и в публицистических статьях, и в художественных произведениях писала о месте женщины в обществе: об образовании, о профессиональной деятельности, о роли женщины в семье. Семье польские позитивисты вообще отводили особую роль, поскольку речь шла о несвободном политически обществе, где все иные социальные институты находились под сильным прессингом. Ожешко поднимала проблемы воспитания девушек в ранней статье «Несколько слов о женщине» (1870) и статье «О польской женщине» (1891), написанной для сборника Стантона о женщинах Европы. Писательница обращала внимание на гармоничное, «разумное» воспитание девушек: их подготовку к семейной жизни и к активной роли в жизни общества, путем открытия профессиональных школ для девушек. Программа действия Ожешко концентрировалась главным образом на популяризации идеи профессионального образования и определении роли женщины в семье. Эту программу она мотивирует и пропагандирует в своем литературном творчестве.

В романе «Над Неманом», поднимая проблему женской эмансипации, рассуждая о выборе жизненного пути своих героинь, Э. Ожешко представила галерею различных женских типов. Создавая женские образы, писательница использует традиционную, присущую ее ранним произведениям методику характеристики, предполагающей тесную связь между героем и детерминирующими его факторами: биологическим, а также историческим и социальным, связанными с определенным характером воспитания. Каждая из героинь принадлежит к определенной социальной общности. Аристократки представлены трагическим образом вдовы Анджея Корчинского, замкнувшейся в пассивной памяти о любимом муже-повстанце и воспитавшей сына-космополита. Рядом с ней юная Клотильда – женщина-ребенок, женщина-лиана, неспособная к самостоятельной жизни. Представительницу поместного дворянства Эмилию Корчинскую легко представить адресаткой популярного в Польше в эпоху позитивизма стихотворения Марии Конопницкой «Женщине», иронично названного Гражиной Борковской «антитезой программы эмансипации» [2, с. 152]:

Posłuchaj! Kocham – to nie znaczy wcale:
«Chcę być pieszczoną w twym domu królową,
Chcę iść przez życie drogą kwieciem słaną...

Chcę żyć z twej pracy i z twego potu...
Chcę, byś był moim cieniem, moim echem,
Odpowiedzialnym za mnie niewolnikiem...» [Цит. по: 7, с. 14].

Как и Конопницкая, Ожешко выступает в «Над Неманом» против пропагандированных в популярной литературе эгоистичных и далеких от подлинной жизни ожиданий женщин, стремящихся найти в браке только личную выгоду и удовольствие. Писательница отказывается от традиционного образца поведения, согласно которому женщина изолирована от экономических и социальных проблем и живет в искусственном мире в полной зависимости от мужчины. Эмилия, сделав из своей женственности культ, живет в замкнутом «патогенном» пространстве, переходя с кровати на кушетку и с кушетки на кровать, не видит благородной красоты окружающей ее природы, не знает и не хочет знать, что происходит за пределами ее искусственного мира, редуцированного до двух любимых комнат, уставленных любимыми вещами. Такое поведение Эмилии – результат неправильного воспитания, которое угрожает также ее дочери Леоне.

Особая роль отведена в романе Юстыне Ожельской – главной героине лирического плана, которая, как и Марта, является представительницей обедневшего поместного дворянства. Шляхтянка по происхождению, она находит в себе смелость переступить границы своего сословия и связать свою жизнь с хлеборобом, по сути, мужиком Яном Богатыровичем. Характеризуя эту героиню, Ожешко особенно много внимания уделяет модной в литературе XIX века патогномике. С самого начала романа писательница подчеркивает, что в этой девушке «*довольно высокого роста*» соединились черты барышни из высшего общества и девушки из крестьянской среды. *«Ее черное шерстяное платье, очень скромного, но модного покроя, сшитое, несомненно, искусной рукой, прекрасно подчеркивало стройные линии ее сильной фигуры: она была широка в плечах и тонка в талии. Судя по манере держаться и нежной свежести ее лица, она получила, вероятно, очень тщательное и даже несколько тепличное воспитание. Однако в ее жестах и движениях чувствовалась излишняя резкость и даже какая-то нарочитая грубоватость»*. Юстына «*смело подставляет под жгучие лучи полуденного солнца и голову, обвитую черной косой, и смуглое лицо, на котором выделялись большие серые глаза и алый рот. Все это поражало тем более, что гордая манера держать ничем не прикрытую голову и сдвигать темные брови придавала ей смелый и независимый вид. Вообще эта барышня или деревенская девушка, которой было лет двадцать с небольшим, казалась воплощением женской красоты, здоровой и полной силы, но надменной и угрюмой. В ее молодом и свежем лице не было той ясности, которую придает счастье или покой смирения, хотя сейчас оно сияло тем чисто физическим оживлением, каким наполняет человека, еще не совсем опустошенного жизнью, длительное и свободное общение с природой*» [6, с. 11].

Каждая деталь в этом описании несет смысловую нагрузку, является сигналом. Из того, как уверенно держит голову героиня, как сводит темные брови над серыми глазами, цвет которых говорит о спокойном, уравновешенном характере, следует, что Юстына – девушка гордая (хотя и несколько угрюмая) и смелая. В ее лице всегда читается серьезность и задумчивость. Алые губы, которые в момент волнения бледнеют, свидетельствуют о чувственности, исключающей, однако, несдержанность. Румянец на смуглых щеках, загорелые руки и вся фигура молодой женщины, чаще всего подчеркнуты черным платьем, прекрасно

облегающим ее «*сильный и стройный стан»* [с. 31], свидетельствуют о силе и здоровье. Красота Юстыны, по мнению польского исследователя творчества Ожешко, профессора Юзефа Бахужа, «не журнальная или оранжерейная, блещущая только при определенной температуре и при специальном уходе. Это красота при любой погоде» [1, с. LXXXIII].

Как окажется позднее, ни один из этих сигналов не обманет в романе. Поступки и слова Юстыны подтвердят все достоинства, подчеркнутые Ожешко во внешнем облике героини. Такая писательская практика находилась в русле традиций любовных романов, в которых авторы стремились отразить «следы страданий», «былых страстей» в чертах лица героя. Кроме того, Ожешко была убежденной сторонницей наличия связи между внутренней жизнью героя и его социальной позицией, что, как мы видим, проявляется в создании женских образов в «Над Неманом».

Отсутствие негативных характеристик в образе Юстыны не случайно. Главную героиню лирического плана и ее избранника Яна Богатыровича писательница поведет по стопам героев мифа о Яне и Цецилии – легендарных прародителей Богатыровичей. При этом используется прием параллелизма, подчеркивается сходство социального положения мужчины и женщины: Ян из народа, а Юстына хотя и обедневшая, но все-таки шляхтянка и принадлежит к более высоким социальным слоям. Наднеманская могила XVI века является у Ожешко символом любви мужчины и женщины, любви к земле, символом созидательного труда, символом демократизма – наиболее важных мотивов в идейном звучании романа. Гербовая легенда рода Богатыровичей приобретает в романе статус мифа: могила Яна и Цецилии – это художественно созданный символ архетипа польского народа. Героям лирического плана доверена важнейшая функция – реализовать миф в современности, реактуализировать архетип. Поэтому, как и в представлении Яна и Цецилии, в характеристике Яна и Юстыны полностью отсутствуют отрицательные качества. Герои нравственно и физически совершенны.

Благодаря Яну, Юстына на Могиле повстанцев 1863 года переживет таинство причащения к живительной, возрождающей силе традиции народа, погрузится в неведомые ей до сих пор чувства и мысли. «*Ни разу в жизни не видела она тех молний, которые с подоблачных высот идеалов пронзают души обитателей земли. Ни разу не видала она летящей к небу стрелы героя. Никогда не слыхала она о мужестве, самоотвержении, о добровольной смерти во имя идеи, борьбе, которые не измерялись бы известным количеством моргов земли или счастьем отдельных лиц, а преследовали бы более высокие цели – интересы человечества, народа, идеи»* [с. 196]. Юстына вернется с Могилы возрожденная для новой жизни, дав не произнесенную вслух присягу верности идейному завещанию полегших повстанцев.

Как и героини ранних повестей Ожешко, как и сама писательница, героиня любовной линии «Над Неманом» свое знание о том, что в жизни самое важное, жизненный опыт, получает ценой болезненных ошибок и разочарований. Она просто задыхается в «патогенном» пространстве салона Эмили Корчинской, где царит праздность, разыгрываются флирты и где она чувствует себя как в клетке. Именины Эмилии в начале романа служат претекстом, чтобы показать всю поместную шляхту и аристократию. Над именинным столом перекрещиваются взгляды двух мужчин, пристально смотрящих на Юстыну: тяжелый, хмурый, упрекающий – Зыгмунта, который хочет вернуть любовь красавицы кузины, и

сначала скучающий, затем все более настойчивый, а после дозы морфия и вовсе дерзкий и наглый – Ружица, беспардонные ухаживания которого оскорбляют девушку. Поспешно покидая салонное общество, героиня выходит на символическую полевую тропинку, которая через «ржаной бор» навсегда уводит ее от прежней жизни, от всего, что «мучило, ранило и унижало» [с. 76].

Ожешко настойчиво подчеркивает, что в жизни салона невозможно найти добродетель, любовь и счастье. Среди тех, от кого уходит Юстына, нет счастливых. Но то, что явно отсутствует в дворянском поместье, героиня находит в Богатыровичах – анклаве свободы и нравственного здоровья в романе, где «разделение ролей на женские и мужские выглядит ... совершенно обоснованным. Оно соответствует природе и проверено многими поколениями» [1, с. LXXXIV]. Уход из дворянского поместья в мужицкую хату Анзельма и Яна Богатыровичей не означает у писательницы социальной и тем более нравственной деградации героини. Традиции и обычаи возлагают здесь на женщину не только многочисленные обязанности, но и обеспечивают ей чувство собственного достоинства и безопасности. Здесь нет места салонным куклам, нет и женской дискриминации. Только в Богатыровичах Юстына впервые дышит полной грудью. Поскольку жизнь женщины здесь не связана с борьбой за свои права и не редуцируется до функции декоративной и бесполезной, то и женственность Юстыны раскрывается во всей полноте. Ее жизнь в Корчине, несмотря на хорошее отношение хозяев, сводилась к бесплодному, нудному и пустому существованию, которое разнообразили только унизительные события, связанные с Зыгмунтом. Будущее, предлагаемое ей по неписаному кодексу того общества, к которому она принадлежит по происхождению, – это либо продать себя и выйти замуж за нелюбимого человека, который обеспечит ей достаток и социальное положение, либо остаться старой девой и занять в Корчине место Марты и «стать, как все». Юстына защищается от такой перспективы, от положения, в котором она не может быть сама собой. Скованная и хмурая, она часто напоминает дикарку, которой ее непокорная природа велит быть неуступчивой и бдительной.

Профессор Бахуж пишет: «Уравнивая мужчину и женщину, представляющих околицу Богатыровичи, вправе самим выбирать свою судьбу и жить достойно, Ожешко смелее, чем в других произведениях, представляет в Юстыне женственность как особый род впечатлительности, особое видение мира, определенные женские мечтания и ожидания. Как будто хотела в образе Юстыны воплотить свою собственную – выраженную в корреспонденции со многими людьми – тоску по воплощению в женщине эмансипированной атрибутов идеи «вечной женственности». Характеристики такой женственности складываются в «Над Неманом» в определенную сумму черт и стремлений, традиционных в литературе XIX века, предшествовавшей феминистическим баталиям. В любом случае, идеал женщины в «Над Неманом» не имеет ничего общего с требованиями и манифестами тех феминисток, которые, ссылаясь на Жорж Санд, демонстрировали свою независимость от сложившегося общественного мнения и нарушали социальные табу [см. об этом: 1, с. LXXXVI].

В надеждах Юстыны как женщины, помимо довольно расплывчато представленной в будущем работы, отчетливо прослеживается стремление найти счастье в семье, рядом с сильным, добрым и любящим мужчиной. В такой, «феминистической перспективе» (Бахуж) даны в «Над Неманом» образы героев, претендующих на любовь главной героини, воплощающей идею женственнос-

ти. Реалистически мотивируя выбор девушки, образ ее избранника Ожешко создает на основе принципа контраста. Красивый и добрый, высокий и складный, Ян кажется Юстыне «олицетворением смелости» и «зрелой мужской силы» [с. 83]. Предавший ее Зыгмунт вызывает болезненные воспоминания. Физически слабый наркоман Теофиль Ружиц, «щеголь с болезненным телом и атласными руками» и расстроенными нервами, – смущение и неприязнь. На их фоне Ян Богатырович явно выигрывает. Сам вид его воздействует на психику страдающей девушки как лекарство. Только рядом с Яном всякий раз, когда они остаются вдвоем, Юстына испытывает состояние спокойной и доверчивой радости. Ее радуют движения его сильной и жесткой ладони, даже его беспомощность в признании. Во всем этом она открывает для себя настоящего мужчину, рядом с которым знакомые молодые дворяне с ухоженными руками и актерскими манерами отступают на второй план.

Таким образом, героиня выбирает себе в мужья сильного, физически и нравственно красивого мужчину. Околица Богатыровичи становится для Юстыны превосходной душевной терапией, потому что здесь ей обеспечены защита ее человеческого достоинства и чувство безопасности. Следуя идее самоограничения, героиня, воплощающая здоровую и полную силы женскую красоту, делает «разумный» выбор: отвергает «блестящую партию», отказывается от высокого положения в свете и выходит замуж за мужика, вступая в безнравственный, по мнению Зыгмунта, союз.

В «Над Неманом» Ожешко отождествляет эмансипацию с принятием на себя женщиной новых обязанностей и ответственности. По-прежнему являясь хранительницей домашнего очага, она еще и верная подруга, и опора для любимого мужчины, но в браке, который строится на настоящей любви, основанной на уважении к человеку, который этого заслуживает. Пропагандируя идеал женщины-человека и особый образец этики отречения, Ожешко идеализирует союз, в котором любовь не является единственной целью жизни, а сила страсти не изолирует любящих от общества. Осуществление такого идеала мог обеспечить только выбор соответствующего партнера, но такой выбор требует, чтобы женщина была достаточно зрелой, подготовленной к такому выбору воспитанием и самой жизнью, подобно Юстыне, которая знание о том, что в жизни самое важное, получает ценой болезненных ошибок и разочарований. Ожешко, как и Конопницкая в уже цитированном стихотворении, представляет не роль женщины в целом, но именно идеальный образец:

«Kocham ciebie» – to znaczy: Chcę z tobą
Podźwignąć ciężar, co się życiem zowię,
Być domu twego światłem i ozdobą
I nieść ci pokój i ciszę i zdrowie.
«Kocham» – to znaczy: Twoje ideały
I twoje cele są także mojemi.
Pracujmy razem, by rozświt dnia biały
Prędzej rozbłysnął na ziemi! [7]

Писательница внушает мысль, что условием достижения удовлетворения в семейной жизни является сознание реализации более широких, более общих целей. Любовь и брак должны стать источником не только счастья, но и «поприщем для выполнения миссии», поскольку «из благополучия семей как звеньев вырастает благополучие общества как цепи» [цит. по: 6, с. 210].

Таким образом, лучший роман Э. Ожешко «Над Неманом» – как и предшествовавшая ему публицистическая и литературная деятельность, особенно в 70-е годы и позднее, на пограничье 80-х и 90-х годов XIX века, когда в польской литературе появляются такие значимые реалистические романы, как «Кукла» и «Эмансипантки» Б. Пруса, «Семья Поланецких» Г. Сенкевича, – неразрывно связан с поисками решения одной из важнейших социальных проблем в Польше во второй половине XIX века – женской проблемы. Представляя галерею женских типов в романе, Ожешко ищет и находит свою идеальную героиню – Юстыну Ожельскую, воплотившую и идею «вечной женственности», и наиболее значимые составляющие парадигмы женского идеала в программе эмансипации писательницы.

### *Список литературы*

1. Bachórz, J. Wstęp / J. Bachórz // Orzeszkowa, E. Nad Niemnem. – Wrocław: Ossolineum, 1996. T.1. – S. III – CXLVI.

2. Borkowska, G. Reguła i wyjątek / G. Borkowska // Cudzoziemki. – Warszawa, 1996.

3. Długosz, W. Mikroświat erotyki w «Nad Niemnem» / W. Długosz // Wokół «Nad Niemnem», pod red. J.Sztachelskiej. – Białystok, 2001. – S. 91–100.

4. Markowska, D. Dom – twierdza tożsamości / D. Markowska // Dom we współczesnej Polsce. – Warszawa, 1992.

5. Orzeszkowa, E. O sobie / E. Orzeszkowa. – Warszawa, 1974.

6. Ожешко, Э. Над Неманом / Э. Ожешко. – Минск, 1985. (Фрагменты текста романа цитируются по данному изданию, в скобках после цитаты указана страница).

7. Zacharska J. Początki emancypacji kobiet w literaturze polskiej / J. Zacharska // O kobiecie w literaturze przełomu XIX i XX wieku. – Białystok, 2000. – S. 9–20.

8. Z teki pośmiertnej Elizy Orzeszkowej, Małżeństwo // Przegląd Powszechny. – 1911, t. 112. Cyt. za: Romankówna, M. Na nowych drogach. Studia o E. Orzeszkowej / M. Romankówna. – Kraków, 1948.

**А. Бельскі**

## АСЭНСАВАННЕ ТВОРЧАЙ СПАДЧЫНЫ М. БАГДАНОВІЧА Ў ПРАЦАХ М. ЛАРЧАНКІ, С. АЛЕКСАНДРОВІЧА, А. ЛОЙКІ

Сёння багдановічазнаўства зацвердзілася як асобная галіна беларускай літаратурнай навукі і налічвае шматлікія даследаванні [10, с. 297; 11, с. 398–399]. Цікавасць крытычнай і літаратуразнаўчай думкі да творчасці М. Багдановіча выявілася яшчэ пры яго жыцці, на пачатку XX стагоддзя, пра што засведчылі публікацыі С. Палуяна, А. Навіны (Луцкевіча), Л. Гмырака, А. Пагодзіна, І. Сянціцкага, А. Чэрнага і інш. Надзвычай плённым быў зварот да творчай спадчыны паэта прадстаўнікоў беларускай культурна-гістарычнай школы ў 1920-я гг. (І. Замоцін, Я. Барычэўскі, А. Вазнясенскі, М. Піятуховіч, А. Бабарэка і інш.), якія прадэманстравалі глыбокае навукова-тэарэтычнае і мастацка-эстэтычнае асэнсаванне творчых пошукаў і здабыткаў М. Багдановіча, заклалі ў нашым літаратуразнаўстве грунтоўныя асновы для вывучэння яго жыцця і творчасці. Аднак у хуткім часе прадуктыўная фаза ў даследаванні літаратурнай спадчыны пісьменніка скончылася, паколькі кардынальна змянілася грамадска-культурная парадыгма, якая характарызавалася ўсталяваннем ідэалагічна-класавага падыходу да ацэнак з'яў і фактаў мастацтва. У беларускай крытыцы і літаратуразнаўстве

1930-х гг. склаліся тэндэнцыйныя, скажоныя погляды на творчасць М. Багдановіча, вульгарна-сацыялагічныя падыходы да яе інтэрпрэтацыі. Яго літаратурная спадчына ў канцэпцыях Л. Бэндэ, А. Кучара і некаторых іншых крытыкаў-вульгарызатараў разглядалася як буржуазна-нацыяналістычная, дэкадэнцка-песімістычная, варожая рэвалюцыйна-пралетарскаму мастацтву. М. Багдановіч залічваўся да прыхільнікаў ганебнай тэорыі «мастацтва для мастацтва». Праз абвешчаную ідэалагічную шкоднасць творчасці паэта яго імя на працяглы час у Беларусі апынулася не ў пашане, значнасць, маштаб і роля яго мастацкіх здзяйсненняў недаацэньваліся. Выключэнне складаюць асобныя працы, напісаныя напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны, сярод іх – кандыдацкая дысертацыя Р. Жалязняка пра М. Багдановіча, якую малады вучоны абараніў у 1940 г. у Ленінградскім дзяржаўным універсітэце.

І толькі ў першыя пасляваенныя гады былі зроблены спробы маральнай і творчай рэабілітацыі асобы М. Багдановіча. Належыць яна літаратуразнаўцу М. Ларчанку (1907–1981). На той час ён загадваў кафедрай беларускай літаратуры БДУ і адначасова быў дэканам філалагічнага факультэта гэтага ж універсітэта. Як крытык і літаратуразнавец ён выступаў у друку з пачатку 1930-х гг. Першая значная публікацыя М. Ларчанкі пра М. Багдановіча з'явілася ў 1939 г. у газеце «Літаратура і мастацтва» – «Творчасць Максіма Багдановіча». У 1940 г ён выступіў у якасці рэдактара «Выбраных твораў» М. Багдановіча, на пачатку гэтага выдання змешчана яго прадмова «Творчасць М.А. Багдановіча». У пасляваенны час М. Ларчанка па сутнасці першы звярнуўся да вывучэння і асэнсавання творчасці М. Багдановіча. У 1947 г. да 30-годдзя з дня смерці паэта ён надрукаваў артыкул на рускай мове «Максим Богданович». Яго брашура «Творчасць Максіма Багдановіча» – стэнаграма публічнай лекцыі, прачытанай у Мінску. Гэтай працай вучоны адхіляў ранейшыя адмоўныя ацэнкі вульгарна-сацыялагічнай крытыкай асобы і паэзіі М. Багдановіча, погляды на яго з класавых пазіцый як на прадстаўніка буржуазнай літаратуры, буржуазнага эстэта і да т.п. Аўтар гаворыць пра М. Багдановіча як паэта вялікага арыгінальнага таленту, падкрэслівае патрыятычны і грамадзянскі пафас творчасці, сувязь яго паэзіі з народнай культурай, з лепшымі традыцыямі класічнай рускай і сусветнай літаратуры, запыняецца на разглядзе філасофскай і інтымнай лірыкі паэта, матывах услаўлення красы прыроды, кахання, маладосці, суадносінах элегічнага і аптымістычнага пачаткаў, адзначае высокую вершаваную тэхніку і разнастайнасць формаў лірычнага верша.

У манаграфіях «На шляхах да рэалізма» (1958), «Па шляху да рэалізма» (1959), прысвечаных станаўленню рэалістычнай літаратуры, М. Ларчанка выходзіць і на характарыстыку творчасці М. Багдановіча. У адпаведнасці з канцэпцыяй рэалізму як перадавога і вядучага мастацкага метаду выказваюцца погляды на М. Багдановіча і яго літаратурную дзейнасць, пры гэтым праяўляецца класавы падыход вучонага. У ацэнках і высновах М. Ларчанкі выразны адбітак гісторыка-літаратурных схем савецкага часу. М. Багдановіч, на яго думку, пісьменнік, які кіраваўся ў «творчай практыцы эстэтыкай рэалізма і народнасці», імя паэта рэабілітуецца праз далучэнне да кагорты тых, каго ён называе «страснымі абаронцамі крытычнага рэалізма» [4, с. 25]. Сцвярджаецца, што «часткова ў рэалізме М. Багдановіча пачынаюць узнікаць і паступова фарміравацца элементы сацыялістычнага рэалізма» [5, с. 239]. Пры вызначэнні гісторыка-літаратурнага значэння творчасці В. Дуніна-Марцінкевіча аўтар абапіраецца на эстэтычны вопыт М. Багдановіча, цытуе яго артыкул «Белорусское возрождение».

У манаграфіях М. Ларчанкі «Славянская супольнасць» (1963), «Яднанне братніх літаратур» (1974), «Жывая спадчына» (1977), «Літаратурнае пабрацімства славян» (1984) даследуюцца ўзаемасувязі беларускай літаратуры (у тым ліку на матэрыяле творчасці М. Багдановіча) і літаратур славянскага свету, ствараецца шэраг тыпалагічных кантэкстаў. Аўтар гаворыць пра М. Багдановіча як пачынальніка беларускага гісторыка-параўнальнага літаратуразнаўства, першага даследчыка славянскіх літаратурных узаемасувязей, падкрэслівае ролю М. Багдановіча ў станаўленні ідэі параўнальнага вывучэння літаратур, адкрыцці для беларускага чытача нацыянальных літаратур суседзяў-славян. Ён адзначае: «Праблема славянства ў цэлым, жыццё, гістарычны лёс асобных славянскіх плямён і народнасцей, іх культура, мова, вусная творчасць і літаратура, іх барацьба за самастойнае існаванне вельмі моцна прыцягвалі ўвагу Максіма Багдановіча» [3, с. 119]. Творчасць М. Багдановіча разглядаецца ім у кантэксце рускай, украінскай, польскай і чэшскай літаратур. Аўтар прасочвае творчыя ўплывы на М. Багдановіча і яго паэзію А. Пушкіна, М. Лермантава, М. Някрасава, Т. Шаўчэнкі і іншых паэтаў, адзначае тыпалагічную агульнасць і падабенства пафасу, вобразаў, матываў, інтанацый, стылёвых рыс, падкрэслівае творчы характар засваення М. Багдановічам мастацкіх традыцый і іх плённае ўзбагачэнне. Ён паказвае духоўную еднасць паэта са славянскім светам, раскрывае шырыню яго дачыненняў з іншанацыянальнымі літаратурамі, прыводзіць шматлікія факты культурнай камунікацыі: М. Багдановіч валодаў польскай мовай, «недасягальным узорам» лічыў паэму «Пан Тадэвуш» А. Міцкевіча, вывучаў рускую, украінскую, польскую паэзію, значную ўвагу аддаваў асобным прадстаўнікам польскай літаратуры, цікавіўся новымі кніжнымі выданнямі на славянскіх мовах, пісаў на іх рэцэнзіі і інш. Аналізуючы працы М. Багдановіча, М. Ларчанка надае прыкметную ўвагу навуковай, культурнай і літаратурнай дзейнасці польскамоўнай творчай інтэлігенцыі (браты Тышкевічы, Т. Нарбут, А. Кіркор, Я. Чачот, А. Рыпінскі, Р. Зянькевіч і інш.), якая дапамагала «выпрацоўцы пачаткаў нацыянальнага беларускага пачуцця», «лепшаму пазнанню беларускай мовы» [3, с. 106–107]. У манаграфіі «Жывая спадчына» літаратуразнавец спрабаваў пераадолець панрэалістычныя падыходы, адзначаў рысы рамантызму ў паэзіі М. Багдановіча.

М. Ларчанка надрукаваў навуковыя, навукова-папулярныя артыкулы пра М. Багдановіча «Класік беларускай літаратуры» (1952), «Выдатны паэт і грамадзянін» (1971), «Тарас Шевченко и Максим Богданович» (1961; на ўкр. мове) і інш.

Поруч з М. Ларчанкам і іншымі беларускімі даследчыкамі С. Александровіч (1921–1986) выводзіў багдановічазнаўства на якасна новы ўзровень. Яму належыць прыкметная роля ў вяртанні імя М. Багдановіча ў паўнавартасны літаратурны кантэкст, у вывучэнні яго жыцця і творчасці. Між іншым, лёс С. Александровіча быў цесна звязаны з Гродзеншчынай. У 1944–1953 гг. ён выкладаў беларускую мову і літаратуру ў Беніцкай сямігадовай школе Маладзечанскага р-на, Наваельненскай сярэдняй школе Дзятлаўскага р-на, Навагрудскай сярэдняй школе № 1. Пазней стаў вядомым гісторыкам літаратуры, навуковым супрацоўнікам Інстытута літаратуры імя Я. Купалы АН БССР, а потым прафесарам кафедры беларускай літаратуры БДУ.

С. Александровіч глыбока асэнсоўваў асобу і творчую спадчыну М. Багдановіча, падкрэсліваў яго ролю ў развіцці беларускай літаратуры. У кнізе «Старонкі братняй дружбы» (1960) ён звяртаецца да вопыту М. Багдановіча як даследчыка ўкраінскай літаратуры, паэтыкі Т. Шаўчэнкі, цытуе пры гэтым артыкул

«Краса і сіла», характарызуе М. Багдановіча як аўтара вельмі глыбокіх і грунтоўных даследаванняў пра творчасць украінскіх паэтаў, адзначае яго пераклады з украінскай мовы. Аналізуючы крытыку «нашаніўскага» часу, адзначае, што «высокую ацэнку М. Багдановіча атрымліваюць творы Я. Коласа» [2, с. 212]. У кнізе «Гісторыя і сучаснасць» (1968) публікацыі твораў М. Багдановіча і выхад зборніка «Вянок» С. Александровіч вызначае як прыкметныя з'явы беларускага друку пачатку ХХ ст. У манаграфіі «Пуцявіны роднага слова» (1971) асоба М. Багдановіча, выданне яго «Вянка» і апублікаваныя творы разглядаюцца ім у кантэксце праблемы развіцця беларускай літаратуры і друку пачатку ХХ ст., тут прыводзяцца ацэнкі М. Багдановічам сатырычнага часопіса «Крапіва», літаратурных матэрыялаў у часопісе «Беларус», адзначаецца з'яўленне перакладаў твораў М. Багдановіча на славянскія мовы, называецца імя М. Багдановіча поруч з Я. Купалам, Я. Коласам і іншымі пісьменнікамі, дзякуючы дзейнасці і творчасці якіх друкаванае слова на беларускай мове дасягнула значных поспехаў.

С. Александровіч – аўтар краязнаўчых і навукова-папулярных артыкулаў у перыядычных выданнях пра жыццё і творчасць М. Багдановіча «Ля сіняй бухты», «Сцежкамі песняра», «Творчая спадчына паэта». У кнізе «Незабыўнымі сцежкамі» (1959; 2-е выд. – 1962) аўтар распавёў пра дзяцінства і юнацтва М. Багдановіча ў Ніжнім Ноўгарадзе і Яраслаўлі, стасункі сямей Багдановічаў і М. Горкага, выкарыстаў успаміны брата паэта П.А. Багдановіча, які на той час працаваў выкладчыкам матэматыкі ў Яраслаўскім хіміка-тэхналагічным тэхнікуме, былога рэдактара газеты «Голос» С.С. Каныгіна і былога супрацоўніка гэтай газеты А.Д. Цітова.

Хрэстаматыя крытычных матэрыялаў «Беларуская літаратура ХІХ – пачатку ХХ ст.» (1978), укладзеная разам з дачкой В. Александровіч, змяшчае артыкулы М. Багдановіча «За тры гады. Агляд беларускай краснай пісьменнасці 1911–1913 гг.», «Белорусское возрождение», «Забыты шлях», «Иван Франко», «І. Неслухоўскі», а таксама артыкулы А. Пагодзіна, М. Янчука, Л. Гмырака, у якіх закранаецца творчасць аўтара «Вянка».

С. Александровіч выступаў як празаік. Ён з'яўляецца аўтарам кніг пра жыццё і творчасць Я. Коласа «Ад роднае зямлі...» (1962), «На шырокі прастор» (1972), «Крыжавыя дарогі» (1985). Аповесць складаецца з чатырох частак (кніг), якія сабраны пад адной вокладкай у выданнях «На простор» (1992; на рус. мове), «На шырокі прастор. Крыжавыя дарогі» (1997). У кнізе другой «Ад гоману бароў...» ёсць сцэна сустрэчы Кастуся Міцкевіча (Я. Коласа) і Зміцера Жылуновіча (Ц. Гартнага), падчас якой «размова пайшла пра новыя беларускія кнігі, вершы Максіма Багдановіча» [1, с. 299]. Апавядаецца таксама пра наведванне Я. Купалам радзімы Я. Коласа, першую сустрэчу двух паэтаў. Яны згадваюць М. Багдановіча, Купала чытае радкі «Санета»: «Хоць зернейкі засохшымі былі, // Усё ж такі жыццёвая іх сіла // Збудзілася і буйна ўскаласіла // Парой вясенняй збожжа на раллі. // Вось сімвал твой, забыты краю родны!..». Я. Колас гаворыць пра М. Багдановіча: «Тонка разумее ён верш... Пара яму ўжо зборнік выдаваць» [1, с. 328]. Аўтар адзначае, што Колас не развітваўся з кнігамі М. Багдановіча, «гэтыя кнігі пабывалі з ім у Пермі, былі ў Румыніі, а цяпер прыехалі ў Абаянь» [1, с. 343].

Беларускае літаратуразнаўства 1950–1960-х гг. на хвалі так званай грамадскай адлігі, ва ўмовах перагляду ідэалагічных падыходаў сталінскага часу, догмаў і рэцыдываў вульгарызатарскай крытыкі выйшла на новы абсяг свайго развіцця. Наватарскімі сталі літаратуразнаўчыя даследаванні А. Лойкі (1931–2008)

«Адам Міцкевіч і беларуская літаратура» (1959), ««Новая зямля» Якуба Коласа: вытокі, веліч, хараство» (1961). А. Лойка – выдатны літаратуразнавец, вучань і прадаўжальнік даследчыцкіх традыцый М. Ларчанкі, працаваў на кафедры беларускай літаратуры БДУ поруч з С. Александровічам і іншымі вядомымі вучонымі, пазней быў загадчыкам гэтай кафедры. А яшчэ ён Вялікі Слонімец (нарадзіўся і пахаваны ў родным Слоніме), адданы сын і патрыёт нашай беларускай зямлі. Выключная роля належыць яму ў вывучэнні і даследаванні літаратурнай спадчыны М. Багдановіча. Першы свой артыкул пра творчасць М. Багдановіча «Паэт глыбокіх дум і пачуццяў» А. Лойка надрукаваў у 1957 г. Ён стварыў манаграфію «Максім Багдановіч» (1966) – адно з самых значных даследаванняў у галіне багдановічазнаўства. Гэтае выданне пакладзена ў аснову яго доктарскай дысертацыі, паводле зместу якой напісаны аўтарэферат «Максим Богданович и проблемы развития белорусской литературы начала XX столетия» (1969). А. Лойка прапанаваў наватарскае, канцэптуальна-навуковае асэнсаванне творчасці М. Багдановіча, усебакова, грунтоўна разгледзеў яго спадчыну – паэта, перакладчыка, гісторыка беларускай літаратуры, крытыка, празаіка, публіцыста. Аўтар паказвае М. Багдановіча як натхнёнага творцу шматлікіх выдатных вершаў, майстра слова, характарызуе эстэтычныя погляды і прынцыпы паэта, вылучае асноўныя вобразы, тэмы і матывы яго паэзіі. А. Лойка падкрэслівае інтэлектуальнасць пошукаў, адзінства пачуцця і думкі ў яго лірыцы: «Большасць вершаў Багдановіча можна назваць... сінтэзам уласна паэзіі і навукі як канкрэтна-прадметнага і лагічнага пазнання свету, яго філасофскага асэнсавання. Гэта зліццё двух шляхоў даследавання рэчаіснасці ў паэзіі Багдановіча – вобразнага і лагічнага – адна з яе сапраўды істотных асаблівасцей, і звязана яна была з вялікай начытанасцю паэта» [6, с. 156]. А. Лойка адзначае глыбіню ведаў і эрудыцыю М. Багдановіча, што выявілася ў звароце да вобразаў антычнай і беларускай міфалогіі, гісторыі роднага краю, звароце да імён і твораў класікаў многіх літаратур свету і інш. Раскрывае наватарскі характар творчасці паэта: «...Багдановіч у сваёй працы заўсёды кіраваўся яшчэ адным вельмі важным запаветам: паэзія не павінна развівацца ў адрыве ад сумежных відаў мастацтва. І ён з вялікім майстэрствам зліваў у сваіх вершах з паэзіяй слова паэзію жывапісу, скульптуры, сіметрычнасці ліній і аб'ёмаў, гармоніі рытму і мелодыі» [6, с. 157]. А. Лойка акцэнтуе ўвагу на сувязі творчасці М. Багдановіча з рускай паэзіяй Сярэбранага веку, паглыбляецца ў кантэкст сусветнай класікі, даводзіць, што М. Багдановіч «ўзняў беларускую паэзію на нябачную да таго вышыню» [6, с. 332], гаворыць пра пісьменніка як класіка беларускай літаратуры. У манаграфіі «Беларуская паэзія пачатку XX стагоддзя» (1972) ён разглядае літаратурную спадчыну М. Багдановіча як найбольш значную і адметную з'яву ў нацыянальнай паэзіі і літаратуры акрэсленага перыяду, дае грунтоўны аналіз яго творчасці. На вопыт М. Багдановіча як даследчыка літаратуры і крытыка А. Лойка абапіраўся пры стварэнні падручніка «Гісторыя беларускай літаратуры: дакастрычніцкі перыяд», выдадзенага ў дзвюх частках (ч. 1, 1977, ч. 2, 1980; 2-е дапрац. выд., ч. 1–2, 1989). У другой частцы «Гісторыі...» змешчаны раздзел «Максім Багдановіч», у якім вылучаны наступныя аспекты: фарміраванне асобы пісьменніка, ідэйны змест і паэтыка зборніка «Вянок», рознабаковая творчая дзейнасць М. Багдановіча як пачынальніка беларускай прафесійнай крытыкі, празаіка, публіцыста, перакладчыка, яе ўплыў на тагачасны літаратурны працэс, паэзія апошніх гадоў жыцця. Гэты раздзел дае яскравае ўяўленне пра асобу паэта, творча сінтэзуе

дасягненні і набыткі багдановічазнаўства, вызначаецца выверанасцю, дакладнасцю навуковых ацэнак, глыбокім аналізам паэтычнага майстэрства, даступнасцю выкладу матэрыялу. Запамінальны літаратурны партрэт М. Багдановіча стварыў праз зварот да біяграфічных момантаў, пададзеных у свабоднай эсэістычнай манеры. Даследуючы сучасную беларускую паэзію, гісторыю літаратуры, літаратурныя сувязі, А. Лойка апелюе да творчай думкі і мастацкіх дасягненняў М. Багдановіча, адсылае чытача да яго прац і твораў. Эстэтычны вопыт і ўплыў М. Багдановіча прысутнічае ў кнігах «Сустрэчы з днём сённяшнім» (1968), «Паэзія і час» (1981), «Галгофа» (2001), падручніку «Старабеларуская літаратура» (2001), дапаможніку для студэнтаў «Роўнакутны трохвугольнік, або Ад Палямона да Максіма Танка» (2003). Да творчай лабараторыі М. Багдановіча ў спасціжэнні сутнасці, таямніц літаратурнай творчасці А. Лойка ў кнізе «Займальная літаратура» (2008), адзначае, што ён – «паэт універсальнага паэтычнага варштата, гэта ўніверсітэт паэтыкі паэзіі як з'явы» [7, с. 127].

А. Лойка надрукаваў у перыядычных выданнях навукова-папулярныя артыкулы пра М. Багдановіча, якія былі напісаны ў пераважнай большасці да юбілейных дат пісьменніка: «Слова пра паэта» (1966), «Пясняр народа» (1966), «Зорка Венера» (1971), «Паперадзе часу» (1971), «Паэт глыбокай любові і дабрыні» (1981), «Чакаю новага прачытання» (1981), «У бязмежную даль» (1981), «Зорка яго праўды» (1981), «Не злічыць у небе ясных зорак, не злічыць у сэрцы светлых дум...» (1991). Ён апублікаваў таксама навукова-папулярныя артыкулы на рускай мове: «Его живые ветви» (1974), «Негасимая звезда поэта» (1976), «Венчая мужика с красой мадонны» (1981). А. Лойка з'яўляецца аўтарам уступных артыкулаў да двухтомнага «Збору твораў» (1968, т. 1), «Поўнага збору твораў» (1992, т. 1; 2-е выд. – 2001), прадмоў да зборнікаў твораў М. Багдановіча «Маладзік» (1968), «Лірика» (1968; на ўкр. мове), «Выбранае» (1977), «Краю мой родны!» (1999), альбома-выстаўкі ў школе «Максім Багдановіч: жыццё і творчасць» (1968).

А. Лойка – вядомы паэт, які засведчыў пераемнасць з эстэтычнымі ідэаламі і катэгорыямі прыгожага, высокага, узнёслага ў паэзіі М. Багдановіча. Ён – «прыгоства паняты», рамантык і пясняр красы. У кнігах і творах выяўляецца духоўная сувязь з паэтычным светам М. Багдановіча. «Пад знакам красы» – назва другой часткі і падраздзела кнігі «Ушанаванне» (2001), якая падкрэслівае прыхільнасць да эстэтычнай канцэпцыі М. Багдановіча. Духоўнае адзінства з аўтарам «Вянка» сучасны паэт сцвярджае ў творы «Трыялет Максіму Багдановічу»: «Калі вам любы адвячорак // І тонкі серп маладзіка, // Як мне, не жыць вам без «Вянка», // Калі вам любы адвячорак...» [8, с. 221]. А. Лойка імкнуўся да гарманічнага паяднання зместу і формы верша, асабістага і агульназначнага, зямнога і нябеснага, эмацыянальнага і інтэлектуальнага пачаткаў. Ён – прадаўжальнік у беларускай паэзіі традыцый М. Багдановіча: грамадзянскасці, патрыятызму, міфалагізацыі, хрысціянскага гуманізму, паэтызацыі прыроды, кахання, жыцця, філасафічнасці, рамантызацыі вобразаў мінулага, жывапісання словам, музычнасці, вершаванай формы. Ён творча засвоіў і ўзбагаціў гэтыя традыцыі, стварыў арыгінальную і самабытную паэзію. А. Лойка – прызнаны майстар балады. Памяці М. Багдановіча паэт прысвяціў верш «Балада васількоў».

А. Лойка працаваў у галіне мастацкага перакладу. Распрацоўваючы пытанні гісторыі і тэорыі перакладу, перастваараючы паэзію іншамоўных аўтараў, працягваў традыцыі М. Багдановіча. На беларускую мову пераклаў зборнікі выбраных твораў П. Верлена «У месяцавым ззянні» (1974), І.В. Гётэ «Спатканне і

ростань» (1981), Ф. Шылера «Улада песняспеву» (1997), Наваліса, Шлегеля, Шэлінга, Эйхендорфа «Сузор'е» (2001), анталогіі польскай паэзіі «Напярэймы: ад Буга да Варты» (2003, у 2 т.), нямецкай класічнай рамантычнай паэзіі «Маланкай жагнаныя» (2004), асобныя творы рускіх, украінскіх, літоўскіх, латышскіх, грузінскіх і іншых паэтаў. Перакладчык гэтак, як і ў свой час М. Багдановіч, далучае да лепшых здабыткаў сусветнай літаратуры, прыгажосці і глыбіні яе агульначалавечага зместу. Апрача іншых узнагарод, А. Лойка быў адзначаны ганаровым знакам «За заслугі перад польскай культурай».

У рамане-эсэ А. Лойкі пра Я. Купалу «Як агонь, як вада» (1984; 2-я рэд. – 1992) фігуруе імя М. Багдановіча, згадваецца яго зборнік «Вянок». Аўтар гаворыць пра ролю Купалы ў лёсе і творчасці М. Багдановіча, адзначае, што той «адчуў у Максіму Багдановічу сапраўдны талент» [9, с. 109]. Падчас працы ў «Нашай ніве» у 1909 г. Купала «выцягнуў з архіва, адваяваў... сапраўды цікавыя вершы Максіма Багдановіча пра лесуна, яго хрэсьбіны, і тыя з'явіліся ўжо ў газеце» [9, с. 109]. На думку аўтара рамана, «адзінокія яны ўсе – Купала, Палуян, Багдановіч, паасобку, не разам узятыя!» [9, с. 110].

З творчасцю паэта А. Лойка пазнаёміўся ў дзяцінстве. Зборнік «Вянок» захоўваўся ў бацькавай бібліятэцы. М. Багдановіч быў адным з самых любімых паэтаў А. Лойкі. Асоба і творчасць М. Багдановіча былі ў яго полі зроку як выкладчыка літаратуры. У БДУ ён чытаў для студэнтаў лекцыі па творчасці М. Багдановіча, пастаянна звяртаўся да яе на занятках у навуковым спецсемінары, спецкурсах па беларускай паэзіі, краязнаўстве. А. Лойка чытаў таксама лекцыі па беларускай літаратуры ў Варшаўскім, Йенскім універсітэтах, Падляшскай акадэміі ў Сельдцах (Польшча), у якіх запыняўся на творчасці М. Багдановіча. У дакладах на міжнародных з'ездах славістаў, шматлікіх навуковых канферэнцыях у Беларусі і замежных краінах, гутарках і інтэрв'ю ён у розных аспектах закранаў творчасць М. Багдановіча.

Такім чынам, працы М. Ларчанкі, С. Александровіча, А. Лойкі засведчылі пра наватарскі характар і глыбіню літаратурна-крытычнай думкі, навукова-крэатыўны патэнцыял беларускага літаратуразнаўства, якое адмаўляла ранейшыя вульгарызатарскія трактоўкі асобы і творчасці М. Багдановіча. Ачышчэнне ад ідэалагічных напластаванняў прывяло да маштабных і значных адкрыццяў. Тагачасныя працы М. Ларчанкі, С. Александровіча, А. Лойкі былі ў новым часе адкрыццём М. Багдановіча як вялікага нацыянальнага паэта, рэпрэзентацыяй яго творчасці як класічнай і фенаменальнай мастацкай з'явы. Творчасць пісьменніка ўключалася ў нацыянальны і шырэй – славянскі і еўрапейскі – літаратурны кантэкст. М. Ларчанка, С. Александровіч, А. Лойка і іншыя даследчыкі сваімі працамі прадоўжылі актыўнае станаўленне і развіццё багдановічазнаўства, пазначылі новы этап не толькі ў гэтай галіне, але і ва ўсім беларускім літаратуразнаўстве другой паловы ХХ стагоддзя. Дзякуючы гэтым дасягненням і напрацоўкам у першыя пасляваенныя дзесяцігоддзі адбыліся істотныя пераўтварэнні ў літаратурнай навуцы і адукацыі, быў пакладзены пачатак шырокаму даследаванню і вывучэнню спадчыны М. Багдановіча, пра што засведчылі кнігі і артыкулы М. Стральцова, Р. Бярозкіна, М. Грынчыка, Г. Каханоўскага, А. Бачылы, Н. Ватацы, У. Конана, М. Барсток, А. Кабаковіч, Л. Зубарава, В. Рагойшы, І. Навуменкі, Т. Чабан і інш. Сёння багдановічазнаўства – адзін з галоўных, вузлавых цэнтраў беларускага літаратуразнаўства, вялікі, аб'ёмны і разгалінаваны комплекс даследаванняў, цэлае багацце твораў літаратуры і мастацтва, іншых артэфактаў.

*Спіс літаратуры*

1. Александровіч, С. На шырокі прастор. Крыжавыя дарогі: аповесці пра Я. Коласа / С. Александровіч. – Мінск: Беларусь, 1997. – 607 с.

2. Александровіч, С. Старонкі братняй дружбы: арт. пра літ. сувязі / С. Александровіч. – Мінск: Дзяржвыд. БССР, 1960. – 219 с.

3. Ларчанка, М. Літаратурнае пабрацімства славян: літ.-крытыч. арт. / М. Ларчанка. – Мінск: Маст. літ., 1984. – 191 с.

4. Ларчанка, М. На шляхах да рэалізма / М. Ларчанка. – Мінск: Выд-ва БДУ, 1958. – 238 с.

5. Ларчанка, М. Па шляху рэалізма / М. Ларчанка. – Мінск: Выд-ва БДУ, 1959. – 256 с.

6. Лойка, А.А. Максім Багдановіч / А.А. Лойка. – Мінск: Навука і тэхніка, 1966. – 335 с.

7. Лойка, А. Займальная літаратура: эсэ / А. Лойка. – Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2008. – 176 с.

8. Лойка, А. Ушанаванне: кн. паэзіі / А. Лойка. – Слонім: ГАУПП «Слонімская друкарня», 2001. – 320 с.

9. Лойка, А. Як агонь, як вада: раман-эсэ пра Я. Купалу / А. Лойка. – Мінск: Маст. літ., 2000. – 478 с.

10. Мальдзіс, А.І. Багдановічазнаўства / А.І. Мальдзіс // Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі: у 5 т. / рэдкал.: І.П. Шамякін (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск: БелСЭ, 1984–1987. – Т. 1: А капэла – Габелен. – 727 с.

11. Трус, М.В. Багдановічазнаўства / М.В. Трус // Культура Беларусі / рэдкал.: Т.У. Бялова (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск: БелЭн, 2010. – Т. 1. – 704 с.

**Е. Паньков**

## ЖАНРОВЫЕ МОДИФИКАЦИИ В ПРОЗЕ «МОЛОДОЙ ПОЛЬШИ»

В прозе периода «Молодой Польши», объединяющей схемы традиционного романа с элементами дневника и репортажа, появляются первые проявления структурно-жанровых изменений. Тенденция к сближению беллетристики и так называемых нелитературных жанров обусловила появление младопольского романа. Изменения в реалистическом повествовании нашли свое выражение и на основе иных принципов. Место изложения, которое представляло собой сочетание прямой зависимости и проявления внелитературной реальности, занимает изложение осмысливающее, моделирующее, конструирующее образ литературной реальности. Кризис традиционной модели реалистического повествования стал в дальнейшем причиной возникновения еще одного типа прозы. Речь идет о произведениях, в которых представление тех или иных событий связано с процессами мышления. Процесс творчества имеет прямую зависимость от восприятия произведения. Такие проявления художественной ценности человека открывают широкие возможности для развития литературы в философском аспекте. Использование стилистической техники, относящейся иногда к области языковых экспериментов и служащей посредником между индивидуумом и миром, позволяет обращаться к актуальной тематике.

Тенденции, характерные для прозы конца XIX – начала XX столетия, игнорирующие либо изменяющие реалистический тип повествования, основываются на происходящих процессах трансформации единой картины мира, а также понимания сущности человека как психически гармоничного и полностью

объяснимого общественного феномена. Писатель в такой ситуации говорит о себе как о средстве познания реальности. Это означает возвращение к автобиографическим, индивидуалистическим формам. Повествование насыщается рассуждениями, рефлексией, медитацией. В изменениях прозы после 1901 года существенную роль сыграло возобновление прерванных контактов с различными направлениями мировой литературы. Место главного героя в новых произведениях принадлежит автору, биографию которого читатель узнает из внелитературных источников. Изменение роли автора влечет за собой иное отношение ко всему повествованию. С этого момента оно переходит в состояние совокупности различных мнений, имеющих индивидуальный подход к реальности. Повествовательная интрига уступает место индивидуализированному изложению, которое достаточно свободно использует различные темы. В то же время функция центральной и как бы привилегированной темы принадлежит самому процессу творения. Становится более весомой роль автора как интеллектуала, литератора и писателя.

Фрагментарность, размытость тесной причинно-следственной зависимости, а, следовательно, явственная иногда нелинейность, хаотичность повествования – все это оказало влияние на появление произведений, радикально изменивших представления о литературе. К данному типу прозы следует отнести произведения В. Берента, С. Пшибышевского, Т. Мициньского. Не только литература может приближаться к реальной жизни, но и жизнь может обращаться к искусству. Это утверждение является одной из наиболее значительных эстетических проблем прозы С. Пшибышевского («Confiteor», «O «nową» sztukę», «Z psychologii jednostki twórczej. Chopin i Nietzsche»). С. Пшибышевский окончательно отказался от обращения к тому типу прозы, который был связан с предыдущими традициями и основывался не на отрицании, а на разнообразных их модификациях. Жанровые конструкции обеспечивали художественное оформление текста, но подвергали сомнению его отношение к реальности. В своих произведениях Пшибышевский сознательно обращался к формам, находящимся на границе литературы и, прежде всего, дневнику. В таких жанровых построениях чрезвычайно выразительно проявляется фигура повествователя, сознание которого идентично, либо приближено к сознанию героя – автора. В данном случае не имеется в виду сам автор, а его память, сумма впечатлений, способность чувствовать и размышлять. Повествователь в текстах С. Пшибышевского не стремится обратить все внимание читателя только на себя, «растворяясь» в других людях и их ощущениях.

Несомненным является тот факт, что морфологические черты того или иного произведения находятся в прямой зависимости от идейно-тематического содержания и креативных возможностей автора. Достаточно часто основная идея выражается вне сферы влияния общепринятых литературных норм и стереотипов, создает новую сюжетно-композиционную структуру, которой достаточно сложно найти соответствующее место в традиционной типологии.

Литература «Молодой Польши» вернулась к диалогу «реального» и «мифологического», направленного на пересмотр и новое истолкование вневременных сюжетов, образов и символов. В младопольской мифотворческой практике семантическая подвижность мифов, их многофункциональность использовались художниками слова для выражения эмоционального состояния, эс-

тетических исканий и показа действительности, недоступной умственному познанию. Необходимость обращения к интуиции и мышлению с помощью символов заставила искать в мифе источник творческой свободы, раскрепощенности и подлинности внутренней жизни. По мнению Фридриха Ницше «без мифа всякая культура лишается здоровой и творческой природной силы: лишь заполненный мифами горизонт придает единство и законченность целому культурному движению».

Ницшеанское отождествление творчества с мифотворчеством приобрело схожее звучание и в среде польских модернистов. Ц. Еллента указывал на рождение новой мифологии, способной адекватно выразить экзистенциальные переживания и трансформировать проявления подсознательного. «Мифы – это идеал творчества», – заключает младопольский писатель. А. Ланге подчеркивал факт непрерывности «мифотворческой деятельности человека». О творчестве как полуосознанной мифологизации авторами самих себя вспоминал и С. Бжозовский.

Младопольские мифотворческие начинания привели, с одной стороны, к трансформации и новому прочтению известных мифологических сюжетов, с другой стороны, мифологизировали события национальной истории и повседневность. В соответствии с этим в дополнении к целостному анализу структуры младопольского романа, проведенному М. Гловиньским, В. Гутовский предлагает исследовать две различные формы функционирования мифа в младопольской повествовательной прозе. Первую форму мифологизации литературовед связывает с «мифороманом» и указывает на сильную зависимость структуры произведения от реинтерпретации мифа («Ксёндз Фауст» Т. Мициньского, «Лунная трилогия» Е. Жулавского). Вторую форму реализует такой тип прозы, в котором связь между мифом и структурой романа более свободна, ассоциативна. В качестве примеров «мифологического романа» В. Гутовский называет произведения С. Пшибышевского и В. Берента который, в частности, в романах «Блестящая пыль», «Озимь» и «Живые камни» из наложения экзистенциальных, национальных, наконец, религиозных мифов создает «мифологическую трилогию». Кристаллизация мифологического аспекта младопольской прозы активизирует новый тип литературной действительности – «реальность культуры», основанную на авторской эрудиции и мифотворческой фантазии.

*Список литературы*

1. Głowiński, M. Mity przebrane: Dionizos, Narcyz, Prometeusz / M. Głowiński. – Kraków: Wydawnictwo Literackie, 1994. – 240 s.

2. Gutowski, W. Mit w czasoprzestrzeni powieści młodopolskiej / M. Głowiński // Czas i przestrzeń w prozie polskiej XIX i XX wieku / Pod red. Cz. Niedzielskiego i J. Speiny. – Toruń, 1990. – S. 37–52.

3. Jankowiak, M. Funkcja mitu w prozie Przybyszewskiego i Berenta / M. Jankowiak // Problemy literatury polskiej lat 1890–1939. Seria I / Pod red. H. Kirchner i Z. Żabickiego. – Wrocław: W-wo Polskiej Akademii Nauk, 1972. – S. 253–291.

4. Przybyszewski, S. Confiteor / S. Przybyszewski // Programy i dyskusje literackie okresu Młodej Polski / Oprac. M. Podraza-Kwiatkowska. – Wrocław – Warszawa – Kraków – Gdańsk: Zakład Narodowy im. Ossolińskich, 1973. – S. 235–243.

5. Makowiecki, A.Z. Wokół modernizmu: szkice / A.Z. Makowiecki. – Warszawa: Państwowy Instytut Wydawniczy, 1985. – 187 s.

**Н. Чукічова**

# «ГРАМАТЫКА» СЮЖЭТНЫХ ТРАНСФАРМАЦЫЙ У БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ XIX СТАГОДДЗЯ (В. Дунін-Марцінкевіч, Ф. Багушэвіч)

Сярод пачынальнікаў новай беларускай літаратуры XIX стагоддзя абавязкова згадваецца «дударскі дуэт» Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча і Францішка Багушэвіча, якія не проста механічна «павярнулі» паэтычны лад сваіх твораў да мясцовых, рэгіянальных праблем, а ўпершыню рашуча замянілі яго на глебу беларускага нацыянальнага светаўспрыняцця. Прыйшоўшы ў літаратуру з часавай розніцай у сорак з лішнім гадоў, кожны з творцаў шчыра і самааддана працаваў на ніве «мужыцкага» прыгожага пісьменства. І лагічнай у дадзеным выпадку была б гаворка аб наследаванні, інтэграцыі, перайманні наступнікам літаратурнага вопыту папярэдніка. Аднак дзёрзкі «вучань» не толькі не ўспрымае, але нават адмаўляецца ад працягу прапанаваных яму гатовых мастацкіх ідэй і рашэнняў, ад існуючай у тагачасным літаратурным працэсе арыгінальнай паэтычнай традыцыі ў цэлым.

У дадзеным артыкуле размова пойдзе пра спецыфіку «ўваходжання» ў нацыянальную культуру слынных «перадавікоў» новай славеснасці, пра феномен іх мастацкай тэхнікі на этапе інтэнсіўнай літаратурнай эвалюцыі.

Як вядома, мастацкае ўвасабленне аўтарам сваёй задачы адбываецца ў адпаведнасці з гістарычна вызначанымі спосабамі і сродкамі «трансляцыі» эстэтычнай інфармацыі, да ліку якіх адносіцца і «мова» сюжэта – адна з найбольш агульных, а таму найбольш устойлівая мадэль вобразнага ўспрыняцця свету. Структура сюжэта як метафары зададзеных чалавечых паводзінаў, учынкаў і сітуацый хвалюе навукоўцаў ва ўсім свеце, пачынаючы з 20-х гадоў мінулага стагоддзя, і з'яўляецца адным з важных напрамкаў сучаснага літаратуразнаўства.

Калі гаварыць пра функцыянальную структуру сюжэта, то пачатак тэарэтычнага яе вывучэння традыцыйна звязваецца з выхадам у свет манаграфіі Ў.Я. Пропа «Марфалогія казкі» [15], якая ўскосна спрычыняецца да ўзнікнення ў літаратуразнаўстве структуралісцкага накірунку. Даследаванне ўяўляе сабой спробу падрабязнай марфалагізацыі сюжэта рускай чарадзейнай казкі ў межах 31 вылучанай геройнай функцыі. Незаслужана забытая ў 1928-м, праца нечакана атрымлівае шырокі рэзананс і ў поўнай меры ўваходзіць у сусветную навуку праз 30 год, пасля перакладу яе на англійскую мову. Адштурхоўваючыся ад «Марфалогіі казкі», многія аўтары-паслядоўнікі абвяргаюць, палемізуюць, карэктуюць ідэі Ў.Я. Пропа, аднак, па праўдзе, робяць не што іншае, як развіваюць яго метад. К. Леві-Строс [10], напрыклад, прааналізаваўшы пропаўскую наратыўную мадэль, упарадкоўвае «зменлівыя» велічыні сюжэта (матывацыі, атрыбуты персанажаў і інш.), а таксама ўсталёўвае парадыгматычныя адносіны паміж геройнымі функцыямі. А.-Ж. Грэймас [7] і К. Брэмон [3], [4], у сваю чаргу, падагульняюць высновы Ў.Я. Пропа і К. Леві-Строса, у выніку чаго першы прапануе не сямі-, а шасціактантную мадэль сюжэтабудовы, скараціўшы пералік пропаўскіх функцый з 31 да 20, другі таксама стварае свой варыянт антрапалагічнай тэорыі «дзеянняў», акцэнтуючы ўвагу на дасюжэтным механізме чалавечых учынкаў.

З другога боку, паралельна тэарэтычнай сюжэталогіі, мы знаходзім у гісторыі навукі аб літаратуры яшчэ і спробы пабудовы «гістарычнай» паэтыкі сюжэ-

та. Заснавальнікам гэтай галіны літаратуразнаўства па праве лічыцца А.М. Весялоўскі [6], метадалагічная канцэпцыя якога заключаецца ў патэнцыйнай магчымасці і мэтазгоднасці тлумачэння сутнасці той ці іншай з'явы праз яе паступовую эвалюцыю. Індуктыўны метад даследавання, прапанаваны расійскім вучоным, прадугледжвае ахоп усіх літаратурных форм і катэгорый ва ўсе часы і, натуральна, патрабуе максімальна шырокага фактычнага (культуралагічнага, этнаграфічнага, фальклорнага) матэрыялу. Зборам, сістэматызацыяй і апрацоўкай такой першаснай факталагічнай асновы займаліся і займаюцца прадстаўнікі пазнейшых пакаленняў навукоўцаў: В.М. Фрэйдэнберг [16], У.Я. Проп [14], С.С. Аверынцаў [1], Д.С. Ліхачоў [11], Е.М. Меляцінскі [12; 13], С.Н. Бройтман [5] і іншыя.

Наша канцэпцыя вывучэння сюжэта таксама была пабудавана ў межах фармальна-структурнага падыходу да вывучэння літаратуры, і ажыццёўленая намі спроба аналізу паэтыкі эпічных твораў В. Дуніна-Марцінкевіча і Ф. Багушэвіча мела на мэце вызначэнне ступені прадуктыўнасці сюжэтных архетыпаў у працэсе эвалюцыі беларускай слоўнай творчасці і разгляд руху іх мадыфікацый ва ўмовах і пад уздзеяннем індывідуальна-аўтарскай светаперадачы. Унутраны «механізм» станаўлення нацыянальных асаблівасцяў сюжэта ў маладой беларускай літаратуры даследаваўся на матэрыяле вершаваных аповесцяў і апавяданняў В. Дуніна-Марцінкевіча («Гапон», «Вечарніцы», «Купала», «Благаславёная сям'я», «Славяне ў XIX стагоддзі», «Літаратарскія клопаты», «Шчароўскія дажынкі», «Люцынка, альбо Шведы на Літве», «Травіца брат-сястрыца», «Быліцы, расказы Навума» («Злая жонка», «Халімон на каранацыі»), «З-над Ісლачы, або Лекі на сон»), а таксама апавяданняў Ф. Багушэвіча («Тралялёначка», «Сведка», «Палясоўшчык», «Дзядзіна»). Стварэнне марфалагічных «формул» сюжэтаў і супастаўленне іх будовы дазволіла меркаваць аб мадыфікацыйных парадыгмах сюжэтных адзінак і характары сюжэтных трансфармацый на этапе «выспявання» нацыянальнага мастацкага выказвання.

Перадусім, тэксты акрэсленых эпічных твораў В. Дуніна-Марцінкевіча і Ф. Багушэвіча былі дэталёва разгледжаны на падставе пропаўскай методыкі «раскладу» сюжэта чарадзейнай казкі на персанажныя функцыі. Супаставіўшы першасны рэестр інварыянтаў сюжэтных адзінак, вылучаных У.Я. Пропам у народным эпасе, з матэрыялам мастацкіх твораў беларускіх пісьменнікаў, высветлілася, што некаторыя персанажныя функцыі не маюць варыянтаў рэалізацыі альбо адлюстраваны надзвычай рэдка ў аўтарскіх сюжэтах, а таму могуць разглядацца як падвіды роднасных ці блізкападобных адзінак. Гэта дало падставы ўмоўна скараціць агульны пералік сюжэтных архетыпаў да 24 функцый дзейных асобаў. Далейшая праца па выяўленні характару ўзаемадачыненняў паміж персанажамі ў межах вылучаных адзінак досыць выразна засведчыла мэтазгоднасць аб'яднання ўсіх сюжэтных «формул» у 6 спецыяльных функцыянальных груп. У выніку такой групоўкі мы выявілі дынаміку прадуктыўнасці тыпаў і спосабаў узаемадзеяння паміж кантактуючымі актантамі ў гісторыі беларускай літаратуры, у тым ліку і на часавым адрэзку ад 50-х да 90-х гадоў XIX стагоддзя.

Дадзеныя, якія мы атрымалі пры марфалагічным аналізе сюжэтаў пералічаных твораў В. Дуніна-Марцінкевіча і Ф. Багушэвіча, рэпрэзентаваны ў выглядзе табліцы (гл. табліцу 1). Першая калонка змяшчае інфармацыю пра селектаваную групу сюжэтных функцый. Другі і трэці слупкі паказваюць на працэнтныя суадносіны ўзятай функцыянальнай групы з агульнай колькасцю сюжэтных адзінак, вылучаных у В. Дуніна-Марцінкевіча і Ф. Багушэвіча адпаведна.

Такім чынам, мы маем магчымасць ажыццявіць супастаўляльны аналіз «праяўленых» сюжэтных архетыпаў у творах беларускіх пісьменнікаў.

Табліца 1 – Прадуктыўнасць сюжэтных «формул» у творах В. Дуніна-Марцінкевіча і Ф. Багушэвіча

| Назва функцыянальнай групы | В. Дунін-Марцінкевіч | Ф. Багушэвіч |
|---|---|---|
| | Колькасць, % | Колькасць, % |
| Паведамляльныя функцыі | 17,13 | 18,80 |
| Функцыі аблічча | 6,43 | 11,11 |
| Функцыі выніку, наступства | 14,60 | 17,09 |
| Функцыі выпрабавання, перашкоды | 27,15 | 27,35 |
| Функцыі руху, перамяшчэння | 11,33 | 13,68 |
| Функцыі рэагавання | 23,35 | 11,97 |

Няцяжка заключыць, што амаль некранутымі (з аднолькавымі працэнтнымі ваганнямі) застаюцца «паведамляльная» і «выпрабавальная» функцыянальныя групы: колькасная паўтаральнасць уключаных сюды сюжэтных адзінак адносна пастаянная ад Дуніна-Марцінкевіча да Багушэвіча. Найбольш значныя адхіленні заўважаюцца ў «абліччавай» і «рэагавальнай» групах: прадуктыўнасць першай у Багушэвіча павялічваецца амаль удвая (!), частотнасць другой, наадварот, змяншаецца больш чым напалову (!) у параўнанні з Дуніным-Марцінкевічам.

Істотнай варта лічыць і тую акалічнасць, што ў ходзе супастаўляльнага аналізу дзвюх атрыманых намі «груп» апавядальных адзінак (т. зв. «марцінкевічаўскай» і «багушэвічаўскай») выявілася, што працэс эвалюцыі сюжэтных архетыпаў носіць рознаўзроўневы характар. Уздзеянне аўтарскай інстанцыі на ядро сюжэтнай канструкцыі твора можна прасачыць як звонку, так і знутры апавядальнага элемента. На кожным з узроўняў адбываюцца трансфармацыі, якія відазмяняюць структуру сюжэта ў цэлым. Разгледзім іх больш падрабязна.

Першы ўзровень – парадыгматычны – адлюстроўвае змены ўнутры сюжэтнай адзінкі, семантычнае яе ўшчыльненне альбо паслабленне. У эстэтычных умовах «ушчыльнення» персанажная функцыя пад уплывам аўтарскай «волі» становіцца здольнай змясціць у сабе дастатковую колькасць новай непрадугледжанай інфармацыі. Аб'ём адзінкі павялічваецца, і нарошчаная сэнсавая нагрузка запаўняе гэтую «лішнюю» прастору. Прыкладам такой унутранай мадыфікацыі можна лічыць наступны эпізод з апавядання «Тралялёначка»: «*Раз за малым не ўсёй вёсцы прыпёрлі павесткі з акружнога аб тым, што жонка Бартка падала скаргу, што муж выгнаў яе з двора, што з другой жывець, што палавіну яе маёнтка забраў, па пяць тысяч на рок даходу цягне, а ей ні граша не даець...*» [2, с. 118]. Падзея дазнання вяскоўцамі аб нечаканай спробе Бартчыхі заўладаць несумленна прыдбанымі ўласнасцю і прыбыткам сельскага суддзі насычана пабочнымі інфармацыйнымі «пасыламі-зваротамі»: дасланне ў мясцовасць вялікай колькасці судовых павестак («за малым не ўсёй вёсцы») сведчыць не толькі пра паведамленне-паклёп у акругу аб «бядзе» і «нястачы» гераіні (муж выгнаў з хаты, забраў маёмасць, пакінуў без грошай), але і пра валявое рашэнне Саськовай жонкі пададзенай скаргай супрацьстаяць «найвялікшай жыццёвай несправядлівасці». Функцыя дазнання, у такім разе, убіраючы ў свае межы дадатко-

выя, градацыйна афармленыя «парасткі» нібыта прапушчаных з сюжэта падзей (пасярэдніцтва – шкодніцтва – выклік) паступова «ўшчыльняецца», набывае новую якасць – трансфармуецца ў сапраўдны матыў барацьбы, змагання, супрацьстаяння.

Другі згаданы варыянт сюжэтнай трансфармацыі – семантычнае паслабленне сюжэтнай адзінкі – наадварот, паказвае на скарачэнне сэнсавага аб’ёму функцыі. Аўтарская інтэнцыя як сродак абмежавання інтэрпрэтацыйных магчымасцяў адрасата выяўляе сябе ў спрашчэнні ўнутранай семантыкі сюжэтнай падзеі, памяншэнні зместавай насычанасці адзінкі. Інакш, сюжэтны элемент «зачыняецца» аўтарскай свядомасцю для пабочных сэнсаўтваральных імпульсаў. У моўнай рэальнасці тэксту ён падпарадкуецца толькі вядучай «страсці».

Для большай аргументаванасці паспрабуем супаставіць інфармацыйную «ёмістасць» варыянтаў рэалізацыі геройных функцый у тэкстах В. Дуніна-Марцінкевіча і Ф. Багушэвіча. Для аналізу возьмем, напрыклад, функцыю ростані. Сутнасць яе заключаецца ў тым, што герой самастойна ці пад прымусам адлучаецца на пэўны час з месца падзей. Параўнаем два кароткія ўрыўкі з тэкстаў названых аўтараў:

***1.*** *«Тут пан галавою крыху пакачаў, / Плюнуў, завярнуўся, ад Змітра адстаў»* [8, с. 207];

***2.*** *«Пазлаваліся, расплюваліся, так як хто зімным перакінуў, і разышліся»* [2, с. 117].

У першым з прыведзеных прыкладаў факт «разыходжання» актантаў у мастацкай прасторы паказваецца і карэктуецца аўтарам з некалькіх бакоў: па-першае, мы можам выразна ўявіць вектар перамяшчэння кожнай з дзейных асобаў па тапічнай гарызанталі; па-другое, навідавоку эмацыйна-псіхалагічны стан паразы і расчаравання аднаго з герояў (*«<...> галавою крыху пакачаў, плюнуў, завярнуўся...»*); па-трэцяе, называецца непасрэдны ініцыятар развітання персанажаў (пан); і, нарэшце, з дапамогай моўных сродкаў выражэння падзеі ростані (*«<...> ад Змітра адстаў...»*) у сюжэце прагназуецца тое, за якім героем – актыўным ці пасіўным – перспектыўнае развіццё аповеду. Разам усё сведчыць пра досыць багатае інфармацыйнае напаўненне функцыі ў першым прыкладзе.

Звернемся да другой цытаты. Адносна галоўнай падзеі мы можам толькі меркаваць аб найвышэйшай ступені эмацыйнага накалу сваркі паміж антаганістамі (*«Пазлаваліся, расплюваліся, так як хто зімным перакінуў...»*), чым дэтэрмінавана «развядзенне» персанажаў у прасторы, і гіпатэтычна – аб характары такога «развядзення» (*«разышліся [г. зн. скіраваліся ў розныя, супрацьлеглыя, бакі]»*). Аднак інфармацыйнае «ўкладанне» функцыі тым фактычна і завяршаецца. Ф. Багушэвіч не імкнецца надзяліць яе павышанай сэнсавай «палётнасцю», так як – мы ўпэўніліся – робіць гэта В. Дунін-Марцінкевіч.

Вось яшчэ два паказальныя прыклады функцыянальнай рэалізацыі растання:

***1.*** [Зміцер, прадаўшы цялушку, пакідае кірмаш] *«А пакуль, мауляў, дахаты сабраўся, / Ён на дарогу селядца купіў, / Туды ж у кішэню, гдзе грошы, улажыў»* [8, с. 202].

***2.*** *«Мы сабе аб тым ды аб сім, а пасля таго я пайшоў дахаты вячэраць. Як дзісь помню, еў зацірку з малаком»* [2, с. 119].

Два прыведзеныя ўрыўкі аб’ядноўвае тое, што рух персанажаў у прасторы суправаджаецца блізкападобнай мастацкай дэталлю: і ў адным, і ў другім выпадках называецца страва, якая выступае абавязковым атрыбутам падзеі ростані. За-

пынім увагу на спецыфіцы і невыпадковасці выкарыстання нязвыклай, вонкава, здавалася б, нематываванай мастацкай дэталі ў сюжэтах двух аўтараў. У Дуніна-Марцінкевіча селядзец з'яўляецца важным сюжэтным «штрыхом» твора, які спрычыняецца да далейшага разгарнення фабулы: да мокрай рыбіны неспадзявана прыліпне выручаная за цялушку грашовая паперка, якой ненаўмысна «папалуднуе» галоўны герой. Мастацкі атрыбут утрымлівае на сабе павышаны аб'ём сюжэтна-фабульнай нагрузкі, які дазваляе ініцыяваць наступны ход падзей. Багушэвіч таксама згадвае сваю страву («зацірку з малаком»), але не ўкладае ў яе ніякага дадатковага сэнсавага пасылу для руху фабулы. Яго «атрыбут» пусты, у ім зведзены да мінімуму альбо адсутнічае фактар т. зв. «перспектыўнай сюжэтнай рэалізацыі». У адным выпадку такі спажывецкі «аксесуар» – і сапраўды мастацкая дэталь, у другім – звычайная падрабязнасць, «бутафорыя», якая не мае магчымасці развіцца ў падзею і зрушыць наперад мастацкую сітуацыю. І патрэбна такая «аздоба» аўтару толькі дзеля арганізацыі суб'ектнай маўленчай структуры апавядання, задуманага такім чынам, што ў апавядальніцкім дыскурсе істотныя звесткі-сведчанні, неабходныя для пацвярджэння факта злачынства, апускаюцца з аповеду, а значнае месца ў маўленні «сведкі» неапраўдана для суда займаюць «лішнія» падрабязнасці і ўдакладненні – такія, як малочная зацірка.

Такім чынам, індывідуальная свядомасць аўтара фармуе семантычны аб'ём і патэнцыял сюжэтнай функцыі, агаляючы ці маскіруючы мастацкую сітуацыю / падзею. У аўтарскай інтэрпрэтацыі ўнутранае напаўненне здзяйсняемых героем аперацый колькасна і якасна мадыфікуецца. Такія змены і ўтвараюць цэлую катэгорыю аднатыпных рухаў унутры мінімальных сюжэтных элементаў, якую мы назвалі парадыгматычным узроўнем трансфармацыі.

На другім мадыфікацыйным узроўні – сінтагматычным – прасочваюцца відазмены, звязаныя са спецыфікай «узаемадачыненняў» паміж адзінкамі. Трансфармацыя абумоўлена тым, што функцыі з мінімальнай сюжэтнай нагрузкай і зменшаным аб'ёмам сэнсаў асімілююцца іншымі сюжэтнымі элементамі і выцясняюцца імі з сюжэтнай схемы. Наадварот, адзінкі з высокай ступенню інфарматыўна-асацыятыўнай разгорнутасці, апынуўшыся ў «моцнай» пазіцыі, самі прыпадабняюць іншыя сюжэтныя рэалізацыі і, цалкам зліўшыся з апошнімі, забяспечваюць пашырэнне ўласнай варыянтнай парадыгмы. Узаемападпарадкаванне геройных функцый адбываецца двума шляхамі, выяўляючы пры гэтым два асноўныя тыпы міжкампанентных сувязяў: паратаксіс і гіпатаксіс.

Пры паратаксісе, альбо каардынацыі, злучаюцца ў адно самадастатковыя «маркеры» сюжэта, прычым умова непасрэднага ці блізкага кантакту такіх кампанентаў у падзейным радзе абавязковая. Гэта азначае, што каардынуемыя персанажныя функцыі не могуць належаць да сюжэтных «адрэзкаў» твора, значна аддаленых адзін ад аднаго. Напрыклад, паратаксічнымі ў сваёй аснове з'яўляюцца дачыненні паміж элементамі ў выпадках утварэння ўскладненых сюжэтных камбінацый, калі марфалагічнае значэнне адной адзінкі адначасова можа кваліфікавацца як рэалізацыя варыянтных парадыгмаў розных функцый (напрыклад, функцыя рэакцыі і функцыя парушэння забароны). З'ява функцыянальнай аманіміі ў пэўнай ступені дазваляе меркаваць аб зараджэнні і эвалюцыі т. зв. геройнага «шматгалосся», калі ў тэксце пачынаюць абасабляцца назіральныя «фокусы» некалькіх апавядальных інстанцый: аўтарскай, апавядальніцкай і персанажнай.

Гіпатаксіс найчасцей назіраецца паміж т. зв. «парнымі» адзінкамі. Такі від сувязі нярэдка прадугледжвае і патрабуе ў якасці злучальнага элемента спецы-

яльна агавораную мастацкай сітуацыяй кропку судакранання, неабходную для рэалізацыі сюжэтнага значэння абедзвюх геройных функцый. Да прыкладу, функцыя кляймення, кантактуючы ў межах фабульнага шэрагу з функцыяй пазнавання, традыцыйна спасылаецца на пэўную ідэнтыфікацыйную адзнаку. З дапамогай умоўнага «таўра» дакладна называецца патрэбны прадмет, герой ці з'ява, аднак умова наяўнасці такога «таўра» зусім не абавязковая. Яшчэ ў класічным казкавым сюжэце персанажы могуць паспяхова пазнавацца і без «меткі» (напрыклад, пасля доўгага растання), а вось ідэнтыфікацыя дзейных асобаў пасля перанесенай імі абліччавай трансфігурацыі ў пераважнай большасці выпадкаў рэалізуецца ў сюжэце як апазнанне па абавязковай унікальнай прыкмеце. З наступленнем «эпохі прозы» (С.Н. Бройтман) сюжэтная «формула» пазнавання пачынае трансфармавацца, падмінаючы пад сябе функцыянальны інварыянт кляймення і пашыраючы такім чынам сваю рэалізацыйную парадыгму.

Механізм т. зв. гіпатаксічнага дыялогу акрэсленых сюжэтных адзінак вынікае і з твораў В. Дуніна-Марцінкевіча, а таксама Ф. Багушэвіча. Параўнаем некалькі прыкладаў ідэнтыфікацыі персанажаў.

Дзве «класічныя» яе формы заяўлены ў В. Дуніна-Марцінкевіча:

**1.** Герой пазнае невядомы яму аб'ект: «*Дый Касі гаворыць: «Ты стаўроўска дзева! / Ты княжэва жонка, наша каралева! / Ты носіш падарак Стаўра на грудзі!*» [8, с. 220].

**2.** Герой пазнае відазменены аб'ект:

**а)** пасля доўгага растання: «*Тут у дзвярэй паявіўся, / Сюды, туды пакланіўся / Прыгожанькі ахвіцэр; / Красны, відны і здаровы, / З ясным вокам, чарнабровы, / Золатам блішчыць мундзер. / Як глянула Кацярынка, / <...> Гапон найшоўся пры ней*» [8, с. 191];

**б)** пасля гвалтоўнай трансфігурацыі: «*То матачкі яе душачка святая, / Так думала Кася; міла паглядая, / Не страпяне ложкай, штоб матылёк еў...*» [8, с. 214].

Прыведзеныя прыклады пазнавання паўтараюць, у цэлым, зададзенае казкай суаднясенне героя з пэўным аб'ектам рэчаіснасці, якое адбываецца праз уключэнне ў механізм ідэнтыфікацыі адметнага фізічнага кода, уласцівага персанажу альбо набытага ім раней. Паслабленне такога вонкавага паказчыка распазнаваемага аб'екта можна адзначыць у версіі **а** (пазнаванне пры доўгачаканай сустрэчы) другога варыянта рэалізацыі сюжэтнай функцыі. У нашым і іншых аналагічных выпадках непасрэдны зварот да апісальнага наратыўнага дыскурса («*<...> Прыгожанькі ахвіцэр; / Красны, відны і здаровы, / З ясным вокам, чарнабровы, / Золатам блішчыць мундзер...*») сведчыць пра падсвядомую спробу лакалізацыі ўвагі на пэўных партрэтных атрыбутах дзейнай асобы.

Прынцыпова адрозніваецца ад папярэдніх спосаб выражэння функцыі пазнавання, прыклады якога адначасова маем і ў В. Дуніна-Марцінкевіча, і ў Ф. Багушэвіча:

**3.** Герой пазнае вядомы яму аб'ект: «*Гляджу! – аж Зміцер з лошыцкай дарогі / З певуном пад пахай важна суне ногі*» [8, с. 206]; «*Прыходжу – сядзяць. Я зірк – і ён тут, наш Бартак храмы*» [2, с. 118].

Як бачна, прадмет пазнавання тут зусім не клеймаваны. Выпадак складаны тым, што з-за поўнай адсутнасці ўмоўнай «меткі» пазнаванне становіцца вельмі падобным да простага называння аб'екта. У другім прыкладзе ў якасці сімвалічнага таўра магла б выступаць кульгавасць багушэвічавага персанажа, але ў прыведзеным кантэксце такая характарыстычная дэталь героя не падразумява-

ецца як ідэнтыфікацыйны сродак: немагчыма вылучыць з групы персанажаў кульгавага чалавека, калі ўсе дзейныя асобы сядзяць.

Яшчэ адной функцыянальнай мадыфікацыяй пазнавання з’яўляецца наступны варыянт рэалізацыі адпаведнай сюжэтнай адзінкі, які па-рознаму выяўлены ў нашых аўтараў:

**4.** Герой пазнае ў добравядомым аб’екце некага альбо нешта іншае:

**а)** прымусова: [Зміцер «прызнае» ў пеўніку труса] «*Дык гэта заяц!.. – нечага ж казаць, / Вот жонка! умее і туман пускаць*» [8, с. 208].

**б)** выпадкова: [Ляснік з жонкай памылкова пазнаюць адзін у адным сустрэтага абаімі «мядзведзя»] «*А Божа ж мой, Божа, гэта, – кажа, – пэўне, той самы і мяне, спаткаўшы, хацеў задраць; як зароў, дык аж я ў балота па шыю ўляцела. <...> Але? Нябось, – кажа, – я добра прыглedзелася: і морда яго, і хвост кароценькі, і зароў як трэба, аж засмярдзела*» [2, с. 121].

В. Дунін-Марцінкевіч (**а**) выкарыстоўвае сюжэтную «формулу» псеўдаідэнтыфікацыі, калі суаднясенне аб’екта з яго назвай ускладаецца не на атрыбут альбо ўласцівасць, а на вымусовы характар пазнавання: дэтэрмінацыя падзеі досыць падрабязна апісана ў папярэдняй частцы аповеду, дзе тройчы патэнцыйныя пакупнікі наўмысна заблытваюць Зміцера, распытваючы яго аб знарок «перайменаваным» тавары. Ф. Багушэвіч (**б**) мадэлюе падзею аналагічна з «марцінкевічаўскай», аднак ажыццяўляе гэта, падмяніўшы чыннік прымусу ўмовай выпадковага супадзення вобразных радоў (сапраўднага (чалавечага) і ірэальнага (мядзведжага)). Больш за тое, аўтар далучае да называння аб’екта важкі аргумент-кляймо: уяўнага драпежніка выдаюць уяўныя «морда», «хвост» і «рык».

Мы ўбачылі, якім чынам узаемадапаўняюць і ўзаемаўплываюць у падзейным ланцужку сюжэтныя элементы, звязаныя з кляйменнем і пазнаваннем дзейнай асобы, прадмета ці з’явы. Дадатковая інфармацыя або дэталь, актуалізаваныя ў адной функцыі, у стане перакрываць цэлы комплекс сэнсаў іншай функцыі, менш стойкай альбо ўнутрана паслабленай аўтарам. Такая функцыянальная «камунікацыя» завяршаецца частковым ці поўным прыпадабненнем няўстойлівай адзінкі. Інакш, вонкавым фактарам уздзеяння на варыянтную парадыгму таго ці іншага сюжэтнага архетыпа можна лічыць сукупнасць умоў існавання персанажнай функцыі (пазіцыя, суседства з іншымі сюжэтнымі адзінкамі, здольнасць уступаць у карэляцыйныя адносіны і інш.), якія прыводзяць да набыцця кантактуючымі элементамі якасна новых характарыстык і спецыфічных прымет.

Так, працэс сюжэтнай «перакадзіроўкі» мастацкай канструкцыі на шляху эвалюцыі новай літаратуры беларускага этнасу палягае пад уздзеяннем аўтарскага індывідуальнага пачатку, з аднаго боку, праз пашырэнне / звужэнне інтэрпрэтацыйнага дыяпазону падзеі і ўзмацненне / паслабленне полісемантычнасці таго ці іншага сюжэтнага элемента, а з другога, – за дапамогай знешніх чыннікаў: непасрэднага «судакранання» і ўзаемаўплыву сюжэтных адзінак.

*Спіс літаратуры*

1. Категории поэтики в смене литературных эпох / С.С. Аверинцев [и др.] // Историческая поэтика. Литературные эпохи и типы художественного сознания: сб. ст. / Рос. акад. наук, Ин-т мировой лит. им. А.М. Горького; отв. ред. П.А. Гринцер. – М., 1994. – С. 3–38.

2. Багушэвіч, Ф. Творы: Вершы, паэма, апавяданні, артыкулы, лісты / Ф. Багушэвіч; уклад., прадм. Я. Янушкевіча. – Мінск: Маст. літ., 1991. – 309 с.

3. Бремон, К. Структурное изучение повествовательных текстов после В. Проппа / К. Бремон // Французская семиотика: От структурализма к постструктурализму / пер. с фр. и вступ. ст. Г.К. Косикова. – М., 2000. – С. 239–246.
4. Бремон, К. Логика повествовательных возможностей / К. Бремон // Искусствометрия / сост. и ред. Ю.М. Лотмана, В.М. Петрова. – 3-е изд. – М., 2008. – С. 108–135.
5. Бройтман, С.Н. Историческая поэтика / С.Н. Бройтман. – М.: Академия, 2004. – 342 с.
6. Веселовский, А.Н. Историческая поэтика / А.Н. Веселовский. – М.: Высш. шк., 1989. – 406 с.
7. Греймас, А.-Ж. Структурная семантика: Поиск метода / А.-Ж. Греймас; пер. с фр. Л. Зиминой. – М.: Академический Проект, 2004. – 368 с.
8. Дунін-Марцінкевіч, В. Творы / В. Дунін-Марцінкевіч; уклад., прадм. і камент. Я. Янушкевіча. – Мінск: Маст. літ., 1984. – 527 с.
9. Косиков, Г.К. Структурная поэтика сюжетосложения во Франции / Г.К. Косиков // Зарубежное литературоведение 70-х годов. Направления, тенденции, проблемы / АН СССР, ИНИОН; редкол.: Е.А. Цурганова (отв. ред.) [и др.]. – М., 1984. – С. 155–204.
10. Леви-Стросс, К. Структура и форма: размышления об одной работе Владимира Проппа / К. Леви-Стросс // Французская семиотика: От структурализма к постструктурализму / пер. с фр. и вступ. ст. Г.К. Косикова. – М., 2000. – С. 121–151.
11. Лихачёв, Д.С. Историческая поэтика русской литературы / Д.С. Лихачёв. – СПб.: Алетейя, 1999. – 587 с.
12. Мелетинский, Е.М. О литературных архетипах / Е.М. Мелетинский. – М.: РГГУ, 1994. – Вып. 4: Чтения по истории и теории культуры. – 134 с.
13. Мелетинский, Е.М. Поэтика мифа / Е.М. Мелетинский. – М.: Наука, 1976. – 408 с.
14. Пропп, В.Я. Исторические корни волшебной сказки / В.Я. Пропп. – М.: Лабиринт, 2002. – 336 с.
15. Пропп, В.Я. Морфология сказки / В.Я. Пропп. – М.: Лабиринт, 2001. – 192 с.
16. Фрейденберг, О.М. Поэтика сюжета и жанра. Период античной литературы / О.М. Фрейденберг. – Л.: Худож. лит., 1936. – 454 с.

**О. Панькова**

## ОБРАЗ ВРЕМЕНИ В РОМАНЕ «ЖИВЫЕ КАМНИ» ВАЦЛАВА БЕРЕНТА

В романе «Живые камни» (1918 г.) Вацлав Берент описывает начавшийся процесс деструкции гармоничного сакрального мира. Духовная пустота и безверие превращают город, окруженный каменными стенами, в бесплодную землю, овладевают душами ограниченных, окаменевших людей. Перестав быть знаком сконденсированной духовной силы, камень символизирует все мертвое, лишенное жизни, бесчувственное и приземленное. Равнодушие, черствость сердец, нравственное уродство делают людей похожими на тяжелые, неотесанные камни.

Замкнутое пространство города сдавливается каменным обручем городских стен. Тяжесть, инертность, непроницаемость, исходящие от этой твердой и неподатливой материи, просачиваются в души людей, поддающихся процессу омертвения. Горожане замкнуты в бездействии, неподвижности и монотонности, их изувеченный дух влачится среди угнетающих своей тяжестью стен домов. Выйдя за черту города, голиард молит Бога о том, чтобы узость и сдавленность городских стен, мелочность и тупость не коснулись его души: «Если не хочешь видеть во мне пустой листок, не позволь затеряться зерну Твоему в скорлупе моего тела! Не позволь груди лишиться праведной пылкости вагантов: жажды пилигрима и жара скитальца. Не дай их утолить ни у одного источника» [1,

с. 223]. В образе голиарда сливаются воедино две хорошо известные метафоры: библейское зерно, брошенное на благодатную почву, и гонимый ветром листок. Вацлав Берент использует отдельные фрагменты биографии Архипиита (XII в.) и представляет голиарда как идейного наследника автора «*Confessio Goliae*» («Исповеди»), известнейшей вагантской песни, достаточно популярной и в Польше [3]. В своей собственной интерпретации Берент устраняет акценты самокритики, подчеркивая элементы индивидуализма, бунта и протеста против всяческих ограничений и церковного аскетизма, определяя ситуацию гордой и трагической свободы. В «Исповеди» появляется метафора листьев, уносимых ветром «*similis sum folio; de quo ludunt venti*» [1, с. 221], как образная аналогия с поэтом-странником, бродящим по свету и не знающим пристанища. С особой силой этот мотив зазвучит в «Осенней песне» (1865) Поля Верлена.

В романе «Живые камни» слабый, легкий листок, если он пуст, «бесплоден», приобретает ту же негативную смысловую окраску, что и тяжелый, безжизненный камень. Эти два образа сближаются и противостоят упомянутому в молитве голиарда зерну, символизирующему духовное возрождение, полноценность, жизненную силу. Зерно, посаженное в душе поэта-скитальца, открывает ему путь к Ноеву ковчегу, спасает от духовной смерти. Вацлав Берент трансформирует миф о Ноевом ковчеге, направляя его «за море! – к Святой Земле! – в саму Кальварию» [1, с. 111].

Голиард, безымянный «рыцарь песни», обнаруживает свою ненужность новому времени. Он бессилен и слаб перед законами рождающейся в недрах Средневековья эпохи. Герою Берента противопоставляется Данте, чей образ – литературного героя и писателя, предвосхищающего Возрождение, – неоднократно появляется в романе «Живые камни». Современник голиарда, профессиональный литератор, поэт Данте мечтает об известности своего имени, иначе говоря, об индивидуальной славе, что расценивается предводителем вагантов как продажность сильным мира сего, как предательство Музы.

В романе упоминаются «Новая жизнь» (1291) и «Божественная комедия», принадлежащие перу итальянского поэта. Будучи последовательным в своем нежелании датировать события в «Живых камнях», Вацлав Берент тем не менее «роняет» один важный ориентационный ключ. Приор монастыря ордена св. Франциска хранит в своей келье рукопись «Божественной комедии». Первые рукописные варианты поэмы появились через несколько лет после смерти Данте. Исследователи его творчества относят их к 1333 году, когда возникла первая возможность ознакомления с содержанием всей поэмы [4, с. VI].

С именем Данте Берент связывает ряд существенных проблем морально-эстетического характера, отличающих психологию творчества в эпоху Средневековья и Возрождения. Любовные переживания героя «Божественной комедии», страдающего от разлуки с Беатриче, приор воспринимает как призыв к христианам, идущим дорогой любви, находя здесь созвучие с францисканскими мотивами. Сознание старого монаха ориентировано прежде всего на мистическо-религиозные истины, которым должна следовать душа христианина. И в этом видится особая примета мировоззрения средневекового человека.

То, что приор перечитывает с душевным трепетом, смакуя каждое слово, вызывает бурю негодования у голиарда, с жадностью всматривающегося в книгу. Напрасно переубеждает его приор, делясь самым сокровенным. Голиард возмущен тем фактом, что мастер подписывает книгу своим именем, акцентируя

Верш Алеся Мілюцы блізкі да твора Макара Краўцова не толькі вобразна-тэматычным зместам, але і рытміка-інтанацыйным малюнкам:

*Ды што нам сёння цемры сілы!*
*Мы – сонца – й сонцам мы жывём!*
*Штандар свой бел-чырвона-белы*
*Прад светам горда мы ўзнясём...* [4, с. 119]

Уражвае ў спадчыне гэтага паэта свядомая прыхільнасць да ідэі Крывіі, пашана да спрадвечных нацыянальных святыняў – бел-чырвона-белага сцяга і Пагоні. А быў ён усяго толькі вясковым самавукам, што займаўся сельскагаспадарчымі справамі. З артыкула Святланы Кошур паўстаюць цікавыя сведчанні Івана Макаравіча Мілюцы пра тое, «што Алесь часта складаў вершы, працуючы ў полі, за плугам. Вечарам, прыйшоўшы дахаты, спяшаўся запісаць складзеныя за дзень вершы, адмаўляючыся нават ад вячэры, а калі сястра працягвала настойліва клікаць яго, прасіў: «Пачакай крыху, да мяне прыйшла Муза» [5, с. 73]. Прыйшла, каб абудзіць магутную прагу творчасці, што жыла ў душы. Паэзія ўсведамлялася аўтарам як усеабдымная стыхія, здольная крануць людскія сэрцы:

*І зноў пяе душа... І зноў душа гавора...*
*І зноў куецца верш... Зноў рытмы лье пяро...*
*Зноў маладая кроў узыгралася бы мора, –*
*А ў думках у маіх пайшло ўсё хадыром...*

*Дык грай жа, грай жа мне, мая святая Ліра,*
*Няхай твой слёзны зык абудзіць сонны свет...*
*Хай сэрца чулае сагрэе праўдай шчырай...* [5, с. 71]

Такія яркія эмацыйныя ўсплескі знаходзім у спадчыне Алеся Мілюцы – яшчэ аднаго з кагорты паэтаў «з мазольнаю рукой», як назваў сялянскіх самавукаў аўтар першай гісторыі беларускай літаратуры Максім Гарэцкі.

У яркім, публіцыстычна-абвостраным вершы-звароце «Брату беларусу» выказаны сімвал веры новага часу, дзе галоўнай умовай шчаслівай долі – свабода:

*Вер! – прыйдзе часіна – ачнецца Народ*
*Каваць сваю Долю і Волю...*
*І новым шчаслівым свабодным жыццём*
*Прабудзяцца родныя гоні...*
*Эх, братка, свабодна і мы зажывём*
*Пад сцягам Крывіцкай Пагоні!* [4, с. 119]

Зразумела, такія вершы не маглі быць змешчаны ў калектыўным зборніку заходнебеларускай паэзіі, дзе сцягі (вобраз, што дамінуе ў назве кнігі) маюць зусім іншы колер.

Не мог абысці малады паэт у сваёй творчасці інтымныя матывы. Так, яны займаюць нязначнае месца ў ягонай спадчыне, але сведчаць пра такое зразумелае імкненне сустрэць сваё шчасце, дзяліць з каханай усё, што будзе спаткана на жыццёвай дарозе:

*Усё ж спаткаю я цябе,*
*Мая нязнаная дзяўчына!*
*З табой у шчасці і бядзе*
*Адною пойдзем каляінай* [3, с. 200].

У часы вайны Алесь Мілюць напісаў няшмат твораў. Не надта спрыяльныя былі для гэтага ўмовы. Але тое нешматлікае з ягонай спадчыны гэтага часу сведчыць пра разуменне паэтам трагедыі сусветнага маштабу, непрыняцця вайны як знішчальнай, крывавай сілы. Да прыкладу згадаем верш «У нашы дні», дзе гуманістычная пазіцыя аўтара выказана праз нагнятанне слыхавых вобразаў, эмацыйна-насычаных, якія нават у вельмі лаканічнай паэтычнай прасторы ствараюць маштабную карціну. Яркія экспрэсіўныя вобразы аднастайнай колеравай палітры (пажар, кроў), паэтычныя абрывы, умаўчанні, градацыя ўзмацняюць драматычна напружанае гучанне твора:

*Дрыжыць ўвесь свет. Пажар палае...*
*Еўропа гульбішча спраўляе...*
*І гул, і звон, і крык, і стогн*
*Чуваць ужо са ўсіх старон...*
*Ад тэй музыкі ные сэрца.*
*А кроў? Яна ракой ліецца* [4, с. 121].

Цікавая старонка літаратуры нашага Наднямоння – сяброўства Алеся Мілюця і Янкі Брыля. Уладзімір Калеснік лічыць гэта невыпадковым, бо не маглі яны, блізкія землякі, паядналыя талентам творчасці, не сустрэцца: «Важнай падзеяй для рэгіянальнага літаратурнага жыцця ў ваколіцы Вушы і Нёмна было тое, што Алесь Мілюць знайшоў па законах прыцягнення душ і шчыра пасябраваў з малодшым амаль на дзесяць гадоў земляком Янкам Брылём» [1, с. 259]. Захаваўся фотаздымак той пары, адкуль на нас глядзяць маладыя, усмешлівы Янка Брыль і засяроджаны, з прыхаванай у вачах усмешкай Алесь Мілюць поруч з сябрам маладосці Паўлам Болтуцем. Фотаздымак зроблены ў Міры.

Пра цікавыя акалічнасці першай сустрэчы даведваемся са згадкі Янкі Брыля «Успамін». Светлы брылёўскі гумар што да яго самога, тады яшчэ юнага пачаткоўца, які вельмі чуйна рэагаваў на ўсялякую крытыку ў свой адрас, перамяжоўваецца з балючым смуткам, бо калі тое пісалася, не было ўжо на гэтай зямлі ні Алеся Мілюця, ні старэйшага брата Міхася, які і прывёў у хату начнога госця: «Навошта, суме мой, такі вялікі ўступ? Нам куды лепш было б сёння сустрэцца ўтрох за сталом, успомніць тую вясковую поўнач і пасмяяцца – здалёк, праз восеньскую паэтычную смугу так многа пражытага. Не ўспомнім. Бо не сустрэнемся. Іх абодвух ужо даўно няма. Асабліва даўно – таго нашага госця» [6, с. 331].

Развагі народнага пісьменніка пра земляка, пра тое, кім бы ён мог быць («ці ўзяў бы сваё, як літаратар, ці можа стаў бы... добрым, любімым дзецьмі настаўнікам, выкладчыкам літаратуры? А можа, застаўся б, як быў да вайны, пасля Верасня, сціплым сельпоўскім рахункаводам?» [6, с. 331]) не ўлічваюць той акалічнасці, што апяваў Алесь Мілюць ідэалы вольнай Крывіччыны, вобразы Пагоні, бел-чырвона-белага сцяга. Зусім не тыя сімвалы, што шанаваліся новай уладай. Таму малаверагодна, што лёс ягоны мог бы скласціся шчасліва.

Перажыўшы вайну ў роднай вёсцы, паэт трапляе ў 1944 годзе ў Чырвонае войска. Нядоўгім быў ягоны вайсковы шлях. Усяго некалькі месяцаў. Не могуць не ўразіць франтавыя лісты паэта да роднай сястры Марыі. Нязменна пяшчотныя звароты: «Паважаная і дарагая сястрыца!», «Дарагая сястрыца!», «Добры дзень, дарагая сястрыца!», у якіх выказана любоў і павага, клопат пра яе, пра хатнія вясковыя справы, якія леглі на плечы маладой дзяўчыны. І ў кожным лісце знаходзім парады шанаваць сябе: «Ты ж, дарагая сястрыца, не плач і не шкадуй,

а беражы толькі сябе. Галоўнае, не прастуджвайся. Апранайся і абувайся як мага цяплей, таму што цяпер цябе няма каму абараніць» [4, с. 122]. Колькі тут пяшчоты да роднага чалавека, якая самаахвярнасць і адначасная пакора лёсу, і вера, што ён вернецца: «Я думаю, сястрыца, цябе гэтае пісьмо засмуціць і ўсхвалюе, таму што ў ім ёсць развітальныя матывы, не пранікайся гэтым, улічы, што кожную хвіліну я магу быць забіты або паранены, а таму я пішу табе так, як гэта ўжо апошні раз, такое ўжо ваеннае становішча, але я глыбока веру, што Бог дасць мне магчымасць вярнуцца дадому» [4, с. 125]. Вера марная, бо той ліст ад 11 кастрычніка стаў апошняй весткай да родных. 26 кастрычніка паэт загінуў ва Усходняй Прусіі.

Імя Алеся Мілюця шануецца на ягонай Радзіме. У Карэліцкім краязнаўчым музеі сабраны матэрыял пра паэта, ягоны фотаздымак змешчаны ў зале «Нашы славутыя землякі». Старшы навуковы супрацоўнік музея Святлана Кошур, нястомная руплівіца-краязнаўца, падрыхтавала для 1-х Карэліцкіх чытанняў даклад пра паэта, назву якому даў радок з ягонага верша «І зноў пяе душа...».

*Спіс літаратуры*

1. Калеснік, У. Лёсам пазнанае: Выбр. літ. партрэты і нарысы / У. Калеснік. – Мінск: Маст. літ., 1982. – 558 с.
2. Цвірка, Н. Пішу табе... / Н. Цвірка // Полымя. – 1989. – № 5. – С. 117.
3. Сцягі і паходні. Творы паэтаў з былой Заходняй Беларусі. – Мінск: Беларусь, 1965. – С. 191–203.
4. Мілюць, А. Пішу табе... / А. Мілюць // Полымя. – 1989. – № 5. – С. 118–125.
5. Кошур, С. Зямля Карэліцкая і яе славутыя людзі / С. Кошур. – Мінск: Кнігазбор, 2009. – 208 с.
6. Брыль, Я. Збор твораў: у 5 т. Т. 4 / Я. Брыль. – Мінск: Маст. літ., 1981. – 541 с.

**А. Альштынюк**

## ТЭМА ДЗІЦЯЦІ Ў ТВОРЧАСЦІ ЯНКІ БРЫЛЯ

Кітайская пісьменніца Міан-Міан у адной са сваіх кніг падкрэслівае, што дзеці з'яўляюцца сапраўднымі назіральнікамі свету. І хаця падобныя думкі выказвалі на працягу стагоддзяў многія, трэба адзначыць, што Міан-Міан надала ім новае значэнне. Яна, так як дзеці, шчыра, без хлусні, гаворыць пра свет, заўважае тыя праявы жыцця, якіх дарослыя не хочуць бачыць, толькі таму, што так выгадней, лягчэй [5]. Трэба памятаць, што жыццё нясе не толькі радасць, але і боль, крыўду, расчараванне, за якімі найчасцей стаім мы самі. Шкада, што чалавек не можа глядзець на свет вачыма дзіцяці, што разам з гадамі трацяцца дзіцячая мудрасць і шчырасць. І толькі дзякуючы ўспамінам і, безумоўна, літаратуры мы можам зноў стацца дзіцём, абудзіць у сабе ўсё светлае, чыстае, добрае.

На працягу стагоддзяў пісьменнікі і паэты вельмі часта звярталіся да тэмы дзіцяці. Не бракавала і дзіцячых герояў, якія ўзрушалі нашых бацькоў, і, напэўна, будуць парушаць сэрцы будучых пакаленняў. Пінокіа, Аліса ў краіне цудаў, Оскар з рамана Гюнтэра Граса, Маленькі прынц Антуана дэ Сент-Экзюперы... А яшчэ героі Астрыд Ліндгрэн, Марка Твена... Ёсць чым пахваліцца і беларускай літаратуры. Пра малых людзей пісалі не толькі класікі, з якіх найперш хочацца ўспомніць пра Цётку, Якуба Коласа, але і амаль усе вядомыя пісьменнікі і паэты, якія най-

перш вядомыя як аўтары кніжак для дарослых. Уладзімір Караткевіч, Янка Брыль, Васіль Быкаў... Зараз усе гэтыя творцы належаць Вечнасці, але памяць пра іх жыве. Дзякуючы пакінутай імі спадчыне, яны вядомыя і дзецям. Абавязкова трэба нагадаць і пра т. зв. дзіцячых пісьменнікаў і паэтаў, сярод якіх Янка Маўр, Алесь Якімовіч, Павел Місько, Станіслаў Шушкевіч, Алена Васілевіч.

Безумоўна, сярод многіх мастакоў слова, якія пісалі пра і для дзяцей, яркай зоркай на небасхіле беларускай літаратуры зіхціць творчасць Янкі Брыля. І хаця ён ніколі не быў спецыфічна дзіцячым пісьменнікам, але і ў гэтых яго творах таксама яскрава выяўляецца творчая манера пісьменніка. Прастату сюжэту, яснасць стылю ўмела спалучае пісьменнік з характэрным яму лірызмам. В. Каваленка адзначае, што Янка Брыль дзяцей *заўсёды заўважае ахвотна, наглядае шмат і піша як пра асоб арыгінальных і нават... псіхалагічна складаных, сцвярджаючы гэтым самым ідэю асабовасці ў літаратуры як вельмі важную і надзённую* [3, с. 223]. Ён вядомы як аўтар наступных кніг для малога чытача: «Ліпа і клёнік» (1949), «Зялёная школа» (1951), «Светлае ранне» (1954), «Пачатак сталасці» (1957), «Жыў-быў вожык» (1976), «Сняжок і Волечка» (1983). Трэба адзначыць, што дзіцячая тэма была актуальнай для яго ўсё жыццё. Я. Брыль часта звяртаўся да яе і ў сваім любімым жанры – мініяцюры, і ў апавяданнях, і ў аповесцях, і нават у рамане «Птушкі і гнёзды».

Як вядома, вытокі дзіцячай літаратуры трэба шукаць яшчэ ў фальклоры. Песні, казкі, паданні і легенды натхнялі многіх мастакоў слова. Адным з іх быў і Янка Брыль, які ахвотна звяртаўся да казачных матываў, перарабляў іх, ствараючы зусім новыя казкі, у якіх гучала цудоўная песня маленства. Казачныя матывы выкарыстаў пісьменнік у апавяданні «Асколак вясёлкі». Кароценькі пераказ народнай казкі Брыль умела і з уласцівай свайму майстэрству лёгкасцю ўплятае ў казку жыцця:

«Дзед біў, біў – не разбіў, баба біла, біла – не разбіла...»

Юрку не біў ніхто. Усе яго прасілі. Сястрычкі наперабой паказвалі, як гэта робіцца. Мама злавала, што ён яе – нават яе! – не слухае. Прасіў сам бацька. (...) Прасіла нарэшце госця бабуля (...) [2, с. 317].

Юлія Канэ слушна заўважыла, што *тут яшчэ столькі гульні – у слове, апавяданне ўецца так гарэзліва, што звычайны выпадак пераўтвараецца ў казку* [4, с. 56]. Вось брылёўская казка пра адназубага, кучаравага Юрачку, якога сямейнікі стараюцца навучыць пляскаць у далонькі. Хлопчык, здаецца, нічога не разумее. Аднак кожная маці, кожны бацька добра ведае, што дзіця адкрывае свае здольнасці заўсёды нечакана. Рыбка хвосцікам махнула, у акварыум заглянуў сонечны прамень і маленькі чалавек парадаваў свет яшчэ адной здольнасцю. Пісьменнік, які, напэўна, не адзін раз быў сведкам адкрыцця сваімі дзецьмі і ўнукамі навакольнага свету, сумеў паказаць не толькі пачуцці дарослых, але і настрой малога чалавека. Гісторыя, напісаная жыццём і запісаная ў вечнасць пяром Янкі Брыля, безумоўна, яшчэ адзін доказ нязвыклага ў звычайным, штодзённым. Яшчэ раз пісьменнік адгукнуўся на заклік свайго настаўніка Л.Н. Талстога, які раіў запісваць усё, што ўражвае розум і сэрца.

Яшчэ адной, характэрнай рысай твораў Янкі Брыля для дзяцей, безумоўна, з'яўляецца выкарыстанне слоўніка дзіцячай мовы. Пісьменнік гаворыць так, як яго героі. Простыя словы, некалькі думак, выказаных у адным сказе, а ўсё ж сэнс не губляецца. Па-дзіцячаму, вуснамі малога Лёніка, распавядае пісьменнік казку «Жыў-быў вожык». Пачынаецца казачка так:

*«Жыў-быў вожык у лесе, а потым узяў ды памёр... Ды не той, пра якога хачу расказаць, а другі, зусім іншы – вялікі, стары. А нашага Тупчыка тата злавіў у лесе і прынёс у кішэні дахаты. І гэта не казка, а праўда.*

*Я быў тады яшчэ такі малы, што нават не хадзіў яшчэ ў школу.*

*Тупчык быў таксама малы, круглы, як шэры клубок, і калючы»* [1, с. 128].

Шчырая, добразычлівая ўсмешка павінна з'явіцца на вуснах кожнага дарослага чытача, які, напэўна, не першы раз сустракаецца з падобнай сцэнкай. Пісьменнік цудоўна здолеў перадаць дзіцячае ажыўленне, жаданне як мага хутчэй падзяліцца пабачаным, пачутым, перажытым. І зноў жа, даецца нам магчымасць паглядзець на наваколле вачыма малога чалавека, які, здаецца, бачыць больш, таму што свет успрымае і сэрцам. Лёнік заўважае патрэбу сяброўства, якая характэрна не толькі людзям, але і звярам. На жаль, вожыку не ўдаецца пасябраваць ні з коцікам, ні з шчанюком, ні з квактухай. Хлопец заўважае, што Тупчыку сумна, і дае яму люстэрка, каб той не адчуваў болей самоты. Лёнік аказваецца вельмі «дарослым», хоча наблізіць неба да свайго вожыка і нарэшце вяртае яму свабоду.

У апавяданні «На сцежцы – дзеці» пісьменнік гаворыць пра малых па-іншаму. Надалей гучыць тут вясёлая песня жыцця, радасць выклікана сустрэчамі з дзіцячай мудрасцю і бесклапотнасцю. Безумоўна, адчуваюцца і дзіцячая радасць ад пазнання свету, і захапленне поўным усё яшчэ таямніц, чароўным і цудоўным наваколлем. Аднак усяму гэтаму спадарожнічае пачуццё трывогі за свет, за будучыню, за дзяцей. Яно не дазваляе дзеду цалкам цешыцца ўнукамі. Ён разам з імі, але адначасова на месцы вялікай трагедыі, у Чарнобылі. Увесь твор прасякнуты пачуццём бездапаможнасці і віны перад тымі, хто пацярпеў, а найперш – перад дзецьмі. Уражвае тое, як Я. Брыль умела і з уласцівай яму ўражлівасцю спалучыў два часава-прасторавыя планы: летась і сёння, тут і там. Яны існуюць у свядомасці пісьменніка, яго дарослых герояў. Анечцы ж і Максіму дадзена магчымасць знаёміцца са светам, у якім весела балбоча індык Бурбалка, падае лапу сучка Цыганачка.

Тэма дзіцяці, як ужо адзначалася, гучала ў многіх творах Я. Брыля. Ён, безумоўна, належыў да тых пісьменнікаў, якія шчыра дзяліліся з чытачом самым інтымным. У большасці твораў Брыля знаходзім рысы аўтабіяграфізму, дзякуючы чаму можам глыбей зразумець іх сутнасць. Вельмі часта вяртаўся пісьменнік у краіну свайго маленства, якое напоўнена было не толькі мацярынскай ласкай, але і горам страты найдаражэйшага чалавека. Смерць бацькі, развітанне са школай, выкліканае патрэбай дапамогі маці, – моманты біяграфіі Я. Брыля, да якіх звяртаўся ён неаднойчы, што, пэўна, звязана з неабходнасцю выказаць набалелае, палячыць душу. Многім сваім героям аддаў пісьменнік частку самім сабой перажытага. Успомнім хаця б Алеся Руневіча, які таксама, як і Брыль, не адразу зразумеў, што з адыходам бацькі ўсё зменіцца.

Абавязкова трэба сказаць і пра Даніка Мальца, героя аповесці «Сірочы хлеб». Бацька Даніка не вярнуўся з вайны. Ва ўспамінах дзіцяці ён застаецца жывым: *тата быў вясёлы і добры. Нібы праз сон успамінаецца,– у шэрым шынялі, з чырвонай зоркай на шапцы, тата казытаўся вусамі і рагатаў, падкідаючы Даніка на руках* [1, с. 40]. На жаль, жыццё без бацькі ўскладнілася. Але ёсць у яго яшчэ маці, якая ў многім нагадвае маці пісьменніка – Анастасію Іванаўну. Яна цяжка працуе, каб забяспечыць будучыню дзіцяці, але грошай хапае толькі на бягучыя патрэбы. І яшчэ раз пісьменнік схіляецца перад кожнай, а найперш, сваёй маці, якая, хаця і неадукаваная, але ж разумела неабходнасць вучобы.

У аповесці ярка вызначаюцца і іншыя моманты жыцця пісьменніка. І аўтар, і яго герой вучыліся ў польскай школе, абодва не змаглі вучыцца далей, абодва працавалі на гаспадарцы і займаліся самаадукацыяй. Данік сустрэў на сваім шляху цудоўных і вартасных людзей, якія дапамаглі яму зразумець жыццё і свет. Дзякуючы Міколе Кужалевічу хлопчык зразумеў, што значыць быць беларусам. Пані Мар'я адкрыла перад хлопцам свет польскай літаратуры. Трэба адзначыць, што тут, падобна як і ў рамане «Птушкі і гнёзды», пісьменнік распавядае не толькі пра дзяцінства сіраты, але і пра станаўленне характару маладога чалавека, нараджэнне яго свядомасці.

Як ужо адзначалася, Я. Брыль умеў зразумець свет дзіцяці, паглыбіцца ў яго псіхіку. Пісьменнік прапанаваў чытачу паглядзець вакол сябе вачыма малых людзей, якія часта бываюць сталейшымі за дарослых. У сваіх творах даў ён і своеасаблівую характарыстыку дзіцячага ўзросту, пачынаючы з першых месяцаў жыцця. Шматразова пісьменнік падкрэсліваў, што характар, будучыня чалавека залежаць у значнай ступені ад таго, як прайшлі яго дзіцячыя гады, бо ўсе мы родам з дзяцінства.

*Спіс літаратуры*

1. Брыль, Я. *Збор твораў.* Том 1 / Я. Брыль. – Мінск, 1960.
2. Брыль, Я. *Збор твораў.* Том 2 / Я. Брыль. – Мінск, 1960.
3. Каваленка, В. *Жывое аблічча дзён /* В. Каваленка. – Мінск, 1979.
4. Канэ, Ю. *Плынь. Літаратурная крытыка* / Ю. Канэ. – Мінск, 1983.
5. Mian-Mian *Cukiereczki* / Mian-Mian. – Warszawa, 2007.

**В. Кавальчук**

## МАТЫЎ «ПАБРАЦІМСТВА» Ў АПОВЕСЦІ В. БЫКАВА «ЖУРАЎЛІНЫ КРЫК» І РАМАНЕ Т. НОВАКА «А ЯК БУДЗЕШ КАРАЛЁМ, А ЯК КАТАМ БУДЗЕШ»

Васіль Быкаў і Тадэвуш Новак – пісьменнікі, шырока вядомыя не толькі ў сваіх краінах, але і за іх межамі. У сваіх празаічных творах яны адлюстравалі падзеі Другой сусветнай вайны, што закранула беларускі і польскі народы. Нягледзячы на тое, што ваеннае ліхалецце застала беларускага творцу ў юнацкім узросце (Васіль Быкаў нарадзіўся ў 1924 годзе), а польскага – у гады дзяцінства (Тадэвуш Новак нарадзіўся ў 1930 годзе), яно не пакінула без моцнага балючага ўражання абодвух будучых пісьменнікаў. Тэма вайны, выбару ў экстрэмальных абставінах і агульны антываенны пафас аб'ядноўваюць аповесць В. Быкава «Жураўліны крык» і раман Т. Новака «А як будзеш каралём, а як катам будзеш». У абодвух творах прысутнічае таксама матыў пабрацімства, звязаны з вобразам ежы.

А.М. Весялоўскі ў «Гістарычнай паэтыцы» ўжывае паняцце «матыў»: «Пад *матывам* я разумею прасцейшую апавядальную адзінку, якая вобразна адказала на розныя запыты першабытнага розуму ці бытавога назірання» [1, с. 500]. У раздзеле, прысвечаным бытавым асновам сюжэтнасці, а таксама

матывам і сюжэтам, што адлюстроўваюць дагістарычны быт, даследчык згадвае наступную групу матываў: «Штучны род. Прыняцце ў яго. Сімволіка крыві. Братанне і пабрацімства ў абрадзе і эпасе. *Compagnonnage* і кумаўство» [1, с. 573]. Для дасягнення кроўнага радства патрэбны былі так званыя «адносіны крыві», якія былі сімвалам прыняцця ў род: «калі-некалі кроў збіраюць у чашу і дадаюць да яе вады ці віна; калі-некалі прамываюць кроўю кавалкі ежы, якая прапануецца абодвум бакам. Калі-некалі, урэшце, лічыцца дастатковым пацерці адну рану, з якой цячэ кроў, аб другую, так каб кроў адной і другой змяшалася і часцінкі гэтай сумесі засталіся на кожнай» [1, с. 574]. Аднак кроў можа замяняцца і фарбай (сумежнасць па колеры), і слінoй (сумежнасць па паходжанні). Акрамя таго, вельмі моцна «выражаецца ідэя кроўных адносін, калі кроў прымешваецца да ежы тых, хто сядзіць за адным сталом» [1, с. 575]. Улічваючы гэты факт і факт пераасэнсавання сліны як крыві, можна прыйсці да высновы, што сумесная трапеза з аднаго посуду можа ўспрымацца як варыяцыя матыву штучнага сваяцтва, разнавіднасцю якога з'яўляецца пабрацімства. У якасці прыклада названага пабрацімства А.М. Весялоўскі прыводзіць звычай *Johannisminne*, калі на 24 чэрвеня «збіраліся суседзі і знаёмыя і сталавалі разам; мірыліся тыя, хто на працягу года варагаваў адзін з адным; адзін прыносіў хлеба, другі віна і г.д.» [1, с. 583]. Відавочна, што і да сённяшніх дзён захавалася гэтая сімволіка адзінства: за сумесным сямейным сталом сям'я, звычайна, дзеліцца харчаваннем з тымі, хто ўваходзіць у яе. Узмацняецца падобнае значэнне ў сітуацыі, калі асобам даводзіцца есці з аднаго посуда.

Менавіта да пералічаных характарыстык матыву пабрацімства цікава і мэтазгодна звярнуцца, разглядаючы аповесць «Жураўліны крык» і раман «А як будзеш каралём, а як катам будзеш».

Калі шэсць байцоў апынуліся ў нялёгкіх франтавых абставінах, адзіным іх прытулкам на ноч была старая старожка, мала падобная да чалавечага жылля: «Утульнасці тут было небагата: дзьмула з вокнаў, дым не хацеў ісці ў комін і, расплываючыся пад нізкай столлю, выядаў людзям вочы, але ўсё гэта здалося ім раем пасля той непагадзі, ад якой яны схаваліся сюды» [2, с. 43–44]. Адзін з байцоў, Віцька Свіст, прапануе згатаваць вячэру і на пытанне, што можна зварыць, адказвае: «Ну, браце, – што ў каго ёсць» [2, с. 44]. Сімвалічны зварот «браце» падкрэслівае канатацыю збліжэння, а сам адказ запрашае людзей, што знаходзяцца ў старожцы, падзяліцца з іншымі ежай і прыняць удзел у агульнай вячэры. Віцька аддае паўпачку пшонкі, Васіль Глечык – трохі гарохавага канцэнтрату. Івана Пшанічнага адпраўляюць за вадой, а ў гэты час з яго мяшка Свіст дастае кавалак сала. Відавочна, што Іван не гатовы да прапанаванага сімвалічна «пабрацімства», яго не турбуе лёс таварышаў, таму ён не стаў дзяліцца з імі тым, што меў. Сваю пазіцыю праяўляе таксама старшына Карпенка: «Слухай, Свіст, нядобра робіш, <...> Трэба спытацца» [2, с. 45]. Сам ён не меў, чым падзяліцца, але паказальна, што, нягледзячы на ўчынак Івана, ён паступае з ім «па-брацку», не хоча крыўдзіць байца. Віцька адказвае, што Пшанічны і так бы нічога не даў, і дэманструе сваю праватy тым, што атрымлівае адмоўны адказ на сваё пытанне Івану, калі той вяртаецца: «Братачка Пшанічны, ці няма ў цябе якога куса да агульнай кучы?» [2, с. 45]. Хутка Аўсееў быў адпраўлены на варту, яшчэ адзін салдат, Фішар, заставаўся ў сакрэце. Такім чынам, есці кашу пачалі чацвёра байцоў: «Елі ўсе разам, з адной пасудзіны, згодна шкрэ-

баючы драўлянымі і алюмініевымі лыжкамі <...>» [2, с. 47]. Старшына і цяпер памятаў пра іншых і заўважыўшы, што «на сподзе засталося нямнога», спыніў вячэру, загадаўшы пакінуць рэшту Аўсееву і Фішару. Толькі пасля гэтага Свіст прызнаецца Пшанічнаму ў сваёй хітрасці: «Ну, братка Мурло, як кашка? <...> Добрае ў цябе было сальца» [2, с. 47]. Хоць падмануты баец і злуецца, Віцька намагаецца растлумачыць яму, што гэта было зроблена і для ягонага дабра.

Байцы ядуць з аднаго посуду – так В. Быкаў увасабляе матыў франтавога пабрацімства. Сімвалічна тое, што Свіст, гатуючы ежу для ўсіх, выкарыстоўвае зварот «брат» і падобныя. Думкі пра іншых байцоў можна заўважыць ва ўчынках Глечыка і Карпенкі. Нельга гэтага сказаць пра Аўсеева, які проста злуецца на тое, што апынуўся ў цяжкай сітуацыі, і пра Пшанічнага, які клапоціцца толькі пра сябе. У такім сэнсе матыў пабрацімства набывае драматычнае адценне: выяўленая на пачатку пазіцыя Аўсеева і Пшанічнага, якія змушаны ваеннымі абставінамі да часовага пабрацімства, мяняецца, калі яны атрымліваюць магчымасць пакінуць таварышаў, ратуючы сябе. Адступніцтва не застаецца без пакарання: абодва здраднікі гінуць.

У рамане «А як будзеш каралём, а як катам будзеш» матыў пабрацімства, звязаны з вобразам ежы, сустракаецца некалькі разоў. Спынімся на адным з эпізодаў, калі тры хлопцы – Пётр, Стах і Маісей – адпраўляюцца на вайну. Яны ведаюць адзін аднаго, але зараз галоўны герой Пётр дастае са свайго куфра яблыкі і дзеліцца імі. Варта адзначыць тое, што ён не дае кожнаму па яблыку, а выкарыстоўвае шаблю (зброю, якая калісьці забівала людзей), каб разразаць іх на крыж і раздаваць кожнаму часткі аднаго і таго ж яблыка. Такім чынам, перекрыжоўваюцца сімвалічныя канатацыі крыві (у вобразе шаблі), агульнага посуду (шабля як тое, што дакранулася да кожнага кавалка) і сумеснай трапезы. Акрамя таго, перад тым, як рэзаць яблыкі, Пётр пачынае забаву: выхіліўшыся з вагона, ён ссякае галінкі алешніка шабляй. Пазней да гэтай забавы далучыліся і Маісей са Стахам, па чарзе спрабуючы сваю спрытнасць. Гэтая сітуацыя мае адносіны да матыву пабрацімства: не было жывёл у якасці ахвяры, але былі расліны, што пакінулі на шаблі свой сок, а таму «яблыкі мелі смак алешнікавай мешанкі і жалеза» [3, с. 142]. Канатацыя крыві і сумеснага яе спажывання змацняецца словамі: «Нават шабля, не абцертая ад алешнікавага соку, чарнела на маіх каленях, як ад сукравіцы» [3, с. 142]. Ніхто з таварышаў не здраджвае сімвалічнаму саюзу, які падмацоўваецца словамі Пятра на наступны дзень. Калі Стах з Маісеем пасварыліся, галоўны герой, беручы іх «за чупрыны», стукае лбамі, потым злучае іх далоні, далучаючы свае, і кажа: «Трымаймася разам. Вайна. Трымаймася ўсе» [3, с. 147]. Гэтым учынкам (прымірэнне) і агучваннем мэты пабрацімства Пётр сцвярджае важнасць і непахіснасць іх рашэння не пакідаць аддзін аднаго, не вымаўленага астатнімі сябрамі. А калі сябры Пятра гінуць, ён памятае аб помсце за іх, шукаючы тых, хто вінаваты ў смерці «пабрацімаў».

Як бачым, у абодвух творах выразна гучыць матыў пабрацімства (сумеснага спажывання ежы байцамі ў В. Быкава, сябрамі ў Т. Новака). Гэта дапамагае па-мастацку ўвасобіць і ўзмацніць антываенны пафас твораў, падкрэсліць абодвум аўтарам трагічны лёс тых, хто здраджвае пабрацімству, і велізарны маральны цяжар тых, хто страчвае пабрацімаў. Васіль Быкаў і Тадэвуш Новак па-рознаму рэалізуюць гэты матыў у сваіх празаічных творах (у беларускага мастака матыў пабрацімства не мае канатацыі крыві, але мае

сацыяльны кантэкст, у адрозненне ад матыва пабрацімства ў творы польскага мастака, дзе ён больш блізкі да свайго абрадавага праўвобраза). Безумоўна, што майстэрскае ўвасабленне матыву пабрацімства дапамагае беларускаму і польскаму мастакам паглыбіць псіхалагізм, драматызм і напружанне дзеяння антываенных твораў: аповесці «Жураўліны крык» і рамана «А як будзеш каралём, а як катам будзеш».

*Спіс літаратуры*

1. Веселовский, А.Н. Историческая поэтика / А.Н. Веселовский. – М.: Едиториал УРСС, 2004. – 648 с.
2. Быкаў, В. Выбраныя творы: у 2 т. / В. Быкаў. – Мінск: Мастацкая літаратура, 1974. – Т. 1: Аповесці. – 498 с.
3. Nowak, T. A jak królem, a jak katem będziesz / T. Nowak. – Warszawa: Czytelnik, 1972. – 387 s.

**С. Тарасава**

## ДА ПЫТАННЯ АБ ЖАНРАВАЙ ПРЫРОДЗЕ ПАЭМ ЯНА ЧЫКВІНА

«Шмат прыгожага існуе ў свеце разрознена, і гэта – задача нашага духа: выявіць сувязі і тым самым спрыяць з'яўленню твора высокага мастацтва» (І.В. Гётэ). Згаданае выслоўе знакамітага аўтара можа абсалютна дакладна датычыцца многіх пісьменнікаў-«белавежцаў», творцаў, што прадстаўляюць беларускую літаратуру Польшчы і ўжо колькі дзесяцігоддзяў спрыяюць з'яўленню вельмі непаўторнага па сваёй сутнасці мастацтва слова.

Не ў меншай меры словы Гётэ могуць адносіцца і да асобы Яна Чыквіна, прызнанага аўтара з арыгінальным мастацкім стылем, у якім арганічна спалучыліся вобразы прадметна-быційнага свету і сузіральная медытатыўнасць. Гэты сплаў дакладна ўказвае не на што іншае, як на ўмелае выяўленне творцам ўнутрымастацкіх сувязей паміж высокаэстэтычнымі з'явамі розных культур. Гэта неаднаразова адзначалася даследчыкамі творчасці паэта: «Яго вершы арганічна ўпісваюцца як у рэчышча сучаснай беларускай літаратуры, так і ў шырокі агульнаеўрапейскі кантэкст, і шырэй – сусветны культуралагічны кантэкст» [3, с. 270]. «Вызначальная рыса паэзіі Яна Чыквіна, на наш погляд, – у своеасаблівасці яе культуралагічнага кантэксту: народна-беларускае выступае тут як арганічная частка выкшталцона-еўрапейскага... Еўрапейскасць і беларускасць Яна Чыквіна – ва ўраўнаважанасці, інтэлігентнай стрыманасці яго вершаў, самім стылі мыслення. Творам паэта ўласцівы арганічны інтэлектуалізм, што выяўляецца ў глыбокім веданні айчыннай і сусветнай літаратур, філасофіі, культуры» [1, с. 129].

Многія аспекты творчасці Яна Чыквіна дастаткова грунтоўна асветлены ў даследчых працах як беларускіх, так і польскіх навукоўцаў. Аднак у іх полі зроку, як правіла, знаходзяцца вершаваныя творы пісьменніка. На фоне ацэнак мастацкіх набыткаў паэзіі Яна Чыквіна дастаткова сціпла адзначана яго паэмная творчасць.

Пісьменніку належаць некалькі паэм. Адна з іх – паэма «Беларуская дзяўчына» – змешчана ў першым зборніку «Іду», што ўбачыў свет у Беластоку ў

1969 годзе. Па сваёй мастацкай прыродзе названая паэма настолькі вылучалася з рэчышча класічных твораў гэтага жанра, што, здаецца, гэта і было адной з прычын надання ёй характарыстыкі, кшталту: «Першая паэма, на наш погляд, атрымалася шмат у чым павярхоўнай. Героі яе схематычныя, пазбаўленыя індывідуальных рыс» [2, с. 25]. Яшчэ больш спрэчнымі бачацца ўказанні на жанравую прыроду паэмы, якая «не мае выразнай родава-жанравай прыналежнасці» [2, с. 25]. Хаця калі даследчык урэшце падагульняе свае назіранні за жанравай прыродай паэмы, то аказваецца, што ўсё ж «можна гаварыць пра жанр ліра-драматычнай паэмы». Адзінае сцвярджэнне, з якім можна пагадзіцца ў дадзеным рэчышчы, тое, што «такі сінтэз родавых і відавых прыналежнасцей ілюструе агульныя пошукі тагачаснай літаратуры ў галіне паэмнага жанра» [2, с. 25].

Згаданыя ацэнкі ў дастатковай ступені пераконваюць, што ўжо першая паэма Яна Чыквіна з'яўляецца творам у пэўнай ступені неардынарным, і многімі сваімі рысамі яна не ўпісваецца ў агульнапрыняты стэрэатып класічнай паэмы з яе адлюстраваннем «шырокай сацыяльнай рэчаіснасці ў аб'ектыўнай заканамернасці яе развіцця» [4, с. 115].

Многія адзнакі паэмы (аслабленасць сюжэтнага дзеяння, вострадраматычная форма дыялогаў і маналогаў і інш.) указваюць на стварэнне пісьменнікам сінтэтычнай паэмнай формы, у якой свабодна спалучаюцца канкрэтна-жыццёвыя абрысы рэчаіснасці і элементы ўмоўнай схематызаванасці. З сённяшняй пазіцыі можна ўпэўнена сцвярджаць, такі сінтэз з'яўляецца ілюстрацыяй паяднання дзвюх традыцый, якія леглі ў аснову паэмы Яна Чыквіна: нацыянальнай (яна бярэ пачатак ад паэм Ул. Дубоўкі) і сусветнай, з яе арыентацыяй на ўмоўнасць і шматзначнасць. Як і паэзія Яна Чыквіна 60-х гадоў, паэма выяўляе скіраванасць аўтара да эксперыментальнага рэчышча.

Другая паэма Яна Чыквіна «Чорная віла» (1977, 2001 гг.) працягвае тыя ж тэндэнцыі, што вызначыліся ў папярэднім творы. І ў той жа час відавочна: аўтар у гэтым творы апрабіруе новыя эпічна-структурныя формы, пашырае паэтычную ўмоўнасць, уздымаецца да філасофскага асэнсавання праблем свайго часу.

У паэме апісаны адзін дастаткова непрацяглы эпізод, але перададзены ён ва ўсім сваім драматызме і дынамічнасці. Пачынаецца твор раздзелам «Змярканне», у якім аўтарам падаецца жывапісны малюнак вячэрняй пары на вясковасялянскім улонні:

Звечарэла непрыкметна.
І пад белагусты змрок
Разгайданым крокам ветлівым
Дружна йшоў аркестр кароў.

Сумным голасам старэчым,
Пакалечаным і ватным,
Ім знаёмы хор авечак
Памагаў спяваць кантаты.

Разам з імі на вячэру
Хмара птушак прыфурчэла.
І, як людзі глухаватыя,
Гусі тэпалі дахаты [5, с. 238].

Аднак гэта не чарговая паэтызацыя блізкай сэрцу паэта рэчаіснасці: канкрэтыка на вачах пераўтвараецца ў шматзначную алегорыю. Свойская жывёла, вярнуўшыся з пашы, не сустрэла звыклага гаспадарскага клопату:

Людзі зніклі, як камфора.
Так бязлюдна, што не верыш!.. [5, с. 241]

Народжанае здзіўленне жывых істот ператвараецца ў панічнае чаканне. Драматызм адчуванняў жывёл выяўляецца ў раздзелах «Здзіўленне», «Віла», напісанне якіх датуецца 1977 годам. Матывам трывожнага чакання невядомасці заканчваецца першы варыянт паэмы. Уяўная незавершанасць паэмы выклікала наступную ацэнку: «Кампазіцыйна паэма атрымалася няўстойлівай, разгайданай. Яна не вытрымлівае ўскладзенай ідэйна-эстэтычнай нагрузкі...» [2, с. 49]

І, здаецца, толькі дададаная пазней частка «Метамарфозы» нібыта ўказвае на пэўную развязку. Надыходзіць ранак і ўсё вяртаецца ў звыклае рэчышча:

Ў хаце як бы й не было ужо звяругаў:
Там, дзе конь стаяў – сядзеў аглушаны Дзямян,
Побач, як карова, – жыватастая Малання...
...Зноў дзень першы пачынаўся
Заімглёным светакругам [5, с. 248].

Нельга не задумацца над умоўнасцю дзеяння і шматзначнасцю выпісаных паэтам алегарычных вобразаў. Праз усе раздзелы паэмы праходзіць думка, якая непасрэдна ў тэксце нідзе не вербалізуецца і не выносіцца ў загаловак, думка аб свабодзе, якая не даецца нікім і ўзнікае толькі пры адчуванні ўласнай знакавасці. Істота слабая, звыклая да падпарадкавання не зможа быць свабоднай ніколі.

Для выяўлення такога роду ісціны Яну Чыквіну, думаецца, выдатна прыдаўся мастацкі вопыт англійскага пісьменніка Дж. Оруэла з яго аповесцю-казкай «Ферма», якая вылучаецца сваёй філасофска-мастацкай абагульненасцю думкі.

Філасофская прырода канфлікта ў творы Яна Чыквіна значна паўплывала на мастацкую форму паэмы, якая з’яўляецца ўзорам асобай жанравай мадыфікацыі. Беручы пад увагу родавыя адзнакі, можна вылучыць у творы наяўнасць эпічных і лірычных элементаў. Паэма мае яўную ўстаноўку на сюжэтнасць. А настраёвы тон твора, скіраванасць на ўнутраную засяроджанасць указваюць на лірычную прыкмету. Сінтэз гэтых элементаў дае паэме новую якасць – маштабнасць мастацкага абагульнення.

У той жа час прысутная ў паэме іншасказальна-сімвалічная апавядальная плынь, філасофская глыбіня думкі, абагульненасць сітуацый з’яўляюцца адзнакамі прытчавага пачатку ў творы Яна Чыквіна. Выяўленыя пісьменнікам канкрэтныя вобразы жывых істот уяўляюцца «абагульненым вобразам адзінай абстрактнай масы» і, безумоўна, спраецыраваны на адлюстраванне самых актуальных праблем сучаснасці.

Стварэнню шматзначнай карціны ў паэме спрыяе арыгінальны падбор тропаў, яркіх параўнанняў, арыгінальных метафар:

Ноч дужэла і дзічэла,
Чорныя віла вяроўкі,
Лезла пошасцю ўзбуйнелай
Па бязмежнаму падворку.

Толькі ў вокнах зніклай хаты,
Быццам у вядры напойным,
Як яго не калыхалі,
Плаваў месячык спакойна [5, с. 246].

Створаны такім чынам ў паэме вобраз ночы выяўляе не канкрэтызаваную пару сутак, а ўвасабляе сабой таямнічую, насычаную трывожным прадчуваннем з'яву.

Вылучаныя адзнакі дазваляюць абазначыць жанр паэмы Яна Чыквіна «Чорная віла» як філасофская паэма – прытча.

Такім чынам, выяўленае ў паэме імкненне пісьменніка выкарыстаць розныя жанравыя і родавыя магчымасці літаратуры з'яўляецца характэрнай прыкметай агульнага руху гэтага жанра да сінтэзаваных мастацкіх форм. Пры гэтым відавочна, што пісьменнік стварае сваю адметную карціну свету, узяўшы за арыенцір традыцыі як еўрапейскай, так і нацыянальнай літаратур, гэтым самым здолеў адлюстраваць тыя працэсы, што нязменна адбудуцца ў мастацкай сістэме жанра паэмы.

*Спіс літаратуры*

1. Мельнікава, А. «Дзе скарбы сэрца вашага...» / А. Мельнікава // Полымя. – 2010. – № 3. – С. 129–137.

2. Раманчук, А. «Гарыць мая свяча»: творчая індывідуальнасць Яна Чыквіна / А. Раманчук. – Беласток, 2000. – 90 с.

3. Раманчук, А. На раздарожжы дня і ночы / А. Раманчук // Полымя. – 2002. – № 3–4. – С. 259–270.

4. Поэма // mirslovarei.com/content_his/POJEMA-5500.html

5. Чыквін, Ян. Адно жыццё: выбранае /Ян Чыквін. – Беласток, 2009. – 304 с.

**А. Саковіч**

## МАЛАЯ РАДЗІМА Ў ТВОРЧАСЦІ АЛЯКСЕЯ КАРПЮКА

Вядомы амерыканскі пісьменнік Уільям Фолкнер, лаўрэат Нобелеўскай прэміі 1949 года, напісаў шэраг твораў («Sartoris» 1929, «As I Lay Dying» 1930, «Absalom, Absalom» 1936) пра прыдуманую краіну, якую назваў «Yoknapatawpha country», якая ў сапраўднасці ж была адлюстраваннем роднай мясціны творцы La Fayette у штаце Місісіпі. Падчас працы над раманам «Sartoris» Фолкнер быў у росквіце таленту. Пісьменнік прызнаўся: «Zrozumiałem, że mój ojczysty skrawek ziemi, wielkości znaczka pocztowego, zasługuje na opisanie (...) odkryłem, że nie tylko jedna książka, ale całe dzieło artysty musi mieć jakiś cel» [1, c. 82]. З сённяшняй перспектывы можна сцвердзіць, што мэтай Фолкнера-пісьменніка было ўслаўленне роднай яму Місісіпі.

Адзін з найцікавейшых беларускіх пісьменнікаў Аляксей Карпюк таксама ў родным кутку бачыць адлюстраванне ўсяго свету. У нарысе «Мая Джамалунгма», апавяданні «Галгофа сваякоў», аповесцях «Данута» і «Пушчанская адысея», рамане «Вершалінскі рай», драме «Канец свету. Сялянская драма» пісьменнік піша пра родныя мясціны. Ён нарадзіўся 14 красавіка 1920 года ў вёсцы Страшава на Беласточчыне, ад якой *бліжэйшым культурным цэнтрам (...) было мяс-*

*тэчка Гарадок. (...) За якіх трыццаць пяць кіламетраў ад нашага Страшава знаходзіўся Беласток* [2, с. 352].

Падляшская вёска Страшава знаходзіцца на зямлі, якая спрадвеку была населена беларусамі. Хаця пазней яна апынулася ў Польшчы, яе жыхары з'яўляюцца аўтахтонамі на гэтай тэрыторыі. Яны ніадкуль сюды не эмігравалі, а проста атрымалі яе ў спадчыну ад бацькоў, дзядоў і яшчэ ранейшых продкаў. У выніку Рыжскай дамовы 1921 года ў Польшчы засталіся такія старажытныя беларускія гарады, як Бельск Падляшскі, Гарадок, Заблудаў, Саколка, а яны ж гістарычна належалі да Беларусі, да заходніх яе зямель. Дзякуючы таму, што беларусы жылі сканцэнтравана пераважна ў вёсках, у невялікіх мясцовасцях, яны на працягу досыць доўгага часу змаглі пазбегнуць працэсу асіміляцыі, захаваць сваю традыцыю, мову, тоеснасць, а таксама развіваць сваю культуру ў розных яе галінах. Выдатным прыкладам тут у літаратурнай прасторы з'яўляецца дзейнасць Беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа», якое існуе ўжо звыш пяцідзесяці гадоў. Вельмі праўдападобна, што калі б Аляксей Карпюк застаўся на Беласточчыне, то, відаць, стаў бы членам БЛА «Белавежа».

Увогуле ж гістарычная мінуўшчына Падляшша надзвычай складаная. Прыкладам могуць быць здарэнні, якія мелі месца ў час паўстання 1861 года. У Крыноцкай пушчы ў вёсцы Перацёсы знаходзіцца магіла паўстанцаў, дзе ляжаць ахвяры няпростай мінуўшчыны. Мастацкае асэнсаванне гэтай легенды знаходзім у вядомага «белавежца» Міколы Гайдука ў быліцы «Раны». Мужыкі падказалі царскім салдатам, дзе хаваліся паўстанцы, якіх тыя знішчылі. Да гэтай балючай гісторыі міжволі вяртаецца А. Карпюк у аповесці «Пушчанская адысея», калі галоўны герой А. Кучынскі, які, дарэчы, камандуе атрадам, nomen omen, Кастуся Каліноўскага, прыходзіць на гэтае слыннае месца. За тое, што зрабілі мужыкі, яны атрымалі ўзнагароду.

Жыхары вёскі Страшава ні за што не хацелі далучыцца да найбліжэйшага культурнага цэнтра – да гміны ў Гарадку. Таму, як успамінае Карпюк у апавяданні «Мая Джамалунгма», польскія ўлады называлі вёску «чырвоным гняздом» [2, с. 352]. Відавочна, народная мудрасць падказвала землякам пісьменніка *трымацца ад улады на дыстанцыі* [2, с. 352]. Другой прычынай такога акрэслення вёскі была і сімпатыя страшаўцаў да ўсяго, што адбывалася за ўсходняй мяжой. Самым яркім яе выразам, які быў адзначаны гісторыкамі, быў удзел жыхароў Страшава ў рэвалюцыйных падзеях 1905 года ў Беластоку. За гэта арыштаваных страшаўцаў з чырвонымі бантамі асудзілі на катаргу. Пасля гэтых падзей недавер польскай улады ўзрос да такой ступені, што *на хутары страшаўцаў перасялялі з паліцыяй. Падаткі спаганялі таксама з паліцыяй* [2, с. 352–353].

Аднак ніякія рэпрэсіі не маглі адбіць любові ў страшаўцаў да Беларусі. Яны, беларусы па нацыянальнасці, думалі, што за ўсходняй мяжой рай для ўсіх, што *там усім хопіць і работы і прытулку. Тыя, хто ўцячы не мог, пацяшалі сябе: нічога, тут Пілсудскі, але і ў нас ёсць свая Радзіма* [2, с. 353]. Сапраўды, страшаўцы былі верныя сваім продкам, сваёй нацыі, сваёй мове і надта ідэалізавалі падзеі, што адбываліся ў Савецкім Саюзе. *Вера людзей была святой да наіўнасці, упартай да смерці, часамі гранічыла з сектанцтвам. І мой бацька ў сваёй веры быў цвёрды да слепаты. Ён рэвалюцыйны дух прынёс яшчэ з арміі, у вёсцы арганізаваў ячэйку кампартыі, потым – камсамола* [2, с. 353]. Тым, якія

гаварылі аб гэтым, як сапраўды разгортваліся падзеі на Ўсходзе, не давалі веры, лічылі, што яны прадаліся панам. Усе гэтыя назіранні, размовы дарослых Аляксей Карпюк чуў яшчэ малым хлопчыкам.

Сям'я Карпюкоў была як патрыятычнай, так і вельмі працавітай, дружнай. Да гісторыі свайго роду, адкуль Карпюкі з'явіліся ў Страшаве, пісьменнік будзе вяртацца неаднойчы ў сваёй творчасці. Найбольш дакладна апісана яна ў аўтабіяграфічным нарысе «Мая Джамалунгма» і ў гісторыі роду галоўнага героя аповесці «Пушчанская адысея» Алёшы Кучынскага:

*Яшчэ ў часы прыгону адзін памешчык выменяў недзе на поўдні на гончую сабаку краўца па прозвішчы Карпюк, прывёз яго ў сваю вёску Страшава, Ваўкавыскага павета, і ажаніў з цяжарнаю пакаёўкай.*

*Калі адмянілі прыгоннае права, кравец атрымаў вольную. Пачаў абшываць вёску. (...)*

*У краўца было два сыны. Старэйшы быў заядлы паляўнічы і адчайны чалавек. (...) А гэты, малодшы, па імені Аляксей, і стаў маім дзедам* [2, с. 349–350].

*Старыя людзі кажуць, што наша Страшава ўзнікла так.*

*Вельмі даўно, мо яшчэ задоўга да Напалеона, мясцовы памешчык прывёз з поўдня чалавека па прозвішчу Кучынскі, якога там выменяў на ганчака. (...) Пан ажаніў Кучынскага на цяжарнай пакаёўцы* [3, с. 160].

Жыццё на вёсцы было суровым. Сялянам ніколі не было лёгка, прыходзілася цяжка працаваць нават дзецям. Вобраз і веліч знясільваючай працы на гаспадарцы паказаны ў нарысе «Мая Джамалунгма» і ў аповесці «Пушчанская адысея», а таксама ў аповесці «Данута».

*(...) мы мелі 18 гектараў зямлі і 13 балота. Зямля была пясчаная, камяністая, каб невядома якая ліла навальніца, а лужаў не бывала нават у барознах. І балота суцэльны тарфянік. Наколькі я памятаю, мы заўсёды трымалі аднаго каня, дзве-тры каровы, пяць-шэсць авечак і некалькі свіней. Зямлю апрацоўвалі сваёй сям'ёй. Толькі часамі ў дажджлівую восень наймалі жанчын капаць бульбу* [2, с. 351].

У нашай працавітай сям'і і малыя і дарослыя працавалі да знемажэння, а кожны мой крок і далей быў пад кантролем бацькоў [3, с. 169].

*Бацька мой быў не з малазямельных. За ім лічылася шмат гектараў голага тарфяніку і пяскоў. Нашу зямлю як ні апрацоўвай, як ні ўгнойвай, а болей чым для пракармлення сям'і ты з яе не возьмеш. Калі быў лішні пуд жыта, дзесятак яек або маці выкармлівала вепрука, дык трэба было купіць газы, вопратку, а галоўнае – заплаціць падаткі* [4, с. 352].

Таму і няма чаго здзіўляцца, што нават малалетнія члены сям'і мусілі дапамагаць бацькам. У нарысе «Мая Джамалунгма» А. Карпюк пра сваё маленства, пра суровае выхаванне дзетак напіша: *Успамінаючы дзяцінства, я сябе амаль не бачу сярод равеснікаў за гульнямі. Толькі запомнілася, як у спякотнае лета ные спіна, салёны пот засціла вочы, а ты з перавяслам у руках з сумам і надзеяй пазіраеш на неба: калі ж, урэшце, пойдзе той дождж, каб можна было залезці ў бабкі, паляжаць... А то, памятаю, хацелася захварэць, каб адпачыць, выспацца* [2, с. 351].

Дзіцяці, якое хадзіла ў школу, паводле бацькоў, было сорамна дарма траціць час на гульні з сябрамі, катацца на санках, проста гуляць. Дома чакала работа, а ў Страшаве для непаслухмяных *самым распаўсюджаным педагагічным срод-*

*кам, якім бацькі дабіваліся належнага выніку ў выхаванні сваіх нашчадкаў, была папруга* [2, с. 354].

Аднак А. Карпюк у сваіх творах з прыемнасцю вяртаецца ў родныя мясціны, паважае і шануе родныя традыцыі, а таксама народную мараль сваіх продкаў. Пісьменнік лічыць, што душэўная глухата сучаснай моладзі – вынік выхавання. Таму самым важным момантам у фарміраванні чалавека з'яўляецца дзяцінства. А. Карпюк успамінае, што калісь мацяркі змалку вучылі:

*Калі едзеш на фурманцы ці з гары паражняком, абавязкова аб'язджай таго, хто вязе груз альбо пнецца з пустым возам наверх.*

*Калі ўпусціш на зямлю хлеб, пацалуй яго.*

*Не плюй у калодзеж і агонь, бо маці памрэ. (...)*

*Калі сядзеш на лаўку, садзіся з краю, каб яшчэ мог на яе хто апусціцца.*

*Не выпендрывайся, паважай жанчын.*

*Калі б я, прыехаўшы дадому на канікулы з віленскай гімназіі, барані Божа, загаварыў па-польску, бацька стукнуў бы мяне па вуху. (...).*

*Атрымаў бы я ад бацькі і за непашану да старых* [5, с. 334].

Гэтыя правілы, падмацаваныя, на думку А. Карпюка, *прыказкамі, народнымі рамёствамі, нацыянальнай сімволікай, казкамі і легендамі, каламбурамі і жартамі, загадкамі і лічылкамі, маладому парастку давалі стрыжань, нацыянальную ўтульнасць, непаўторны каларыт, душэўную ўпэўненасць, адчуванне чалавечай годнасці ды служылі спрыяльным полем, надзейным гарантам для самасцвярджэння і росту* [5, с. 352], дапамагалі стаць сумленным чалавекам.

Выхаванне дзяцей, натуральна распачатае дома, мела свой працяг, у адпаведны час, у школе. Успаміны пра гэтыя гады, спачатку навучання ў пачатковай школе, а потым у гімназіі ў Вільні, таксама па-мастацку адлюстраваны пісьменнікам у вышэй узгаданых творах. Вось як, напрыклад, іх згадвае герой «Дануты» Янка Барташэвіч:

*Яшчэ настаўнікі «паўшэхнай» школы былі мае заклятыя ворагі, і ўсё тое, чаму яны вучылі, было мне чужое. Такое перакананне я перанёс з хаты ў школу, і год ад году яно ў мяне паглыблялася. (...)*

*Мая адукацыя адбывалася недзе паміж урокамі – на вуліцы, дома. З сямігадовай школы я не вынес ні замілавання да вучобы, ні навыкаў. Наадварот! У маім уяўленні кожны той, хто атрымліваў пяцёркі за іхнія навукі, быў панскі падліза, халуй. Паехаў я ў Вільню, бо туды адпраўляліся многія пакаленні нашай моладзі, каб убачыць свет і вярнуцца дахаты мо і без дыплома, але прызнаным чалавекам* [4, с. 352].

З гэтых успамінаў узнікае вобраз школы, непрыязнай для вясковага вучня, які адчувае сябе чужым, лішнім у ёй. Відавочны факт, што настаўнікі не былі ў стане зацікавіць школьнікаў сваім прадметам, узбудзіць даверлівасці да сваёй асобы. Яны здзіўляюцца прысутнасці вясковых дзяцей у школе, лічаць, што яна толькі для багатых, гарадскіх жыхароў. Падобныя ўражанні ад юначых, школьных гадоў зафіксаваны і ў А. Карпюка ў нарысе «Мая Джамалунгма»:

*У маім класе з сялянскіх дзяцей вучыліся толькі я ды Сашка Кандрусік з Гарадка, а рэшта былі сынкі польскіх чыноўнікаў, яўрэйскіх фабрыкантаў, крамнікаў і іншай дробнай буржуазіі. Зрэбная кашуля, розныя гузікі на ёй, босыя ногі ці не так вымаўленае польскае слова выклікалі ў маіх аднакласнікаў насмешку.*

*Мною ў класе ганьбавалі. Настаўнікі глядзелі на мяне з цікавай варожасцю, як на выхадца са славутай вёскі, якую паліцыя называла «чырвоным гняздом». Я ўзненавідзеў і школу, і настаўнікаў, і тое, чаму яны вучылі* [2, с. 352].

Характар будучага пісьменніка фарміраваўся пазней таксама і ў падпольным жыцці, якое мела свой пачатак яшчэ ў родным Страшаве. Як успамінае Аляксей Карпюк у аўтабіяграфічным нарысе «Мая Джамалунгма»: *Мы давалі клятву ніколі не піць гарэлкі і не курыць – і клятву нашую падхапілі сяляне* [2, с. 356].

Бясспрэчна, што пісьменнікі вельмі любяць вяртацца ў часы свайго дзяцінства. Юначыя гады з'яўляюцца самай лепшай парой чалавечага жыцця, калі хапала для шчасця, каб побач былі бацькі і блізкія родзічы. Аднак, на жаль, часта бывае так, што ў гэты добра знаёмы і блізкі свет умешваецца гісторыя са сваімі жорсткімі антыгуманнымі падзеямі, у тым выпадку была гэта антычалавечая Другая сусветная вайна. Непадалёк ад Страшава, у вёсцы Папоўка, жылі маміны браты са сваімі сем'ямі. У апавяданні «Галгофа сваякоў» (1979), ужо з перспектывы амаль шасцідзесяці гадоў, А. Карпюк шчыра прызнаецца, што балюча ўсведамляе незваротнасць часу, а таксама шкадуе, што калі была магчымасць, калі быў час, не паспеў пазнаць сваіх сваякоў бліжэй:

*У Папоўцы мне і брату вельмі хутка зрабілася сумна. Давай церабіць бацьку за рукаў, каб ехаць дамоў.*

*Потым, калі ўжо Дзянісікаў не стала, я не раз сябе касціў, што некалі так легкадумна ставіўся да папоўцаў і нават не прыгледзеўся як след да дзяцей Юлька і Волеся – няшчасных чалавечых парасткаў, галінку мамінага роду, на якой абарваўся ланцужок пакаленняў* [6, с. 352].

Успамін пра сваіх блізкіх, якіх бачыў толькі ў маленстве, паслужыў штуршком да напісання трагічнай гісторыі гэтай маленькай вёсачкі на Беласточчыне пад час ваенных падзей. Пісьменнік піша так: *Падрабязнасці галгофы сваякоў я збіраў па крупінках ад людзей, якія былі каля няшчасных з самага пачатку трагедыі да канца* [6, с. 352]. І такім чынам, А. Карпюк палічыў сваім маральным абавязкам зафіксаваць апошнія дні жыцця Папоўцаў, якія былі расстраляны разам з малымі дзеткамі. Пра іх А. Карпюк успомніць таксама ў аповесці «Пушчанская адысея», як маці раскажа Кучынскаму, што з-за партызанаў пад кіраўніцтвам Высоцкага немцы спалілі Папоўку, а яе жыхароў расстралялі.

Жыхары Страшава – гэта добрыя, неабыякавыя на чужую бяду людзі. Прыкладам можа быць выпадак, калі арыштавалі бацьку Аляксея Карпюка за арганізацыю забастоўкі лесарубаў і пасадзілі ў ваўкавыскую турму. Тады цэлы цяжар працы на вялікай гаспадарцы спачыў на маці і двух малых хлопцах. Нечакана выказалі сваю салідарнасць і спагаду з сям'ёй Карпюкоў як аднавяскоўцы, так і людзі з навакольных вёсак.

*Незнаёмыя людзі прывозілі нам на хутар дровы. Малацілі нашае збожжа. Збіралі бацьку грошай на адваката. Нават заставаліся ў нас нанач, каб не баяліся мы спаць* [2, с. 355].

Падобны ўспамін пра суседзяў узнікае ў «Пушчанскай адысеі». Калі бацькі героя былі вымушаны ўцякаць у лес з-за дапамогі партызанам, то суседка Кірыліха занялася домам і жывёлай, пакуль гэтага дабра не развалаклі паліцаі.

*У Кірыліхі быў невычарпальны запас прычын і спосабаў, каб у цяжкую хвіліну зайсці ў госці, падбадзёрыць, узняць настрой чалавеку* [3, с. 322].

wziąć dziecko na ręce i pójść późnym wieczorem (*tak szepcze się na noc*) do tej chaty we wsi, w której jest tylko **jedno okno**, nogą dotknąć ściany i trzymając dziecko na rękach, *szeptać: Гаспаду Богу памалюся. Я славамі, Бог помаччу рабе Божай Наташцы начніцы шаптаці. На заходзе сонца стаіць дуб, а ў том дубе зменята. Шоб воны крычалі, пішчалі, начніцы забаўлялі. А Наташцы прыспаць, прыгуляць, пры здароўі стаць* (Val 60, 88) lub innym – zalecającym *naszeptanie* pod *елімом-дубом, што лісьце зімуе на юм,* następujących *słów: Дубе-еліме (імя), возьмі его красату, А ты, елім-дуб, Дай ёму свою моцоту. Ты ёго красою красуйся, А вон хай твоей моцотой моцуецца.* Wypowiadający te słowa, *o*dchodząc powinien **3 razy** splunąć na ten dąb (Val 832, 227). Podobnie jest w tekście, w którym na sęk starego dębu zsyłano chorobę, zwaną *liszajem*: *Лішаю, лішаю, я тэбэ з гоўном змішаю, Курячым, свінячым, мышыным, зверыным (якое здумаеш). Зыдыся в одын струп, Старому жыдове на пуп. Альбо: Старому дубове на сук.* Przed *zamową* zaleca się zmówienie modlitwy do Przenajświętszej Trójcy, a w czasie wypowiadania tekstu obwodzenie *liszaja* palcem ręki. Po wypowiedzeniu *zamowy* – powinno się **3 razy dmuchnąć i splunąć oraz popluć** na *liszaj* (Val 1191, 293). Z kolei, w procesie tworzenia bułeczki[17] , używanej na Białorusi przy różnych *szeptaniach* (w opisywanym przypadku w celu *odżegnania* suchot) nakazywano wzięcie mąki żytniej i nastawienie ciasta na chleb. Pośrodku ciasta rosnącego w dzieży powinno się zrobić dziurkę i wlać do niej **9 łyżek wody**, którą po pewnym czasie należy wybrać do garnuszka, a na łopacie, którą wsadza się chleb do pieca, posadzić dziecko, podkładając pod nie liść dębowy, a następnie oblać je wodą z garnuszka. W tym samym czasie druga kobieta, stojąca specjalnie za drzwiami, pyta: *шчо вы робытэ? Сушчы змываемо* – odpowiada pierwsza z nich (Val 346, 142).

## *Spis literatury*

**Rozwiązanie skrótów, zapisanych łacinką:**

1. [Dworakowski] Dworakowski, S. Kultura społeczna ludu wiejskiego na Mazowszu nad Narwią / S. Dworakowski. – Białystok, 1964.
2. [Hageneder] Hageneder, F. Magia drzew / F. Hageneder; z angielskiego przełożył M. Czekański. – Warszawa, 2006.
3. [J] Jaguś, I. Lecznictwo ludowe w Królestwie Polskim na przełomie XIX i XX wieku / I. Jaguś. – Kielce, 2002.
4. [Kop] Kopaliński, W. Słownik symboli / W. Kopaliński. – Warszawa, 1990.
5. [MKZ] Mazerant-Leszkowska, A. Mała księga ziół / A. Mazerant-Leszkowska. – Warszawa, 1990.
6. [Moszyński] Moszyński, K. Kultura ludowa Słowian / K. Moszyński. – Kraków, 1954.
7. [Mow] Mowszowicz, J. Przewodnik do oznaczania krajowych roślin zielarskich / J. Mowszowicz. – Warszawa, 1985.
8. [N] Niebrzegowska, S. Przestrach od przestrachu. Rośliny w ludowych przekazach ustnych / S. Niebrzegowska. – Lublin, 2000.
9. [O II] Orzeszkowa, E. Ludzie i kwiaty nad Niemnem / E. Orzeszkowa // Wisła. – II. – 1888. – S. 1–15.
10. [O II] Orzeszkowa, E. Ludzie i kwiaty mad Niemnem / E. Orzeszkowa // Wisła. – II. – 1888. – S. 675–703.

[17] Sama bułeczka powstawała z odrobiny ciasta wziętego z krzyża, jaki gospodyni uczyniła na rosnącym cieście chlebowym. Po uformowaniu, kładziono ją na liściu dębowym w przedniej części pieca chlebowego (każdy bochenek był przenoszony przez ten kawałek ciasta i po upieczeniu – ponownie). Bułeczka była używana na przykład w wypadku urodzenia się dziecka z sierścią na rękach czy policzkach – *wytaczano* nią miejsca traktowane jako chore, a następnie dawano bułeczkę do zjedzenia zwierzętom domowym, a szczególnie – psu, *przenosząc* na niego tę określoną przypadłość.

11. [O IV] Orzeszkowa, E. Ludzie i kwiaty nad Niemnem / E. Orzeszkowa // Wisła. – IV. – 1890. – S. 1–31.

12. [O V] Orzeszkowa, E. Ludzie i kwiaty nad Niemnem / E. Orzeszkowa // Wisła. – V. – 1891. – S. 235–703.

13. [Og] Ogrodowska, B. Zwyczaje, obrzędy i tradycje w Polsce / B. Ogrodowska. – Warszawa, 2000.

14. [PZL] Kuźniewski, E. Przewodnik ziołolecznictwa ludowego / E. Kuźniewski, J. Augustyn-Puziewicz. – Warszawa, 1986.

15. [Sp] Spólnik, A. Nazwy polskich roślin do XVIII wieku / A. Spólnik. – Wrocław, 1990.

16. [Spólnik] Spólnik, A. Źródła do badań nad polskim słownictwem botanicznym / A. Spólnik // Dialektologia, onomastyka, stylistyka. Materiały z sesji naukowej w 80-lecie urodzin prof. dra E. Pawłowskiego. – Kraków, 1984.

17. [Toe] Toeppen, M.P. Wierzenia mazurskie / M.P. Toeppen; przekład Eugenii Piltzówny językowo uwspółcześnił Tadeusz Ostojski. Wstępami poprzedzili Anna Szyfer i Władysław Ogrodziński. Opracowali Paweł Błażewicz i Jerzy M. Łapo. – Dąbrówno, 2008.

18. [U] Urban, D. Niektóre składniki flory Międzynarodowego Rezerwatu Biosfery «Polesie Zachodnie» / D. Urban // Flora i fitonimy na pograniczu polsko-ukraińskim / pod red. F. Czyżewskiego i D. Urban. – Lublin, 2006. – S. 9–17.

19. [VP] Mirek, Z.; Piękoś-Mirkowa, H.; Zając, A.; Zając, M. Vascular plants of Poland a checklist. Krytyczna lista roślin naczyniowych Polski / Z. Mirek, H. Piękoś-Mirkowa, A. Zając, M. Zając. – Kraków, 1995.

20. [Wi] Wierzbicka-Olejniczak, A. Nazwy roślin w gwarach kujawskich / A. Wierzbicka-Olejniczak. – Łódź, 2001. Maszynopis rozprawy doktorskiej napisanej w Katedrze Dialektologii Polskiej pod kierunkiem prof. dr S. Gogolewskiego.

**Rozwiązanie skrótów tekstów, zapisanych graždanką:**

21. [Ak] Аксёнов, А. Краткий травник знахаря / А. Аксёнов. – Донецк, 2002.

22. [BM] Беларуская міфалогія. Энцыклапедычны слоўнік. – Мінск, 2004.

23. [Kara] Кара, В. Слова-лекари, усмиряющие болезни. Книга-помощник / В. Кара. – Москва, 2008.

24. [L] Лябик, О. Травник. Практические советы / О. Лябик. – Москва, 2005.

25. [Lager] Лагер, А. Травник сибирского целителя / А. Лагер. – Москва, 2002.

26. [LR] Лекарственные растения. Энциклопедия. – Минск, 2003.

27. [Sm] Словенска митологија. Енциклопедијски речник / уредници: С. Толстој, Љ. Раденковић. – Београд, 2001.

28. [Su] [Шуклин, В.] Русский мифологический словарь / [В. Шуклин]. – Екатеринбург, 2001.

29. [Val] Народная медыцына. Рытуальна-магічная практыка / укладанне, прадмова і паказальнікі Т.В. Валодзінай. – Мінск, 2007.

30. [Za] Замовы / рэд., уклад., сістэм тэкстаў, уступ. арт. і камент. Г. Барташэвіч. – Мінск, 2000.

**А. Палуян, А. Воінава**

## НАЗВЫ АБРАДАВЫХ СТРАЎ У ГАВОРКАХ ПАЎНОЧНА-ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ І ЯЕ ПАГРАНІЧЧА

Традыцыйная матэрыяльная і духоўная культура акумулявала народны вопыт на працягу многіх стагоддзяў, адлюстроўвала непаўторнасць і самабытнасць народа, ашчадна зберагалася, перадавалася з пакалення ў пакаленне. Актуальнасць і неабходнасць вывучэння ў наш час традыцыйнай культуры абумоўлена многімі фактарамі. Па-першае, асаблівая значнасць даследавання самабытнай матэрыяльнай і духоўнай культуры паўночна-заходняй часткі Беларусі і яе пагранічча звязана з яе размяшчэннем на стыку чатырох этнасаў – беларускага, польскага, літоўскага і латышскага, што ператварае дадзены рэгіён у зону міжэтнічных узаемасувязяў і ўзаемаўплываў. Па-другое, многія каштоўнасці народ-

най культуры паступова страчваюцца пад уплывам фактараў часу, у працэсе урбанізацыі сельскага насельніцтва і ў выніку парушэння пераемнасці пакаленняў, калі новыя генерацыі не ў поўным аб'ёме валодаюць духоўнай спадчынай і народнымі традыцыямі.

Паняцце традыцыйнай культуры ўключае разнастайныя формы і праявы, у ліку якіх асаблівасці народнага побыту: адзенне, абутак, упрыгожванні, харчаванне і інш.

Аб'ектам нашай увагі з'яўляюцца назвы абрадавых і святочных страў у беларускіх гаворках паўночна-заходняй часткі Беларусі і яе паграніччa. Крыніцай фактычнага матэрыялу паслужыў пяцітомны «Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе паграніччa».

Аналіз лексікі, звязанай з назвамі абрадавых і святочных страў, мае важнае значэнне для даследавання гісторыі беларускага народа, высвятлення культурных і моўных зносін паміж народамі перш за ўсё таму, што «ў параўнанні з іншымі элементамі матэрыяльнай культуры лексіка, звязаная з народнай кулінарыяй, больш устойліва захоўвае старыя традыцыі, што асабліва тычыцца святочнай і абрадавай ежы» [1, с.127]. Ежа, з аднаго боку, – натуральная патрэба, умова жыццядзейнасці і здаровага ладу жыцця, а з другога – этнакультурная з'ява, што адлюстроўвае народныя веды, нацыянальныя традыцыі, рэлігійныя ўяўленні, этыкет, сацыяльную прыналежнасць, уклад жыцця і стан грамадства.

Абрадавая і святочная ежа як састаўны кампанет абрадавых свят і звычаяў адлюстроўвае іх ідэйны (сакральны) сэнс і выконвае сімвалічныя і рытуальныя функцыі, генетычна звязана з аграрнай і лекавай магіяй, старажытным ахвярапрынашэннем.

Намі вылучаны найменні абрадавых і святочных страў, звязаных як з сямейнай, так і каляндарнай абраднасцю.

Няпісаным юрыдычным актам з'яўлення новай сям'і было вяселле. Госці на вяселле ішлі з гасцінцамі: *З вандзэлкам на васэля ішлі: у полку завяжа бохан хлеба, пірох, гарэлку, кумпяк.* (Старыя Трокі (Літва)). Спецыяльна запрошаныя жанчыны – каравайніцы – замешвалі і пяклі вясельны абрадавы пірог – ***каравай***: *Каравай рашчыняюць на малацэ, туга замесяць, робяць ланцужок, а пасярэдзіне шышачкі, к свадзьбі каравай пяклі.* (Вецярэвічы Пухавіцкі р.). Характар аздаблення караваю (шышкі, зоркі, птушынае гняздзечка з яйкамі, спавітае дзіця, певень, курыца) меў выразна выяўлены сімвалічны сэнс – пажаданне маладой сям'і шчасця, дабрабыту, дастатку ў хаце, нараджэння дзяцей.

Пасля нараджэння дзіцяці сяброўкі-суседкі ішлі ў адведзіны да парадзіхі і бралі з сабой пачастунак (***хлеб, сыр, кашу, бліны, пірагі***, самаробныя цукеркі ў выглядзе пеўня – ***пятухі***): *Даўней наварвалі кашы вялікія гаршкі і хадзілі ў адведзіны да радзіхі.* (Ністанішкі Смаргонскі р.); *Даўней у водветкі шлі да радзіхі; бліноў, бондаў напякуць і ідуць.* (Мсцібава Ваўкавыскі р.); *Пятухі ставілі: баба станя і спявая: «Ку-ка-рэ-ку!»(*Жылі Іўеўскі р.).

Да нашага часу захаваліся традыцыйныя памінальныя абрады, звязаныя як з ушанаваннем памяці памерлага чалавека, так і наогул з культам продкаў і верай у замагільнае жыццё.

Жалобны абед пасля пахавання пачынаўся звычайна з ***кануна***: *Канун – страва з мёду, з малака, ядуць, як памінаюць памёршых.* (Багушэвічы Бярэзінскі р.); *Канун ядзяць пасля пахавання, на памінках, ваду сыцяць, крышаць булкі; канун наперадзі ядзяць.* (Азяраны Рагачоўскі р.); *Кануну з мёдам рабілі, мёд разводзілі ў*

*вадзе.* (Ухвала Крупскі р.); *Кануну рабілі так: прысалодзяць ваду, сатруць маку, праснака ўкінуць, крышылі кусочкамі, і даюць есці, яке памрэ чалавек і спраўляюць абет.* (Рудня Астравітая Чэрвеньскі р.); *Як чалавек памрэ, кануну рабілі: пяклі праснок, засалодзяць ваду, пакрышаць і елі.* (Вецярэвічы Пухавіцкі р.); *Кануна – засалоджаная вада з галушкамі.* (Малыя Аўцюкі Калінкавіцкі р.); *Як пахаваюць пакойніка, правяць абед і ставяць аканон на стол. Аканон рабілі так: ваду рассалодзяць або з маку малако і туды крышылі абаранкі або з цеста пакачаюць і нарэжаць клёцкі і пякуць на скаварадзе, кладуць у салоткую ваду – і гэта аканон.* (Рыбчына Вілейскі р.); *Як аканон робяць, то булку ўкрышваюць і падсалоджваюць або на мяду робяць.* (Мачаск Бярэзінскі р.).

Да памінальнага стала гатавалі ***камы*** 'галушкі': *На пахароны камы рабілі: муку замяшаюць, у пост з мёдам ці з сахарам даюць, а так – з маслам* (адсюль фразеалагізм *вось табе і камы!* – канец жыцця) (Індра (Латвія)); ***рулі*** 'страва, прыгатаваная з накрышанага ў малако ці ваду хлеба': *На посныя дзяды* [памінкі] *первая яда – рулі.* (Азяраны Рагачоўскі р.); выпякалі спецыяльныя пірагі – ***бонды***: *Як хто памрэ – пякуць тры бонды з простай пшанічнай мукі.* (Малахоўцы Баранавіцкі р.); *На памінках бонду пяклі, кап не кісла была, з мукі размяшаюць і ляпёшкі такія пякуць.* (Масілавічы Слонімскі р.).

З ушанаваннем продкаў звязаны і такі народны памінальны абрад, як дзяды – рытуальная вячэра ў памяць памерлых родзічаў: *Дзяды – памінальны дзень, на стале стаіць талерачка і місачка для дзядоў. Што самі ядуць, аткладаюць дзядам.* (Рыбчына Вілейскі р.).

Дзяды спраўлялі вясной і восенню: *Дзяды былі радушнія пасля вялікання, сёмушныя і багатыя ўвосень.* (Кухты Вілейскі р.); *Асяніны бываюць пасля пакрова, прыкладзіны на магілы робяць, абгароткі на памятнікі ставяць.* (Кураполле Пастаўскі р.).

На Дзяды звычайна гатавалі ***куццю, яечню, мяса, клёцкі, поліўку (юшку), кісель,*** пяклі ***бліны***: *На дзяды варылі капусту, крупы, кашы густой наварацъ, кампот.* (Альхоўцы Ляхавіцкі р.); *На асяніны вячэру строілі, поліўку варылі з грыбамі, з рыбай, камы і мілту рабілі.* (Кураполле Пастаўскі р.); *Мілта з параных аўсяных круп: таўкуць на муку, потым вады халоннай і солі, размешваюць і ядуць.* (Мачаск Бярэзінскі р.); *Мілту рабілі з мукі ячменнай, качалі ў галушкі, і выносілі астуджваць.* (Вецярэвічы Пухавіцкі р.); *На дзяды вараць посная: з грыбамі куцью, із макам пасолю ці гарох параць.* (Дзяніскавічы Ганцавіцкі р.); *Юшку кіслую варылі на дзяды.* (Мачаск Бярэзінскі р.); *На дзяды я варыла капусту, сяканку, з яёк што-небудзь рабіла. Сяканку вараць так: насякуць дробнянько мяса і вараць, а потым паткалочваюць пшоннаю мукою – гэта сяканка.* (Дакудава Лідскі р.); *Клецкі з бульбы варылі.* (Стральцы Гродзенскі р.); *Кісель варылі з аўсянай мукі.* (Лука (Польшча)).

Абавязковай стравай на вяселлі ці пахаванні была ***квашаніна*** (***студзяніца, студзянь***) 'халадзец': *Квашніну рабілі, як пахарон або вяселле.* (Ракаўскія (Літва)). Гатавалі квашаніну са свіных вушэй, ног і галавы: *Свіню закалолі і разбіраюць: ногі на квашаніну, кумпякі соляць.* (Старыя Трокі (Літва)); *Квашаніну зварыла з ножак свінячых.* (Беразіно Докшыцкі р.); *Галовы, ногі звараць, параць, кап упрэла, тады нажом крояць мяса, квашаніну разліваяць, застыняць і ядзяць.* (Ракаўскія (Літва)); *Студзяніцы навару з ножак свінячых.* (Глівін Барысаўскі р.).

Падчас большасці сямейных і каляндарных свят абавязковай стравай была ***куцця*** – каша з ячных, пшанічных ці грэцкіх круп: *Куццю на каляды вараць.*

(Азяраны Рагачоўскі р.); *Куцця – каша панцаковая, у яе накладзена маку цёртага салодкага; варылі куццю перад калядамі.* (Груздава Пастаўскі р.).

Лексема ***куцця*** абазначала таксама і ўрачыстую вячэру. Куцця напярэдадні Калядаў і перад Вадохрышчамі была посная, а перад Новым годам – шчодрая (***шчадра, шчодрык***): *Куця посная перад ражством.* (Індра (Латвія)); *Первая куця посная.* (Жыдзевічы Іўеўскі р.); *Посная куця перат коляды і перат трыма каралямі.* (Збляны Лідскі р.); *Была посная куця і тлустая куця.* (Стральцы Гродзенскі р.); *Посна куцця і багата куцця, або шчадра. Вот заўтра шчадра.* (Альхоўка Навагрудскі р.).

Кожнай куцці адпавядаў той ці іншы набор страў. На посную куццю гатавалі не менш сямі страў, сярод якіх былі ***каша з мядовай сытай ці алеем, поліўка з грыбамі, аўсяны кісель, аладкі з мёдам ці макам, верашчака з селядцом, клёцкі, бліны, галушкі, смажаная рыба, печыва***: *На куцю варылі квас, галушкі пяклі, груцу варылі* [‘каша ці крупнік з ячных круп ці з сумесі круп з бобам, фасоллю ці гарохам’]*, сіляцэ, рыба – посна ўсё.* (Кіралі Шчучынскі р.); *Посна куця: вараць кісель, лазанкі* [‘крохкае печыва, прыгатаванае з мукі на вадзе’]. *Муку мяшаем з вадой, трошкі соды, замяшаць цеста і раскачаць, парэзаць на кавалачкі – і гэто лазанькі пячэм.* (Вострава Мастоўскі р.); *Пякуць ламанцы* [‘крохкае печыва, прыгатаванае з мукі на вадзе’] *на куцю перад раждэкаством: вада і мука, раскачваюць тоненька, печ паліцца, на скавараду, здымаюць, крышаць, мелюць мак, засалодзяць і абліваюць скрышанае і ядуць.* (Пацаўшчына Дзятлаўскі р.); *З панцаку вараць груцу, на куцю вараць груцу.* (Дакудава Лідскі р., Гемзы (Літва)); *За дзень до коляд варылі кашу – груца называлі.* (Пацаўшчына Дзятлаўскі р.); *Груцу вараць з ароху, фасолі і круп, з салоткай вадой на куццю елі.* (Старыя Смільгіні Воранаўскі р.); *Патсыту рабілі на куцю.* (Стральцы Гродзенскі р.); *Падсыту робім на свята: на куццю, каляды, робяць яе з вады і мёду.* (Старыя Трокі Тракайскі раён, (Літва)); *Сыту ў куццю рабілі.* (Жылі Іўеўскі р.); *Сыту елі з куццёй.* (Лісна Верхнядзвінскі р.); *На каляду навараць квасу* [‘вараная кіслая страва, поліўка’] *з грыбамі.* (Баброўнікі Гарадоцкая гміна); *Вараць квас з рыбы.* (Азяраны Рагачоўскі р.); *Агладкі на каляду пеклі паснюткія.* (Мсцібава Ваўкавыскі р.); *Сліжы* [клёцкі] *варылі на куцю з грачыснай мукі: качаяць доўгянькія, кінуць у вар, потым аццэдзяць, мак патруць, засалодзяць і ўльюць у сліжы і ядуць.* (Солы Смаргонскі р.); *Слізікі* [піражкі] *на куцю пяклі з пшонай мукі, раскатывалі на квадрацікі, рэзалі і пяклі.* (Старыя Трокі (Літва)); *Слізікі пяклі с цеста булачнага, што на булкі, с слаткай вадой елі на куцю.* (Рагулішкі (Латвія)); *На каляды вараць куццю, кісель, грушы.* (Лука (Польшча)).

На шчодры навагодні стол падавалі ***кашу, запраўленую салам ці маслам***, тушаную бульбу (***кугель***), а таксама ***скаромніну (парсючок, каўбасы, паляндвіца, халадзец, верашчака, бліны з салам)***: *Вот заўтра шчадра, вараць галаву свінную на шчадру, бліноў напякуць.* (Альхоўка Навагрудскі р.); *На шчодрыка бліны пяклі.* (Кузьмічы Любанскі р.); *К калядам кілбасы рабілі і дзяцём бондачкі* [‘маленькія каўбаскі’] *з гэтага самага мяса.* (Саланое Вілейскі р.); *Трэба бульбу мелка накрышыць, бапковага лісту, цыбулі, мяса і паставіць у печ, яна вродзе насуха выварыцца – і кугель.* (Гемзы (Літва)); *Верашчаку са свежага мяса робюць: костачак насячэш, уліеш расоліку з буракоў, у печ уставіш, стушыш, мукой прыкалоціш і бліны мачаіш, як добра ўпрэіць, на каляды гэдак рабілі, з блінамі елі.* (Саланое Вілейскі р.).

Сярод скаромных мясных страў былі вядомы таксама ***акорак, окарак, кумпяк*** ‘кумпяк’: *Упякалі окарак на бляхах у печы.* Гальшаны Ашмянскі р. *Вэнджаны акорак елі.* (Стральцы Гродзенскі р.); ***кілбаса***: *Кілбасы будзем рабіць.* (Ста-

рыя Трокі (Літва)); *На коляды каўбасы гатовяць.* (Баброўнікі Гарадоцкі р.); ***вантрабянка*** ‘кілбаса з вантробаў’, ‘страўнік, начынены вантробамі’: *Вантрабянка робіцца з лёгкіх, цяжкіх, сэрца, касы.* (Асавец Вілейскі р.); *Трыбух начыніш сэрцам, лёгкімі, усімі вантробамі – і вантрабянка.* (Масілавічы Слонімскі р.); ***кутрун*** ‘сальцісон’: *Трыбух гэты напхаюць: там пячонка, сала парэжуць – і такі кутрун.* (Баброўнікі (Польшча)).

Шчодры стол ладзіўся і на Вялікдзень. Абавязковымі стравамі былі пафарбаваныя ў чырвоны колер ***яйкі*** (сімвал жыцця, ахвярнай крыві Хрыста), асвячоныя ***пірагі, сыр, каўбасы, вяндліна***. Усе пасвянцоныя прадукты абазначаліся лексемамі ***паска*** ці ***свянцонка***: *Хрыстовай паскай мы разгаўляемся, свенціцца сыр і калбаса.* (Баброўнікі Гарадоцкі р.); *Свянцонка: у вялікую суботу вечарам няслі свянцонку свенціць (мяса, яйкі і інш.).* (Кураполле Пастаўскі р.).

Да нашых дзён дайшоў старажытны язычніцкі абрад – гуканне вясны. Сляды аграрна-магічнай функцыі хлеба выявіліся ў назве і форме печыва, спецыяльна прыгатаванага да гэтага свята: ***барана*** ‘праснак з зубчыкамі, якія сімвалізавалі зубы ў баране’: *Борону, галёпу і сырпа пыклі з мукы. На благовішчынне діты бралы іх і клыкалы буська: «Буську, буську, на тобі борону, дай мыні жыта сторону, буську, буську, на тобі сырпа, дай мыні жыта снопа».* (Сіманавічы Драгічынскі р.); ***буслова лапа*** ‘піражок у форме буславай нагі’: *На благовіешчыне прылітают буслы, а людэ колісь пэклі с тіеста буслову лапу, бо то знак, што прыходіт вэсна.* (Курашэва Чыжэўская гміна (Польшча)); *На благавешчанне ляпёшкі пяклі – буславу лапку.* (Галубы Мастоўскі р.); ***галёпа*** ‘булачка з выдаўленай фігурай бусла’: *На благавішчынне пыклы галёпу і з галёпыю буська клыкалы.* (Сіманавічы Драгічынскі р.).

На Беларусі існаваў даўні звычай частаваць сваякоў і блізкіх суседзяў садавінай, агароднінай, хлебам, свежанінай забітай жывёлы, кулінарнымі вырабамі з нагоды вялікіх каляндарных святаў, новага ўраджаю, збору мёду [2, с. 55]: ***абадас, абады, свежаніна, свежына*** ‘свежына, якую даюць суседзям або якой частуюць, калі колюць свіней’: *Абадас нясут, калі зарэжут кабана, кусок мяса, сала дают.* (Баложы (Латвія)); *Закалола кабана і занесла свежаніны, а хто і мне прынясе свежаніны. Свежаніны занясу суседам.* (Парэчча Гродзенскі р.); *Свежэніны занесла сястрэ.* (Мсцібава Ваўкавыскі р.); *Свяжына: атразаям кавалакі мяса, кавалак салца ці сланіны і атразаем пячонкі, і даем суседу. Нада даць свяжыны.* (Гемзы (Літва)); ***ладзьбіны, лазьбіны, лацьбіны*** ‘частаванне ў час выбірання мёду з вулля’: *Ладзьбіны – як падглядаюць пшчолы, як частуюць мёдам.* (Саланое Вілейскі р.). *Лазьбіны – мёт прыходзіця есць.* (Быстрыца Астравецкі р.;).

Да святочнага стала гаспадыні выпякалі ***бонды*** ‘пірагі’: *На каляды бонды пяклі.* (Сапоцкіна Гродзенскі р.); ***бондачкі*** ‘перапечкі, булачкі з прэснага цеста’: *Баба бондачку спякла з жытняе і пшанічнае мукі. Пяклі бондачкі на Пятра.* (Міратычы Карэліцкі р.); *Бондачкі на саракі пяклі.* (Быстрыца Астравецкі р.); ***паляніцы*** ‘печыва з мукі’: *Хлебная цеста качалі ў муку, на лапату пакладзе і ў печ, гэта паляніцы, к святу пяклі.* (Азяраны Рагачоўскі р.); ***пірапечачкі*** ‘печыва з хлебнага цеста, бульбы, тоўчанага канаплянага семя’: *Пірапечачку патскрабеш і ўсадзіш у печ дзяцём на куццю.* (Саланое Вілейскі р.); ***галушкі*** ‘печыва з цеста’: *Галушкі на куцю пяклі.* (Альхоўка Навагрудскі р.); ***слідзікі, сліжы*** ‘піражкі’: *Слідзікі на куцю пяклі.* (Ахрэмаўцы Браслаўскі р.); *Сліжы пяклі на куццю, у мак укачаіш.* (Чуркі Ашмянскі р.); ***паску*** і ***пірагі***: *Спяку паску, што адразу з'ядуць.* (М.Аўцюкі Калінкавіцкі р.); *Пірох спячом толькі к вяліканню.* (Латыгаль Вілейскі р.).

Разгледжаныя намі найменні абрадавых і святочных страў сведчаць аб рознабаковых кулінарных навыках беларускіх гаспадынь і багатых традыцыях нацыянальнай кухні. Характар страў і іх сімваліка-абрадавыя функцыі гарманічна стасаваліся з беларускай гасціннасцю, сімволікай сямейна-каляндарных святаў, утваралі выпрабаваны вякамі адзіны рытм гаспадарчага і духоўнага жыцця.

*Спіс літаратуры*

1. Милюс, В. Пища и домашняя утварь литовских крестьян в XIX – нач. XX вв. / В. Милюс // Балтийский этнографический сборник / В. Милюс. – М., 1956. – С. 127–169.

2. Народная культура Беларусі: Энцыкл. даведн. / пад агульн. рэд. В.С. Цітова. – Мінск: БелЭн, 2002. – 432 с.

3. Беларуская міфалогія: энцыклапед. слоўн. / С. Санько, Т. Валодзіна, У. Васілевіч [і інш.]. – Мінск: Беларусь, 2004. – 592 с.

4. Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча. У 5 т. – Т. 1–5. – Мінск: Навука і тэхніка, 1979 – 1986.

**А. Шаўцова**

## ФУНКЦЫІ АНАМАСТЫЧНАЙ ЛЕКСІКІ Ў ЗБОРНІКУ НАВЕЛ ЭЛІЗЫ АЖЭШКІ «GLORIA VICTIS»

«Gloria victis» (1910) – зборнік навел аб гераізме і самаахвярнасці ў імя Радзімы. У сваіх апошніх творах Эліза Ажэшка звярнулася да дзён маладосці, да часоў паўстання 1863 года. Пісьменніца прагнула ўспомніць ахвярнасць людзей, якія загінулі за бацькаўшчыну, прагнула ўшанаваць іх памяць. Гэта яна лічыла сваім абавязкам, і таму невыпадкова назва гэтага зборніка гучыць як «Слава пераможаным».

У кнігу ўвайшло 6 навел: «Oni» («Яны», 1907), «Oficer» («Афіцэр», 1907), «Hekuba» («Гекуба», 1908), «Bóg wie kto» («Бог ведае хто», 1908), «Gloria victis» (1907), «Dziwna historia» («Дзіўная гісторыя», 1904). Акрамя тэматычнага адзінства (матыў паўстання), аб’ядноўваюць навелы і персанажы: тыя самыя асобы выступаюць у некалькіх творах, у адных як галоўныя героі, у іншых як другарадныя, эпізадычныя.

У артыкуле аналізуюцца функцыі анамастычнай лексікі, якую выкарыстала Эліза Ажэшка ў зборніку навел «Gloria victis».

Неабходна падкрэсліць, што асноўная функцыя ўласных назваў у тэкстах мастацкіх твораў, як і ў рэчаіснасці – гэта намінацыйна-ідэнтыфікуючая функцыя. У большасці выпадкаў персанажы твораў маюць альбо імя, альбо прозвішча, многія – і імя, і прозвішча. Прэзентацыя герояў у творах пры дапамозе імя і прозвішча з’яўляецца характэрнай для рэалістычнай плыні ў літаратуры. Эліза Ажэшка акрэслівала такім спосабам у першую чаргу галоўных персанажаў і іншых найбольш важных герояў твораў: *Romuald Traugutt* (Oni, Of, GV), *Władysław Orszak* (Oni, H), *Feliks Jagmin* (Oni), *Gustaw Radowicki* (Oni), *Artur Roniecki* (Oni, H), *Henryk Roniecki* (Oni, H), *Marian Tarłowski* (Oni), *Aleksander Awicz* (Of), *Apolinary Karłowicki* (Of), *Klementyna Roniecka* (Oni, H), *Aniela Tarłowska* (Oni), *Marylka Jaroszyńska* (Oni, BWK), pan *Kalikst Radowicki* (CV), pani *Karolina Orszak* (H). Некаторыя галоўныя

героі акрэслены толькі з дапамогай імя з назоўнікам-азначэннем: pani *Teresa* (H), pan *Ignacy* (H), pan *Gustaw* (H), pan *Florenty* (Oni). Другарадныя і эпізадычныя персанажы маюць толькі прозвішчы: *Czernicka* (Oni), pan *Burakiewicz* (BWK), *Żemirski* (Oni).

У дадзеным зборніку Элізы Ажэшкі выступаюць таксама аўтэнтычныя імёны і прозвішчы, якія належаць гістарычным асобам: *Romuald Traugutt* (адзін з галоўных персанажаў, камандзір паўстанцаў), *Feliks Jagmin*, *Gustaw Rodowicki*, *Władysław Orszak*. Такія антрапонімы выконваюць у творы не толькі намінацыйна-ідэнтыфікуючую функцыю, а таксама функцыю лакалізацыі ў часе і інфармацыйную функцыю. Вядомым метадам адноснай храналагізацыі здарэнняў у мастацкім творы з'яўляецца ўвядзенне ў тэкст прозвішчаў гістарычных асоб, вядомых у гэтым перыядзе. Найбольш такіх антрапонімаў сустракаецца ў навелах «Oni», «Oficer», «Gloria victis». На старонках зборніка з'яўляюцца імёны і прозвішчы вядомых камандзіраў, іншых удзельнікаў паўстання, якія сігналізуюць гістарычныя падзеі. Пацвярджае гэта і ліст Элізы Ажэшкі да Мар'яна Дубецкага (6.11.1907), у якім пісьменніца інфармуе, што: «кобрынская партыя складалася з 400-500 чалавек... Камандзірам коннага атрада быў малады Фелікс Ягмін (памёр потым ад тыфу ў Цюмені), ад'ютантам камандуючага (Траўгута) Густаў Радавіцкі, абодва нашыя блізкія суседзі і знаёмыя; служылі таксама ў партыі браты Ажэшкі і іншыя шматлікія сваякі і сябры» [6, с. 243].

У прааналізаваных намі творах былі знойдзены таксама аўтэнтычныя назвы, якія называюць выдуманых персанажаў. Эліза Ажэшка як пісьменніца-рэалістка ўвяла ў тэкст антрапонімы, якія адпавядаюць тагачасным мадэлям і звычаям наймення асобы. Часам пісьменніца падае ў тэксце каментарый, які датычыць матываў выбару імя персанажа. У навеле «Oficer» два героя, стрыечныя браты, маюць аднолькавыя імя і прозвішча: *Apolinary Karłowicki*. Эліза Ажэшка тлумачыць гэта ў тэксце такім чынам: «Dieduszka nasz miał imię Apolinary i nas obydwóch tak nazwali» [5, с. 72]. Пісьменніца звяртаецца да знанага факту: дзяцей часта называлі ў гонар бацькоў і дзядоў.

У навеле «Hekuba» Эліза Ажэшка звяртае ўвагу на змену імя гераіні: «Właściwie dziewczynie tej, za którą gdy tylko się gdziekolwiek ukazała, panowie jak słoneczniki za słońcem się obracali, na imię było *Michalina*, ale ona imię zbyt lada jakim znajdując, gdy tylko dorosła, zaczęła wszędzie, gdzie tylko mogła, nazywać się i podpisywać się: *Ina*» [5, с. 104]. *Ina* – гэта скарочаная форма імёнаў на *-іна* тыпу Michalina, Halina, Regina, утворана форма шляхам усячэння асновы поўнага імя. Сучаснае праваслаўнае імя Іна – гэта самастойнае афіцыяльнае імя (яно выступае ў спісе праваслаўных імёнаў).

Ва ўсіх сваіх творах Эліза Ажэшка выкарыстала не толькі поўныя афіцыйныя ўласныя імёны, але і варыянты гэтых імёнаў і іх эмацыянальна-ацэначныя формы. Апошнія ўзніклі ў сувязі з неабходнасцю выразіць адносіны адной асобы да другой, разнастайныя пачуцці, якія складваліся ў выніку такіх адносін. Многія ўласныя імёны ў творах Элізы Ажэшкі выконваюць не толькі назыўную, але і экспрэсіўна-эмацыйную функцыі – у асноўным выяўляюць, перадаюць адносіны аўтара да носьбіта імя, а таксама і адносіны паміж героямі твораў. Гэтыя ж формы выкарыстоўваюцца для абазначэння пэўнай узроставай катэгорыі людзей – дзяцей і падлеткаў. Гіпакарыстычныя формы імёнаў пісьменніца ўтварыла пры дапамозе розных фармантаў ад поўнай і ўсечанай асновы імя. У жаночых імёнах паявіліся наступныя фарманты:

**-ka:** *Anielka* (Oni, GV) < Aniela, *Ludwinka* (H) < Ludwinka, *Michalinka* (H) < Michalina, *Inka* (H, BWK) < Ina (Michalina), *Nastka* (H) < Anastazja; **-unia:** *Stefunia* (Oni, BWK) < Stefania, *Klemunia* (H, BWK) < Klementyna, *Oktunia* (BWK) < Oktawia; **-sia:** *Tosia* (Of, BWK) < Antonina, *Cesia* (DH) < Cecylia; **-usia:** *Wincusia* (BWK) < Wincenta; **-cia:** *Brońcia* (H) < Bronisława; **-eczka:** *Ineczka* (H) < Ina (Michalina); **-ynia:** *Marynia* (BWK) < Maria; **-ylka:** *Marylka* (Oni, BWK) < Maria.

Другую групу гіпакарыстычных фармацый з суфіксамі суб'ектыўнай ацэнкі складаюць мужчынскія імёны:

**-ek:** *Stasiek* (Oni) < Stanisiaw, *Apolek* (Of) < Apolinary, *Julek* (H) < Julian, *Janek* (H) < Jan, *Olek* (H) < Aleksander, *Wasylek* (H) < Wasyli; **-ś:** *Oleś* (Of) < Aleksander, *Kaliś* (GV) < Kalikst; **-yś:** *Maryś* (CV) < Marian.

Гіпакарыстычную форму ўтварыла пісьменніца і ад прозвішча жанчыны, што сустракаецца вельмі рэдка і толькі ў гутарковай мове. Форма *Czerniusia* (Oni, BWK) паходзіць ад прозвішча Czernicka + фармант **-usia.**

Гіпакарыстычныя фармацыі падкрэсліваюць блізкія эмацыянальныя адносіны паміж героямі твораў. Такія формы дапамагаюць таксама глыбей раскрыць характар персанажа. Так галоўнага героя навелы «Oficer» у сям'і і ваколіцы называлі *wesołym Olesiem*. «Słusznie go tak nazywano; bo i teraz nawet, gdy obóz powstańców opuścił... na twarzy jego... malowało się gorące, wezbrane mową obfitą i uśmiechem wesołym wybuchnąć gotowe życie» [5, c. 56].

Эмацыянальна-ацэначныя формы амаль не сустракаюцца ў аўтарскім тэксце, яны выступаюць амаль выключна ў мове персанажаў. Адна з адметных асаблівасцей асабовых уласных імёнаў дзяцей у творах – ужыванне іх дэмінатыўных формаў для звычайнага неласкальнага наймення ў штодзённым маўленні. Заўсёды, што варта падкрэсліць, у гіпакарыстычнай форме паяўляюцца ў даследуемых творах імёны дзяцей: *Julek* (H), *Janek* (H), *Olek* (H), *Ludwinka* (H), *Brońcia* (H). Такія формы не толькі ўказваюць на ўзрост гэтых герояў, але і таксама паказваюць адносіны да іх дарослых, і, магчыма, адлюстроўваюць пачуцці пісьменніцы, якая з замілаваннем апавядае аб маленькіх героях сваіх твораў.

Акрамя намінацыйна-ідэнтыфікуючай імёны выконваюць і сацыялагічную функцыю: указваюць на нацыянальнасць героя і яго сацыяльнае становішча. Усе вышэйпрааналізаваныя антрапонімы адносяцца да польскай шляхты, што выразна відаць і ў выбары імёнаў персанажаў. Размоўна-гутарковыя варыянты імёнаў, часта ва ўсходнеславянскай версіі, надала Эліза Ажэшка беларускім сялянам, каб падкрэсліць іх нацыянальнае паходжанне і сацыяльнае становішча.

Такія імёны як *Nastka* (H), *Panas* (H), *Wasylek* (H) выразна ўказваюць на паходжанне герояў. Варыянт *Nastka* паходзіць ад грэчаскага імя Анастасія (пол. Anastazja), якое часцей сустракалася на ўсходзе. У форме *Nastka* пачатковы ненаціскны галосны адпаў, адбылося спрашчэнне гукаў на канцы імя + фармант *-ka*. У навеле сустракаецца і варыянт імя *Panas* (H), паходзіць ад імя Афанасій, утварылася ў выніку адпадзення канцавога *ій*, замене *ф* на *п* і адпадзенні пачатковага ненаціскного галоснага. Варыянт з *п* часцей сустракаўся на тэрыторыі Беларусі. Ва ўсходнеславянскай фанетычнай версіі выкарыстоўвае пісьменніца і імя *Wasyl* (H) (у рымска-каталіцкай сістэме наймення імя выступае ў форме Bazyli) з польскім дэмінутыўным суфіксам *-ek*. Усходнеславянскія варыянты выкарыстала Эліза Ажэшка ў зборніку навел для наймення сялянаў, што дапамагае зазначыць іх паходжанне.

У той жа час яшчэ адзін з герояў навелы «Hekuba» «syn Kaukazu czerkieski kniaź» названы ў тэксце спалучэннем імя і імя па бацьку *Borys Elpidorowicz* (H). Такі спосаб намінацыі з'яўляецца характэрным для ўсходнеславянскай антрапанімічнай сістэмы. Аднак у тэксце імя па бацьку *Elpidorowicz* дадаткова ўказвае на неславянскае паходжанне героя, а пісьменніца, якая заўсёды клапаціцца аб рэалізме, дадае: «Przecież ojciec jego Czerkiesem był i za młodu nawet do zbuntowanych należał, razem z Szamilem przeciwko Rosji wojował, ale potem do rozumu przyszedł, wiarę ruską przyjął, na ruskiej ożenił się, wielkim generałem został i ot, syn jego o czerkiestwie swoim już i zapomniał!» [5, с. 175]. Аб нацыянальным паходжанні героя ў тэксце навелы нагадвае выключна імя па бацьку, якое паходзіць ад антрапоніма Elpidor, чужога для ўсходнеславянскай антрапанімічнай сістэмы.

Гераіня той жа навелы *Helena Iwanowna* (H) гаворыць: «Ja troszkę Polka. U mnie ojciec Ruski był, a matka Polka, tak mnie troszkę czasem i ciągnie do Polaków» [5, с. 172]. Пад уплывам гэтай жанчыны адракаецца ад сваёй сям'і і маладая дзяўчына *Michalina* (H), уцякае ў цяжкую хвіліну (калі адзін з братоў гіне падчас паўстання, а два малодшыя браты трапляюць у турму) ад маці з князем Барысам. Гэтая здрада падкрэслена і праз адпаведны выбар антрапоніма. Бацькі назвалі дзяўчыну Міхалінай, аднак яна, як толькі вырасла, пачала называць сябе Іна (гэтае імя зусім не ўласцівае для польскай антрапанімічнай сістэмы), а калі яна ўцякае з князем і Аленай Іванаўнай, то да імя дадаецца і імя па-бацьку *Ina Julianowna*. Такім чынам, Эліза Ажэшка выкарыстоўвала імёны па-бацьку не толькі, каб падкрэсліць паходжанне герояў, праз такі спосаб намінацыі яна змагла паказаць, як чалавек адракаецца ад сваіх каранёў, сваёй бацькаўшчыны. І ў навеле «Hekuba», і ў навеле «Oficer» пісьменніца перасцерагала тых, хто эміграваў з бацькаўшчыны, паказвала, перад якой дылемай могуць стаць іх дзеці, якія вынікі можа мець разрыў сувязяў з радзімай.

Такім чынам, Эліза Ажэшка ў сваіх рэалістычных мастацкіх творах шырока ўжывала ўласныя імёны свайго часу, адлюстроўваючы тым самым праз антрапонімы і іх гіпакарыстычныя формы рэальную антрапаніміку гэтай зямлі. Імёны ў творах Элізы Ажэшкі з'яўляюцца важным элементам лексічнай сістэмы і выконваюць вызначальную ролю не толькі для ідэнтыфікацыі літаратурных персанажаў, а і ў стварэнні мастацкіх вобразаў, раскрыцці аўтарскага разумення твора. Адпаведнасць уласнага імя вобразу літаратурнага персанажа – выразны мастацкі сродак у шматлікіх творах пісьменніцы. Эліза Ажэшка дыферэнцыявала ва ўжыванні імёны прадстаўнікоў самых розных сацыяльных груп насельніцтва і нацыянальнасцей. Шырока пісьменніца выкарыстоўвала гіпакарыстычныя формы імёнаў.

Пісьменнік, каб поўна і дакладна рэалізаваць сваю мастацкую ідэю, мусіць добра выбіраць не толькі імёны, але і прозвішчы герояў, якія характарызуюць іх носьбітаў паводле нацыянальнай і сацыяльнай прыналежнасці. У параўнанні з імёнамі апошнія ў прааналізаваных намі творах Элізы Ажэшкі сустракаюцца не так часта, і належаць яны шматлікім шляхецкім сем'ям, якія жывуць на Палессі. Амаль усе прозвішчы маюць аднолькавую словаўтваральную будову. Сталася так, што да прозвішчаў, якія ўказваюць на прыналежнасць асобы да шляхты, дваранства, арыстакратыі традыцыйна належаць тыя, што маюць суфіксы *-ski*, *-cki* (*-скі*, *-цкі*), што выразна відаць і ў творах Элізы Ажэшкі: *Radowicki* (Oni), *Roniecki* (Oni, H), *Tarłowski* (Oni), *Karłowicki* (Of), *Roniecka* (Oni, H), *Tarłowska* (Oni), *Jaroszyńska* (Oni, BWK), pan *Radowicki* (CV), pani *Czernicka* (Oni), *Żemirski*

(Oni), а таксама суфікс *-icz* (традыцыйна вылучалі мяшчан): *Awicz* (Of), pan *Burakiewicz* (BWK).

Асаблівую ўвагу трэба звярнуць на словаўтваральныя мадэлі, пры дапамозе якіх Эліза Ажэшка ўтварыла найменні асоб жаночага полу ад мужчынскіх прозвішчаў і імёнаў. У Польшчы даўней (цяпер гэта ў афіцыйных дакументах, у адрозненні ад гутарковай мовы, амаль не сустракаецца) распаўсюджаны былі найменні з фармантамі *-owa* (*-ова*), *-ina* (*-іна*) (найменні замужніх жанчын ад імя ці прозвішча мужа), фармантамі *-anka* (*-анка*), *-ówna* (*-увна*) (найменні дачок ад прозвішча бацькі). Такія мадэлі дапамагалі адразу вызначыць стан жанчыны, але толькі ў некаторых групах прозвішчаў (напрыклад ад прозвішчаў на *-скі, -цкі* такія формы не ўтвараліся). Значная група найменняў асобаў жаночага полу ўтворана пры дапамозе фарманта *-owa* (*-ова*) ад прозвішча мужа *Teleżukowa* (H), *Awiczowa (*H). Патронімы ўтварыла Эліза Ажэшка пры дапамозе фарманта *-ówna* (*-увна*) ад прозвішча бацькі дзяўчыны – Tosia *Awiczówna* (H).

Эліза Ажэшка выкарыстала ў сваіх творах найменні асоб жаночага полу, утвораныя ад мужчынскіх імёнаў і прозвішчаў, каб паказаць адносіны паміж героямі, сямейныя ўзаемазалежнасці, а таксама падрэсліць грамадзянскі стан жанчыны: праз форму антрапоніма паказаць, замужняя гэта асоба альбо не.

Імёны і прозвішчы ў творах Элізы Ажэшкі выконваюць функцыю ідэнтыфікацыі персанажаў, указваюць на адносіны паміж імі і на іх сацыяльнае і нацыянальнае паходжанне. Змены імёнаў герояў дапамагаюць глыбей раскрыць іх характар, данесці да чытача ідэю твора. Пісьменніца ў зборніку, каб яшчэ больш падкрэсліць рэальнасць прадстаўленых падзей, выкарыстала аўтэнтычныя антрапонімы, узятыя з жыцця свайго часу для наймення як гістарычных, так і выдуманых персанажаў.

Вельмі часта Эліза Ажэшка звяртаецца да міфалогіі, да твораў сусветнай літаратуры, да гістарычных падзеяў, ужываючы вядомыя антрапонімы.

Пісьменніца ўшаноўвае памяць кіраўніка паўстання Рамуальда Траўгута, ідэалізуе яго: «Ten, kto zadania tego miał się podjąć, musiał posiadać bary *Atlasa*[1] i serce gardzące mieczami *Damoklesowymi*[2] «(Oni) [5, с. 6]. Параўноўвае яна таксама камандзіра з вядомым спартанскім каралём Leonidasem[3] : «Tak grzmieć musiał w wąwozie termopilskim głos *Leonidasa*» [5, с. 218]. Параўнанне падкрэслівае гераізм і трагізм дзейнасці Traugutta.

Аднаго з паўстанцаў – *Feliksa Jagmina* – Eliza Orzeszkowa апісвае такім чынам: «wysoki brunet, którego dla rysów rzymskich i cery południowej *Scypionem*[4] czasem nazywano» [5, с. 8], «Młody *Herkules*[5] z kształtów, *Scypio* rzymski z rysów» [5, с. 219].

Трагічны лёс маці ў навеле «Hekuba», якая падчас паўстання траціць сваіх дарослых дзяцей (гіне старэйшы сын, у турму трапляюць два малодшыя, дачка

---

[1] Atlas у грэчаскай міфалогіі сын аднаго з тытанаў, удзельнічаў у барацьбе тытанаў супраць Зеўса і за гэта прыгавораны вечна прытрымліваць купал неба [7 , с. 68].

[2] Меч Damoklesa сімвалізуе падманлівае шчасце, якому пастаянна пагражае небяспека [7, с. 104].

[3] Спартанскі кароль, калі ў 480 да н.э. Ксеркс на чале перскай арміі прыблізіўся да Грэцыі, Леанідас на чале 300 спартанцаў затрымаў персаў у Тэрмапільскай цясніне, усе спартанцы загінулі [7 , с. 261].

[4] Scypion – Publius Cornelius Scipio, праслаўлены рымскі камандзір перыяду II пуніцкай вайны [7, с. 385].

[5] У грэчаскай міфалогіі сын Зеўса, вызначаўся незвычайнай сілай [7, с. 184].

ўцякае з рускім афіцэрам), закладаецца Элізай Ажэшкай ужо ў самой назве твора. «Życie obdarzyło ją nazwą *Hekuba*, Priama, trojańskiego króla żona, która u zwalisk Troi z żalu po synach pobitych i córkach porwanych wyła» [5, с. 181].

Антрапонімы, узятыя з міфалогіі і гісторыі, выконваюць сімвалічную і алюзійную функцыі, дапамагаюць глыбей раскрыць характары, знешні выгляд і ўчынкі персанажаў.

Анамастычная лексіка ў зборніку навел Элізы Ажэшкі «Gloria victis» выконвае функцыю ідэнтыфікацыі персанажаў, указвае на адносіны паміж імі, нацыянальнасць, на іх сацыяльнае паходжанне. Пісьменніца выкарыстала аўтэнтычныя антрапонімы, узятыя з жыцця свайго часу, а менавіта рэалістычную антрапанімію. Пісьменніца дбала аб рэалізме сваіх твораў ва ўсіх пластах тэксту. Яна надала героям імёны як у поўнай, афіцыйнай форме, так і гіпакарыстычнай, што дазволіла паказаць эмацыянальныя адносіны паміж героямі твораў. Імёны і прозвішчы рэальных гістарычных асобаў з гісторыі Польшчы выконваюць функцыю лакалізацыі ў часе і інфармацыйную функцыю. Антрапонімы ж, узятыя з міфалогіі і старажытнай гісторыі, выконваюць сімвалічную і алюзійную функцыі.

### *Спіс скарачэнняў*

BWK – Bóg wie kto
DH – Dziwna historia
GV – Gloria victis
H – Hekuba
Of – Oficer

### *Спіс літаратуры*

1. Бірыла, М.В. Беларуская антрапанімія. 1: Уласныя імёны, імёны-мянушкі, імёны па бацьку, прозвішчы / М.В. Бірыла. – Мінск: Нав. і тэхн., 1966.
2. Бірыла, М.В. Беларуская антрапанімія. 3: Структура ўласных мужчынскіх імён / М.В. Бірыла. – Мінск: Нав. і тэхн., 1982.
3. Fros, H. SJ. Twoje imię. Przewodnik onomastyczno-hagiograficzny / H. SJ Fros, F. Sowa. – Kraków: Wydawnictwo WAM Księża Jezuici, 2002.
4. Grzenia, J. Słownik imion / J. Grzenia. – Warszawa: PWN, 2004.
5. Orzeszkowa, E. Gloria victis / E. Orzeszkowa. – Warszawa: Czytelnik, 1986.
6. Orzeszkowa, E. Listy zebrane T. IV / E. Orzeszkowa. – Wrocław: Ossolineum, 1958.
7. Słownik kultury antycznej. Grecja. Rzym / pod red. L. Winniczuk. – Warszawa: Wiedza Powszechna, 1991.

**А. Станкевіч**

## БЕЛАРУСКА-ПОЛЬСКІЯ МОЎНЫЯ СУВЯЗІ: ГІСТОРЫЯ І СУЧАСНАСЦЬ

Міжмоўныя кантакты і лексічнае ўзаемадзеянне адлюстроўваюць разнастайныя зносіны паміж народамі і з'яўляюцца адной з істотных крыніц папаўнення слоўнікавага саставу любой мовы. Асаблівую цікавасць для вывучэння лексічнага запазычвання маюць беларускія гаворкі, спецыфічныя

ўмовы фарміравання і развіцця якіх звязаны з рознымі формамі міжмоўнага ўзаемадзеяння.

Польская мова сталася крыніцай запазычвання ў беларускую мову самай значнай па колькасці групы (36 %) лексем, а таксама была пасрэдніцай пры засваенні большасці слоў з германскіх, раманскіх і класічных моў. Намі было прааналізавана больш тысячы (1 119) запазычанняў з польскай мовы, зафіксаваных у дыялектных слоўніках розных часоў выдання.

Уздзеянне польскай мовы на беларускую, якое пачалося ў XIV ст., было абумоўлена ўзмацненнем ваенна-палітычнага саюза Вялікага княства Літоўскага і Польшчы пасля Крэўскай уніі 1385 г. Гэта ўздеянне працягвалася ў далейшым і асабліва ўзмацнілася ў к. XVI ст. пасля Люблінскай уніі 1569 г., калі Беларусь, як і ўсё ВКЛ, увайшла ў склад Рэчы Паспалітай, у выніку чаго важнейшыя дзяржаўныя інстытуты былі ўстаноўлены па польскім узоры. Пашырэнне польскай мовы на Беларусі абумоўліваў таксама працэс польскай экспансіі на ўсходнія землі. Першыя калоніі палякаў на тэрыторыі сучаснай Беларусі з'явіліся ўжо ў XII ст.

Значнае павелічэнне колькасці палякаў ў к. XIX – пач. XX ст. было выклікана палітыкай актыўнай паланізацыі Заходняй Беларусі, якую праводзіў урад буржуазнай Польшчы, а таксама прымусовым акаталічваннем беларусаў. Пазней колькасць палякаў у агульным складзе насельніцтва Беларусі значна зменшылася, калі пасля Другой сусветнай вайны ў 1945 г. паміж урадам ПНР і СССР быў прыняты дагавор аб узаемнай рэпатрыяцыі грамадзян, і многія палякі вярнуліся на радзіму.

Пранікненню і замацаванню паланізмаў у народных гаворках у значнай ступені садзейнічала ўнутранае дыялектнае беларуска-польскае ўзаемадзеянне, абумоўленае існаваннем на тэрыторыі Беларусі польскага перыферыйнага дыялекту і дробных астраўных гаворак. Як адзначаюць даследчыкі, беларуска-польскае дыялектнае ўзаемадзеянне ў наш час ужо амаль не адбываецца, паколькі польская мова ў паўсядзённых зносінах выкарыстоўваецца мала, пераважна прадстаўнікамі старэйшага і сярэдняга пакаленняў. Большасць палякаў роднай мовай у наш час называюць беларускую або рускую.

Унутранае дыялектнае беларуска-польскае моўнае ўзаемадзеянне падмацоўвалася знешнім уздзеяннем на беларускія гаворкі, асабліва паўднёва-заходняй зоны, з боку літаратурна-размоўнай польскай мовы і яе дыялектаў, сумежных з Беларуссю.

Такім чынам, у агульным працэсе беларуска-польскіх моўных кантактаў можна выдзеліць як гістарычнае, даўняе, так і больш позняе і сучаснае моўнае ўзаемадзенне, як знешні ўплыў польскай мовы і яе дыялектаў на беларускую, так і ўнутранае ўздзеянне астраўных польскіх гаворак на лексічную сістэму народна-дыялектнай мовы. Ступень уплыву кожнага з пералічаных фактараў розная ў залежнасці ад яго важнасці ў развіцці слоўнікавага складу народнай мовы.

Такія разнастайныя і працяглыя беларуска-польскія моўныя стасункі абумовілі функцыянаванне ў лексічнай сістэме народна-дыялектнай мовы значнай колькасці паланізмаў, розных па часе і шляхах засваення, тэрыторыі распаўсюджання і сферы ўжывання.

Большасць паланізмаў (752 – 68,8 %) адносяцца да лексічнага тыпу запазычанняў. Адной з найбольш значнай у колькасных адносінах і разнастайнай у тэматычным плане з'яўляецца група канкрэтна-прадметных назваў (361 – 33 %), якія абазначаюць прадметы паўсядзённага ўжытку, у тым ліку: а) хатнія рэчы, мэблю,

посуд: *белізнярка* ‘шафа або скрыня для бялізны’; *вандзэлак* ‘клунак’; *вор* ‘мех’; *гарнак* ‘чыгун’; *гэнсор* ‘вялікі аплецены буталь’; *глоснік* ‘гучнагаварыцель’; *жалязка* ‘прас’; *зверцадла* ‘люстэрка’; б) адзенне і яго часткі, упрыгожванні: *абрончка* ‘пярсцёнак’; *галька* ‘сподняя жаночая спадніца ці доўгая кашуля без рукавоў’; *гаці* ‘сподніе і верхнія штаны’, ‘паўзункі’; *кампялёўка* ‘майка’, *кольчыкі* ‘завушніцы’; *марынарка* ‘пінжак’; *ясёнка* ‘жаночае дэмісезоннае паліто’; в) абутак: *ангелькі* ‘святочныя боты з дарагой скуры з высокімі заднікамі’; *гумоўцы* ‘гумовыя боты’; *лакеркі*, *лякеркі* ‘лакіраваныя туфлі’; *снігуфцы* ‘кароткія жаночыя боцікі’; *трэпкі* ‘тапачкі’; г) ежу: *галярэта* ‘халадзец, квашаніна’; *завіянкі* ‘піражкі з пшанічнай мукі з тварагом і грыбамі’; *канапка* ‘бутэрброд’; *ляндрынкі* ‘ледзянцы’; *мазурэк* ‘пірог з разынкамі з пшанічнага цеста’.

Канкрэтна-прадметныя назвы народна-гаспадарчага ўжытку абазначаюць: а) прылады працы і іх часткі: *крупэрня* ‘крупадзёрка’; *мыдлёўка* ‘прылада для вымярэння таўшчыні цёсу’; *рыдзель* ‘лапата, рыдлёўка’; *спранжыноўка* ‘культыватар’; б) прыстасаванні і іх часткі: *барбара* ‘вяроўка, тоўсты канат з завостранай палкай на канцы для тармажэння плыта’; *вэндка* ‘вуда’; *слухаўкі* ‘навушнікі’; в) пабудовы і іх часткі: *выглёнда* ‘вышка’; *выходак* ‘прыбіральня’; *павал* ‘столь’; *стэпцы* уст. ‘сходы на ганку’, ‘лесвіца’; г) прадпрыемства па вырабу якой-н. прадукцыі: *вэндлярня* ‘невялікае збудаванне вэндзіць мяса, сала, каўбасы’; *масарня* ‘каўбасная’; *тартак* ‘лесапілка’.

Да народнагаспадарчых назваў адносіцца таксама транспартная лексіка – назвы транспартных сродкаў, іх дэталей, шляхоў зносін: *акрэнт* ‘карабель’; *блотнік* ‘металічны абруч над колам веласіпеда’; *вандзідла* ‘цуглі’; *вэнжык* ‘шланг у насосе для веласіпеда’; *дронг* ‘металічны вал, які злучае малатарню з конным прыводам’; *калейка* ‘вузкакалейная чыгунка’; *матароўка* ‘матацыкл’, ‘маторная лодка’; *поцёнг* ‘цягнік’.

Значнае месца ў складзе канкрэтнай лексікі польскага паходжання займаюць назвы асоб (102 – 9,1 %). Многія з іх адносяцца да экспрэсіўнай лексікі. Яны характарызуюць асобу: а) паводле асаблівасцей паводзін, учынкаў або рыс характару: *бімбас* ‘вялікі гультаяваты падростак’; *гадула* ‘пустамеля, балбатун’; *даматур* іран. ‘дамасед’; *зухвал* ‘свавольнік’; *мадніся* ‘модніца, франціха’; *нэндза* ‘нуда’, ‘ныцік’, ‘неспакойны чалавек’; *ошуст* ‘ашуканец’; б) па роду дзейнасці, занятках, прафесіі: *брукар* ‘брукаўшчык’; *гаёвы* ‘ляснік’; *мернічы* ‘землямер’; *навучыцель* ‘настаўнік’, *пакаёўка* ‘служанка, якая прыбірала ў пакоях’; *тлумач* ‘перакладчык’; в) па сямейных або роднасных адносінах: *крэўны* ‘пляменнік’; *мацоха* ‘мачаха’; *ойцец* ‘бацька’; *ойчым* ‘айчым’; *цурка* ‘дачка’; г) па сацыяльным становішчы: *абуваталь* ‘заможнік’; *круль* ‘кароль’; *міздрак* ‘бядняк’; д) па фізічным стане або разумовых здольнасцях: *кеп* ‘непаваротлівы, нязграбны’, ‘дурань’; *недалэнга* ‘няздольны, няздатны’; *недарайда* ‘неахайны чалавек’; е) агульныя назвы асобы або формы ветлівага звароту: *васпан* ‘ветлівы зварот да мужчыны’; *васпаня, васпані* ‘ветлівы зварот да жанчыны’; *вашэць* ‘форма ветлівага звароту’.

Шматлікія паланізмы народна-дыялектнага ўжытку абазначаюць разнастайныя з’явы прыроды. У іх ліку: а) батанічныя назвы: *ванжоўнік* бат. ‘мячэўнік’; *мацейка* ‘ляўконія’; *папярувка* ‘гатунак яблык’; б) заалагічныя – назвы жывёл: *брытан* ‘сабака англійскай пароды’; *велерыб* ‘кіт’; *выжла* ‘паляўнічы сабака’; птушак: *бацян* ‘бусел’; *когут* ‘певень’; *лабэндзі* ‘парода гусей з гузамі, японскія гусі’; *пшэпюрка* ‘перапёлка’; насякомых: *бонк* ‘авадзень’; *вашка* ‘страказа’; *плюсква* ‘клоп’; рыб: *вангор*, *вангош* ‘вугор’; *пстронга*, *стронг* ‘фарэль’;

*не ставіць* каго). У адным прыкладзе адначасова назіраем варыянтнасць прыназоўнікавага кампанента і назоўнікавага: *з галавы да ног – ад галавы да пят.*

Акцэнтна-фанетычныя варыянты адрозніваюцца гукам і месцам націску. У «Дануце» сустракаецца толькі адзін прыклад такой варыянтнасці: *як укопаны – як укапаны.* Наогул, у беларускай мове гэта варыянтнасць даволі рэдкая.

Марфалагічныя варыянты адрозніваюцца граматычнай формай кампанентаў. У аповесці Аляксея Карпюка такія разнавіднасці назіраюцца ў кампанентах-назоўніках і адрозніваюцца склонавымі канчаткамі: *з усёй сілы – з усяе сілы* (4 ужыванні), *абвесці вачамі – абвесці вачыма*, *paціснуць плячамі – паціснуць плячыма*. Як вядома, на ўзроўні слоў такія варыянтныя канчаткі з’яўляюцца нормай.

Словаўтваральныя варыянты адрозніваюцца словаўтваральнай структурай аднаго з кампанентаў: прыстаўкай (*затаіць дыханне – стаіць дыханне*, *ліць кроў – праліваць кроў*, *памінаць добрым словам – успамінаць добрым словам*), суфіксам (*песенька спета* чыя – *песня спета* чыя).

Канструкцыйна-колькасныя варыянты адрозніваюцца наяўнасцю ў адным з іх факультатыўнага кампанента: *на <свае> ўласныя вочы – на свае вочы, хоць <ты> вушы затыкай – хоць вушы затыкай, не знаходзіць <сабе> месца – не знаходзіць месца, не снілася і <ў сне>* каму *– не снілася* каму, *<як> сам не свой – сам не свой.* Дарэчы, апошні выраз у аповесці «Данута» ўжываецца 6 разоў і толькі ў варыянтнай форме.

Камбінаваныя варыянты спалучаюць некалькі відаў вар’іравання: лексічны і канструкцыйна-колькасны (*падстаўляць сваю галаву – падстаўляць лоб, на <адну> мінуту – на хвіліну* (5 ужыванняў)), лексічны і марфалагічны (*з усёй сілы – з усяе моцы* (2 ужыванні), лексічны, канструкцыйна-колькасны і словаўтваральны (*на <адну> мінуту – на хвілінку*).

Нароўні з агульнамоўнымі, агульнаўжывальнымі варыянтамі, якія фіксуюцца ў фразеалагічных даведніках, у аповесці сустракаем варыянты няслоўнікавага тыпу. Яны не занатаваны ў фразеалагічных слоўніках, а ўжываюцца пісьменнікам для разнастайнасці маўлення ці каб пазбегнуць таўталогіі. У асноўным гэта лексічныя варыянты: *тыцнуць пад нос* каму *– падсунуць пад нос* каму, *змераць вокам – змераць позіркам*, *ускідаць вочы* на каго *– узняць вочы* на каго, *каб на яго (іх) ліха – каб на яго (іх) халера*, *прыйсці на думку* каму *– прыйсці на памяць* каму, *не бачыць <белага> свету – не бачыць <божага> свету*, *хоць жывы у зямлю лезь – хоць жывы у яму лезь*, *затуманіць галаву* каму чым *– затуманіць мазгі* каму чым, *змяшаць з зямлёй* каго *– змяшаць з балотам* каго і інш. Сустракаюцца таксама няслоўнікавыя марфалагічныя варыянты (*не бачыць як сваіх вушэй – не бачыць як сваё вуха*) і словаўтваральныя (*глядзець у рот – заглянуць у рот*). Думаецца, што некаторыя з пералічаных варыянтаў няслоўнікавага тыпу могуць быць уключаны ў фразеалагічныя даведнікі пры ўмове іх выкарыстання іншымі пісьменнікамі. Тым больш, што ў слоўніках ужо існуюць некаторыя варыянты кампанентаў *божы – белы, зямля – яма, тыцнуць – сунуць* і пад.

Безумоўна, найбольшую цікавасць і непаўторнасць выклікаюць выразы, абноўленыя аўтарам з пэўнай стылістычнай мэтай, якія падпадаюць пад разнастайныя стылістычныя прыёмы. Звычайна фразеалагізмы ўжываюцца ў нязменным выглядзе, толькі невялікі працэнт (ад аднаго да пяці) ад агульнай колькасці ўжытых фразеалагічных адзінак абыгрываецца пісьменнікамі. У выпадку стылістычнага выкарыстання фразеалагізмаў – знарочыстага змянення іх значэння ці формы і значэння адначасова – стылістычная роля фразеалагізмаў нібы падвойваец-

ца, яны ствараюць большы мастацкі эфект, аказваюць большае эмацыянальна-экспрэсіўнае ўздзеянне на чытача, чым пры сваім звычайным ужыванні.

Прыёмам ускладнення фразеалагічнага кампанента словам свабоднага ўжывання абыгрываецца фразеалагізм *стрэліць вачыма* ў наступным кантэксце: «– Дзякую! – *стрэліла* ў мяне ***ўдзячнымі*** *вачыма* незнаёмая маладзіца» [2, с. 305]. Фразеалагізм *стрэліць вачыма* мае адно са значэнняў ‘кідаць кароткія, хуткія позіркі’, а ў аповесці «Данута» гэты абыграны выраз набывае сэнсавае прырашчэнне і абазначае ‘кідаць кароткія ўдзячныя позіркі’. Прыём замены фразеалагічнага кампанента выразу *глядзець іншымі вачыма* назіраем у кантэксце: «Я *глянуў* на ўсё *цвярозымі вачыма*» [2, с. 235].

Стылістычны прыём стварэння метафарычнага кантэксту на вобразнай аснове фразеалагізма назіраем пры абыгрыванні выразу *праваліцца скрозь зямлю*. Ён з’яўляецца фонам, на вобразнай аснове якога ствараецца метафарычны кантэкст. Гэта фразеалагічная адзінка мае выразную матываванасць, і на аснове яе значэння (‘гатоў хутчэй схавацца, знікнуць з-за сораму, няёмкасці’) Аляксей Карпюк развівае далейшае вобразнае ўяўленне: «Мне было так сорамна, што я ахвотна б *праваліўся скрозь зямлю, каб яна расступілася*» [2, с. 62]. У выніку ствараецца метафарычны кантэкст, для разумення якога патрэбна ўлічваць значэнне фразеалагізма, «празрыстасць» яго ўнутранай формы, суаднесенасць з свабодна арганізаванай сінтаксічнай канструкцыяй. «Зона дзеяння» фразеалагізма *праваліўся скрозь зямлю* пашыраецца на далейшы кантэкст і, як вынік гэтага, фразеалагізм успрымаецца двухсэнсава.

Фразеалагізм *божа мілы* камічна расшыфроўваецца ў дыялогу Янкі і Данусі: «О *божа мілы*! – Прычым тут твой *бог*? – Янку, нельга блюзніць!» [3, с. 157–158]. Гераіня аповесці шчыра верыць у Бога, у яе маўленні часта сустракаем фразеалагізмы з кампанентам *бог*. Аднак Янка Барташэвіч спрабуе пераканаць каханую, нават часам кпіць з яе веры, што назіраем у прыведзеным вышэй кантэксце. Герой як быццам не разумее сэнсу фразеалагізма, тлумачыць яго літаральна, у выніку чаго і ствараецца камічны эфект.

Як бачым, Аляксей Карпюк ў сваёй знакамітай аповесці «Данута» актыўна выкарыстоўвае фразеалагізмы. Большасць з іх ужыта ў традыцыйным выглядзе, многія выкарыстаны ў варыянтнай форме, а некаторыя з фразеалагізмаў абыгрываюцца стылістычнымі прыёмамі.

### *Спіс літаратуры*

1. Жуков, В.П. Русская фразеология: учеб. пособие / В.П. Жуков. – М.: Высш. шк., 1986. – 310 с.

2. Карпюк, А. Данута // Выбраныя творы / А. Карпюк. – Мінск: Кнігазбор, 2007. – С. 27–332.

3. Крапіва, К. Беларускія прыказкі / К. Крапіва // Зб. тв.: у 4 т. / К. Крапіва. – Мінск: Дзярж. выд-ва БССР, 1963. – Т. 4: П’есы. Артыкулы. – С. 223–269.

4. Лепешаў, І.Я. Праблемы фразеалагічнай стылістыкі і фразеалагічнай нормы / І.Я. Лепешаў. – Мінск: Навука і тэхніка, 1984. – 262 с.

5. Лепешаў, І.Я. Фразеалогія сучаснай мовы: вуч. дапам. для філал. фак. ВНУ / І.Я. Лепешаў. – Мінск: Выш. шк., 1998. – 271 с.

6. Мокиенко, В.М. Славянская фразеология: учеб. пособие для филол. спец. ун-тов / В.М. Мокиенко. – М.: Высш. шк., 1980. – 207 с.

7. Петрушкевіч, А. Вяршыні Аляксея Карпюка / А. Петрушкевіч // Роднае слова. – № 4. – 2010. – С. 3–8.

8. Фядута, А. У змаганні за праўду / А. Фядута // Выбраныя творы / А. Карпюк. – Мінск: Кнігазбор, 2007. – С. 5–24.

## ЗМЕСТ

